# Ад складальніка

Творчая спадчына Алеся Барскага – аднаго з самых таленавітых і самабытных беларускіх паэтаў другое паловы XX стагоддзя – да сённяшняга дня застаецца маладаступнай, маладаследаванай і – як вынік гэтага – недастаткова ацэненай. Зрэшты, даробкам “белавежан” (беларускіх літаратараў, якія жывуць у Польшчы) беларускае савецкае літаратуразнаўства амаль не цікавілася, а таму Алесь Барскі так і не дачакаўся сур’ёзнае гаворкі пра сваю паэзію. Яе, гэтае гаворкі, можна сказаць, і не было: апрача артыкула-прадмовы (2011) Міхася Тычыны цяжка ўвогуле знайсці што-небудзь больш-менш вартаснае. Праўда, даследаванні польскіх літаратуразнаўцаў (Яна Леаньчука, Фларыяна Няўважнага, Тэрэзы Занеўскае, Бэаты Сівак) у пэўнае ступені кампенсуюць “недапрацоўкі” беларускіх, але ўсё ж яны дэманструюць адно толькі польскі бок бачання мастацкага свету беларускага паэта.

Мы, добра ведаючы, што большасць тэкстаў Алеся Барскага апублікавана, тым не менш кажам пра маладаступнасць ягоных твораў, бо выдаваліся яны звычайна ў Беластоку і ў Беларусь – за рэдкім выключэннем – не траплялі. І толькі ў 1965 г. трыццаціпяцігадовы паэт, аўтар некалькіх сотняў вершаў, а таксама зборніка *Белавежскія матывы* (Беласток 1962), дачакаўся публікацыі сваіх тэкстаў у Мінску: чатыры ягоныя вершы надрукаваў часопіс “Полымя” (№ 4).

Уласнага ж “мінскага” зборніка давялося чакаць яшчэ дзесяць гадоў.

Увесь гэты час Алесь Барскі актыўна працаваў на паэтычнай ніве, выдаў свой другі вершаваны зборнік (*Жнівень слоў*, Беласток 1967), які асобныя гісторыкі літаратуры называюць самым значным дасягненнем беларускага паэтычнага слова на Беласточчыне; у альманаху “Белавежа” (Беласток 1971) надрукаваў тры найцікавейшыя нізкі вершаў: *Палетак*, *Пад дрэвам*, *Мадонны* (на нашу думку, падобнага яшчэ не было ва ўсёй беларускай савецкай паэзіі). Але, нягледзячы на значныя здабыткі, паэта ў Беларусі ўсё яшчэ “не заўважаюць”: творы Алеся Барскага, з аднаго боку, цалкам пазбаўленыя савецкасці, былі, з другога, прасякнуты беларускасцю і сялянскай духоўнасцю. Творы Алеся Барскага вызначаліся якраз такою вобразнасцю, якую з-за цэнзуры і самацэнзуры не мог сабе дазволіць аніводзін беларускі савецкі паэт.

Дапамог выпадак. Анатоль Грачанікаў пазнаёміўся з паэзіяй Алеся Барскага ў Маскве: у бібліятэцы Літаратурнага інстытута трапляецца яму альманах “Белавежа”. І здаецца ён, А. Грачанікаў, на той час намеснік старшыні праўлення Саюзу пісьменнікаў БССР, а таксама іншыя сябры з Мінска, ініцыявалі ў першай палове 1970-х гг. падрыхтоўку ў “Мастацкай літаратуры” зборніка беластоцкага паэта *Мой бераг*. З некалькіх сотняў вершаў было адабрана восемдзесят. Рэдактар перайначваў іх паводле густаў, якія панавалі ў тагачаснай выдавецкай практыцы. Аднак нават гэта не выратавала кнігу ад разгромнага водгуку “чорнага” рэцэнзента.

І ўсё ж кніжка ў 1975 г. выйшла. Магчыма, паспрыяў згаданы намі А. Грачанікаў, які хоць і "не адразу ўспрыняў творчую манеру паэта", але разумеў "права паэта на пошук і нават на рызыку". Адзначым, што асноўнаю мэтаю рэдагавання было не столькі папраўленне беларускае мовы, колькі клопат пра адпаведнасць твораў савецкім ідэалагічным догмам. У выніку "палепшаныя" тэксты пазбаўляліся як беларускага нацыянальнага духу, так і адметнага аўтарскага стылю.

Тое ж можна сказаць і пра прынцыпы рэдагавання выдадзенага праз дванаццаць гадоў яшчэ аднаго зборніка Алеся Барскага – *Лірычны пульс* (Мінск 1987). Асноваю публікацыі 110 вершаў кнігі сталіся больш за 40 раздзелаў (фрагментаў раздзелаў) паэмы *Блізкасць далёкага* (выдадзенай у Беластоку ў 1983 г.), а таксама вершы са зборнікаў *Белавежскія матывы*, *Жнівень слоў*, беластоцкіх календароў, альманахаў і газеты "Ніва". Як і ў папярэднім "мінскім" зборніку, заўважаюцца шматлікія рэдактарскія інтэрвенцыі ў мастацкі свет паэта, ягоны стыль. Думаецца, што і фармат выдання, і рэдактарская праўка, і прадмова намесніка дырэктара Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы павінны былі схіліць чытача да думкі пра правінцыйны характар паэзіі беластоцкага літаратара, ягоную другаснасць у параўнанні з карыфеямі тагачаснай беларускай савецкай літаратуры.

Выданне тома *Выбраных вершаў* Алеся Барскага ў "Беларускім кнігазборы" ў 2011 г. – гэта, вядома, прызнанне заслугаў паэта на літаратурнай ніве, але адначасна і нівеліраванне ягонага паэтычнага даробку: вершаваным творам "аддадзена" адно толькі дзясятая часта аб'ёму кнігі. Ды і не скажаш, што выбраны найлепшыя тэксты. Але нават і выдатныя вершы, вырваныя з уласцівага ім месца ў нізках, самі назвы якіх выяўлялі глыбінны сэнс, пазбаўляліся значнае долі сваё вартасці.

Нашае выданне – гэта, фактычна, чацвёртая спроба даць чытачу, а перадусім, літаратуразнаўцу-даследчыку том выбраных вершаваных твораў Алеся Барскага. На жаль, поўны збор паэтычнага даробку шаноўнага літаратара, якому ў гэтым, 2015 г. спаўняецца 85 гадоў, пакуль не ўяўляецца магчымым. Неўпарадкаваны хатні архіў пісьменніка, адсутнасць асобных газетных публікацый вершаў, варыянтнасць шматлікіх твораў – гэта галоўныя перашкоды, якія пад сілу, хіба, вялікай навуковай установе – Інстытуту літаратуры.

Мы палічылі неабходным ашчадна ўзнавіць тры першыя паэтычныя зборнікі Алеся Барскага: *Белавежскія матывы*, *Жнівень слоў* і *Блізкасць далёкага*, узгадняючы праўкі з аўтарам.

Са зборнікаў *Мой бераг*, *Лірычны пульс* і *Выбраныя творы* ўзялі толькі тое, што іхнія рэдактары перадрукавалі з газеты "Ніва" ці рукапісаў і што не публікавалася ў кнігах, альманахах і календарах. Выкарысталі таксама ўсе вершаваныя творы Алеся Барскага, надрукаваныя ў альманахах "Белавежа" (1965, 1971, 1980, 1988), "Беларускіх календарах" і часопісе "Тэрмапілы" (2014), якіх раней не было ў беластоцкіх зборніках паэта. І толькі ў трох выпадках звярнуліся да публікацый "Нівы", адкуль перадрукавалі вялікія нізкі вершаў.

Выказваем шчырую ўдзячнасць паэту Алесю Барскаму і ягонай жонцы Ніне Баршчэўскай, а таксама дырэктару Культурнага цэнтра Беларусі Эдуарду Швайко за спрыянне і дапамогу, без чаго не было б гэтае кнігі.

## Айчына

Ля ціхай хаты, на галінах,
Калыша птушак дуб-равеснік.
І гэта ёсць мая Айчына,
Якой спяваю свае песні.

Тут першы раз здружыўся з плугам,
І ў раллю зярняты сеяў.
Касою празвінеў над лугам,
Сустрэў каханне і надзею.

І часта ноччу над ракою
Поплеч з месяцам бадзяўся.
Святло ссыпалася мукою,
І таямнічы цень скрадаўся.

Не раз я бачыў як начамі,
Ішоў мароз цераз сумёты,
Квітнеў на шыбах малачаем,
І злосна траскатаў ён плотам.

І не забыць прадвесні свежасць,
Што бушавала ў разлогах;
І сум кудлатай Белавежы,
Калі праводзіла ў дарогу.

Тут бацька жыў і брат загінуў
У грозным годзе сорак першым.
Гэта і ёсць мая Айчына,
Якой я прысвячаю вершы.

## Белавежскія хлопцы

Мы ж такія хлапцы белавежскія,
Што ў росце спрачаліся з клёнамі
Мы прайшлі непраходнымі сцежкамі,
Гушчарамі адвечна зялёнымі.
А калі працаваць – дык са шчырасцю,
Хай лягаюць дубы пад правіцамі!

Загадаем тут дрэвам зноў вырасці,
Іх напоім дажджамі-крыніцамі.
І сасна хістане станам стройненькім,
Ад бяроз панясе гулам роўненькім,
Годна сядуць яліны вяльможамі,
Устане бор векавы
заварожаны,
упрыгожаны,
растрывожаны,
з пераразвонамі,
з перагуламі,
з песняй чулаю –
сэрцу мілаю,
з нашай працаю,
з нашай сілаю.
Са шляхамі зрасліся зубровымі,
З бураломамі дзікімі грознымі,
І з птушынаю чулаю моваю,
З цёплым летам, з зімою марознаю.
Любім глянуць вачмі урачыстымі
На святочныя дні ціхалістныя,
Калі ціша плыве над аколіцай,
І старыя бабуленькі моляцца.
Мы з крыніцамі,
мы з далінамі,
мы з галінамі,
з каляінамі
і з жывіцамі
распахучымі
аб’яднаны
і заручаны.
Любім буйнасць асенняга полымя,
Як імчыцца па дрэвах бушуючы.
Мы наогул заўсёды вясёлыя –
Белавежа не любіць сумуючых!
А калі заспяваць – на ўсё полечка,
А калі загуляць – ва ўсю волечку,
Ну, а выпіць калі – дык – глыбокую!
А калі цалаваць –
сінявокую,
шэравокую,
цемнавокую,
нізкарослую,
ці высокую
чарнабровую,

або русую –
белавежскую,
беларускую.
Нашы сэрцы ўжо не расстануцца,
З пушчанымі барамі-пралескамі;
З імі разам мы ноччу і раніцай –
Вось якія хлапцы белавежскія!

## Ёсць на свеце зямля

Ёсць на свеце зямля адна,
Да якой безупынна ідзём.
У майскіх і снежаньскіх снах
Цвіце вераснёвым агнём.

Цалуюць нас вусны рабін,
Вітае нас рып з-пад калёс,
Сардэчна крычаць вераб’і,
Пяшчотна шапоча галлё.

Чым далей мы жывём ад яе,
Тым любоў і туга гарачэй.
Да вяртання нам крылы дае,
Не знікае ніколі з вачэй.

З яе рук мы свой лёс узялі,
Першы крок на дарогах надзей;
Да дрымучых лясоў і далін
Нас птушыным інстынктам вядзе.

Ёсць на свеце такая зямля,
Дзе пачатак мой ёсць і канец.
Як не верыш, прыйдзі ды і глянь...
Радасць радасці сэрца кране.

## Сумуючы

Пяром з далёкай польскай Лодзі
Дастаў да пушчы Белавежскай.
Мы разам з ёю поплеч ходзім,
Як шчасце з мілаю ўсмешкай.

Я ж выйшаў з рук яе галінак,
Што песталі шчыра, чула,
І па пясчаных каляінах
Блудзіў з сяброўскім пушчы гулам.

Кругом расплыўся шэры горад,
Горад так добры, шчыры, мілы –
Ды спакушае пушчы мора,
Штоночы цягне дзіўнай сілай.

Пяром з далёкіх польскіх межаў
Вітанне шлю зялёнакосай –
Маёй каханай – Белавежы,
Яе крыніцам, птушкам, росам.

## Парог

*Сваім бацькам прысвячаю*

Нямала прайшоў я дарог,
І шляхоў, і нязведаных сцежак.
Ды ўспамін пра вясковы парог,
Аставаўся ў памяці свежы.

Яго сумны і радасны спеў,
Перазвон з жаўрукамі над раннем,
І апошні вячэрні прыпеў,
Як уздых, як бы шэпты кахання.

У дзяцінстве мяне ён будзіў,
І над ім цалаваўся я з ранкам,
І са мною ён доўга хадзіў,
Як пайшоў я па свеце цыганкай.

Памятаю апошні мой крок.
Развітання мой дзень незвычайны,
Як парог кінуў крыллям вятроў,
Крыкі роспачы, крыкі адчаю.

Мне сёння лягчэй уявіць,
У чым сіла традыцый і спадчын.
Спеў парога астаўся ў крыві,
Бо ён родны, ён бацькаў, ён матчын.

## Мой сын

Сынок мой не цяміць, як з дзедам гаворыць,
Нязручны яму дыялект маёй маці.
Ці словам падзякі, ці словам дакору
За гэта ён мне калі-небудзь заплаціць?

Як сталася гэта, ўявіць не магу я,
Што цёплыя, мілыя, матчыны песні
І мову дзяцінства маю дарагую
Не змог я да роднага сына данесці?

На долю маю мо прыпала заданне
Быць сумнаю кропляй таго пакалення,
Якое у хвілях смяротных расстанняў
Адыдзе ў змрок з беларускім натхненнем.

А можа, павернем да роднага слова,
І возьмем мы прыклад з палякаў і рускіх,
І вернасць суседзяў для роднае мовы
Патрапім мы выліць у сэнс беларускі.

І любячы мовы айчынныя гукі,
Напоўнім іх зместам гарачыя сэрцы,
Пачуцці напоўнім і чулыя рукі,
І казку, і песню напоўнім бяссмерцем.

Сынок мой не цяміць, як з вёскай гаворыць,
Недаступны яму дыялект маёй маці.
Ці я заслужыў тут на словы дакору,
Ці, можа, на горкае слова пракляцця?

## Святло

Па сталёвых і звінячых жылах
У сялянскі цёмны дом сплыло,
Узняла страха высока крылы,
Ап'янела гарадскім святлом.

Выйшаў змрок з кутоў, з-пад лавы,
Збітым ворагам у лес папоўз.
Свецяць грушкі няўгаснай славай,
Ды паверыць цяжка, ці ў сур'ёз.

Шчэ нядаўна пралі
У агні лучын,
Корч кідалі смольны
На камін.

Бабка ўсё злуецца і шапоча,
Хоць з-пад столі палілося малако.
Разам з ёю злосна жмурыць вочы
Дальнавідны ў змроку кот.

З-за вакна глядзяць бярозы, вязы
Плешчуць у далоні, цешацца святлом.
Дзеці цягнуць рукі раз за разам:
Дай пагрэцца лямпачак цяплом.

Хіляць нізка галавы стагоддзі,
Вёска ў рытміцы святлістых дзён.
Новае жыццё ў дратах прыходзіць
Без сахі, цапоў і верацён.

А святло плыве, плыве патокам
Па сталёвых жылах у лісці бяроз.
Пасвятлеў усмешкай у куце высокім,
Цемрай чалавечай змучаны Хрыстос.

## Сялянскі сум

Вясковую глуш, сялянскі сум
Глынуць гарачым нутром машыны;
Зменіш, краіна, старую красу,
Скінеш адвечны вянок з шыпшыны.

Нівы, лугі заварожыць матор,
Выпаўзуць з іх рамантычныя межы.
Узвее касынкай краіны віхор,
І новыя песні ён дасць Белавежы.

Зменіць напэўна свой колер-блакіт,
Паплыве па зямлі грамабойны напеў;
Як хіляць прад новым галовы вякі,
Дык трэба схіляцца і маёй галаве.

Мяне ўскалыхнуў мужыцкі сум,
Ён склаў быліну шыпшынных світанняў.
Ды заўтрашні верш, як хлеб-соль, панясу
На спатканне сталёвага рання.

## Моладзі

Вам свецяцца зоры краіны,
Вам сонца вясною іскрыцца,
Вам птушкі калышуць галіны,
Для вас даспявае пшаніца.

Патрэбны тут вашыя рукі,
У характары лёт – непакорнасць,

І сэрцаў рытмічныя стукі,
І душ да ахвяраў гатоўнасць.

І светлыя ў марах галовы,
І нястомныя, зоркія вочы,
Жаданне быць пільным, гатовым,
У маршах да новага крочыць.

І верыць у сэнс перамогі,
Жыццё не акутаць сумненнем,
І вечным гарэннем-трывогай
Шляхі рассвятляць пакаленням.

Суседзям – сардэчнасць, пашана,
Сяброўскае шчырае слова.
Айчыне – душ вашых адданасць
І вернасць для роднае мовы.

Вам несці паходню над краем,
Вам цемру з кутоў усіх рассеяць.
Хай твары ўсмешкай лунаюць,
І вочы надзеяй квітнеюць.

## Аднавясковым паэтам

Нелірычнымі быць мы не можам,
Лёсы чулыя душы прынеслі.
Знаходзім натхненне ў збожжы,
У казцы вясковай і песні.

У зорным начным трапятанні,
У гомане нарвенскіх водаў,
У смутку апошніх расстанняў,
У радасці летніх усходаў.

У ціхіх напевах гармоні,
У птушках адлёце, прылёце,
У поціску шчырым далоні,
У бацькаўскай працы і поце.

У таямнічасці заячых сцежак,
У ясным шляху пакаленняў,
У песні старой Белавежы
Чэрпаем лірычнасць натхнення.

## Эстафета

*Палякам*

Бор – нашай праайчынай,
Бор – нашай калыханкай,
Якая сэрца песціць;
Як любая дзяўчына,
Як сонца белым ранкам,
Як веліч песні.
Хаджу я пад дубамі
І пад сасновым гулам,
Слядоў шукаю:
Пакінутых дзядамі,
Астаўленых мінулым
У нашым краю.
Вось, шлях даўно прасечан –
Старынны шлях драўлянаў;
На ім знайшоў я язмін,
Які насілі з веча,
На згоду братнім станам,
У знак прыязні.
Галіначку нясу я
Суседняму народу, як эстафету.
Няхай жыве, красуе
У сэрцах добрай згодай
У песні і ў паэтаў.

## Суседзям

Ніколі бацька мой каменняў
Суседу пад парог не кідаў.
Не памятаю я здарэння,
Каб нёс суседу ён абіду.

Таксама не хачу я сёння
Палякам прынясці пад дзверы
Затруты камень у далоні,
Замест прыязні і даверу.

Не мала ёсць такіх на свеце
У стане кожнага народу,
Што сеялі б нязгоды вецер,
Каб пазбіраць плады нязгоды

Сяброў я ў паляках бачу.
Расцім мы згоду, не пракляцце.
Калі хто думае іначай –
Ён наш супольны непрыяцель.

## Каліноўскі

На плошчы Лукішскай снягамі цярушыць,
Вецер бясшумна канае ў змроку.
Я бачу, як ціха з далін Беларусі
Ідзе Каліноўскі ўпэўненым крокам.

Устала над плошчай у позе фатальнай
Аднарукая шэрая смерць-шыбеніца.
І жэстам бязлітасным і развітальным
Больш не пазволіць ні марыць, ні біцца.

Стаю ў натоўпе... надзея канае...
Ратунку не можа тут быць для героя.
А сэрца, набраклае чорным адчаем,
Аб цудзе стыхійным, гарачае, мроіць.

– Шляхціц Каліноўскі прысуджаны к смерці.
Словы на плечы ляглі, як цагліны.
– Гэта вы, шляхціцы – прапаведнікі смерці,
Я быў і астаўся навек селянінам.

І гэтыя словы, як крэда, як штандар,
Як кліч запаветны народнае справы,
Узняў Каліноўскі над царскаю бандай,
Над крокам апошнім да смерці і славы.

⚐ ⚐ ⚐

Прыйшоў я з Каліноўскім марыць
На Гедымінавым кургане.
І пасвятлеў Кастусь на твары,
Як клён святлее на світанні.

Яму з далоні вырваў вецер
“Мужыцкай праўды” нумар сёмы
І закружыў яго па свеце,
Панёс на крыллях гукаў грому.

І раптам разарвала неба
Маланка-роспач – ці надзея?
Кастусь з усмешкай:
– Верыць трэба у сэнс гісторыі-падзеі.

## Вільня

Стаю на вышыні гары,
На збройным шлёме Гедыміна.
Над галавой плывуць вятры
І ападаюць у даліну.

І бачу, хоць схаваўся дзень,
Сівыя вежы, нібы сёстры.
І бачу як здалёк ідзе
Са змроку постаць Брамы Вострай.

І чую крыкі за ракой,
І шум, і стук капытаў, зброі.
Сціскаю грудзі я рукой,
Каб перастала сэрца мроіць.

## Францішак Скарына

Цішыня. Заснулі вуліцы і плошчы,
Горад, нібы востраў, акунуўся ў змроку.
Стомлен мітуснёю, бегатнёй і працай,
Патануў да рання ён у сне глыбокім.

Вокны на каменні бляскі скупа сочаць.
Скарына схіліўся над лістом паперы.
Невымоўнасць веры напаўняе вочы,
Кніга ў роднай мове радасці не змерыць.

І дрыжэннем шчасця сэрца яго поўна.
Беларусь, суседзям ты даеш парадак!
На ўсход, на захад, поўдзень і на поўнач
Пойдуць падарожнай кнігі экзэмпляры.

І глядзіць пяшчотна на рады адбітак,
З вылажаных кніжак на шырокай лаве:
“Звыклым людзям кнігі прынясуць пажытак
І краіне роднай павялічаць славу”.

Ноч ідзе. Заснулі брукі, тратуары.
Горад пакрывае змрочнай світкай ціша.
Толькі ў друкарні трудзіцца і марыць
Сціплы і вялікі – Скарына Францішак.

## Паўлюк Багрым

Пастарэў. У кузні штодзённа
За аконцам ляглі краявіды.
Над краінай забітай, соннай,
Кружыць свабода прывідам.

Не выгарнеш думак-іскар
У звонкую верша форму.
Патанула паэзія ў прысак
Цяжкога жыццёвага горну.

І не кінеш слоў на паперу,
Няўстанна гараць успаміны.
Натхненне ўзялі афіцэры
У далёкай халоднай краіне.

Працуеш у кузні вясковай,
З жалезам ахвоча гаворыш.
З-пад udараў упартых-суровых,
Як з цымбалаў ссыпаюцца зоры.

Гэй, Паўлюча, стары Багрыме!
Сыплюцца іскры з-пад молата.
Хай бурай краіна грымне,
Заірдзіцца маланкай-волатам!

Можа, грэбенем кос сялянскіх,
Прачэша натоўп разлогі.
Можа, загад атаманскі
Запоўніць батрацтвам дарогі.

Ты не станеш мёртвым паэтам,
Іскры пырскаюць рыфмамі оды.
Паплыве над змуршэлай планетай
Звонкая песня свабоды.

# Па слядах КПЗБ і Грамады

## Надзея

Гады астрожныя снуюцца,
Як жабракі павольна, з сумам.
І кожны дзень у кратах б'юцца
Бунтарныя прыплывы думак.

Учора першы раз з-за краты
Лістом дыхнула восень жоўтым.
Запахла лесам, сенам, мятай...
Пачуцці папаўзлі натоўпам.

Радзімая, старая вёска,
На дзесяць год засеў твой сын.
Калышуць сэрца адгалосы
Твайго жыцця, тваёй красы.

Я чую шэпт бяроз шумлівых,
І бачу гнёзды ў галлі,
І веру, пройдзе дзень шчаслівы
Па нашай змучанай зямлі.

Я перамогу пешчу сэрцам,
Прамень надзеі не сканаў.
Хай прыйдзе радасць і бяссмерце
У гулкім звоне кананад.

Гады астрожныя праходзяць,
Як песні мукі і надзей.
Яшчэ прайдуся ў паходзе,
Я буду з песняй маладзець.

## Астрожная вясна

Ноч турэмная стала на варту,
Вецер зор у вакно накідаў.
На нарах заснула партыя –
Ка Пэ Пэ,
      Ка Пэ Зэт Бэ,
            Грамада.

Месяц рогам вакно расхіліў
І папоўз між заснуўшых сяброў.

І пачаўся натхнення прыліў,
Замачыў я ў месяц пяро.

І пішу і пішу, ды каму?
І далёкім, і блізкім, усім
Аб змаганні астрожных камун,
Аб каханні і смутку маім.

Вецер краты, як струны, згарнуў;
У вакно хлынуў добры настрой.
І прывёў у турму мне вясну,
Што ішла беластоцкай зямлёй.

## Нас ведалі

Нас знаалі добра судавыя лавы
Гордых, непакорных і ўпартых.
Картуз-Бяроза, Ломжа, Равіч
Душылі бязлітасна партыю.

З палякамі сядзелі поплеч,
Вялі абмен святлістай мрояй;
З імі пілі нядолі кроплі,
Дзяліла хлеб, дзялілі зброю.

Хадзіла смерць з дзяржаўным крыжам
Па змрочных шэрых калідорах,
А мы з цыбуляй з'елі сотні кніжак
Аб барацьбе, змаганні з горам.

Па нарах поўзала сумненне,
У светлых марах быў ратунак.
Не перастала, нават на імгненне,
Вясці жыцця астрожная камуна.

## Паэзія

Суд аб'яднаў мяне з астрогам,
На пяць год цела запалоніў.
І зноў панам, дзяржаве, Богу
Праз краты кідаю праклёны.

Плячыма грэю шэры камень,
Шліфую дошкі цвёрдых нараў
Спакой прытворны "юды" маніць
І рве на шматы хвалі мараў.

Прывык, прымаю стукат Морзэ,
І сам надзею шлю ў цагліну.
У карцары таварыш Корсак –
Сядзіць там сотую гадзіну.

Прыйшоў, мільгнуў счарнелым тварам,
Сваіх вачэй з вакна не зводзіць.
Я там, у карцары, у часе кары
Пісаў паэму аб свабодзе.

## Прыгавор

Даклад быў ясны, зразумелы,
Як словы вулічных плакатаў.
“Заслужаны таварыш Белы” –
Гэта прадажнік – правакатар.

Сход выказаўся аднадушна
У пратаколе чорна-белым.
Яго рашэнне непарушна:
“Падвергнуць Белага расстрэлу”.

Справа вялікага значэння.
Перада мной стаіць заданне:
Згодна з партыйным вырашэннем,
Прысуд прывесці ў выкананне.

Гадзіннік пяць гадзін адмераў,
Здранцвелі ад чакання ногі,
Рука зраслася з рэвальверам,
А сэрца з ціхаю трывогай.

Стаю, чакаю поплеч з мрокам,
Снег у завулку сыпле ватай;
І вынырнуў кашэчым крокам,
“Таварыш Белы” – правакатар.

Быць можа вычуў сваю згубу.
Дула закрыла лесу шыры…
І першы раз з фальшывых губаў
Кроў люнула патокам шчырым.

## Недакончаны ліст

Дарагія, пішу пад блакітам,
Заліўшым Іспаніі абшары,
Павісшым над белым Мадрыдам,
У небе гарачым бясхмарым.

Я поўны душэўнай трывогай.
Не думайце толькі, што струсіў,
Паўгода ваеннай дарогай
Іду да сваёй Беларусі.

Іспанскай зямлёй паўзе гора,
Поплеч з зарніцай свабоды –
Прыгожай, як вочы Далёрэс,
І бурнай, як горныя воды.

Начамі іскрацца сузор'і,
Стагамі стаяць кіпарысы.
Штыкамі будуем гісторыю,
Змяняем ёй формы і рысы.

Дарагія... Узрыў кананады.
Зямля узмахнулася ў веер.
Баец Міжнароднай брыгады
Лёг мёртвым на дно траншэі.

## Журавель

*З думкай аб беларусах*
*на чужыне*

Журавель адзінокі
У блакіце высокім
Аслабеўшымі б'е
Крыламі.

Яго роднае стада –
Жураўліная радасць
Над сінімі мчыцца
Марамі.

Не забачыць радзімы –
Беларусі птушынай
Зялёных далін
І гаяў.

Прыкаваў яго вырай,
І чужынныя шыры,
І абшары нялюбага
Краю.

Вялікае гора,
Шырокае мора…
Жураўлёў
Не дагоніць.

Хутка выб'ецца з сілы
І знойдзе магілу
У халодным
Бяздонні.

## Тачанка

Імчалі шляхамі натоўпам вясёлым,
Хлёбалі радасць і хлёбалі гора,
І яблычка-песню ссыпалі пад колы,
Свабоду вазілі ў шырокіх прасторах.

У ёй урачыстасць, у ёй гора-будзень
Над Волгай, Дняпром, і Нявою, і Донам.
Мяняліся коні, мяняліся людзі,
Прасохшыя колы каціліся ў Нёман.

Не раз налятала казакаў ватага,
І зубы калечылі шаблі з штыкамі.
А колы грымелі салдацкай адвагай,
Штандары арлінымі былі крыламі.

За бортам тачанкі астаўся таварыш.
Уміралі салдаты штодзённа без ліку,
Але дух рэвалюцый, сусветных пажараў
Новых, і новых байцоў змог прыклікаць.

Уласнай крыві далі свету не мала,
Чужой напаілі і зброю і землі.
Прайшла інтэрвенцыя, штурмы, навалы
І ты апусцела, парожняя дрэмлеш.

Старая, пагнутая, кулямі збітая
Стаіш у музеі, з юнацтвам гаворыш.
Гісторыяй славы навек апавітая,
Бунтарнай мінуўшчыны – верны таварыш.

## Сапсуты

Ён бачыў няшчасця так многа,
Што ў шчасце не можа паверыць.
Баіцца, што зноў з-за парога
Стукне фатальнасць у дзверы.

І сёння жыве днём мінулым,
Які ў нябыт час адкласці.
Яго сэрца акутана гулам
Мінулай эпохі няшчасця.



Калі прывыкнеш да выбухаў мін,
Не лёгка прывыкнуць да ружаў.
І гэты ваенны балючы ўспамін
Надоўга з душою падружыць.

І нават сярод дарагіх
Не лёгка знайсці зразуменне.
Мне кажуць: “Ты нейкі другі,
Змяніўся да самых карэнняў”.

І выбухі ходзяць за мной,
І памяць мне полымя ліжа.
Усё, што зраслося з вайной,
Нялёгка з свядомасці выжыць.

## Дар

Не маю рук, вайна забрала іх,
Не ў стане дрэва пасадзіць.
Вы зразумейце горыч слоў маіх,
Сустрэў змяю – не змог забіць.
Мой лепшы друг не мае свету ў вачах,
Ён ходзіць крокам асцярожным
І гнеўна ўспамінае палача
З нямецкай камеры астрожнай.
Знаёмы мой не мае ног,
А да вайны ён першым быў танцорам.
О, колькі ж ён схадзіў дарог,
Па гор хрыбтах праходзіў к зорам.
А трэці мой сусед глухі –
Снарады лопалі на танку.
Любіў смяяцца, гаманіць

І расцягнуць мяхі тальянкі.
Чацвёртага салдата сустракаў:
Ён да вайны быў запявалам;
Ён мае зрок і сілу ў руках,
Ды звону голасу не стала.
Сняцца па начах мне яблыкі ў руках,
Смяюцца другу кветкі ўсіх калёраў,
Знаёмаму штоночы грае музыкант,
І ён танцуе казачка – раздолле.
А мой сусед-глухар штоночы,
Захоплены птушыным звонам,
Напевы новыя злавіць так хоча
Старым мяхом акардэона.
Нямы салдат у светлых снах
Да рання поплеч з песняй ходзіць.
Штоноч пяе яму вясна
І песню ён вясне заводзіць.
Мінулае вясёлкаю гарыць
У светлых і трывожных снах,
Жыццё не ў стане радасці дарыць,
Штодзённа сумам спатыкае нас.
Збяру я боль усіх адбітых ног і рук,
Пагаслых маладых вачэй збяру я жар,
Маўчанне і тупую глухату збяру
І паднясу падпальшчыкам, як дар.

## Боязнь

Мне крыўдна за красу зямлі,
Што паклююць акопы воспай;
Таму гатоў прасіць, маліць,
Каб не плыла над ёю роспач.

Балюча мне за сіні бор,
Я бачыў пушчу расстралянай,
Як дрэва кожнае л’е боль
З раздзёртых боем свежых ранаў.

Баюся за малых дзяцей,
За чыстасць сонечных праменняў.
Ці мне дзіця вянок спляце,
Ля жыта стаўшы на калені?

Трывожна за мой сціплы верш
Ці да людзей змагу данесці...
Вайна – шалёны сухавей,
Прыносіць смерць людзям і песні.

## Мір

Да сонца ўзняліся сцягі над планетай
У пошуках міру, шчасця і згоды.
Сяброўства патрэбна не толькі паэтам,
Яно неабходнае сёння народам.

Ідзе чалавецтва наперад няспынна
Па слізкіх дарогах дваццатага веку.
На ногі ўзняліся малыя краіны,
Каб долю вялікую даць чалавеку.

Канчаецца эра пазорных калоній,
Прыходзіць свабода да скрыўджаных нацый.
Сплятаюцца думы, ідэі, далоні,
Усталі народы да радаснай працы.

Квітнеюць сцягі так, як кветкі свабоды,
Сонца і шчасця адзінаю мэтай.
Мір неабходны сягоння народам,
Мір неабходны сягоння паэтам.



Зямля чалавецтву калыскай –
Ды не жыць у калысцы заўсёды.
Нас клічуць і цені, і бліскі
Далёкіх касмічных усходаў.

Не хадзіць нам па цвёрдаму вечна,
Калі маняць легендай прасторы.
Людзі пройдуць Дарогаю Млечнай,
Людзі дойдуць да сонца і зорак.

Ці ёсць грань між развагай і шалам?
Свет зямны – свет фантазій і візій.
У імкненні да форм дасканалых
Ідуць людзі праз мора калізій.

Плыве ў жылах і радасць, і вера,
Не спяваць жа нам песень адпетых.
Пацалуем мы губы ў Венеры,
І абдымем другія планеты!

Укладаем мы гімн піянерам,
Што прабілі ў космас дарогу.
Уваходзім у новую эру,
Дзе не будзе нясчасцяў былога.

## Самалёт

Звонкім громам шыр праніжа,
Ліхарадку дасць бярозам,
Мільгане ў паветры крыжам –
Імчыцца чалавечы розум.

Можа, скажаце: “Пяеш старое,
З самалётам мы даўно знаёмы”.
А я слаўлю чалавечы мозг героя,
Калі рытмам сталі б’ецца па-над домам.

## Славяне

*Прафесару Мар’яну Якубцу*

Славянскі свет
раскінуў крылы,
Абняў грамадныя абшары,
Папрыгажэў
умоцніў сілу;
Тут ёсць дзе жыць
і ёсць дзе марыць.
Нязгоды мелі дастаткова,
Глядзелі коса праз сталецці.
Але канец...
для справы новай
Растуць у дружбе нашы дзеці.
Прайшлі бурлівыя стагоддзі
У громе воен
і нападаў,
Сягоння нам пшаніца родзіць,
Сягоння жнуць
народы радасць.
Ды ужо ў часах даўно мінулых
Жылі тварцы з вялікім сэрцам,
Што зналі цэну дружбы чулай,
Жыў Скарына,
Міцкевіч,
Герцан.
Болей ідэі іх не блудзяць
Па тупіках незразумення.
Нясуць наперад сёння людзі,
Як эстафету, іх гарэнне.
Вось тым усім,
што захацелі

Штандары згоды ўзяць у далоні,
Каб паказаць славянаў веліч,
Я нізка
кланяюся сёння.

## Куба

Бывае, што сусед не друг, а вораг,
І сее ён ля вокан зёрны згубы,
І пад парог падкіне звітак гора,
Як “янкі” падкідаюць Кубе.

Зайздросна стала “волі” абаронцам,
Калі кубінец першы раз паверыў,
Што Фідэль нёс народу сонца
І шчасця поўнае самбрэра.

Звязаць суседцы прагнуць рукі,
Падняць зноў хочуць Кубу на распяцце,
Акутаць край ваеннай мукай,
Абсеяць поле горычным пракляццем.

Ды час не той, і не такая Куба,
Каб шчасце з рук хто вырваць здолеў;
Хто выпіў раз свабоды кубак,
Не схоча піць каўшом няволю.

Хвалю народ малы, што стаў вялікім,
І слаўлю чын герояў барадатых;
Гукаю Фідэлю я шчырым крыкам,
Што прагну стаць яго салдатам!

## Нарач

*Максіму Танку*

Мне Нарач сінім вокам не маргала,
Слядоў я не заставіў на пяску азёрным,
Не бачыў яе буйных, сакавітых хваляў,
Кануўшых ў бяздонне светаў зорных.

І рыбакоў не бачыў барадатых,
Узросшых на празрыстых водах.
І не знаёмы мне балючы стогн па хатах
У крыўдныя былыя годы.

А ўсё ж такі я ведаў у дэталях,
Чым славіцца і славілася Нарач.
Не раз я акунаўся ў яе хвалі
Ў салодкіх сэрцу думках-марах.

Разблытваў з рыбакамі сеці,
Каб хлеб іх есці не задарам.
І з думкамі аб лепшым свеце
Я разам з імі гнаў жандараў.

Цудоўны кут краіны роднай,
Людзей, прыроду, вечары і ранкі
Знайшоў у гордай і свабоднай
Паэзіі – Максіма Танка.

## Белавежская песня

Над чубам заціхшым грамаднага дуба
Зноў коціцца месяц – і святлістае сэрца.
У свой паэтычны заглянуў я кубак –
А зоры ў ім звоняць шапэнаўскім скерца.

І ціха спявае мой край Белавежскі;
Пялёсткі ссыпаюцца з вішні, з чарэшні,
Як зоры дрыжаць і злятаюць на сцежкі,
Бярозы тут песні і сосны тут песні.

І песня бяжыць у лугі і ў нівы;
То ціха ў рацэ свае косы замочыць;
На момант застыне ў трысці палахлівым
Ды зноў заквітнее на вуснах дзявочых.

## Нарва

Імчыцца кожны дзень у сінеючыя далі
Сярод палёў, лугоў, лясоў зялёных.
Ірдзіцца ў сонцы срэбрам хвалі,
Дае ваду дубам, бярозам, клёнам.

І запусціла сотні рук-патокаў
У пушчы і даліны Белавежы.
І ссе ваду з крыніц глыбокіх,
Каб сырадоем сілы зноў адсвежыць.

Глядзіш – і нельга надзівіцца,
Як коціць хвалі ў паўнаводдзе.

Вятры прыносяць пах жывіцы,
І песні кнігаўкі заводзяць.

Прыйдзі над Нарву ноччу ў маі:
Забачыш, як з дарогі зорнай,
Месяц святлістым караваем
Глядзіць у люстра гладзі чорнай.

Калі хто быў над Нарвай летам,
Дык той напэўна не забудзе,
Што тут найбольш на свеце кветак,
Што тут ёсць ветлівыя людзі.

## Смерць скрагі

Залатой сяўнёй рассеяў месяц зоры,
У недасяжнай вышыні – чырвонцы
У шырокіх небавых прасторах
Загарэліся святлістым сонцам.

Вось мільёны залатых таляраў
Мітусяцца і завуць спакусай.
Звар'яцелы скрага сонна марыць,
Лічыць грошы, прыпадняўшы вусы.

Раптам убачыў: пад нагамі
У вадзе гараць яны пажарам.
Кінуўся збіраць, пайшоў, як камень...
І памёр на дне сярод таляраў.



Застукала радасць у сэрца
        Пальцам сваім.
Здароўе... Прайшоў подых смерці –
        Развеяўся ў дым.

Да вокан бягуць яго вочы –
        П'юць зелень лістоў.
Злавіць у прасторах ён хоча
        Воблачны шоўк.

У шыбіне птушак бачыць –
        Кудысьці ляцяць.
Як добра ад смерці карачай
        Ісці да жыцця.

## Рыбак

Ноч. Ціха. Улёгся вецер
У бяздонне вады стаячай.
Кінуў месяц зорныя сеці,
Ноч цэлую будзе рыбачыць.

Патанулі прынадай бліскучай,
Мітусяцца жывой павуцінай.
І змяшалася зораў сугучча,
З пачарнелаю зорнаю цінай.

Не пахваліцца заўтра ўловам
Упарты рыбак – ясны месяц;
Ён рыбы ў сеці не зловіць,
А толькі мяне разам з песняй.

## Красавік

Па зялёнай краіне іду:
Вызваляюцца нівы ад сна,
Каляровы агонь-ізумруд
Сыпле шчодрай рукою вясна.

Як прыгожа кудравіцца луг,
Сонца ловіць і ссе малачай.
Так прыемна, што я не магу
Зачатую песню канчаць.

Дык ляці, мая песня, ляці!
Звонкіх птушак да краю заві.
Маркоцяцца гнёзды ў трысці,
Пасяліўся ў лясах красавік.



Ноч лізнула росным языком
Дрэвы, нівы і шырокія лугі.
І паднебным шляхам-малаком,
З крыкам сэрцу дарагім,
Жураўлі да нас плывуць.
Іх не можа стрымаць змрок.
І гляджу падняўшы галаву...
Ды дарэмна – непрывычны зрок
У зорным карагодзе заблудзіў.
Я застыў, стаю ў гіпнозе-сне

Адзінока ў прасторы ніў,
З думкай аб прыходзячай вясне.
А ў сэрцы веснавы прыплыў,
Радасць выпаўніла берагі.
І за жураўлямі я паплыў.
Маладосць вясны спявае гімн.

## Над зямлёй

Над зямлёй бляск зары
Рассыпаецца,
І дрыжыць, і гарыць,
Усміхаецца.

Лес гудзе і шуміць
Адгалосамі,
Луг шырокі звініць
Ужо косамі.

Мыюць росамі твары
Аселіцы,
Жаўрукі над абшарам
Вяселяцца.

## Лясная дарога

Паміж капытнікам і каляінай
Плывуць струмені траў зялёных.
Над галавой тунэль з галінак
Спляталі дубы, бярозы, клёны.

Вужамі поўзаюць карэнні,
Грукочуць колы па дарозе.
Стаіць ля дуба муравейнік
У годнай і сур’ёзнай позе.

Грэюць сосны плечы голыя,
Ў ялінах мрок, начная ціша.
І цэлы дзень іскрацца полымем
Ліхтары чырвоных шышак.

Гляджу і нельга надзівіцца:
Блукаюць па ляску праменні,
Перамяшаўся пыл з жывіцай,
І чхаю я з канём наперамену.

## Касец

Я касой абтрасаў росы раніцы,
Калі сонца зямлю развяселіць,
І жаўрук з цаліною расстанецца
Над прасторам ліпнёвых аселіц.

Рассыпаў над ракой стукі звонкія
Ад касы, ад расы аж да сонейка.
І няслі рэха ўдаль сосны гонкія
Да далёкіх сівых малых домікаў.

Аддаваў я касе моц юнацкую,
Напаўняў даль сталёвымі свістамі.
І ўзмахамі цвёрдымі, хвацкімі,
І працай сэнсоўнай, карыснаю.

## Вечар

Вечар страсянуў з галінак спеў птушыны,
Верхавіны клёнаў напаіў спакоем.
Лес на небасхіле сонца глынуў,
Ад хлявоў заціхшых панясло ўдоем.

Змрок папоўз з-пад лесу па даліне соннай,
Цёмнаю рукою песціць рэчкі цела.
Над азёрнай гладдзю, ціхай і бяздоннай,
Асцярожнай гускай зноў імгла прысела.

Дальні лес абсыпаў вечар чорнай сажай,
Зараз скліча месяц зорак ясных стада;
Ён нырне ў воду і на дне прыляжа,
Ясным і бліскучым чарвяком-прынадай.

Цішыня, паслухай, як дрыжыць даліна,
Ад чароўнай кволай меладычнай песні.
Хныкаюць зайздросна птушкі ў галінах,
Веснавую ночку салавейка песціць.

## Цішыня

Зорнай павуцінай месяц неба сплёў,
Сеў у зорах павуком бліскучым
І глядзіць у далечынь палёў,
У раку, у луг. Пясок сыпучы
Пад нагамі ціха шалясціць,

Рассыпаецца, шыпіць, жаўцее.
Вецер спаць лягае ў трысці,
Травы і кусты расой пацеюць.
Сэрца напілося дзіўнай цішыні,
Ап’янела меланхоліяй спакою.
Ройна мітусяцца светлякі-агні
Па-над соннаю далінай і ракою.

## Гармонія

Месяц, як ветразь, паплыў,
Выгнуўшы белыя плечы.
Пахне на межах палын,
Сумуе над рэчкаю вечар.

Рукой павяла цішыня,
Зглажыла на нівы далоні.
Ні дадаць і нічога адняць,
Дасканаласць у свеце сягоння.

Вырыс высокіх альшын
Зоры ў каронах калыша.
Сядай і паэму пішы,
Напэўна праўдзіва напішаш.

Ні дадаць і нічога адняць,
Прырода і ты ў гармоніі.
На рыфмы твае цішыня
Пяшчотна паложыць далоні.



Падкраўся вечар чарнабровы,
Абняў рукамі косы ліпы,
Заклёнамі, таемнай мовай
Ён цішыню кругом рассыпаў.

І цішыня звініць над светам,
Заве ў луг, у поле кліча.
Сягоння кожны з нас паэтам,
Сягоння кожны зоры лічыць.

Паэзія з жыццём у поплеч,
І маладосць, і шал імкненняў
Аселі сакавітай кропляй
У гучнай рыфме на калені.

## Гасцінец

Сярпом падрэзаў месяц вецце,
Прыгнаў у цішы стада зорак,
Знерухамеў, глядзіць і свеціць,
Маўчыць, нічога не гаворыць.

Далёка стадам лебядзіным
Імгла ўзнялася і асела.
А ў небе шлях бескаляінны
Лёг палатном сняжыста-белым.

Прад намі ноч, далёка ранак,
Паветра вільгатнее, стыне.
І салавейка нечакана
Паслаў звінячы свой гасцінец.

## Валошка

Зірні-зірні блакітнымі вачыма,
Ты сэрца вылечыла мне не раз,
Як позірк маці, дарагой дзяўчыны,
Як поціск шчырага сябра.

Маргай-маргай з жытнёвай шумнай гушчы,
Не закрывайся горкім палыном.
Не можаш ты сваіх вачэй заплюшчыць,
З табой рассталіся мы так даўно.

Глядзі-глядзі прыйшоўшаму ў вочы –
Я харазтво тваё ў верш збяру.
І сум, і радасць я табе прарочу,
І добры лёс табе валошка – Беларусь.

І не сумуй, што адыходзіць лета,
Бо не рассыплецца вачэй краса.
Ты прыгажосць сваю, як эстафету,
Перадасі асеннім верасам.

## Залёты

Зашаптаў на шыбах дождж ліпнёвы,
Куст ружаны птушкай страпянуўся.
Вяз віхрысты у подыху суровым
Да бярозы з чуласцю нагнуўся.

Ды бяроза вяза адштурхнула
Буйнай сакавітаю каронай,
Стан свой ветліва нагнула
Да суседа – маладога клёна.

Спахмурнела постаць вяза,
Злосна растапырыў вецце.
А бяроза з клёнам разам
Песцяцца, як прыйдзе вецер.

## Ноч у Белавежы

Лапамі махнатымі ёлкі ноч трывожаць.
Галавамі сосны падпіраюць неба.
Ночка сыпле сажу, думае, варожыць,
Служыць урачыста жудасны малебен.

Валацугі-ветры паляглі ў лагчынах.
Чорныя паляны дыхаюць трывогай.
Дзесьці за ўзгоркам, дзесьці за далінай
Выюць ваўчаняты ў недаступным логу.

Цішы не бывае ў пушчаных ночах.
Зараз заіскрацца сцежкі баравыя,
І звярам напоўніць прагавітасць вочы,
Барацьбу-змаганне змрок рукой прыкрые.

Бор напоўняць гукі жудаснай распрavы.
Бушаваць па лесе смерць свабодна будзе.
Хто тут вінаваты, дзе сустрэну правых?
Можа, мне адкажа мудрасць соваў-суддзяў.

## Змаганне

Суровае неба і хмара-ваўчыца
Глядзяць на зямлю з ненавісцю.
І злосна ляцяць кіпцюры-бліскавіцы
У пушчу, у дрэвы, у лісце.

Суровая пушча ваўчыцай таксама
Глядзіць непакорна і цвёрда.
Апора яе ў дубах-веліканах,
Карміўшых арліную гордасць.

Глыбока ідуць у зямлю бліскавіцы,
Ды карэнне глыбей бярэ свежасць.
Таму параможа зямнаяваўчыца –
Магутная моц Белавежы.

## Бура

Страсянула Белавежа грывай,
Ад натугі цяжка застагнала.
І дрыжаць асіны палахліва,
Верхавіны паплылі навалай.

Сосны выгнуліся лукам –
Ды не стрымаць ім напору.
Вецер злосным стогнам, мукай
Расхістаў кароны бору.

Зачарнелі грозна хмары,
Рэзанулі пушчу бліскавіцай.
Над схвалёваным лясным абшарам
Заспявала песню навальніца.

## Пасля дажджу

З-за хмары сонца выйшла раптам
І лінула дажджом праменняў.
Смяецца шчодра нівам, хатам
У вечным маладым гарэнні.

І заблішчэла ў полі жыта
На вузкіх роўненькіх загонах.
У лужах, перапоўненых блакітам,
Дзеці хапаюць неба ў далоні.

  

У соснах калышацца рытм гарманіста.
Бярозы хістаюцца песняй зялёнай.
Скрадаецца вецер сівы, шумналістны,
Заблытаўся косамі ў ліпах і клёнах.

Ёлкі з абліччам суровым і хмурным
Узмахамі рук прыклікаюць у гушчу.
Змяшаўся я сёння з пушчаным накцюрнам,
Не знаю, дзе песня, дзе я і дзе пушча.

## Вавёрка

Паходняй рыжай, агністай
Мільганула вавёрка ў галінах,
Рухомым клубком прамяністым
Пайшла па бярозах, асінах.
Растапырыўшы хвост, як ветразь,
Лёгка плыве ў прасторы,
Нясецца ў подыху ветру
Густымі шляхамі бору.
Прапала. Зноў заблішчэла
У руні яліны зялёнай,
Кінула жвавае цела
На слізкую хвоі калону.
Сустрэла яе верхавіна,
Шырока рукі развёўшы.
А яна зноў плыве балерынай,
Сонца ў хвост уплёўшы.
У скоку стрымгаловым
На ніжняе мяккае вецце,
Шляхоў шукаючы новых,
Ляціць вавёрка і вецер.

## Аблокі

Пацяплела. Аблокі пушыстыя
У азёрнай купаюцца глыбі.
Лебядзінымі крыллямі чыстымі
Азёрную цішу ўздыбілі.

Праплылі і прапалі на беразе,
З лугавымі змяшаліся нетрамі.
Абняў іх далонямі верасень
Празрыстымі цёплымі ветрамі.

І па травах свой пух рассыпаючы,
Замянілі яго ў павуціну.
Распаўзлося, травінкі сплятаючы,
Бабіна лета ў даліне.

## Скарга

Гінуць дрэвы з краявіду,
Як героі з шумнай сцэны.
Сэрца поўніцца абідай
Ад балючай перамены.

Лес прапаў, прапала рэха,
Песні трацяць мілагучнасць.
Толькі вецер дзікім смехам
Сыпле ў твар дакор балючы.

І вядзёрка без жывіцы
Вёсны астаўляюць летам.
Як жа сёння весяліцца,
Як жа цешыцца паэтам?

## Восень

Чырвоным полымем восень
Паліць бярозавы гаік,
Ушыр і ўздоўж калёсіць,
Апошнюю зелень збірае.

Даўно адыгралі песню
Арфы жытнёвых сцяблінак.
Ветры, што радасць неслі,
Стогнуць у голых галінах.

Праз дзіркі грамаднага сіта
Кастрычнік упарта дождж сее.
На зямлі, халадамі спавітай,
Голыя дрэвы калеюць.

І толькі на сумным фоне
Зелянеюць загоны руні.
І гулкім радасным звонам
Спяваюць цапы ў пунях.

## Настрой

Узмахнула крылом восень-шэрасць,
Жураўлі колюць неба стралой.
Пад нагамі рассыпаўся верас,
Акунуў мяне сумны настрой.

Больш не будуць смяяцца даліны.
Вятры вербам сукенкі парвуць,
Бессаромна лісты-шматы скінуць
У азёрную чорную муць.

Рассмяецца парывісты вецер
Над вярбовай тугой-галізной,
Панясе ён свой рогат па свеце
І мой сумны асенні настрой.

## Асеннія адгалосы

Восень лісце скрышыць,
Ворыва накорміць
Смуткам і тугой.

Дзіўнай-горкай цішай
Краявід калыша
Па-над галавой.

Ой, пайду па лесе,
Ой, пайду ў даліну
Пашукаць красу.

Ды не чую песень,
Радасных птушыных –
Сустракаю сум.

## Развітанне з бярозай

Дзесь далёка цяплынь адплыла
З-над асенніх палеткаў краіны.
Паглядзі, зноў агонь запалаў,
Заквітнеў у галінах рабіны.

Іду ціха ў шыры далін
Да чырвонага шумнага гаю.
І лугі, і рака, і палі,
Як заўсёды, прыязна вітаюць.

Вось канае лісток на мяжы,
Непагасным трапечацца жарам;
Відна, хоча хвіліну пажыць,
Безнадзейна аб шчасці памарыць.

Бяру чула ў гарачыя рукі
Галінкі бярозанькі любай.
А яна ў хвіліну разлукі
Дыхнула лістком мне ў губы.



Стаяць дубы ў векавой задуме,
Як маякі ў неспакойным моры.
Прыйдзі журба, прыйдзі мой суме,
Мы па-сяброўску, шчыра пагаворым.

Крануўся з дрэва першы жоўты лісцік
І закружыўся матыльком асеннім.
Прыходжу да цябе, так, як калісьці,
Зноў пад дубамі стану на калені.

Прыходжу я без слоў маліцца
У ціхай, стройнай, баравой святыні;
Тут думка з запахам жывіцы
Плыве ў шыр зялёна-сіні.

Размова з сумам ёсць маўчаннем,
Якое апляло душу карэннем.
Ціхі настрой асенняга канання –
Уступ да заўтрашняга адраджэння.

## Восень на Свіцязі

У возера капаюць з высі дубовай
Жалуды, як асеннія слёзы.
У моры зялёнай руні сасновай
Гараць адзінока бярозы.

Здаецца, што дрэвы у шпаркім разгоне
На бераг азёрны прыбеглі.
І хтосьці іх стрымаў. Як быстрыя коні
Над самай вадой замерлі.

Ідзе восень па лісцях, ступае, шапоча,
Калыханку спявае далінам.
Заціхлі русалкі, лясун не рагоча,
Ссыпаюцца росы з галінак.

Не шукайце на свеце другую краіну,
Не знайсці вам такой чараўніцы!
Тут натхненне, тут радасць дзяўчыны
І раздолле без межаў-граніцы.

Тут Айчына паэтам учора і сёння
Сустракае цябе, быццам сына;
У ветравым свісце іграе сімфоніяй,
У шуме дубовым гамоніць былінай.

## Зіма

Эх, зіма белавежская, белая!
Па краіне рассыпаўся снег.
Толькі дрэвы стаяць акалелыя,
І сумуюць аб цёплай вясне.

Ірдзіцца ў сонцы іскрынамі –
Мільёнамі дробненькіх зор.
Імглою плыве над далінамі,
Як уздыбіць сняжынкі віхор.

Эх, зіма белавежская, шчырая!
Выпаўняе далін берагі.
Завіруха дыхнула ў шыры,
Лёг абрус на палі і лугі.

Не паспелі дубы аднаногія
Скінуць лісточкі са скроні.
У шуме дрыжачай трывогі,
Заціснулі снег у далонях.

Эх, зіма белавежская, грозная!
Снег ёлкі па рукі засыпаў.
Бураломам прайшлася марозным
З акордамі воўкавых скрыпак.

Эх, зіма, ты мая белатварая!
На спатканне з табою іду.
І прайдуся збялелым абшарам
У прыплыве эмоцый і дум.

## Вернасць

Я хлеба апошні кусок
Раздзялю, калі прыйдзе бяда.
Але пушчы дубоў і кустоў
Ніколі нікому не дам.

Я пушчу бяссмерцем лічу,
Звінячым у шуме галін:
Калі яе песні не чуў,
Самотны хадзіў па зямлі.

Я хлеба апошні кусок
Аддам у няшчасці другім.
Але шум белавежскіх лясоў
Да болю душы дарагі.

  

Слава дубам, слава бярозам
    і соснам,
Слава кустам і вербалозам
    росным.
Слава альшынам і слава клёнам
    стройным,
Слава ялінам вечназялёным,
    дастойным.
Слава, спяваючым пушчы мелодыі
    ветрам,
Слава крыніцам, прыносячым воды
    з нетраў.
Слава народу, што вырасціў пушчу,
    як маці,
А тым, што з сякерай бушуюць у гушчах –
    праклясце.



Калі вятры лісты асеннія развеюць,
І лес акутае пануры гоман,
Прыйду са смуткам і надзеяй
І над тваім я закружуся домам.

Калі зіма у парыве серабраным
Пабеліць косы сумным ліпам,
Я прыімчуся нечакана –
Сняжынкамі да ног прыліпну.

Калі вясна зялёнай шумнай песняй
Захопіць даль матывам неабдымным,
Я пад вакном з лістамі ўваскрэсну,
Каб заспяваць табе ў цішы гімны.

І калі лета ў палях шырокіх
Рассыпле стракатзіны стукат,
Мы лодкай паплывём у змроку –
Я з хваляй пацалую твае рукі.



Прыйшло яно ў ціхі летні вечар,
І неяк дзіўна так, бо нечакана.
Як сябра абняло мяне за плечы,
І зазірнула ў твар – каханне.

І кожны дзень бярэ мяне за рукі,
Кладзе далонь на чорную чупрыну
І лічыць у грудзях упарты стукат,
Мацнее з кожнаю хвілінай.

Не ведаю, ці хопіць мне адвагі,
Сказаць аб тым, што сэрца песціць.
Каханая, прашу, звярні ўвагу,
Вачыма вышлі мне надзеі весці!

## Ты недзе ёсць

Хоць для мяне ты неабдымная,
Хоць для мяне ты недаступная,
Пайду сцяжынкамі інтымнымі,
Шукаць цябе вачыма рупнымі.

І можа, дзесьці за пралескамі,
І за ракою, за шырокаю,
Цябе знайду я белавежскую,
Далёкую ды сінявокую.

Я веру, што ты мне прызначана,
Дык не спынюся я ў пошуках.
Прыйду парою не назначанай,
З надзеяй – краскаю ў кошыку.

Хоць для мяне ты невядомая,
Мае інстынкты падарожныя,
Табе – шляхамі незнаёмымі
Нясуць каханне пераможнае.

## Ці прыйдзе

Нізенька на шэрым небасхіле
Зорка першая маргнула мне здалёк.
Да мяне бяроза стан свой хіліць,
Галавы кранаючы галлём.

Світкай атуліў ліпнёвы вечар,
Насцярожыўся, прыслухаўся, замоўк.
Месячык, сагнуўшы рогам плечы,
Сыпнуў на калоссе белы шоўк.

У маіх руках надзея-кветка:
“Прыйдзе ці не прыйдзе?” – кідаю пялёсткі.
У жытнёвых прыплыла палетках
Постаць маёй любай з вёскі.

## Ружы

Загарэліся ружы чырвоныя,
Ружы гарачыя.
Палахліва паімчаліся коні –
Мары юначыя.

Заірдзеліся сёння раніцай
Ружы праменныя.
Штосьці са мною станецца,
Лёс пераменіцца.

Маргнулі расою бязлікаю
Ружы іскрыстыя.
Прыйшло каханне вялікае,
Першае, чыстае.

## Не ўцячы

Драчы, як касцоў малаткі
Упарта ў змроку стукочуць.
У шуме гаворкіх ракіт
Не спіцца мне майскаю ноччу.

Хачу, каб прыйшла цішыня
І песню спявала аб нечым.
Я прагну самотнасць абняць
За кволыя белыя плечы.

Не змагу ў цішыню ўцячы
Па дарогах начных, незнаёмых;
Драч дваццаць гадоў налічыў,
Май даў неспакой маладому.

## Кветкі

Я кветкі дзяўчыне з расою прыношу,
У кропельках плываюць зорак праменні.
А сэрца п’янее настроем харошым,
Пяшчотнаю ласкай напоўнены жмені.

У рукі зноў возьме букецік яскравы,
У росах замочыць і вусны, і косы,
Падзякуе шчыра мне й зоркам ласкавым,
Я дзякаваць буду шчасліваму лёсу.

Прынёс я расхіленым вуснам падарак.
Цалую без зроку, без слоў і. без гукаў.
Спляліся з табою надзеі і мары,
І кветкі, і росы, і вусны, і рукі.



Я ведаю, песні ты хочаш,
Песні прыгожай, ліпнёвай;
Зразумеў, калі глянуў у вочы,
Без просьбы, загаду, без слова.

Адгалосы напеваў прыношу
Раніц праменна-іскрыстых.
Даю без заплаты, без грошай
Мелодыі ветравых свістаў.

Подых лясоў гаманлівых,
Россып зорак стрывожаных
І цёплыя сэрца матывы
Табою даўно заварожаны.

## Сустрэча

Вачмі даўно мы спадабаліся,
Сябе агледзелі, абмералі.
Вачмі даўно мы абдымаліся
І поўнасцю сабе паверылі.

Вачмі даўно мы абмяняліся,
Славамі добрымі і шчырымі.
Вачмі даўно мы цалаваліся
І думкамі былі ў выраі.

Вачмі даўно мы развіталіся,
Праз шыбы шумнага трамвая.
Ці зноў калі з табой спаткаемся?
Я сумняваюся, не знаю.



Я першы ў жыцці маладым
Падарыў табе песню кахання.
Мо не знішчаць пачуццяў гады,
Хай трывае ў сэрцы чаканне.

Сонца выпіла росы з лугоў,
Адсмяяўся пад соснамі верас.
Час не зможа з кахання майго
Вырваць краску надзеі і веры.

Я пайду зноў цябе сустракаць,
Разам з мілаю песняю звонкай.
Калі схочаш мяне ты кахаць,
Ну, дык станешся любаю жонкай!

У лугах закалышацца вецер,
Скіне хустачку з кволых плячэй.
З усіх песень кахання на свеце
Песня нашых сустрэч наймілей.



Мы ведаем, што трэба спаць
І перарваць кахання спеў;
І можа, за гадзіну ўстаць,
Бо луг навокал пасівеў.

Ды цяжка развітацца нам,
Самотна адысці дамоў.
Калі не адплыла вясна,
Дык вусны вуснам аддамо.

Вось гэты раз, апошні раз,
І раз яшчэ... не палічыць...
І дачакаем, аж зара
На крыллях сонца ўзляціць.



Я сёння выйшаў з межаў свету,
Бо мне ў ім было зацесна;
І бурнай радасцю сагрэты,
Абняў яго сваёю песняй.

Жаўрук п’янее кропляй сонца,
А я таму, што змог пракласці
Дарогу ў прастор бясконцы
І што знайшоў ключы да шчасця.

І далячынь, і ключ да шчасця,
І шлях, якім я буду крочыць –
Сягоння здолеў я пракласці
Да вуснаў сонечных дзявочых.

## Іду з табой...

Іду з табой сярод жыта зялёнага
Па палявой заросшай вузкай сцежцы.
Мільёны каласоў пакорна б’юць паклоны
Тваім рукам, грудзям, усмешцы.

Неба ў васільках да ног тваіх схіляецца,
Росы дыяментамі стопы твае мочаць.
І аднаго ў жыцці мне так жадаецца –
Бясконца цалаваць каханай вусны, вочы.

Эх, дарагія вочы васільковыя!
Сыпнулі ў сэрца радасці прыгоршні;
З-за вас заўсёды быў гатовы я
Быць самым добрым або стаць найгоршым.

Палаюць твае вусны яркім полымем
У пацалунку, у песні гучнай.
Мы пойдзем над раку, лугамі, доламі,
Там абнімаць і цалаваць болей зручна.

## Твае вочы

Твае вочы – глыбокае мора,
Твае вочы – завучасць прастораў,
Твае вочы – туманныя горы,
Твае вочы – дрыжачыя зоры.

Не раз бываюць бліскавіцамі –
Кругом кідаюць злосць.
І вось тады здаецца мне,
Што жэмчуг раскідае хтосьці.

І недаступныя часамі
Ад гордасці маўклівай
Блішчаць, як драгацэнны камень,
Сіня-зялёным пералівам.

Я сустракаў вочы другія
І захапляўся на імгненне.
Ды толькі вочы дарагія
Да песні могуць даць натхненне.

Твае вочы – глыбокае мора,
Твае вочы – завучасць прастораў,
Твае вочы – туманныя горы,
Твае вочы – дрыжачыя зоры.



Зноў Аліне расплёў косы вечар,
Патрымаў у руцэ-цемнаце,
І рассыпаў на голыя плечы
І на ціхую прыстань-пасцель.

Не шукаем мы цішы сягоння –
Твае косы, як струны, крану.

Хай шуршэнне напоўніць далоні
І не дасць да паўночы заснуць!

Плыве радасць у месячнай лодцы,
У схаванае ў бэзе вакно.
Мы на хвалях узнятых эмоцый
Выплываем насустрач чаўном.

Зноў Аліне расплёў косы вечар,
Патрымаў у руцэ-цемнаце
І рассыпаў на голыя плечы,
У схваляваную прыстань-пасцель.



Куды-куды
Мяне дарагая паклічаш,
І дзе мы пацiснем
Белыя рукі світання?
Добрых слоў
У сапраўдным каханні
Не злічыш,
Што сказалі сабе мы
У час сустрэч і расстанняў.
Хай словы праўдзівыя
Ссохшымі лісцьмі не стануць!
Не лягуць ніколі
Трусліва ў пакоры,
Каб можна было ім
У вочы спакойна заглянуць
І быць пэўным,
Што праўдай яны загавораць.
І зноў твае рукі –
Дзве лебядзіныя шыі
Расплывуцца ў хмары –
Кудравай чупрыне.
Упаўшая зорка
Чорнае неба прашые,
У зроку каханай
Да ранку застыне.

## Ноч прыйшла

Ноч прыйшла, дыхнула зорным роем,
Сціхамірыліся вербы над ракой.
Толькі неспакойны мы з табою двое
Ды ў небе мітусня вякоў.

Мы сядзім – маленькія крышынкі
У параўнанні з ночы грамадой.
Зоры гойдаюцца, як бы выйшлі з шынку,
Дзе прапіць хацелі маладосць.

Не прапіць ім, хопіць грошай-бляску,
Каб яшчэ мільёны год пражыць,
І з сяўні паднебнай сыпаць ласкай
У чорныя зямныя рубяжы.

Зачарован край, напоўнен цішай,
Мірна за ракою спяць стагі.
Толькі безупынна сэрцы нам калыша
Поўны шчасця бурны гімн.

  

Нават ліст на асіне застыў,
У маўчанні звініць цішыня,
У істоме застылі кусты,
Ні рукі, ні вачэй не падняць.

На траве ўляглося вясло,
Прытаіўся чавён ля трысця.
Асалода ўсіх асалод –
Эліксір маладога жыцця.

Вось яна распусціла касу,
Ценем песціць ёй плечы галлё.
Мая радасць і горкі мой сум,
Маіх млраў натхненне і лёт,

Калі пройдзе нявінны прамень
Па прыгожых нагах і плячах –
У душы маёй зайздрасці цень,
Незадаволены бляск у вачах.

Ды дарэмна, нікога няма,
Нават дрэва лістом не кране.
І лугоў распасцёрты гамак
Закалыша яе і мяне.

## Не плач

Дык не плач, каханая, не варта,
Хай зноў вочы запалаюць бляскам!
Я не буду больш такім упартым,
Прынясу табе спакой і ласку.

Тваё сэрца ўзяў бы ў далоні,
Палічыў бы стукі, рытмы, гамы.
Можа, рукі неспакой разгоняць,
Стопяць крыўды цвёрды камень?

Паглядзі, прыйшла вясна на ганак!
Ліст зялёны дрэвы абагрэў.
Многа радасці чаканай, нечаканай
Застукоча да тваіх дзвярэй.

## Песня расстання

Дык не забудзь спатканняў, дарагая,
Рытм сэрца ў поціску рукі прымі.
Няхай гарыць, ніколі не згарае
Аб першых пацалунках успамін!

Зноў зацвітуць, асыплюцца чарэшні,
Адплачуць зноў асенніх скрыпак гукі;
І адзвініць зіма ў белай песні –
Ты безупынна будзеш у сэрцы блукаць.

Я ведаю, што ты мне ліст напішаш,
Скупы на словы, ды багаты зместам.
Люблю сімфонію вячэрняй цішы,
Якой уторыць ліст сваім шэлестам.

Дык не забудзь спатканняў, дарагая!
Рытм сэрца ў поціску рукі прымі.
Няхай гарыць, ніколі не згарае
Аб першых пацалунках успамін!

  

Я ехаў да цябе, як да каханай –
А ты мяне сустрэла, бы чужога.
І, як раней, не выбегла на ганак,
А ў сенцах асталася за парогам.

І палавіны не пачуў пытанняў,
Якімі ты мяне калісьці засыпала.
А ў вачах я прачытаў жаданне,
Каб коратка сустрэча патрывала.

Я ведаю, кахаць не загадаеш
Сваёй душы, калі яна астыла.
Ды аставайся ў шчасці маладая,
Цябе кахаць не стану сілай.

## Мажа, песню

Мажа, звонкую песню
У лугах ты рассыплеш.
Успамін уваскрэсне
У бярозавым скрыпе:
Як мы ранняй вясною
З галавамі ў зорках
Гаварылі з сабою
На расістым узгорку.
Мажа, песню рассыплеш
І мяне зноў успомніш,
Ды з бярозавым скрыпам
Прыплывеш пад мой домік.



Змрок. Заціх калёсны грукат,
Затуманіла зялёныя палі.
Доўга буду па дарогах блукаць,
Сярод сонных веснавых далін.

Мажа, мілую сустрэну нечакана,
Пойдзем, над ракою згубім сум.
У абдымках пацалую ранак
І каханай тоўстую касу.



Калі ты ў каханне шчырае не верыш,
Дык не зложыш песні ты аб ім праўдзівай.
Светлае прыкрыеш шэрым
І не зможаш зразумець шчаслівых.

Я люблю, як кветкі рассяваюць вёсны
І квітнее ў полі белым пылам жыта.
Выпіваю радасць з вёдраў раніц росных,
Выпіваю радасць з вуснаў сакавітых.

Хай у кожным садзе зацвітаюць ружы!
Пахі запрыгоршчыць і развее вецер!
Сэрцы маладыя з радасцю падружаць,
А я шчасце ў рыфмах панясу па свеце.

## Асалода

Верш свой напоўнены шчасцем,
Бы шампанскае ў чарцы глыбокай,
Хачу я да вуснаў прыкласці
Дзяўчыне маёй сінявокай.

Хай п’е мае думкі і мары,
Як вып’е – паўстануць другія.
Напэўна ў адплату падарыць
Мне вусны свае дарагія.

Гадзіннікі крышаць гадзіны,
Канаюць секунды, імгненні.
Я з песняй і любай дзяўчынай
І ноч за вакном на каленях.

Прыйшоў я са звонкаю одай,
Як з чаркай, шампанскім налітай,
Хачу я шукаць асалоды
На вуснах тваіх сакавітых.

## У ліпені

Залатой касою месяц
        Удаль паплыў.
Скосіць, у капны памесціць
        Паплавы.

Неба дальняга абшары,
        Сінія лугі,
Закаханым даў парадак
        Дарагі.

Зараз нам не змогуць росы
        Ног змачыць.

У капне доўгавалосай
Добра адпачыць.

Ды не верце, не зышліся
Спачываць!
Дарагая, прытуліся,
Буду цалаваць.

Не адгонім мы спакусы –
Не сцярпець.
Дык аддайма вуснам вусны
Мы цяпер.

## Над возерам

Над люстрам азёрным стаяла дзяўчына,
А вецер праходзіў зялёнай далінай.
Развеяў ёй косы, развеяў спадніцу,
У блузцы дзявочай пачаў весяліцца.

І, мабыць, хапіла яму асалоды,
Бо сціх, нібы кануў у сінія воды.
І зноў ападае спадніца павольна,
У возеры робіцца здымак свавольны.

Прыгожыя стройныя смуглыя ногі
Паталі ў воблачных белых разлогах.
І можа, да Бога ў небе дасталі...
"Каб так да мяне", – падумаў я з жалем.

## Пастушка

А яна прыгожая, нібы восень ранняя,
З доўгімі кудравымі залатымі косамі,
З мілымі надзеямі, з добрымі жаданнямі,
Да яе пайду ізноў нагамі босымі.

Змрокам затуманеным, вузенькаю сцежкаю,
На лугі шырокія пад шумлівым гаем...
Песеньку вясёлую, песню белавежскую
Пад зялёным дубам разам заспяваем.

Яе вейкі чорныя ўзмахнуцца веерам,
І з вачэй пасыплюцца іскаркі спакусныя,
Пацiскамі моцнымі сілу сваю змераем
І спалучым горача разам вусны з вуснамі.

Абышоў даліну я, пабываў пад дрэвамі,
Адплыла пастушка разам з маладосцю,
Юнакоў дзяўчаты сустракаюць спевамі,
А мая асоба непатрэбным госцем.

## У мінскім скверы Янкі Купалы

По скверу ходзіць Купала
З вясною і песняй.
– Ці будзеш заўсёды маёю? –
Пытае юнак маладую дзяўчыну.
Зрок узнімае яна да галінак
І красачку песціць.
– Што адкажа хлопцу прыгажуня? –
Цікавіцца Янка Купала.
Паплылі яе рукі на шыю,
На прыпол ціха краска ўпала.
За год ці за два сюды прыйдуць
Любавацца скверыкам-садам.
У яе на прыполе засядзе –
Маленькая радасць.

## Непрыгожай

Не для цябе цвітуць сады
І рассыпае май прыгожасць.
Хлапцам ты ноччу маладым
Душы не можаш устрывожыць.

Вясна – дзівосны чарадзей –
Цябе смутэчай спатыкае.
І вельмі часта ад людзей
Аб тым ты чула, што брыдкая.

І пад адчынена вакно
Ніхто вясною не прыходзіць.
На галаве тваёй вянок
Не красаваў у карагодзе.

І пісьманосец не прынёс
Надзеі з урачыстым лістам.
Не для цябе пад шум бяроз
Плыло “страданне” гарманіста.

Вялікі жаль, душа твая
Не мае выгляду, ні формы.

А ў ёй так многа хараства
І няўгасных іскраў горна.

Не наракай на горкі лёс!
Багацце ў душы, не ў тварах.
Прымі жа! Сёння я прынёс
Мой ціхі верш – табе падарак.

## Незнаёмай з цягніка

Мела доўгія вейкі,
Быццам вечар асенні.
Букет кветачак нейкіх
Цалаваў ёй калені.

З вачэй сыпала зоры.
Зубы – снежаньскі ранак,
І вячэрняе мора –
Ў валасах схваляваных.

Голас – гукі жалейкі,
Вусны – сонца праменні,
Цёмна-змрочныя вейкі,
Нібы вечар асенні.



Душы кахаць не загадаеш –
Такіх людзей я не спаткаў.
Юнак дзяўчыну пакідае
Або дзяўчына юнака.

Калі ўнутры кіпіць змаганне
Паміж дабром і шэрым злом,
Не зможа кожнае каханне
Перамагчы ў душы залом.

Калі стаіш на раздарожжы:
– Любіць далей ці не любіць?
Ты лепш часцей падумай, можа,
Ці для кахання ўсё зрабіў.

## Белавежская радасць

Кругом народу шмат, а я адзін,
І некаму сваю сумоту падарыць.
Эх, радасць белавежская, прыйдзі!
І ў палон зноў сэрца забяры.

Каб верш мой фарбай радугі блішчэў,
Збуйнеў, як самасейны дзікі лён.
Няхай жывіца ў строфы пацячэ,
У рыфмах хай шуміць галлё.

Хай гляне верш з пшаніцы васільком,
Залётна сіняй вейкай падмаргне
Або зазвоніць гулкім жаўруком
Ці громам грыву пушчы ўскалыхне.

Мо забушуе веснавой ракой
І зашапоча, як віхрысты клён,
Пасее ў сэрцы цішыню-спакой
Або распаліць полымя-агонь.

І будзіць безупынна ўспамін
Надзея на сустрэчы нашай дзень.
Па бруку вуліц марнатраўны сын
Пад руку з песняй да цябе ідзе.

## Спатканне

Сэрца поўніцца надзеяй,
Зноў вітаюць краю шыры,
З імі шчасце мы раздзелім,
Так, як сябра з сябрам шчырым.

Напаю зноў сэрца ранкам
У бяздонні светлых росаў.
Слухаць буду калыханку
Пад вярбой зялёнакосай.

Верш свой акуну ў праменні;
Заірдзіцца ён пшаніцай
Або выбухне імгненнем,
Зыркім следам бліскавіцы.

Мы з краінай неразлучны –
Наша дружба без заганы.
Я прыношу песню-гучнасць,
А яна нясе адданасць.

Я вяртаюся без здрады –
Зноў краіна прыгалубіць;
З ёю мы раздзелім радасць,
Быццам з сябрам сэрцу любым.

## Імкненне

Стварыць верш прыгожы:
Як неба бязмежжа,
Як мары дзяўчыны,
Як спеў Белавежы.

Верш просты і шчыры:
Як сонца праменні,
Як слёзы дзіцяці,
Як маці жаданні.

Стварыць верш балючы:
Як лёт бліскавіцы,
Як роспач агоніі,
Як мукі канання.

Даць верш справядлівы:
Як песні сумленне,
Як мара шчаслівых,
Як сонца гарэнне.

## Паэзія

Паэзія – музыка радасных слоў –
Безупынна стагоддзі калыша.
Крылы да лёту натхненне дало
У маланкавых бурах і цішы.

Паэзія – шорах сялянскіх саней,
Снегавою імглою адзетых;
Казка ў лёце адвечных надзей
З дыялектыкай роднае мовы.

Паэзія словам зрадняе людзей,
Рассыпаецца рыфмамі, сонцам.
І кожны вялікі паэт-чарадзей
Дзеліць вершы – жывыя чырвонцы.

Паэзія – музыка бунту і крыўд –
Распальвае пачуцці і страсці
На глебе яе вырастае парыў
Змагання, трыумфу і шчасця.

## Вясна маладосці

Люблю вясну зялёнагрывую
У сукні краскавай зялёнай.
Імчыць павозкай палахліваю,
Упрогшы сотню ветраў-коней.

Эх, маладосць густачупрынная
Ўстрахні красой – густымі косамі –
І песні-іскры над далінамі
Ссыпай са звонкімі калёсамі.

Замоўкні, стань у цішы, паслухай,
Хмялей ад песень салаўіных.
І зноў парывам, завірухай
Імчы ў прастор зялёна-сіні.

## Паэтычнае слова

Паэтычнае слова – звінячы асколак,
Адломаны з песні птушынай,
З далёкіх паднебных яскравых вясёлак,
З сардэчнай пяшчоты матчынай.
Са славы мінулай
І з сённяшняй славы,
І з гордасці заўтрашніх дзён неадпетых,
З дзявочых вачэй непрыступных, ласкавых,
І з гора, і з зораў,
І сэрца, і кветак.
Паэтычнае слова звінячай падковай
Грыміць па палях і дарогах.
Пачуццёвае слова, сардэчнае слова
Паплыло па вясковых дарогах:
У змрок ціхалістны,
У ранак бурлівы,
У скрыпат парога і бацькаўскіх весніц,
У душы маркотных, вясёлых, шчаслівых,
У шыры і ліру,
У малітву і песню.



Да крынічных светлых вадапояў
Павяду ўздыбленую радасць.
Хай штодзённа шчыра п'е запоем,
Бо другой я не знаходжу рады.

Калі сэрца песняю набракла,
Калі радасць выйсця не знаходзіць,
Дык каб рыфмаў вершам не забракла
Пабрыду па росах на ўсходзе.

Дзесь далёка за гарамі снежань,
Несмяротнасць кветак вераснёвых –
А ў поплеч радасць Белавежы
Расплылася ў подыху маёвым.

Той шчасліў, хто можа на світанні
Даць краіне шчырасць мроі.
Той шчасліў, хто белым раннем
Радасць вёў да вадапою.

## Бельскі беларускі ліцэй

*Дырэктару, настаўнікам, моладзі*

Будынак бельскага ліцэя
Стаіць і цешыць горад шэры.
Без хвалявання не ўмею
Прайсці ў адчыненыя дзверы.

Я чую, сцены б'юцца пульсам
Супольна з рытмікай краіны.
Ядро жывое, не эмульсію,
Клаў нехта з сэрцам у цагліны.

Буду стаяць і буду слухаць,
Радасць цадзіць у свае вены,
Душу паіць народным духам,
Які даў Кастыцэвіч сценам.

Ідуць гады, гады нястрымны,
І зменіць час жыццё навокал.
Але ліцэй наш будзе гімнам
Нясці ідэі ў свет шырокі.

Маіх дзяцей, як прыйдуць дзеці,
Раскрыюць вочы ў здзіўленні:
Ліцэй іх радасцю асвеціць
І Кастыцэвіч іх сустрэне.

Лёс нас усіх па свеце гоніць –
Ды ўспаміны прыйдуць лавай.
Пачуем поціскі далоняў
Старога сябра – Яраслава.

У нашай шчырай, добрай песні,
У песні сумнай ці вясёлай
Заўсёды гордасцю ўваскрэсне –
Дырэктар беларускай школы.

## Гатоўнасць

*Настаўнікам і моладзі*
*Беларускага ліцэя ў Гайнаўцы*

Б'юць крыламі белавежскія напевы
Над імглістымі далінамі і борам.
Узнімаюцца далёкім ціхім спевам
І плывуць у родны добры горад.

У ліцэй плывуць праз сцены, вокны, дзверы
Ды гучаць, звіняць народным духам,
Песні белавежскай нельга не паверыць,
Песні белавежскай нельга не паслухаць.

Мы прыйшлі з-пад гайнаўскіх абшараў,
Мы прыйшлі з лясных таемных сцежак,
Мы прыйшлі вучыцца, жыць і марыць,
І астацца ў згодзе з Белавежай.

Можа быць, на свеце ёсць краіны,
Дзе жыццё шчаслівае, як ў раі.
Ды нідзе людзей так бор не песціць,
Як у нашым белавежскім краі.

Нашы песні вырастаюць з добрай мроі,
З пушчай нам ніколі не расстацца;
Хопіць месца тут для подзвігаў герояў,
Хопіць месца – для штодзённай працы.

Мы гатовы прынясці краіне сёння
Шчыры і адзіны свой падарак
І злажыць у надзейныя далоні
Нашу працу, нашы сэрцы, нашы мары.

❄ ❄ ❄

Я смутку ў строфах насіць не хачу,
Ён пнецца і сам у жыццё пустазеллем.
Прагну, каб кожны ў вершы пачуў
Спеў несмяротнае струны, вяселле.

Радасць рассыплю на белых лістах,
Не дбаю пра густы паэзіі моднай.
На нітках праменняў і шэрых платах
Развешу я рыфмы надзеі пагоднай.

Не раз заглядзеўшыся ў глыбе жыцця,
Сляза паэтычныя строфы замочыць.
Але зноў узніму сваю радасць, як сцяг,
Ды шчасцем напоўню я вершы і вочы.

## Навагодні тост

Ад марозу дрэвам пасівелі косы.
Нівы белым пухам новы год сустрэлі.
І мы зноў з табою натуральным лёсам
На адзін год лішні, дружа, пастарэлі.

Час ідзе, імчыцца, нам яго – не стрымаць,
Да апошняй мэты пераможным ходам.
Ну дык, любы дружа, чаркі мы падымем!
Трэба развітацца з адышоўшым годам.

Чалавек-магутнасць рукі ў высь падыме,
Волатам-ракетай зоры зварожыць.
Хай жа будзе згода на зямлі, радзіме!
Хай не будзе ў свеце калатні варожай!

Хай абродзіць поле жытам і пшаніцай
І пануе шчасце ў беларускіх хатах!
Давай вып’ем, дружа, будзем весяліцца
Разам з новым годам, разам з добрым святам!

## Смерць дуба

Ты ляжыш, магутны велікан –
А лісце шэпча мне дакорам,
Што не ўстане твой магутны стан,
Над зялёным сумным борам.

Цяжкі стогн і кропелькі крыві
Паплылі з раздзёртых венаў.
Апусцеў знаёмы краявід,
Адзвінела шумная арэна.

Клін з твайго ўласнага сука
Тваё цела на кускі расколе.
Цяжка мне сціскаецца рука,
І плыве ў сэрца струмень болю.

Гул птушыны вецця не кране,
Бусел не прыстане на прадвесні.
Усяму ў жыцці ёсць свой канец,
Несмяротнымі бываюць толькі песні.

## Развітанне

Мой шчыры дружа, мой шчыры дружа,
Падай мне руку – заўтра расстанне.
Вазьмі з сабою надзею-ружу
І песню бурных летніх світанняў.

Мой верны дружа, стары мой дружа,
Заўтра пакоцяцца з рыпам калёсы;
Вецер над Нарвай вербы закружыць,
Сыпне на плечы зялёную россып.

Мой родны дружа, ласкавы дружа,
Калі ўжо мяняеш жыцця каляіны,
Вазьмі з сабою вясковую дружасць
І вобраз дзяцінства – узор павуціны.

## Салавей

Спяваеш, дружа дарагі,
Пяеш заўсёды для другіх:
Людзям і месячнай вясне,
Лясам, палям, лугам і мне.
Пяеш у майскай цішыні,
Іскрацца зоры ў вышыні,
І на галінах поўна зор,
Ад песні зорыцца прастор.
Адкуль яны хто іх скрышыў?
І зорыцца ў маёй душы.

## Дапамога

Калі бушуе восень цёмнай ноччу,
А ты вярнуўся з падарожжа
І песціш жонкай свае вочы –
Ты аб другіх забыць не можаш.

Паслухай, як сабака плача
І б'юцца недзе з цемрай людзі.
Тут твае думкі многа значаць –
Яны ў іх надзею збудзяць.

Няшчасце кожнага сустрэне.
Дык тым, што сёння ў змаганні,
Калі ты верыш – шлі маленне,
А калі не – пашлі жаданне.

## Статуя

Стаіш прыгожая – адкрыла грудзі,
Бесцырымонна цела агаліла.
Ты – ідэал, які начамі будзіць
І сэрца поіць нам інтымнай сілай.

Вось хараство! Кажы, што хочаш –
Ды мёртвае. Таму ў скверы
Жанчын жывых шукаюць вочы –
Іх прыгажосць вышэй бязмеры.

## Натуральнасць

Прыгажосць не заўсёды дабро,
Вельмі часта бывае іначай:
Прыгажосць мы з надзеяй бяром,
А пасля з рэзігнацыяй плачам.

Заблуджэнне, памылка – гаворым
І стараемся з памяці сцерці...
Ды заўтра таксама, бы ўчора,
Прыгажосцю захопіцца сэрца.

## Ілюзія

Мне здалося, як кінуў я вокам,
На бліскучае дно прывітальна,

Што калодзеж ёсць вельмі глыбокі,
Што напоўнен вадою крыштальнай.

З жураўлём апусціў я надзею
У вядзёрку, на жэрдачцы гладкай.
Журавель ілюзорнасць развеяў,
Прынёсшы мне брудную вадкасць.



Праўдзе, як сонцу, у вочы не лёгка зірнуць,
Асабліва тады, калі з ёй ідзе прыкрасць.
І кожны хацеў бы свой твар адвярнуць,
З-пад удараў балючых душу сваю выкрасць.

І розумам станеш прад сэрцам хлусіць,
Што праўда пастукпаў тваіх не датычыць.
І станеш канфлікт-супярэчнасць насіць –
Сам зверам цкаваным і сам паляўнічым.

## Перспектыва

Толькі піць пачні, а грошы знойдуцца;
І паплывеш удаль імглою апавіты,
І ў мазгу тваім пачне свет гойдацца,
І гойсаць непрытомным танцам Віта.

І з алкаголем пойдзеш, як з штандарам.
Зірне з-за кожнага вугла фатальнасць.
І будзеш прадаваць у рэстаране мары,
Душу мяняць на дробязь несканчальна.



Я стаў ужо такі вялікі,
Што нават сам сябе баюся;
Слыву па цэлай Беларусі.
Я стаў ужо такі вялікі...

Заву сябе ў множным ліку –
Ды штосьць знаёмыя не трусяць.
Я стаў ужо такі вялікі,
Што нават сам сябе баюся.



Сляза слязе не роўная:
Маленькая – праўдзівая,
Вялікая – фальшывая.
Сляза слязе не роўная:
Крыклівая – не шчырая,
Балючая – маўклівая.
Сляза слязе не роўная:
Маленькая – праўдзівая.



Не ўсе птушкі вярнуліся з буры,
Але песняй сустрэлі зноў ранне –
Славяць згоду і славяць змаганне.
Не ўсе птушкі вярнуліся з буры...
Ды надзеі вятры не разбураць,
Ні вялікае сілы кахання.
Не ўсе птушкі вярнуліся з буры,
Але песняй сустрэлі зноў ранне.



Сасна свайму бору шуміць,
А колас палеткам шырокім,
Я песню нясу сінявокай.
Сасна свайму бору шуміць...
Ёсць радасць у звоне крыніц,
Ёсць згодна ў песнях далёкіх.
Сасна свайму бору шуміць,
А колас палеткам шырокім.



За сцяною дзесь плача жанчына –
Значыць з ёй развіталася радасць;
Не паможаш ні вершам, ні радай.
За сцяною дзесь плача жанчына...
Сляза не плыве без прычыны,
Сляза вырастае з дасады.
За сцяною дзесь плача жанчына –
Значыць з ёй развіталася радасць.



Кляновы лісточак
лёг на рукі дзяўчыне,
лёг на рукі каханай.
Прыхіліла да вуснаў,
да грудзей прылажыла,
гладзіла і песціла чула –
ды з ветрам пусціла.
* * *
А што са мной будзе?



Чакалі сябе многа год,
мучыліся,
марылі.
Сустрэліся нарэшце:
ды ён ўжо не той,
ды і яна не тая.
Тое, што мела быць шчасцем –
сталася мукай.
Сталі зноў марыць
аб адзіноце.



Пішу я лісты
штодзённа,
хаця ведаю,
што іх не чытае
і рве
рукою капрызнай.
А маці далоням
не выслаў,
хаця добра знаю,
як пакорна чакаюць
і песцяць
апошні мой ліст
прашлагодні,
дзе я даносіў:
што вельмі заняты
важнаю справай.



Мода дыктуе стылі,
Часы дыктуюць нормы.
Не жыць устарэлай ідыліяй –
Яна для сучаснасці тормаз.

Сцяну не дзіравяць лобам,
Старыя формы гаснуць.
Пішы, як каму даспадобы,
Стылем старым ці сучасным!

Як мода прыйшла, дык мода!
Хай яна вершам калыша!
Ды як патрактуе "свабоду"
Той, для каго ты пішаш?

Форм новых не перайначыш –
Ды дзіўна стала на свеце,
Што на месцы рыфмы звінячай –
Сыплем нягодныя смецці.

## Да людзей у сабачай справе

Адна з багатых чулых парыжанак
На помніку "Сабакам наймілейшым"
Разцом праславіла сабачую адданасць:
"За мужа быў ён мне вярнейшы".
Аднак гавораць людзі многія іначай:
Калі змяняе часта хтось пачуцці,
Тады завуць яго характарам сабачым,
Які брыдзе прайдохам па бяспуцці.
Мяне здзіўляе супярэчлівасць і страшыць –
Дваістасць у этыцы сабак ці мо у ацэнках нашых?

## Да каня

Ніхто не змог бы палічыць
Бічоў, якія паласкалі твае скабы.
Не мог ніколі добра адпачыць,
Не ведаў, што такое радасць.

Кармілі не аўсом, а палкай
Таўклі па боках і па твары,
І калі дома гаспадар меў сварку,
Цябе па храпах шчодра жарыў.

Жывеш ты безупынна ў муцы,
Бо кожны дзень бічы трывожаць...
Вядома, ты не зробіш рэвалюцыі,
Але нагою ў зубы стрэліць можаш.

## Да зайца

Жыццё, як рэдзька, надаела.
Няма чым, кажаш, пахваліцца.
І не з дабра ты ранкам белым
Ішоў да возера тапіцца.

Дзівак ты, дружа, неразважны,
Назву цябе найгоршай бабай.
Ты зараз можаш стаць адважным
І настрашыць не толькі жабу!

Ці ж не спалохаў чалавека,
Калі ляжаў як рыжы камень?
Ды толькі ў псіхіцы калека,
А сапраўды, дык роўны з намі.

## Да свінні

Ты кажаш, што ў горад пацягнула,
Паспрабаваць рамантыкі схацела.
Плюеш на вёску, на мінуласць
І тлушчам абрастае цела.

Ды горад слухамі трывожыць,
Што як даўней усё ты рыеш.
Другім ахвотна ты свінню падложыш,
Нярэдка выплюхнеш памыі.

І хоць далі табе медаль на грудзі –
Свіння свінннёй заўсёды будзе.

## Да акторкі

Прыкінуцца дык ты ўмела,
Іграла ў ролях супярэчных,
Была чарняваю і белай,
То маладою, то старэчай.
Была какеткай, жонкай вернай,

І працавітай і лянівай,
Гарэла хараством бязмерным
Або агідай нешчаслівай.

А я штодзённа цябе бачу:
Суседзі мы, жывём за плотам.
І бестактоўнасць мо прабачыш,
Калі цябе спытаю: “Хто ты?”.

## Да студэнткі

Ты сувязь горада і сяла
Арыгінальна разумееш.
І добры курс ты ўзяла –
У вёску ездзіш па трафеі.
Аднак не цяжка ўгадаць:
Ты вельмі добрая – дачуўся –
І шчыра хочаш памагаць
Старой і змучанай мамусі.
За саланіны кус вялізны
Вязеш падарак цэнны, мусіць.
Вядома, брудная бялізна,
Якую вымые мамуся.

Ты сталася вялікай дамай,
Дай Божа быць табе вясковай мамай.

## Да кніжкі

Ад розуму ты пабялела,
Ты чыстая, нібы крыніца,
І многа цёмных і няўмелых
Змагла чагосьці навучыць.

Але сустрэў я чалавека...
І загудзеў ён фразай звонкай:
Назваў ён аўтара няўмекай,
Дурною кожную старонку.

У галаве яму не пасвятлела,
Ды ты ад гэтага, на шчасце, не счарнела.

## Да бязвусага

Яшчэ твой твар не кранут пухам.
Як памагчы і што парадзіць?
Упарта кожны дзень пад носам
Шчыпаеш, мацаеш і чула гладзіш.

І толькі аб адным ты марыш:
Каб наступіў нарэшце дзень,
Калі з вусамі ты на твары
З дзяўчынай зможаш пасядзець.

Калі ты хочаш мець вусы, як венік –
Кладзі за губу ўгнаенні.

## Аўтабіяграфія

Мая родная вёска Бандары ляжыць над Нарвай у Беластоцкім павеце на ўскраіне белавежскага масіва. Нарадзіўся я 2 лістапада 1930 года. Бацькі мае – сяляне, улюбёныя ў вёску і ў сваю гаспадарку. Зашчапілі мне любоў да зямлі, выхоўвалі мяне ў тыповых для сялянскай псіхалогіі ўмовах.

З ранняга дашкольнага дзяцінства захаваліся ў маёй свядомасці т. зв. "пярэпалахі". Былі яны звязаны са станам маёй душы. Начамі ў час сну наведвалі мяне ведзьмы, чэрці, разбойнікі. Усё гэта вылівалася ў нервовыя спалохі. Маці, кіруючыся адвечным фальклорным звычаем, сеяла мне "пярэпалахі". Падчас гэтага абрада трэба было сядзець на парозе пад бляхай, на якую сеялі попел, і вясці з маці наступны дыялаг:

– Сею, сею.
– Што сееш?
– Пярэпалахі сею.
– Сей так, каб іх не было!
– Сею так, каб іх не было!

Стыхіяй майго дзяцінства было сеянне збожжа ў садзіку і перасаджванне маладых дрэвак, якія я прыносіў з лесу. Збожжа з'ядалі куры, дрэвы найчасцей сохлі, але ў самым працэсе сеяння і пасадкі было нешта парываючае і прыгожае.

Прыход Чырвонай Арміі ў 1939 годзе і энтузіястычнае вітанне яе мясцовым насельніцтвам памятаю дасканала. Яшчэ глыбей запамяталіся падзеі, звязаныя з нямецкай акупацыяй. Пазбаўлены магчымасцей вучыцца ў школе, прачытаў я ў гэтым часе грамадную колькасць кніг. Найбольшае ўражанне зрабіў на мяне беларускі пераклад *Адзіноцтва* Вірты і паэзія Пушкіна. Збор твораў Пушкіна, атрыманы мной ад рэвалюцыйна настроеных братоў Валодзі і Аляксандра К., не прынёс мне даўжэйшай асалоды. Аднаго вечара ветліва, але рашуча "пазычыў" назаўсёды майго Пушкіна нейкі партызан.

У 1946 годзе наведала мяне паэтычнае натхненне. Божа мой! Пісаў я начамі. Трэба было хавацца, бо маці не дазваляла псаваць газы. Вершы з гэтага часу цалкам загінулі. Іх вартасць можна акрэсліць коратка – былі гэта слёзы роспачы. Апрача ўльтрарэвалюцыйнасці не мелі яны ніякай паэтычнай вартасці. Зразумеў я гэта даволі рана. Вынік ясны – кінуў пісаць больш чым на дзесяць гадоў.

Схільнасць да паэзіі адазвалася зноў пасля заканчэння ўніверсітэта ў час прабывання на сямімесячным навуковым стажы ў Савецкім Саюзе. Тады захапіўся я творчасцю некаторых беларускіх паэтаў. Такім чынам знайшоўся ў настроі, у якім "не мог не пісаць". У кастрычніку 1958 года напісаў першы верш *Восень*. Пішу дасёння. Адчуваю радасць, але толькі ў стадыі паўставання верша. Калі чытаю закончаны твор, адчуваю нездавальненне, калі слухаю свой верш ў выкананні другіх асоб, маё расчараванне даходзіць да крайнасці.

# ФРЭСКІ

  

Ты ва мне,
як царква ў душы Рублёва:
візія,
мроя,
ікона,
мадонна.
Грудзі, завешаны рыфмамі,
звоняць,
цешаць,
мучаць,
клічуць ў дарогу.
Чыё сэрца паэзіяй выцвіце,
той стане трывогай,
той рэшту жыцця
мець будзе з абрыва,
праз імглу і аблокі,
за песні кшталтам гатовым;
будзе ганіць дасканаласці Рублёва.
Божа паэзіі, будзь ты пракляты,
Божа паэзіі, будзь ты распяты,
Божа паэзіі, будзь усхвалёны.
Божа паэзіі, будзь ажыўлёны –
у рыфмах маіх уваскрэсні –
хай з юнацтва зноў вернецца песня:
ой, ляцела зязюля,
ой, ляцела шэрая,
чаму я, матуля,
табе не паверыла?
Народнасць з мадэрнам
сварыцца не мусяць –
ў паэзіі месца хапае.
Тут стылі, як ветры
ў лугах Беларусі,
ад краю

да краю шугаюць.
Выбірай сабе стыль,
выбірай сабе крылы:
адно крыло –
вершы у рыфмах закованы,
другое – мадэрнам распушчаны,
як птушкі вольныя ў пушчы.
Растуць ва мне словы,
як зерні ў калоссі,
ссыпаюцца ціха ў чырвоную восень.
Мадонна!
Я ў табе, як Рублёў у царкве,
усхвалёваны.
Паэзія – лёт стрымгаловы,
накшталт паэтычны начаты,
накшталт паэтычны гатовы.
Сэрца Рублёва крылатае,
сэрца Рублёва распятае,
мірныя рукі Рублёва.
Мадонна з тварам суровым,
жураўлямі бровы навіслі,
пад вачыма – студнямі мыслі.
Паэзія – пушча,
блуканне,
дарога,
рыфма – фінал трывогі;
бывае часам прасторам,
бывае шаблонам цесным,
як сэрца зняволіць паэзія,
яно становіцца песняй.
Паэзія – бура і ціша,
распуста і цнота,
візія лёту.
Вусны на сосках грудзей маладзіцы,
рукі на грэшным улонні,
пальцаў пяшчота, нерв бліскавіцы
зменіць у сонечны промень.
У целе пушчы кудлатай
б’юцца крыніцы-аорты:
агонь,
неспакой,
трывогу
маёй паэтычнай хаты
вартуе Бог
на змену з чортам.

Сэрца,
злітуйся!
Яшчэ мне верш выстукай,
павешу на грудзі,
нібы мадонну,
пайду да людзей я
разгубленым містыкам
і затрачу мяжу
між жыццём і між сконам.

❄ ❄ ❄

Дзесь далёка за мною сяло,
дзе калыску дашчэнту праплакаў,
там чакае мяне жнівень слоў,
паэзія – верны сабака.
Тры бярозы, як ветразі тры,
ў хвалі жыта закінулі якар:
я прыходзіў да іх на зары
то пакутнікам, то зноў гулякам.
Белавежа!
Ты мой акіян,
апускаю пяро, як вясло,
з гарадоў да цябе плыву я,
каб сабраць ураджай –
жнівень слоў.

❄ ❄ ❄

Ты раз палкі, а раз абыякавы –
няма аднаструннай рапсодыі.
Мы з табою смяяліся, плакалі
і ляцелі за стылямі, модамі.
Можна мець наймацнейшыя крылы
і памыслаў смелых даволі,
не ўцячэш у краіну ідыліі
ад людскога чорнага болю.
Ён дагоніць ці позна, ці рана,
а што скажа,
даўно мне вядома:
– У хаце бяды ты будзь панам,
а не клоўнам у шчасця харомах.

❄ ❄ ❄

Кахаюся ў прыгажосці,
як сабор у святой мадонне,
захапляюся гучнасцю слова,
як хлапчук, што зрабіў жалейку
і крычыць:
– мама, глянь, як іграе!
Паэзія – свет здзіўлення,
лёт з цёмнага свету у ясны,
з яснага зноў у цёмны.
Глянь ты ў вочы мадонны
ў пушчанай капліцы:
па аортах, па жылах сонных
пабягуць бліскавіцы,
і выйдзеш з капліцы у лета
з душою зялёнай,
станеш пад клёнам
і станеш другім чалавекам –
паэтам.

❄ ❄ ❄

Хачу ісці з табой пад бурай,
каб паказаць, які я смелы,
прайсці у ветры ашалелым.
Хачу ісці з табой пад бурай
і ад цябе пачуць:
– Ты, Шурык,
найадважнейшы ў свеце цэлым.
Хачу ісці з табой пад бурай,
каб паказаць, які я смелы.

❄ ❄ ❄

Як лета пакліча
валошку у жыта,
мама, ты выйдзі
у поле над лугам
і крыкні адчайна:
– Шурык, вярніся!
Я ў Лодзі пачую,
я з Лодзі прыеду.
Прыйду на загоны,

там, дзе валошка
прыкрылася небам
і поўныя вусны
набрала блакіту,
прыйду я з малітвай.
Як вышые ліпень
валошкай пшаніцу,
ты выйдзі за клуню
і голасна крыкні.
Цябе я пачую,
прыйду да крыніцы
і стану над люстрам яе
на калені,
і там мяне зловіш –
каня гарадскога,
толькі трымай
пук валошкі у жмені.
Як толькі рассее
ў жытнёвых разлогах
валошку з хусцінкі
рука Беларусі,
мама, ты клікні
ціхутка з парога,
я ў Лодзі пачую
і з Лодзі вярнуся.

❄ ❄ ❄

Буйнеюць вершы
хваляй спеўнай,
малее з кожным
годам збожжа.
Паэтаў хопіць
нам, напэўна,
але сялян
забракнуць можа.

❄ ❄ ❄

На арфе павучыння грае вецер,
кранае струны кволым пальцам,
у джазе захісталася сталецце,
а ён няспынна грае вальсы.
Цалуе сонца яблыкі у твары

брыдзе у травах па калені,
як быць, ці рыфмамі тут марыць,
ці гойсаць джазавым дрыжэннем?
Нялёгка сёння быць паэтам –
душу сучасны век разрэзаў;
адной нагой шліфуем мы паркеты,
другой стаім пад сукнямі бярэзін.

❄ ❄ ❄

Паэт сумленны,
паэт удумны,
з якой не ёсць ты
мастацкай школы –
ты не маліся
да ружы сумнай,
калі побач стаіць
чалавек невясёлы.

❄ ❄ ❄

Мары – кветкі вялікія
да аблокаў ад чорнай глебы,
яны не раз мяне клікалі
у чыстае сіняе неба.
Глядзеў я ў зямлю з блакіту,
ўзіраўся у шчасця даліны,
у радасць з хмараў адкрытую,
і нават калі б меў рынуць,
і нават калі б меў згінуць,
захаваю надзею у жмені,
таму ўзнімаюся ў неба
па кветках сваіх летуценняў.

❄ ❄ ❄

Браткі-паэты,
ці не хопіць урэшце гарланіць!
З вялікіх слоў
не вырастуць прысады –
крыклівасць маніць.
Крычыце там,
дзе боль чужы,

маўчыце там,
дзе свая радасць,
не рагачыце над нядоляй,
не называйце яе шчасцем.
У вашым розуме-прыполе
заўжды шукайце
слова “годнасць”,
і дайце яму крыкнуць часам:
– Паэт, не кожны твой настрой –
народны,
і смех не кожны твой –
здабытак масаў.



Напішаш верш,
і купал тваіх мараў
зарою згоды разгарыцца,
а небасхіл пакрыюць бліскавіцы,
такія цёплыя і мяккія, што можаш
у косы уплясці дзяўчыне,
або завесіць у ляшчыне,
каб на іскрыпках і раялях
свярчкоў і салаўёў Радзімы,
як свечкі белыя, стаялі
і асвятлялі партытуры,
і цёмныя куткі натуры.



Сэрца паэта ў мяшку дзівосным завязана;
поўна ў ім цудаў нязвыклых і дзіваў.
З фалды у фалду блукае, шукае,
каб быць шчаслівым.
У змроку брыдкое пакажацца гожым,
і белае чорным здаецца,
і ціша звоніць, як вецер,
мінутнае цягнецца вечным –
не цяжка тут памыліцца,
на кожным кроку чары,
і незвычайнасць і дзівы:
без іх паэт не мог бы марыць,
без іх не быў бы ён шчаслівы.
Сэрца паэта – мяшок памылак;

тут яго слабасць,
тут яго сіла.
За хібы паэта не бі у патыліцу,
Ён горшы і лепшы, чым іншыя людзі,
прабачце, калі у мяшку ён памыліцца,
прабачце, калі ён у цудах заблудзіць.
Прабачце паэту – блудніку вечнаму,
тым больш, што мяшок –
гэта ты, чалавечнасць.

❄ ❄ ❄

Ствараю цябе, як яблыня яблык,
з дапамогай зямлі,
з дапамогай вятроў, і сонца, і пчолаў,
з дапамогай трывогі-дрыжэння,
разцом летуценняў
формы твае выразаю.
І разам з табой вырастаю
з грэчак і з ліпаў вонных.
Як прыйдзе чырвоная восень,
не ведаю, не разбяруся
ці ты мой, ці я твой палонны,
ці мы двое – рабы Беларусі.

❄ ❄ ❄

Заклік “наперад!”
я ў сметнік адкінуў
і заклік “назад!”
паўтараю, як пацер.
Туды, дзе у ліпах
пахне краіна,
дзе дрэвы штодзённа
у звонкім распяцці,
дзе маці далонню
дзяцінства прыкрыла,
дзе гурт рыжых коней
юнацтва акрыліў,
дзе сэрца прапахла
і сонцам, і летам,
дзе ключ дзікіх птахаў
пяро даў паэту,
дзе жыта з даверам

прыходзіць да косаў,
дзе шчасце я мерыў
прыгожасцю вёсак, –
таму і гукаю
“назад!”, не “наперад!”.
Пайду я да краю
па кветку даверу,
пад штандар чарэшні,
акутаны спевам –
ні хвілі без песні,
ні хвілі без дрэва.

❄ ❄ ❄

Як зямлі трэба трэснуць,
каб даць шлях парасткам,
так я сэрца для песні ламлю папалам.
Глянь з адчаем і жахам –
раскалоўся блакіт,
каб дарогу даць птахам,
узарваным з ракі.
Вечар зоры калыша
на таполях-мячах,
верш ёсць сынам той цішы,
што хоча крычаць.

❄ ❄ ❄

Бывае, што зямля зусім нам не патрэбна,
ляцім увысь, ляцім удаль.
І крылы п’юць прастор паднебны,
тады бяда – зусім нам не бяда.
А ў сэрцах нашых цэлы свет закрыты,
акутаны каханнем з галавы да ног,
і, п’яныя ад зорнай акавіты,
нырнем без слоў у горкае віно.
І толькі сосны, як ключы сусвету
гатовы ў небе ўсе куты адкрыць,
і узнімаюцца з галін паэты
да зманлівых агнёў зары.

❄ ❄ ❄

Урастайце паэты ў словы
па пояс, па грудзі,
як дрэва у глебу,
карэнні трымайце
ў крыніцах глыбінных.
Слова ёсць хлебам,
слова ёсць бацькам
і сынам,
турмой
і святыняй,
бывае гняздом,
дзе стуліць можна крылы
і зноў распасцерці
да лёту,
калі грудзі
шчасця не месцяць,
калі радасць у сэрцы, як готык,
і гэта павінна быць мэтай
імкненняў паэта –
узбіцца з гнязда
сваёй мовы
і вярнуцца са знойдзеным
словам.

❄ ❄ ❄

У мяне ёсць свой час,
свой прастор,
свая даль,
зрыфмаваная радасць,
і смутак-бяда.
Тыповы уласнік,
паэтычны кулак,
аддзяліўся ад свету
алегорыі кратай,
змушаў лётаць словы,
прадаў іх крылам
і мову тыраніў –
эксплуататар.



Верш – згартанне хараства ў пракосы,
хвалі траў пахучых і зялёных,
расплятанне, заплятанне косаў,
Бацькаўшчыне верш паклонам.
А сябе парадуеш, памучыш,
як забаўку, знімеш з неба зорку,
узляціш і звалішся на крушні,
і нап’ешся асалоды горкай.
Верш, як ружы жнівеньскіх аблокаў,
у анельскай рэзблены майстэрні,
калі лічыш прыгажосць пялёсткаў,
палічы у ім таксама церні.



Калі б зрывалі твае кветкі
маўчаў бы,
калі б тапталі тваё лісце,
маўчаў бы,
калі б палілі тваё вецце,
маўчаў бы,
калі ж рубаюць маю мову
у корань,
дык выю з гора.



З рук сонца узялі мы песню
такую шчырую-шчырую,
яна нам рукі злагодзіла,
яна нам сэрцы расшырыла,
яна нам пахне выраем.
Ёю жыццё уквецім,
ёю зямлю умаім.
Мы песню цёплую-цёплую
з рук маткі-сонца маем.



Няма партрэтаў, ні карцін,
мінулай славы ані следу,
толькі іконы дзве:
мадонна радасці, мадонна смутку –

і на стале букецік верасоў,
папера – матчын кужаль,
на ім ляжыць пяро.
І ружа акрывавіла пакой,
расплёскала кругом пялёсткі.
І я,
і боль,
і ціша,
а на падлозе шкельцы успамінаў.
Збіраю іх –
складаю вершы-фрэскі
у форму вобліку Айчыны.

❄ ❄ ❄

У мяшку майго сэрца
ёсць яшчэ рыфмы,
ёсць хлеб надзённы
для вершаклета.
Значыць, магу ісці
ў падарожжа,
як сонца ў лета.
А калі торба апусташэе,
да сэрца пустога
я узмалюся,
не атрымаю яго
міласціны,
і анямею, нібы краіна,
і стану тыповым дзіцём Беларусі.

❄ ❄ ❄

Калі не верыш у рэальнасць цудаў,
дык не пішы ты аб прыродзе,
і аб каханні,
бо розумам не зразумееш іх істоты,
не зразумееш бусла лёту,
які з-за мора зноў вярнуўся
да саламянай Беларусі,
і да страхі зноў прытуліўся,
як хлопчык да спадніцы мамы.
Ва ўсім ёсць логіка, законы,
ды таямнічасць іх акрыла,
цудоўнасць рэчаў незнаёмых
служыць паэзіі за крылы.



Калі заглушыш гоман гарадоў
сваім маўчаннем, цішынёй,
і як аддзелішся
ад свету ты куртынай,
і як прыліпнеш
да Айчыны ўспамінам,
тады, напэўна, створыш верш.
Але што цалкам ён ёсць твой,
не вер;
заглянь у глыбіню яго –
убачыш карагоды зор,
убачыш трапяткі агонь,
віно ў крыштальных чарках,
палічыш верша элементы:
адзін – плод сэрца і душы,
другі – чар роднае зямлі,
і трэці – дар Пятраркі.

# КАРЦІНЫ



Даследчыкі гісторыі прылад,
сказалі вы, як паявілася матыка,
калі з’явіліся каменная сякера,
калі прашыла шыр страла.
Акрэслілі этапы, эры,
камень,
бронзу,
атам,
але ніхто не выкрыў,
не сказаў,
калі з’явілася сляза.



Ведай продак, табе я зайздрошчу:
стаяў ты бліжэй да натуры,
ганяўся за гуртам бізонаў,
злавіў, дык і быў шчаслівы,
а не – задаволіўся траўкай.
Табе маткай была прырода,
і хатай была прырода,
і хлебам была прырода,
і песняй была прырода,
і сам ты быў шчырай прыродай.
Нам сёння забракла натуры,
вакол нас акружылі машыны,
свет звініць і жалезам і сталлю;
гонарам сталі машыны,
хараством, і надзеяй, і марай,
і мы машынамі сталі.



Касцёр распалім ад агню святога,
што продак пераняў ад бліскавіцы;
забудзем, што бягуць асфальтныя дарогі,
што ездзяць матацыклам маладзіцы;
і зложым ідалу па сто паклонаў,
закружымся у дзікім танцы шчыра,
і на паляны мяккае ўлонне
рынем у першабытным віры.
І прыйдзе продак наш – язычнік з дзідай,
і прывядзе табун дзяўчат-паганак
з адкрытымі грудзьмі, з аголеным устыдам,
прыкажа танцам выпаўніць паляну;
і вось тады мастацтва мы ўбачым,
што без граша цвіло у чалавеку,
расло з мяжы між радасцю і плачам,
расло высока з каменнага веку,
і паглядзім на косы да каленяў,
як ручаі у сонцы вераснёвым,
пад іх падставім свае жмені,
каб зачарпнуць раскошы і здароўя.
Калі касцёр дыхне апошняй іскрай,
мы паплывём удаль у лодцы соннай,
прыкрыўшыся імглою мяккай, чыстай,
з грудзьмі язычніц у сваіх далонях.

## Першы паэт

Да вока лук падняў
і нацягнуў цяціву,
ражок стралы
у грудзі птушкі глянуў,
і быў гатовы
узляцець імкліва
і скончыць лёт
смяротэльнай ранай,
ды раптам лук стралка
уніз заважыў –
замёр стралок,
урокам заварожан,
бо у жыцці
ён першы раз заўважыў,
што птах быў каляровы
і прыгожы.



Продку майму
не ўдавалася лётаць;
ляцеў, як заснуўшы,
з дрэва зваліўся,
ці як злавіў
за хвост тура знянацку
і нёсся за ім
шчупаком неадчэпным,
пакуль не хваціў
хвастом тура за дрэва;
і калі звер
не зламаў дравясіны,
і калі хвост
не парваўся з натугі –
дык тады продак
меў радасць такую,
аб якой нам
не сніцца ніколі.
Жыцця свайго продак
не мерыў гадамі,
і года не мерыў
ніколі ён днямі,
і дня не крышыў
на мінуты ніколі,
не ведаў машыны,
не знаў самалёта,
пад небам нікуды
ніколі не лётаў;
ды заўсёды на час ён
выконваў работу.
І хаця дзікі
быў гэты наш продак,
не заваліў ні адной
з пяцігодак.



Продак, выслухай словы нашчадка,
выслухай боль, закіды, сумненні,
на ліха ты вынайшаў бронзу,
ці не хапіла каменняў?
З металу зрабілі машыны нашчадкі,
самалёты, снарады, ракеты.

Імчым, як ветры,
над светам.
І ўсюды можам быць мігам,
а часу на многа менш маем,
чым ты яго меў, пешаходзе.
Ідуць беспушчанскія маі
бессалаўіных стагоддзяў,
і да шчасця, мабыць, адлеглей
і далёка-далёка да цішы,
і толькі блізка да болю,
які нам сэрцы калыша.
Імчаць праз стагоддзе машыны
па ўзгорках і па далінах,
імчаць па ўсіх дарогах
да неспакою трывогі.
Таму, продак, цябе асуджаю
і штоночы пытаюся ціха:
– На ліха
ты вынайшаў бронзу,
на ліха?!



За тысячу год свет
цалкам адменіцца,
час зменіць
сістэмы,
ідэі і моды;
штучныя сонцы
зіму абагрэюць,
зменіцца твар краявіду,
і іншымі будуць героі,
і мроі,
і толькі сляза
застанецца слязою.



Цягнік бяжыць усё хутчэй,
усё далей, усё шпарчэй,
і колы рытмы модна б'юць,
і толькі сум,
і толькі боль,
і толькі жаль
не адстаюць,

і ўсё бягуць за цягніком,
не гінуць з сэрца,
і з вачэй,
і шэпчуць, шэпчуць
мне злавесна:
– Не уцячэш,
не уцячэш,
не уцячэш, –
з двух слоў бязлітасную песню.



Колькі загонаў
зжаў ваш серпік, мама,
маленькі серпік і слабыя рукі;
каб абысці ўсе загоны тыя,
дык, мабыць, мала было б года;
а колькі тых зярнятак жыта
змалолі ў жорнах вашы рукі,
і колькі выпеклі буханак,
такіх духмяных, як дзяцінства,
і цёплых, як на прызбе сонца.
А колькі раз хлеб падавалі
маім далоням,
маім вуснам –
лічыць не буду,
толькі знаю добра,
што хлеб ваш, мама,
быў найлепшы.



Гляджу, гляджу у зорны алфавіт –
ад яго шыфраў можна збаранець –
і бачу млечны шлях у зарыве крыві,
дык, значыць, быць вайне.
Плывуць па небе зорныя крыжы,
на месяцы вайна –
ды хто і з кім?
Дзесь хтосьці вострыць доўгія нажы,
каб даць уцеху ім.
Паблытаўся штось зорны карагод,
акутаўся імглою краявід.
За дзень, за два, ці за сто год
шугае у высі полымя крыві.



Загону з рук бацькоўскіх
я не пераняў –
аддаў яго ў пустапаш.
І плугу здрадзіў,
і каню,
забыў сялянскіх я сяброў,
загнаў сялянскую душу
у петлі гарадскіх пляцоў,
у вуліц шчыліны загнаў,
завёў сябе у тупікі,
і кужаль споўз з маіх плячэй,
апошні знік з рукі мазоль,
і боль на лёстачкі змяніў,
і братам не заву каня –
зямлі з рук матчыных
не пераняў.



Калі вялікі б'е малога,
дык доўга не застанаўляйся
і стань на сторану слабога.
Глянь у мінулага часіну,
а калі хочаш, глянь у сёння.
Апусціш з роспачы далоні, –
кругом разбой вялікіх, сільных
над маладымі, над слабымі,
і ўсё пакрыта добрым словам.
Выходзіць, што малы шчаслівы,
бо б'е вялікі справядлівы,
а ты не вер, рабі трывогу,
калі вялікі б'е малога.



Не мерайце
Аднолькавым аршынам
малых,
сярэдніх
і вялікіх.
У кожнага свае заслугі,
свае віны.

І цнот і вад
у кожнага без ліку.
Калі шчаткуе
навальніца стрэхі,
з вялікіх стрэх –
вялікія патокі.
Таксама ў жыцці
і з чалавечым грэхам:
як чалавек вялікі –
грэх глыбокі.



Чалавеку абрыдла быць
шчырым і вольным,
глупствы і фокусы
робіць з ахвотай.
Салаўіныя вусны
да песенькі здольныя,
чалавечая дзюба
да дзікага клёкату.



Старасці мы на сабе не праверым,
не заўважым – прыходзіць хітра,
сваю наіўнасць трактуем з даверам –
не бачым маршчынак-міртаў.
А калі сябру з гадоў юначых
сустрэнем сівым і паморшчаным –
старасць сваю, як у люстры, убачым,
старасць – госцю найгоршую.
І ўспомнім юнацтва, як на экране –
птушкі імчаць хуткалётыя;
як блізка вечар – далёка ранак,
так весела і так маркотна.



Царква, як параход,
веславала ў хвалях бяроз,
ветразямі ўзяла курс на сонца.
Пад палубай спяваў святар,
які не мог ніяк уцяміць,
што перастаў быць капітанам,

што параход пайшоў на дно.
Што толькі грэшныя паэты,
упіўшыся віном імшальным,
танцуюць пад іканастасам
з мадоннамі, зышоўшымі з ікон.
І ўпала галава Хрыста на грудзі –
сваю памылку усвядоміў,
што учыніў святой жанчыну.



Палажылі на купал далоні
сосны мядзяныя,
крыж прабіўся праз пальцы галінак
і вырас у неба,
сцены прасяклі жывіцы мускатам,
ап’янелі мадонны на сценах –
павольна зышлі на падлогу,
і зляцелі з-пад столі анёлы.
Аконныя краты сталіся арфай,
галінка кожная лірай,
капліцу напоўніла ціхае гранне,
мадонны знялі арэолы,
на церні Хрыстовы павесілі
і грымнулі песняй.
Не стрымалі церні,
не стрымалі гвоздзі –
пад цяжарам кахання зламаліся,
і з крыжа зышоўшы Хрыстос
на падлогу
вывеў мадонны з капліцы у поле
і паказаў ім спелае жыта;
арэолы сталіся цудам, сярпамі
і над загонам мадонны схіліліся,
зжалі пахучае жыта.
Толькі адна з іх захвалявалася;
– Божа, – спытала, – дзе ж арэолы?
Хрыстос, снапок жыта звязаўшы,
крыкнуў, каб чулі мадонны:
– Звяжыце вянкі сабе з сіняй валошкі;
гэта не будзе ў дакор Багародзіцы,
з прыгожага выплыў грэх першародны
і святасць з прыгожага родзіцца.



Грамадства дзеліць на дзве групы:
на паліцэйскіх і зладзеяў,
на пазітыўных і адмоўных,
не прызнае ён іншых катэгорый
і выдае паэтам дырэктыву:
“Той, хто не славіць паліцэйскіх,
падтрымлівае ўсіх зладзеяў”.
Ніяк не можа зразумець ён,
што ёсць звычайныя дзесь людзі,
аснова хлеба і паэзіі.

## Помнік паэту

“У свой суровы час смяяўся ён магутна” –
ды не праз слёзы – проста праз дурноту,
і яго рогат быў усюды чутны;
здаровы быў паэт, дык не дзівота.
Народ цярпеў, зямлю сваю лічыў чужою –
прапахла вёска горам-лебядою –
паэт крычаў, што цэлы люд багаты,
паэт душыўся ў рогаце заўзятым,
і шчасцем называў паэт людскія беды,
разбойнага папа узвёў да трону Бога,
без пацеру папу паэт не паабедаў;
ды пацер называў ён творчаю трывогай.
Памёр паэт і вырас помнік годны ролі,
і эпітафія аб смеху… непакоіць горад.
Ды ўрэшце крэйдай нехта набазгроліў:
“Толькі дурны смяецца з гора”.



Распаслася зямля на касмічных гулах.
На плячах жывот,
на галаве жывот,
на жываце жывот.
Шаблонная, старая,
мільёны год
па адной сцежцы крочыць:
дні і ночы,
дні і ночы,
дні і ночы,
з бяздзельнасці

зрадзіла чалавека,
ды яму збрыдла
карміцелькі туша,
яе штодзённасць,
яе маладушша
і, атамны рог
адламаўшы ад зоркі,
убіў ён зямлі
пад сэрца,
заіскрыўся
трыумфам сілы
на хвіліну
прад смерцю.



Калі ў сэрцы маім
заквітнее нянавісць
дык забі яе, неба,
марозам суровым
і вырві карэнні
так, як сялянка
рве пустазелле
з загону пшаніцы.
Калі ў сэрцы маім
заквітнее нянавісць,
і выйсці не схоча
з сэрца падглебы –
рві разам з сэрцам.



Сляза, пасеяная вокам,
цяжэй, чым велічнае мора,
у ёй цяжар бязмерны – гора;
сляза, пасеяная вокам,
замкнула цэлы свет шырокі –
і боль, і жаль, і плач, і горыч;
сляза, пасеяная вокам,
цяжэй, чым велічнае мора.



Усё жыццё я расцвітаў,
але квітнець мне не прыйшлося
з вясны я скочыў проста ў восень;
усё жыццё я расцвітаў,
ды летняй радасці вітаць
ніколі мне не давялося;
усё жыццё я расцвітаў,
але квітнець мне не прыйшлося.



Даўней глядзела толькі на мяне,
цяпер глядзіш ты часта на другіх.
Не кажаш мне:
– Адзіны, дарагі...
Даўней глядзела толькі на мяне.
Каханне, мабыць, хутка праміне,
разыдзецца, як па вадзе кругі.
Даўней глядзела толькі на мяне,
цяпер глядзіш ты часта на другіх.



Няпраўдай цэлы свет абыдзеш,
але назад не прыйдзеш болей,
загінеш недзе ў чыстым полі;
няпраўдай цэлы свет абыдзеш,
ды кожны скажа, што ты злыдзень:
мана не дасць шчаслівай долі;
няпраўдай цэлы свет абыдзеш,
але назад не прыйдзеш болей.



Каб мог жыццё пачаць аднова,
пачаў бы ад касы і плуга,
зямлі астаўся б шчырым другам;
каб мог жыццё пачаць аднова,
зямлю я славіў бы не словам,
а толькі мускулаў натугай;
каб мог жыццё пачаць аднова,
пачаў бы ад касы і плуга.



У тваім каханні я не бачу болю,
і таму не будзе тваё шчасце поўным;
смутак у каханні – элемент галоўны;
у тваім каханні я не бачу болю,
без якога шчасця не было ніколі,
боль і радасць мусяць спалучыцца кроўна;
у тваім каханні я не бачу болю –
і таму не будзе тваё шчасце поўным.

## Слова

*Прафесар А. Абрэмбскай-Яблонскай і яе супрацоўнікам, даследуючым беларускі фальклор*

Не паднімеш слова,
як ягады спелай,
з моху вякоў пасівелых.
Бярэш часта слова,
як камень бясцэнны
і самародны,
а гэта – шкельца
з бутэлькі нягоднай,
асколак фантазіі п’янай
і выдумкі злоснай.
Схопіш, прыгледзішся,
зробіцца млосна.
Спачатку здалося,
што будзе сістэмы падпорай,
што будзе фундаментам,
доказам, зоркай –
прыгледзішся,
ўбачыш яго бляск фальшывы –
зробіцца горка,
адыдзе ахвота,
і цень рэзыгнацыі
рукі паліжа,
волю абудзіш
і зноў да работы;
у слоўных заглыбішся нетрах,
зноў ціхія вёскі,
зноў ціхія людзі
і кіламетры.
Пласты раскапаеш
некранутай глебы,

лупіну ад зерняў адвееш.
Не споўніш надзеі,
час змарнаваны
у пошуках слова,
хочацца крыкнуць:
– Годзе!
І раптам зусім нечакана,
і раптам зусім выпадкова
знойдзеш.



На далонях тваіх
маршчыны-дарогі,
лініі смутку,
надзеі,
кахання.
Па лініях гэтых
дзяцінства мае басаногае
рачкавала ад рання да рання,
да мяне прыплывалі
лебедзі ў змроку,
рукі, напоўнены ласкай,
са смутку красалі песню,
з надзеі красалі казку.
Памятаю зімовы вечар
і ціхі спеў калаўрота,
пах прэлага жыта на печы
і стрэлы марозу за плотам;
з рук тваіх нітка, як промень,
з кудзелі-сонца
бегла няспынна,
з вуснаў жывою крыніцай
струілася песня-быліна
для сына,
для сына.
Памятаю замовы,
сядзеў на парозе,
акутаны вечарам шэрым,
ты сеяла попел
і сеяла словы
ад страху,
ад жаху,
ад злога, благога –
а я табе верыў.

Памятаю, у поле вадзіла мяне ты
на сцежкі русалак,
валошкі збірала,
букецік вязала з усмешкі.
І слёзы, матуля, твае памятаю –
слёзы ад слоў маіх непраўдзівых,
учынкаў нягодных.
Сягоння я іншы,
сягоння другі я.
Прабач мне, матуля, маю
учынкі благія,
словы благія.
Прабач мне матуля маю
неадказнасць
паступкаў дзіцячых,
паступкаў юначых,
прабач усё тое, матуля,
што сам я сабе не прабачу.



Маці казала,
што ў полі у жніва
я выпаў з калыскі
і вырваў валошку,
што ў жыце сінела,
і у калыску сваю
не вярнуўся я болей.
З заціснутай кветкай
валошкі ў далоні
папоўз па загоне
да жнеяў,
красуні- дзяўчыне
ў нагу учапіўся
знячэўку.
Хто ведае, дзе і калі,
хто ведае, як
зацвітае паэзіяй сэрца.



Бі мяне біткай,
але вырасшай з сэрца,
круці за вуха,
цягні за чупрыну,

а пасля перастань.
Як я плачу, паслухай
і схаці слязу сцерці
хусцінай.
І тады пашкадуй мяне
ціхім маўчаннем,
каб у грудзях
пагасла трывога,
каб боль спапяліўся,
сцішыўся лямант,
каб мог падысці
да спадніцы,
як конь падыходзіць
да стога,
каб да рук прытуліўся
і вышаптаў:
– Мама.



Мама, спалі калыску
і попел рассып
на дарогах крыжовых.
Ні ў дзяцінства я не вярнуся,
ні ў сваю мову;
ды калі буду ісці у магілу –
стану на момант
на скрыжаванні,
вазьму ў жмені попелу-сілы,
каб да Айчыны дайсці
быў у стане.



Мама,
стань перад іконай
і пацер ціхутка вышапчы,
такі ціхі,
як вечар ліпнёвы.
Слова за словам,
як ціхія птушкі,
зляцяць у далоні,
супраць злосці,
хваробы,

і войнаў,
і бітваў,
неўраджаяў
пашлі малітву,
бо іншыя сілы не памагаюць.
І за мяне ты вышапчы "Верую",
бо сам я не ўмею,
бо сам я не веру.
За каляровы птушыны шчэбет,
за цёплае неба,
за скібку хлеба
маліся.
І за валошку сінюю-сінюю,
што згінула ў полі
пад конскім капытам –
хай прыме неба душу блакітную,
яму ж гэты колер не збытні.
І памаліся за роднае слова –
над словам павісла чорная зграя
каб жыло,
каб расло,
каб квітнела аднова
песенным ураджаем.



Шчырыя рукі растуць проста з сэрца,
пачуеш адразу, як маці абдыме,
пачуеш, як радасць на воку парвецца
слязой, як ігрушай, з вачэй маці рыне;
і праплывуць перад памяццю ласкай
найлепшыя ў свеце матчыны далоні,
заглыбішся ў даўнюю ціхую казку
і ўсё ад пачатку ты зноўку прыпомніш.
Колькі раз рукі маці прагналі трывогу,
колькі раз паказалі у шчасце дарогу,
колькі раз адагналі з парога вы голад,
колькі раз абагрэлі ў сцюжу і холад,
колькі раз былі цішай і сном на павеках,
колькі раз павучалі, як быць чалавекам,
першы раз паказалі вясёлкі у маі
і вадзілі нястомна за руку па краю,
і таму мне заўсёды здаецца,
што вы вырастаеце з сэрца,
а сэрца з вас вырастае.



Перада мной ідзе жыццё
з прыгожымі нагамі,
секунды мерыць, як гадзіннік
абцасамі па тратуары.
Перада мною дваццаць год
калыша бёдрамі залётна,
і крочыць дзесьці на спатканне
перада мною маладосць.
Куды бяжыш, куды ідзеш?
Затрымайся –
там старасць.
Пайшла.



Селянін, як тварэц,
задумёна,
натхнёна
ідзе па загонах.
У правай руцэ
жыватворнасць-зярняты,
рассыпае ў раллю
ён пшаніцу.
Палымнеюць надзеяй,
як іскры над горнам,
зёрны,
зёрны,
зёрны.
Хто знае трывогу сяўбы,
той ведае жніва раскошу,
хто хоць раз у жыцці
у расчуленай жмені
песціў пакрышаных промняў
абломкі-зярняты,
хто сеяў у скібіны сонца,
трывожна чакаючы ўсходу праменняў
зялёных,
імклівых,
няспынных,
той ведае вартасць
хлеба,
песні,
Айчыны.



Думка, як Ікар крылаты,
узляцела на момант
да сонца,
напілася праменняў
і, п’яная шчасцем адчаю,
рынула ў прорву бяздоння.
Не шкадуйце
загінуўшай думкі,
не асуджайце
шаленства адчаю.
Яна піла праз хвіліну,
трымала ў далонях
і вуснах
сонца.



Ты – мудры, не стану пярэчыць,
мудрэй за другіх, быць можа,
твой розум завуць дарам божым;
ты – мудры, не стану пярэчыць,
ды сотні галоў чалавечых
нішто перавысіць не можа,
ты – мудры, не стану пярэчыць,
мудрэй за другіх ты, быць можа.



Няма абсалютнага шчасця,
поўнае шчасце – то мроя,
жыццё нечаканасці строіць,
няма абсалютнага шчасця,
шляхоў да яго не пракласці;
шчасце – драўляны конь Троі,
няма абсалютнага шчасця,
поўнае шчасце – то мроя.



Праўда не б’е кулакамі у грудзі
і дзерці кашулі не стане;
выраз яе, нібы верас, не вяне;
праўда не б’е кулакамі у грудзі,
праўда гарланіць не будзе;

голас яе, нібы ціхае гранне;
праўда не б’е кулакамі у грудзі
і дзерці кашулі не стане.



Згубіла вянок дзесь дзяўчына,
крыніца перасохла ў гаі,
нічым не заспакою прагі.
Цягнуся чорнымі губамі
да вытакаў, з якіх нядаўна
я месячным каўшом піў воду,
лаўлю я толькі пыл і попел.
Згубіла вянок дзяўчына...
Мо сцяў у лесе пярун елку,
мо выгаслі у небе знічкі,
мо хтось забіў дзесь перапёлку,
мо нехта верш украў паэту.
Згубіла вянок дзяўчына...



Сэрца спяваць не можа,
ды часам пяе – адчуваю,
як гэта робіць, не знаю;
сэрца спяваць не можа,
ды хтосьці яго заварожыць,
і тады яно ціха спявае;
сэрца спяваць не можа,
ды часам пяе – адчуваю.



Мне зязюля шчасце кукавала;
слухаў я, і верыў, і не верыў,
ды жыццё сустрэла смуткам шэрым;
мне зязюля шчасце кукавала,
памылілася, відаць, не адгадала –
нельга кукаваннем шчасця мерыць;
мне зязюля шчасце кукавала:
слухаў я, і верыў, і не верыў.



Трах,
трах,
трах,
ломяцца пэндзлі
ў далонях Рублёва,
валяцца купалы
цэркваў на грудзі.
Ратуйце, людзі,
больш не танцуюць
на сцэнах мадонны.
І Бог бяздомны,
паэт бяздомны,
ляцім у бяздонне
з вершамі,
з рыфмамі,
пад выбухі смеху апрычнікаў.
Дантэ, кахай Беатрычэ!
Які ж я паэт,
як дзяржавай не праклятaы,
які ж я паэт,
як медаль мне павесілі?!
Заціхлі у пушчы
разгулы і рокаты,
каноплі на шыі песні.
Трах,
трах,
трах,
ломяцца пэндзлі,
крышацца фрэскаў абліччы.
Які ж я паэт,
без трывогі, без нэндзы?!
Дантэ, кахай Беатрычэ!
Які ж я паэт у зацішы без бою,
калі нехта хоча
Айчыну раскрасці,
а я, нібы бочка гандлярская лоем,
выпаўнен шчасцем.
Бам!
Бам!
Бам!
Крочаць апрычнікі,
спяваюць хаўтурную песню куранты.
Каханне і смерць –

смерць Беатрычэ,
смерць Дантэ,
які ж я паэт?!...



Разышоўся я з сэрцам, панове,
у розныя стораны свету:
яно засталося ў дуброве,
а я узышоў на паркеты.
І я сярод вас, надшчаслівых,
залез у палац дабрабыту;
а ў бацькі цвітуць, мабыць, слівы
і павіслі над хатай блакіты.
Маю сёння я грошы і прэміі,
і у храме навукі не лішні –
ды ногі ідуць ў акадэмію,
а сэрца бяжыць пад вішні.



У сетцы з уласных нерваў
нясу сябе я у магілу,
а травы б'юць мяне па твары
сваімі мяккімі рукамі,
і чую, як царква званамі
сялянак кліча на вячэрню.
Прыгожа жыць –
вось гэта штука,
годна старэць –
гэта мастацтва,
не ўсякаму яно даступна.
Не кожнаму хапае сілы
нясці сябе з усмешкай
у магілу.



Няўжо ў дзяцінства не вярнуся,
няўжо не буду роўны з жытам,
няўжо не буду больш спавіты
матчынай казкай –
няўжо малым я больш не буду?
Гатоў паверыць я у цуды,

гатоў паверыць у моц Бога,
пайсці містычнаю дарогай,
стаяць штодзённа на каленях
і пасылаць яму маленні,
каб мы радзіліся старымі
і паступова маладзелі,
і паступова дзяцінелі.
І каб змяніліся ў збожжа
або у птушкі,
або у кветкі,
і каб квітнелі на палетках,
і каб жыццё было прыгодай,
і каб ніхто не мог дазнацца –
дзе чалавек і дзе прырода.



Пасмы успамінаў
з год дзіцячых
паясамі слуцкімі
яскравяць,
рэхам жалю,
рэхам плачу
успамін мой зажуравіць
і мінулым уваскрэсне.
І ніхто не вінаваты,
што няма ліпнёвай песні,
што няма матчынай ласкі,
што няма матчынай казкі,
і няма сасновай хаты.
Не, не знойдзеш
тут злачынства,
дык і не патрэбна кара,
чым яскравей успаміны
з год дзяцінства –
тым бліжэй
падходзіць старасць.



Расхрыстаны з лесу
манах ідзе –
скончыўся дзень.
На прыгуменні
пасеялі цішу –

узняўся манах у вышы,
запаліў ён у небе зоры
і сёння сталася ўчора,
замоўкла нарэшце пушча,
клопаты вочы заплюшчаць.



Конь, плуг і я
у баразне адной
кладзем да сонца скібу,
расхвалявалі грунт
жалезным плугавым нарогам.
Плывем бесперамення
ад лугу да дарогі
і ад дарогі к лугу.
І пахне конскі пот
мне ўраджаем плённым.
Я забабонны,
веру у прыкметы –
веру найгоршаю вясной,
што добрым будзе лета,
што хопіць працы косам,
веру лёсу.



Бела-зялёныя стагі
стаяць нерухома,
снег пахне жывіцай –
еду дадому.
Елкі – цяжарныя бабы –
аселі у белі,
вось заячы след адзінокі,
як почырк трывогі,
прабег у гушчар
праз дарогу –
можа дзесьці закончан
чырвонаю кропкай...
Пушчы яна не парушыць,
пушча стаіць нерухома.
Пахне жывіцай,
я еду дадому –
павесяліцца.



Я знаю, чым ёсць смутак,
бо быў не раз я
жураўлём асеннім
і чарку горкае атруты
трымаў у жмені.
Я знаю, чым ёсць радасць,
бо быў я жураўлём
прадвесня
і ў пальцах, ап’янелых
шчасцем,
трымаў я песню.



Час дэфармуе
голас, думкі, цела.
Быў ты вясёлы,
зробішся смутны
і асавелы.
Калісьці нядолю
і няўдачы
ламаў далонямі,
ды пальцам маленькім
лёс цябе зломіць
сёння.
Прыходзіць старасць
і гасіць мары
і волю.
Прымі пагодна
шлях неабходны
да новай ролі.



Не згару, як паходня,
геройства ў душы не чую,
не дам карысці Беларусі,
як ліст асенні, непатрэбны,
спапялюся.
Мо рамантычная дзяўчына
да губ прытуліць
і адкіне –

няхай і гэтак.
З лістом асеннім,
палымяным
да твару кожнаму паэту.



Хрыстос святы
ў Ісак'еўскім саборы
на шкле святлістым
заварожан,
здаецца рыфмай загаворыць
да скупленых
дзяўчат прыгожых,
як Байран,
з рамантычнай сілай,
у змане барваў, алегорый.
Падайце рыжую кабылу,
а паімчыць удаль гісторыі.



Крыж распасцёр свае рукі,
бароніць магілы,
вартаўнік на мяжы
між жыццём і між смерцю,
каленам абапёрся
на пліту магільную,
дзе эпітафія
б'ецца крыламі
і мудрым зваротам
кліча прахожых
у светы маўчання.



Расплыліся ў свеце, загінулі,
лёсы нас па зямлі паразносілі,
але сэрцы ў пушчы пакінулі,
у лісцы русакосае восені,
і не можам расстацца з жывіцамі,
і не можам расстацца з далінамі.
Адзываецца пушча крыніцамі,

адгукаецца песняй птушынаю,
кліча нас у даліны шырокія
да пакрытага золатам гаю.
Мы прыйдзем шляхамі далёкімі
у прыстань юнацкага краю,
і абдымем зноў пушчу адвечную,
і паклонімся нізка галовамі,
краіне айчыннай сардэчна,
краіне жывічнай, сасновай.



Уваткнулі жывую красу
у мёртвае горла збана;
сканаюць, раняючы сум,
ціха памруць цюльпаны.



Маіх гадоў ты не лічы дакладна,
ні валасоў на скроні белых,
я ведаю у многім я няскладны,
таму саромлівы, нясмелы.
Гады мае, як на іскрыпцы струны,
парваліся з адчайным крыкам,
і праплылі дзесяцігоддзяў труны
у свет, дзе ціша ёсць музыкай.
Прабач ты мне,
прабач мне многагоддзе,
затрымай маю старасць на хвіліну,
і забушуй сягоння мнагаводдзем,
і не лічы маіх гадоў, дзяўчына.



Навошта Праметэй
прынёс агонь людзям –
з яго фугас, з яго напалмы.
Не лепш было б
сядзець на дрэвах нам
і скавытаць прыродзе псалмы,
не выдзяляць сябе
з кагалу абяз’ян,

паесць, паспаць,
пабушаваць у дрэвах,
не ведаць слёз,
не мець душэўных ран,
скуголіць прымітыўным спевам,
і з верхавін глядзець
у млечны шлях.
Не ведаць, што жыццё мінае,
што цячэ;
не ведаць,
што старая добрая зямля
у смерць бяжыць усё хутчэй.



Верыў доўга у Бога
і быў пэўны, што
гэтага хопіць
для шчасця –
памыліўся.
Чалавеку паверыў
і думаў, што горыч
мяне не сустрэне –
памыліўся.
Астаўся самотны
і сам на сябе
абапёрся
з надзеяй –
памыліўся.



Калі скажа ён табе: “Кахаю”,
дык не вер яму на слова,
ён сто слоў сказаць гатовы;
калі скажа ён табе: “Кахаю”,
адкажы: “Я крыху пачакаю
на учынкі” – аргумент галоўны;
калі скажа ён табе: “Кахаю”,
дык не вер яму на слова.



Я шчаслівы –
багацце змясціў у кішэнях,
вольныя рукі
і вольныя плечы,
могуць вырасці крылы,
каб узбіцца у вецер –
не прагну я шчасця
спакойнага, сытага,
я нарадзіўся
ў карыце разбітым
і йду да карыта разбітага.



Растапталі мне сэрца
у тонкі лісточак
і кінулі ў струмень
асенніх падзей,
і ніхто не адрозніць,
бо адрозніць не можа,
які ліст ёсць з дрэва,
які ліст з грудзей.



Прыйдзі, Тварэц,
і словы кінь у попел,
і ажыві яго,
і адрадзі,
і упрыгож,
скажы:
– Жыві, народ,
і мову май,
і гонар;
кахай сябе не меней,
чым другіх.
Скажы:
– Даведайся, народ,
хто ты ёсць, ты і годзе,
не горшы і не лепшы
ад другіх людзей.
Калі паверым,
вернемся у людзі,

а калі не –
апынімся сярод жывёл,
і быць тады бядзе.



Мары мае – лугі зялёныя,
дзе пасвяцца коні
і ходзяць дзяўчаты,
дзяцінства ногі агалёныя,
і неразумныя
гарцы цялятаў.
Мары мае – лугі зялёныя,
усхваляваныя
ў зелені мора,
і дрэвы, як ветразі, шумныя,
з-пад якіх
адплываў я у горад
цялём неразумным.



Калі ёсць працоўныя рукі,
і плуг, і глеба, і зерні,
і калі вецер кулю зямную
бокам да сонца паверне,
тады яна выспее жытам і мёдам,
і загарыцца восені сцягам –
знакам сялянскай свабоды.
Як добра рукою, са скібы узнятай,
узяць чарназёму надзейную лусту,
сказаць, як жанчыне,
– Мая ты, –
і не пачуць пагардлівай мянушкі
“уласнік”.



Пяцігаловая царква
на шыі з каўняром кляновым
трымала у руках крыжы,
узнятыя над галовамі,
і бусел над царквой кружыў,

шануючы крылом блакіты,
і тонкай нітачкай народ
плыў у нядзельную святыню,
і звонка крыкнула царква
губамі медзяных званоў,
а я на момант завагаўся,
куды ісці,
у прыгажосць,
ці у брыдоту дабрабыту –
і выбраў шлях у чарнату
з краіны звонкага блакіту.



Калі ў цябе няма у сэрцы болю,
калі цябе не б’е ніколі нечаканасць,
калі ты вылічыў
працэнтна сваю долю
і ведаеш, што дасць і ноч і ранак,
калі смяешся з тых,
хто вечна блудзіць,
хто распасцёр па-над трывогай крылы,
хто адкрывае свет
ключом здзіўлення,
дык ты памучся
над адной праблемай –
гадзіну сваёй смерці выліч.



А вы, апосталы з дваццатых –
дзе вы,
і дзе ваш смутак,
дзе ваш спеў?
Хто на світанні
з лодкі кіне невад
у паэтычную кіпень,
хто заіскрыцца шчасцем чалавечым,
і смутку схіліцца да ног,
і хто паклоніцца
Айчыне вечнай,
цярнёвы зніме ёй вянок?
Дзе вы, апосталы любві, трывогі,
і як дайсці

да вашых ссылак, да магіл?
Няма ні на зямлі,
ні ў небе Бога –
спаліў бы зло,
каб недзе быў.



“Песня тварца прызначана народу”
пярэчыць гэтаму няёмка,
ды глянь на творчасць салаўя –
цешыць людзей, хоць пяе жонцы.
Пяе сабе, а іншых цешыць,
таму грамадскасці мастацтва
мы не шукайма у рэкламах
і у праграмах,
ні у заявах-дэкламацыях –
бо тут заўсёды маніць хтосьці:
толькі выключна ў прыгажосці.



Я – цвет, адцвіўшы на галіне,
я – яблык, выспелы у восень,
я песню выслухаў даліны,
цяжарнай наліўным калоссем;
я поўны сонечным праменнем,
я ссаў з зямлі радзімай сокі
і поўным стаў, чырванабокім,
і ад дажджоў я чысты-чысты;
ад пчол ліпнёвых я духмяны,
ад сонца і зямлі сачысты,
і ад вятроў-гуляк я п’яны.
Прыйдзі, дзяўчына, пад галіны,
і я табе у рукі рыну;
вазьмі мяне з галінак дрэва,
як брала ў раі яблык Ева,
вазьмі у жмені, у калені,
грудзьмі і тварам прытуліся,
а ў сына я ператваруся.



Звіняць часта словы
гучней балалайкі,
ды іхняя песня
мізэрней суніцы,
якая спявае
ціхутка у гаі
над люстрам крыніцы,
бо песня не ў крыках,
бо песня не ў звоне,
не ў словах вялікіх,
што глушаць прасторы
і скоўваюць шыры.
Яна ў словах ціхіх,
яна ў словах шчырых.



Жывеш дваццаць вёрст ад чыгункі,
а ад шчасця далей, быць можа,
ад людзей не чакаеш ратунку,
ані акту ласкі божай.
Усё адцвіло, спапялілася:
і гады, і намеры, і мроя –
фатальнасць на плечы звалілася,
і старасць не за гарою.
А вучні ў Варшаве, у Лодзі –
машыны, камфорты кватэраў,
сказаць бы, нядзеля штодзень
у лекараў, у інжынераў.
Няхай жа настаўніцу ўспомняць,
яе сэрца, адкрытае насцеж,
і рукі яе, і далоні,
што ключ падарылі да шчасця.



Маё дзяцінства
акружалі колеры,
смугі,
пасмы,
плямы,
і да калыскі

прыляталі штодзень
разам з мамай.
Клён пальцамі лістоў
раскалыхаў калыску:
то да зямлі,
то ў неба,
то лез у высь,
то падаў нізка
над пуняй грэбень.
І жыта у маі
плывала пад хатай
ў зялёнай шумнай струі,
і васільковыя плакаты
у млечным пыле руі.
Клён пальцамі лістоў
раскалыхаў калыску,
і выкінуў мяне у лета,
і вынюхаў зямлю я
знізка,
зблізка,
таму стаў вершаклетам.



Не кожны верш –
дарогаю у шчасце.
Не кожны завядзе
ў зялёную дуброву.
Бывае часта ён распяццем
Хрыстовым.
Не кожнай лесвіцаю рыфмаў
збяжыш да возера ў човен.
Не раз сустрэне
цябе ліха –
з безгалоўем.
І слёзы
стануцца уцехай,
і лес намеры перайначыць,
і выплачашся смехам,
і высмяешся плачам.



Хто гаворыць,
што ўсё дасканала,
той стаўся рабом
або панам.
Ён не змесціць
у розуме цесным,
што Нэп неабходны
сялянам
і Нэп неабходны песні.



Калі няма цябе –
пры мне стаіць трывога,
тады ратуюся
і да зямлі тулюся,
і праз яе нутро
бягуць мне на падмогу
часцінкі-атамы
з-пад Беларусі.
Тады цяплей,
тады смялей
і цішай,
тады ляпей
і неяк спеўней,
і чую я, што на зямлі
не лішні,
і што жыву яшчэ,
тады я пэўны.



Касцёл Сакрэ Кэр – белы анёл –
над Парыжам і над намі,
пройдзеш пад яго крыламі
проста на Монмартр,
толькі ў змроку,
толькі ноччу.
Ноч тут днём гарыць яскравым
і вядзе ў сялібы славы –
мастакоў парыжскіх гнёзды,
паэтычныя майстэрні,
і разьбярскія варштаты;

пошукі крутых завулкаў,
лёты нізкія паддашаў,
агароды летуценняў,
і магільнікі надзеяў,
і яскравыя карціны
на пляцах, на тратуарах,
з фарбай не засохшай, свежай,
і мастак з бутэлькай “Бахус”
у худых, сухіх каленях –
тут айчына летуценняў.
Агляніся, можа, следам
тут ідзе Пабла Пікаса,
можа, праз хвіліну стрэнеш
тут Шагала з Беларусі,
яго дзіўныя карціны,
дзе ляцяць у неба цэрквы,
нібы лебедзі з азёраў.
Пройдзеш сцежкамі Монмартра
ўніз – угору, ўніз – угору –
сэрца тваё стане арфай,
і забудзеш, што ёсць гора.



Белавежа – зялёная палкасць,
танец дэмонаў,
трымае бліскавіцы ў далонях,
як стужкі, выкідае іх ў хмары,
і гойсае ў танцы дзікім,
і ў адчайнай верціцца кадрылі,
хапае вецер між каленяў –
сціскае, душыць,
б’е рукамі,
хрыбты ламае сваім крылам,
складае з дрэў сваіх ахвяры.
Калі слабы ты, не адчайны,
і дух твой ціхі і звычайны
не любіць буры, ні шаленства,
у дзень такі не йдзі у пушчу,
бо станешся яе ахвярай.
Ты пачакай на дзень наступны,
на ціхі каляровы ранак,
як Белавежа ў задуменні
стаіць у росах па калені,
нібы дзяўчына па-над тонню
глядзіць у люстра траў зялёных.

## Луўр

Розум мастацтву не патрэбен –
крыламі цябе прывітае безгаловая Ніка,
павядзе ў падзямеллі,
падніме у неба,
і убачыш ты Вавілоны,
Егіпет,
Сірыю,
Грэцыю,
Рым пераможны,
Рым палонны,
фараонаў,
кесараў,
месію,
Венеру, адкрыўшую грудзі,
без рук, без далоняў,
з цёплым узгоркам улоння;
і пойдзеш, як п’яны, вышай –
да сэрца Парыжа,
да Мона Лізы
Леанарда да Вінчы.
Хто назваў чалавека “вінцік”,
той у Луўры не быў ніколі,
не піў шчасця і болю
Леанардавай чаркай,
не ведаў, што вынайшлі людзі
прыгажосць,
і натхненне, і радасць
перад эпохай Маркса.



На скверах шумнага Парыжа
цалуюцца публічна пары:
патомкі графаў і маркізаў –
з наследнікамі камунараў.
І як цалуюцца, устыд агорне
душу і сэрца славяніна –
мы ж прыкрываем ноччу чорнай
свой пацалуначак з дзяўчынай,
а тут ад рання і да ночы
цалуюцца і шэпчуць пары.
Каханне па-над Сенай крочыць
па скверах і па тратуарах.

## Эйфелева вежа

Каб не ўзнімалася у вышыню,
але схілілася на ўсход,
я па яе крутых усходах
дайшоў бы да далін Айчыны
і працягнуў бы шчыра рукі
кожнай сасне у Белавежы.



Мармур статуй абсадзіў алеі,
выцвіў у дзявочых формах,
у нагах, у бёдрах і у грудзях.
Пахіліліся над сцежкамі дзяўчаты,
над лугамі, стрыжанымі нізка,
над гадамі, нада мной.
А з вады на бераг рвуцца коні,
стогнуць, пырскаюць шалёнай пенай;
цяжка выцягнуць каляску з тоні –
на лужок з травой чырвонай,
дзе сентыментальныя паэты
у пастушых вопратках убогіх
пасвілі сваё каханне.
А палац, як белая падкова,
звоніць мнагаструннай гамай,
трэба ўцякаць адгэтуль,
каб не стацца франкаманам.



Ядуць кляшарды хлеб,
п’юць таннае віно,
мяса праз шкло вітрынаў ліжуць,
яны – упадак, яны – дно
і крылы шумнага Парыжа.
Іх домам цёплае метро,
ды і масты на Сене ціхай,
а месяц лямпачкай-святлом
над іхнім шчасцем,
іхнім ліхам.
Не прагнуць выгад, дома, ні сям’і,
ні абавязкаў,
ні штодзённай працы
і, як ніхто на свеце, на зямлі

умеюць пагарджаць багаццем.
Парыж ім столькі мараў навярстаў,
па поўнай жмені,
да іх прыходзіць Іў Мантан
пазычыць жменю летуценняў.

## Балада аб бізуне

Сцяна ў памешчыцкім пакоі
глядзіць традыцыяй стагоддзяў;
хтось клапатліваю рукою
праславіў панскае адроддзе.
Хрыстос вісіць, узняўшы руку –
ён мір прынёс сюды ў парогі,
гадзіннік ціхім мерным стукам
адводзіць думкі ад трывогі.
Партрэты – шэраг продкаў слаўных,
двухстволка, шаблі, рогі лося
і габелен з узорам даўнім,
карціна, а ў карціне восень.
Далей сляды ліхіх завеяў,
паходаў слаўных і суровых;
вісяць ваенныя трафеі
дзесь з-пад Смаленска, Мінска, Пскова,
і герб вялікі – славы сімвал,
традыцый векавых адзнака,
і скрыпка, што спявала гімны
або вучыла да́мы плакаць,
і пад усім пад гэтым збродам,
у месцы зручным, ганаровым,
вісеў на розныя нагоды
бізун раменны адмысловы:
казіна ножка ў чорнай шкуры,
і бічык – бізуна істота,
напіўся, чортава натура,
сялянскіх слёз, крыві і поту;
змяёю поўз па белым свеце,
глядзеў ён з-за халявы панскай.
Ішоў праз цэлыя сталецці,
ішоў ён па хрыбтах сялянскіх,
перадаваўся бацькам сыну,
перадаваўся пану панам,
стаўся падпораю краіны,
рэліквіяй і талісманам.
З яго прадажным гнуткім целам

сумленне панскае зраслося,
ім шчасце доўга зіхацела,
эх, давялося, эх, жылося...
Змянілася нарэшце штосьці,
настала новых спраў багата,
зышоў на свет жаданым госцем,
зышоў на свет год сорак пяты.
І першы раз выпраставаны,
зламаўшы звычаі і нормы,
прыйшоў мужык, прыйшоў да пана,
прыйшоў з зямельнаю рэформай.
Пан ашалеў, рукою пэўнай
з сцяны сарваў бізун старэчы
і палоснуў маланкай гнеўнай
апошні раз халопу плечы.
І зноў павіс над селянінам,
як параграф часоў прыгону,
але не мог паўторна рынуць
на галаву змяёй шалёнай,
бо рук дзясятак спрацаваных
зваліў тут пана на падлогу,
хлябнулі ўрэшце плечы пана
смак горкі бізуна-батога.
Бізун свістаў на панскім целе,
пасля прабег па тварах продкаў;
яго ўдары звонка пелі
фінал ідыліі салодкай,
і, кінуты сялянскім гневам,
на пана лёг, як знак няволі,
упаў з апошнім свістам-спевам,
каб не узняцца больш ніколі,
і словы моцныя, як вецер,
зляцелі з вуснаў селяніна:
“Хто ходзіць з бізуном на свеце,
ад бізуна павінен згінуць”.

# А К В А Р Э Л І



Белавежа – зялёны гармонік,
цябе край мой на грудзі ускінуў,
палажыў на клавішы далоні,
да грудзей прытуліў, як дзяўчыну.
І бяніць звінячаю мовай
ды санатай плыве па-над светам,
а пад кожнай сукенкай вярбовай
у гіпнозе застылі паэты,
і танцуюць бярозы-мадонны
у туманных развеяных крылах;
тут песня так моцна палоніць,
што Хрыстос танцаваў бы кадрылі.



Салавейкі звінячы клубочак
развівае павольна ночка,
раскрыліўся сонны вецер.
То ціша у гаі парвецца,
то песня парвецца,
праз месяца ясны бінокаль
гляджу я у пушчу вокам,
і бачу, як майская ночка
развівае звінячы клубочак.



Спяваў салавейка тэрцыны.
Дарыў гойна сваёй дзяўчыне
каханне.
Цэлы месяц ён вока не сплюшчыў,
цэлы месяц не даў заснуць пушчы
спяваннем.

А калі зацяжарыла дзеўка,
спыніў сваю палкую спеўку
знянацку,
бо лёгка быць чулым каханкам
і спяваць ад змяркання да ранка,
ды цяжка быць бацькам.



Ляжу я на зямлі,
адным вокам гляджу
ў яе нетры,
а другім узіраюся ў неба.
Плыве праз лес
зялёнае паветра,
а у зямлі цвітуць карэнні,
крыніцы яе грудзі точаць,
і я, хоць зоркі змятаў з неба
на небасхілы,
не ведаю істоты “сёння”,
не ведаю істоты “заўтра”,
і не хачу ўсяго я ведаць –
ці ж я тады пісаў бы вершы?
Жыццё,
малюся, будзь загадкай.
Бяда, калі калека
зломіць кулю
ці паўсляпы дзесь згубіць акуляры, –
паэт не выжыве без мараў
і стане, з месца не кранецца,
нібы дзіця, заплача ў страху,
як згубіць руку сваёй мамы.
Якое шчасце мець Айчыну
і легчы у зялёных травах,
і вокам у зямлю ўзірнуцца,
а другім вокам у прасторы –
раздвоенасць – адзінства шчасця.



Часалі коні свае грывы
шчоткамі высокіх траў,
хвастамі падпіралі сонца,
лавілі вецер зондамі вушэй

і, калі сэрца пранікала зелень,
і храпы на пергаміне лугоў
пісаць больш вершаў
не хацелі,
зрываліся да лёту,
нібы птахі,
імчалі над уздыбленай далінай,
ставаліся багамі на хвіліну.



Бушуе вясна у садах,
спявае вішнёвую песню,
падпёрла платы лебяда,
смяецца задорна чарэшня.
Я чую, што плечы шырэй,
маленькае сталася дужым,
і шчасце за плечы бярэ –
у грудзях не сэрца, а ружа.



У брычцы месяца
рассеўся салавей,
пяе у залатой карэце,
маўчыць, як рыба, вецер,
бо сорамна яму
спяваць сягоння.
Лёс песні у другіх
далонях,
у лепшых.
Салавей – Паганіні
клён – мандаліну
кранае,
і крышыць карэту,
і зоркі над светам
ссыпае.
Салавей, і карэта,
і зоры –
рэквізіты
стар’я, архаізмы,
а з дваццатым стагоддзем
гавораць,
як сябры сацыялізму.



Вартуюць цішу
зубы частаколу
пад бровамі
навісшых сліў,
а месяц
выпяліў жывоцік голы –
свет цэлы
малаком заліў.
Прыціснуў млечны шлях
мяне каленам,
звязаў з сусветам
зорыстым звяном,
крануў я гафт
бярозавых сукенак,
астаўся крок
да белых ног.



Спявае пушча хваляй воннай,
плыве, як акіян бяздонны,
у пене верхавін зялёных,
а сосны – медныя калоны,
бярозы – гібкія мадонны,
дубы папахамі варушаць,
з асінак вылецелі душы –
спявае пушча хваляй воннай,
а я тулюся да мадонны.



Тут па кожнай сасне
можаш ўзняцца у неба,
і стацца анёлам,
і забыць, што быў чалавекам
са злосцю і вадамі ў сэрцы;
забыць, што калісьці
меў цела,
можаш стацца крыламі,
ідэяй,
каханнем,
агнём непагасным,
можаш стацца усім і нічым
адначасна.



Вербы выплакалі ля сваіх ступеняў
возера зялёнае-зялёнае,
апусцілі косы, апусцілі жмені,
плечы згорбілі ў паклоне,
а вясёлка – струны каляровыя,
струны у вібрацыі квяцістай –
стужкай вербам апляла галовы
і звініць напевам серабрыстым.
Каляровыя, зялёныя азёры
і вясёлкі мнагаструнныя, пявучыя
я пранёс праз радасць і праз гора,
не пазволіў гораду замучыць;
і калі мне цяжка – усміхаюся,
з горада вяртаюся ў даліны,
у падвербныя азёры акунаюся
і цалуюся з вясёлкай, як з дзяўчынай.



Пушча, сціхамірся, супакойся,
разгарні лісткі-далоні;
я на кожным прагну сёння
напісаць паэму аб каханні,
да цябе, зялёнай з найчысцейшых.
Пушча, дай лісты-далоні
для слоў шчырых, найшчырэйшых,
а калі атраманту не стане,
дапішу канец крывёю,
каб ніхто не быў у стане
літары паэмаў сцерці,
дапішу і падпішуся,
і пячаць пастаўлю – сэрцам.

## Валодзю Паўлючуку

Калі лес упадзе,
праз што на свет ты глянеш,
і як знянацку
ты наблізішся да шчасця,
і праз якую шчыліну
зірнеш ты на каханне,
які лісток прыложыш ты да раны?
Як упадуць лясы,

ты шкельца чарадзейскае загубіш
і свету каляровага не ўбачыш,
і вочы, п’яныя ад плачу,
у неба чорнае узнімеш,
і крыкнеш таямнічай сіле:
– Я не хачу такой зямлі,
дай мне зямлю старую,
з таемнай пушчай,
з гулкім лесам,
каб смутак мог у ім павесіць.
Адказ рашучы з неба прымеш:
– Ты не дзіця:
гуляй забаўкамі другімі.
І сэрца тваё стане чорным
і перастане быць блакітным.



Гляджу я небу пад сукенку,
аж шапка на зямлю упала,
і не магу я надзівіцца,
і не магу навесяліцца.
Гляджу, гляджу,
і ўсё мне мала;
яно прыкрыла стужкай белай –
дарогай млечнай – частку цела,
але і так нямала відна
дэталяў гожых і устыдных.
Гляджу я небу пад сукенку,
нібы мурашка пад паненку,
калі яна ў ліпнёвы ранак
выйдзе на луг, над рэчкай стане.
Эх, любата, ачараванне!
І што ж ты варты, чалавеча,
калі не піў вады з крыніцы,
калі ў ліпнёвы цёплы вечар
з нябёсаў не сцягаў спадніцы.



Лясы – душа маёй краіны.
Жыве ў лясах мая надзея.
О лес, ты так, як бацька сыну,
мне ў сэрцах светлых мар навеяў.
Я, член сям’і адвечнай пушчы,

знаходжу сваё шчасце ў лесе,
дзе шчыры смех вачэй не плюшчыць,
дзе лес набрак ад чулых песень.
Я чую: крочаць на паляны
плямёны сцежкаю адвечнай,
і я з натоўпам крывічанаў
іду за бор, на сход, на веча.
Спакой цалуецца з трывогай,
зышліся: ўчора, заўтра, сёння,
гады, і людзі, і дарогі,
паціснулі сабе далоні.



На ўсіх лістах бярозавай сукенкі
салаўі адспявалі рапсоды;
і кожны ліст служыў за клірас,
галінка кожная за ліру,
і дрэва кожнае
святыняй згоды,
і смех, і боль былі у трэлях,
хісталі млечнаю дарогай,
і калыхалі пушчы ветразь,
і звонкасць улілі ў паветра,
і закаханым
прынязлі трывогу.
Ці болей слёз было, ці болей смеху,
лічыць – час траціць безнадзейна,
мы гэты толькі факт адзначым,
калі смяецца хтось і плача,
дык, значыць, закаханы
ён, напэўна.



Ад рання сівога
да шэрага змроку
вясну спажываюць каровы,
ад шчасця прыжмурыўшы вочы,
і годна нясуць вымёны,
напоўнены сонцам,
пад клёны;
з-пад пальцаў дзявочых,
з напружаных доек

страляюць струмені,
страляюць праменні
на дно пасуды.
У дзявочых каленях
клёны п’янеюць
ад сырадою,
і я таксама п’янею,
як доіць дзяўчына вясну,
як сонца доіць ў калені.



Я так блізка зямлі,
як сасна,
як колас,
як травы.
Калі упаду,
дык блізка ляцець мне,
і там на зямлі,
дзе жаўрук ссыпаў песню,
і дзе сонца паслала праменні,
і яблыня кінула яблык,
і маці пакінула
след ад ступені,
не можа быць сумна,
не можа быць цесна.
Я так блізка зямлі,
як хлапец і дзяўчына
у час першага грэху,
як шчасце ад смеху,
я так блізка зямлі,
нібы песня дзявочая ў полі,
як да хаты дзяўчаты плывуць
праз туман адвячоркам,
я так блізка зямлі,
як Айчына мая ад нядолі,
як у майскія ночы
зорка ад зоркі,
як слова ад слова
у хуткагаворцы,
у ёй мае ўчора,
сягоння
і заўтра.
У ёй ёсць мой хлеб,

мая песня і сіла,
у ёй мая смерць
і зацішак магілы.



Люба глядзець, як засынаюць дрэвы –
стуляюць у далонях цішу,
і слухаць, як на лірах клёнаў
кранае струны салавей вячэрні.
Міла глядзець, як расцвітае сонца
у купалах аблокаў,
у купалах бярозаў,
і як туман, бы белы анёл,
павольна ў неба узлятае.
Добра стаяць і не кранацца
нагамі босымі ў даліне,
і паўтараць старыя словы:
– Люблю цябе,
люблю цябе, Айчына.



Белавежа – анёлаў гурт,
аб'яднанне манахаў зялёных,
сход рымскіх калонаў,
лёгкакрылае зборышча муз.
Кожны клён, як віновы туз,
кожны дуб, як суровы Бог,
елка кожная, нібы посаг.
У кожнай кроне канцэртны зал,
ў кожнай зале звініць хор,
на галінах сто партытур,
у ляшчынах тысяча ціш,
у асінах тысяча бур,
у далінах тысяча згод
і столькі ж нязгод-авантур.
Стаіць задуменна бор
ад чорнай зямлі да звінячых зор,
мысліць…
Калі тваё сэрца пустое, паэт,
калі хтосьці скажа, што ты ўжо памёр,
прыходзь ты у пушчу маёвым ранnём,
з-пад дрэў назбіраеш нападаўшых зор
і зноў у рады паэтычныя станеш.



Глядзела Белавежа у паляну,
як маладзіца у люстэрка зрана,
і ветрам вычасала косы,
і ногі выцірала ручнікам туманаў,
і грудзі песціла бярозам
птушынай песняй,
і вушы клён стары развесіў,
і пакланіўся прыгажосці.
І птушкі ўсе, і я, і дрэвы
у гэты момант сталі спевам,
і чулі дзіўнасць перамены,
гатовы цалаваць кагосьці,
бо шчасце села на калені,
бо у сябе былі ў госцях.



Не журыцеся, коні,
што вас не шануюць
і бэсцяць на з’ездах,
крычаць, што вас многа,
што людзям скарынку
ад губ аднялі вы,
што трэба расправіцца з вамі.
Я з тымі, што цягнуць
каня на распяцце,
хадзіць не хачу
па сусвеце,
я першы, як Магдалена,
заплачу
над гробам конскага скону,
і калі конь на зямлі
уваскрэсне,
хвост узніму, як камету,
і панясуся ветрам прадвесня
над светам.
А вы, што машыны
акрэслілі богам
і ўзброілі мары
ў ракетныя крылы,
чаму акрасляеце
сілу машыны
старою конскаю сілай?!



Якая ж бяда,
калі дрэва насупраць
трымае ў далонях
зелені хмару,
якая ж бяда,
калі сонца над намі
асвятляе аблокаў штандары...
І нават калі б
быў ужо у магіле,
але прыкрытай
дрэва штандарам,
буду мацнейшы,
чым тыя жывыя
на тратуарах.



Зямля і неба веснавыя,
нібы зялёна-сіні штандар,
павіслі над маім юнацтвам,
акуталі маё каханне,
і раптам вырас перад намі
горад распяццямі антэнаў
і трунамі каменных блокаў,
нас вабіў ён, як анаконда,
і рэшткай сіл мы павярнулі
у сінь, у сонца свае твары,
і у лугі свае пабеглі,
ды там прыкрыліся
штандарам,
што у дзяцінстве
з чорным хлебам
дала зямля нам разам з небам.



Мой лесе, мой зялёны браце,
ты заслані мяне ад гора,
і бі, як буду намагацца
зноў уцякаць у чорны горад.
Не раз я шкадаваў былога,
туліўся да рэкламаў, нюхаў,

шукаў я у сяло дарогі
і біўся, як у шыбе муха,
і вырвацца не мог на волю.
Дашчэнту крылы расцярусіў
і стаў я смуткам, стаў я болем
без спеву пушчы Беларусі.
І калі б зноў я бег у горад,
дык прывяжы дзесь да альшыны,
і налупі галінай з бору
сардэчна, нібы бацька сына.



Там дзесьці трывогі,
і перамогі,
і паражэнні.
А я перад пушчай,
як перад Богам,
стаў на калені.
Уцёк з гарадоў я,
уцёк з безгалоўя
і з пустаслоўя,
уцёк у здароўе,
лёг на лісточак,
вылечыў сэрца,
вылечыў вочы.
Забуду я тых,
што сяброў сваіх шчырых
тапілі у ложцы,
без болю у спеве
стануся дрэвам,
каб болей ніколі
не быць пераможцам.



Узняты сосны, як бакалы,
зямлі шурпатаю далонню,
жывічным свецяцца накалам,
наліты сонечным мускатам,
да неба сіняга узняты,
у ветры чокаюцца, звоняць.
З іх лясуны пілі запоем,
арлоў расціла іх улонне,

і я ў жывічным сырадоі,
і я у сонечных затонях
паіў пегасаўскіх тут коней.
Як толькі ў горадзе заплачу,
іду у Белавежу, ў гушчу,
я выціраю вочы пушчай,
і свет зноў зялёным бачу,
і свет здаецца мне пахучым,
і свет здаецца мне дзіцячым
і радасным, і не балючым.
Сосны, як зялёныя бакалы,
рукой зямлі да сонца ўзняты,
даліце ў грудзі мне запалу,
даліце мне мускатаў вінных,
пайду жывіцай перапіты,
хачу зноў сп’яна пераблытаць
ногі бярозы і дзяўчыны.



Каб толькі быў ў стане
падперціся дрэвам
і шапку сонца
ўцягнуць на вушы,
каб ногі лычамі
зарыліся ў травы
і глынулі грудзі
вясновыя крылы!
Тады магу стацца
нават кабылай,
адарванай ад плуга
у ранак нядзельны.
І мордай зарыцца
у выгана водар,
і купалам бруха
гладзіць блакіты,
каб толькі быў дрэвам,
ад места закрыты...



Пенай аблокаў змываў вецер неба,
выціраў яго вокны да сіняга колеру,
часаў яго пушчай – зялёным грэбенем,
верхавінамі лесу гладзіў да полеру.

Выцвітаў ён аблокамі, белымі ружамі
над зялёнымі хмарамі грушаў пахілых,
ільнянымі пасмамі жнівеньскай сцюжы
вецер слаў ложак сівых небасхілаў,
і сцёрся, як венік, у небе прыгожым,
у працы, у руху сябе расцярушыў,
і вынырнуў вечар з даспелага збожжа,
жніўнёвую песню прынёс Беларусі.



Пчала узнялася, узяла курс на промень,
бо сонца кірунак яе не падводзіць,
мёдам там можна напоўніць далоні
і зноў паявіцца у вонным гародзе.
Памоліцца лету, прашэпча замову
царыца прыроды – нявольніца вулея,
сонца пахучага кропельку зловіць,
рукамі, нагамі да ўлоння прытуліць
і прынясе, і аддасць згуртаванню
ды лёгенька пырсне у песню-ідылію.
Гляджу я, і ў сэрцы мне б’ецца пытанне:
чаму так людзей жыць багі не вучылі?



Горад,
ты сцёр з майго краявіду
колеры,
ніву сонца засеяў
і сажай і пылам,
трубамі фабрык
прабіў небасхілы,
і лебедзь-аблок
не плыве мне насустрач,
не сядзе ў кошык
вярбы над ракою;
што ж я выпішу, што
на пергаміне неба,
калі колер яго
такі, як атрамант.
Хто адчытае чорныя словы,
хто зразумее
мой лямант?

Хаджу я бязмоўны,
няшчасцем прыбіты.
Горад,
ты сцёр з майго неба
блакіты.



Дайце малую цішу –
заглушу какафонію горада,
дайце вялікую цішу –
заглушу узрывы напалмаў,
дайце магутную цішу –
заглушу боль уласнага сэрца.



Белавежа, ты, як малітва,
ты, нібы ерась бязмежная,
твая песня, як шэпт,
як крыкі мяцежныя.
Кожны клён тут абвіты
хмелем паэзіі,
промнем мускату абліты, абмыты,
п’яны каханнем.
Пушча у майскае ранне
скідае кашулю-імглу
у крыніцы
і з маем ідзе на спатканне;
сонца вітае паклонам,
а вечарам ціхім
зоркі бярэ у далоні
Хто моцна кахае –
напэўна укорыцца
і будзе ён паслухмяным.
Я прыйшоў абарваны,
пусты і прыбіты,
бо горад сарваў
рукой дабрабыту
з плячэй маіх кужаль.
Пушча, мяне не гані ты,
дай вопратку целу,
дай сэрцу дужасць.



Сто разоў неба
лес мётламі вымеце
і да бляску ён вычысціць
зоркі у купале,
бо чэрвень у полі духмяным
сягоння
у жыце хаваецца толькі
да пояса,
і радасць у сэрцы
не пераспела,
як дрэва у ветры,
расшырыла грудзі;
таму яшчэ тысячу раз
мы паўторым:
– Дзень добры, – людзям.



Дык гэта ты мой Бог,
дык гэта ты мой правадыр,
і да цябе малюся, клёне.
Магу манахам быць
або салдатам стаць,
узброіць колерам далоні,
нас людзі падвялі
і скрыўдзілі зямлю,
і аднялі ў нас нашу мову;
таму твайму галлю
я, верны сын далін,
прыношу культу словы.



Паэзія – не мікрафон,
не радыё,
дзе можна глупствы
слаць у эфір
і дзе ніхто не запярэчыць.
Паэзія –
з яе загадкамі і болем –
дыспут з жыццём адвечным,
яно чакае ад цябе парады,
як сонца і дажджу

чакае поле.
Калі ты скажаш праўду –
усміхнецца
і песняй чулаю заструніць,
як ашукаеш –
стане задам
і плюне.



Лістом паперы лягла зіма,
зайцы ўпісалі
тэкст непакою.
Чытаю шыфраў заячых зман
і на узлессі,
і над ракою,
і не адрозню, дзе шыр,
а дзе даль.
Богам па шляху млечным шару,
у гэтых кустах ужо каляда
куццю у зорным снезе варыць;
а у душы і радасць, і сум,
і цішыня ў вушах, і дрыжэнне.
За тое, што я патаптаў красу,
ціха прашу у зімы прабачэння.
Лістом паперы лягла зіма,
вецер заціх,
не прагне узлёту.
І я устаўляю у заячы зман
літары ботаў,
і кропкі ботаў.



Прычасці мяне, клёне зялёны,
першым лістом сакавітым,
дай мне глыток акавіты,
дазволь мне вясной разгавецца,
глынуць яе цёплы кусочак.
Хай стане зялёнаю мроя,
як лес пад гарою,
хай зеленню зорацца вочы,
хай сэрца маё ззелянее,
хай сэрца маё пацяплее,
і выпусціць першы лісточак.



Зямля, дай цішыню
ліпнёвым птушкам,
якія хочуць праспяваць
гімн сонцу!
Пушча,
падвой лік гнёздаў салаўіных,
бо людзі прагнуць прыгажосці!
Зямля,
расшыр зялёныя даліны
і звузь да кроплі гарадскія выспы!
Зямля,
дай цішыню тым людзям,
што хочуць аб каханні крыкнуць...



Вечар прыгнаў каровы з лугу,
схаваўшы іх вымёны ў бёдрах.
Дзяўчаты выціснулі струі
з вымёнаў на дно вёдраў.
І адплывалі, як аблокі,
у хлеў каровы з-пад прысадаў.
У ветразях надзьмутых бокаў
таілася кароўя радасць,
і сырадой велікадушна
нам не даваў заснуць на сене.
Шумелі ветразі у вушах,
кіпела малако у венах,
плылі каровы мрояй соннай –
ні то анёлы, ні то людзі –
і сырадоі хваляй воннай
заснуўшым ноч ліла на грудзі.



Стаю перад табой,
як жыта парад ветрам:
хістаюся, хвалююся,
а сэрца шчасцем поўна.
Маленькі я, далёка
да двух метраў,
але з табой стаю,

як роўны з роўным,
а лес мой неспакойны,
нібы цень трывогі,
не песціць мяне ласкай
і не цешыць жартам.
Дубы мае – браты мае,
пушчаныя дарогі,
без вас мой быт
граша не варты.
Стаю перад табой,
як жыта перад ветрам,
хістаюся, паклоны б’ю
душою пілігрыма,
крыніцы, біце пульсам
у пушчаных нетрах,
ды клічце ў лес
сыноў Радзімы.
Шчаслівы я вяртаюся
да Маткі, да Ітакі,
каб сцерагчы
твае бары, твае даліны.
Лепш мне ў Айчыне
быць сабакам,
чым каралём
дзесь на чужыне.

  

Луг зялёны
выкарміў мае юнацтва
бязвуздзечнае,
бунтарнае,
кіпучае;
выкарміў ён маладосць
крылатую,
выпаіў фантазію
рагатую;
і страсаў я зоркі
з неба чорнага
рагавінаю задорнаю.
Апаясаўся праменнем я
ліпнёвым
і вясёлкавай
істужкай каляровай,

нібы слуцкім
поясам ільняным,
і хадзіў па свеце панам.
І калі у вёску азірнуся,
прылажу руку
к вачам старэчым,
дык крычу:
– Лугі –
вы грудзі Беларусі,
вы яе юнацтва,
яе вечнасць!
Я у травы каменем
не кіну,
бо у сэрца ўдарыў бы
Краіну.



Чаму я тут,
а дрэва там,
я ў пыле,
а яно ў блакіце?
Тут шчасце
можа толькі быць
дадаткам да бяды
і больш нічога,
таму шкада,
шкада да слёз
былога.



Як не цягніся
уверх у неба,
і так будзеш меншы,
чым дрэва,
як не саромся,
а будзеш бялейшы,
чым ліст асенні,
і плач, як хочаш,
ды дождж макрэйшы.
Не перагоніш
ні ў чым натуры
і заўжды будзеш

за ёю ззаду.
Ды ў гэтым шчасце
імкнення
і мая радасць.



Тут больш лісця, чым неба і зямлі,
лісцё павісла хісткім мостам.
Па ім іду я, сын далін,
я, пушчы раб, ды і апостал.
Не трэба слоў –
яны цяжкі багаж,
ні роздуму, ні розуму, развагі.
Калі хрыбта лісця трымаецца нага,
кабура сэрца поўная адвагай.
Вось тут рой птушак
моліцца вясне,
між іх я сеў, спяваю гімны, оды –
дзе песня ёсць, там зла канец
і там пачатак крыл свабоды.
Не хочацца вяртацца да людзей
у свет заяў, дакладаў, дырэктыў;
больш не магу
ні слухаць, ні глядзець,
як вучаць шчасця рыжыя каты.
Каб толькі ліст астаўся пад нагой,
загоіць раны ён, адсуне здзекі,
распаліць ачышчальны ён агонь,
цябе учыніць, песня, чалавекам.



Чый ты ёсць, след,
хто цябе скроіў?
Месяц у зорыстых разлогах,
ці Бог ступіў між зор нагою,
ці чорт крутым ударыў рогам,
ці так, ці сяк,
зайздрошчу ролі
так актуальнай,
так адвечнай.
Арэш аблокаў белых поле,
склікаеш зоры на сход-веча

і на зямлю
глядзіш звысоку,
заўсёды добры, пажаданы
для тых,
хто заблудзіў у змроку,
для тых,
хто блудзіць у каханні.



О, лес,
ты брат,
ты бацька мой і дзед;
і песняй ты,
і марай ты,
і хлебам.
Ты нада мной,
каб не ўпаў на плечы свет,
падпёр рукамі неба.



Зваліўся з дрэва яблык спелы
з раздутым бокам счырванелым,
упаў мне проста на калені,
і я бяру яго у жмені,
і пальцамі, як сына, пешчу,
а ён дрыжыць, а ён трапеча,
пераліваецца, і звоніць,
і асвятляе мне далоні.
У ім ёсць сонца і завея,
у ім ёсць смутак і надзея,
і белавежскай песні рэха,
і водгулле дзяўчыны смеху.



Нядзеля, зноў восень у пушчы ў гасцях;
полы кастрычнік ужо распасцёр,
шорах плыве ад рачнога трысця,
ціха шапоча на сцежках лісцё.
Ліст падбягае да сябра свайго,
штосьці гамоняць цішэй і цішэй.

Раптам узвіўся лісцяны агонь,
вецер прабег па тунэлях алей,
і зноў у каронах лягла цішыня,
нават замоўклі ў кустах вераб'і –
халоднай далоняй кастрычнік абняў
гарачыя грудзі асенніх рабін.
Мястэчка заціхла, сумуюць палі,
спакой лёг на пушчу замкнутым звяном,
і раптам у неба па струнах ялін
прабеглі акорды царкоўных званоў.



У верасах завірушуся,
засну у іх і не прачнуся.
Хай сняцца сны аб Беларусі,
ружовыя,
зялёныя,
блакітныя.
Па твары сонца будзе поўзаць,
і ўзыдзе у далонях верас,
пасля нырне за лесу бераг,
і заквітнее на усходзе,
і пчолы з пасек папрыходзяць,
паклоняцца, як пілігрымы,
і возьмуць мёду
з маіх кветак,
прытуляцца да ног Радзімы,
як рамантычныя паэты.



Лісты іржой ссыпаюцца на межы,
і восень акрывавіла сады.
Дзе твая радасць, Белавежа,
чаму ідзеш ты да бяды?
Чаму ты агаліла свае ногі
і рукі узняла да неба?
Бог справядлівы,
ды не для убогіх,
і лямант бедных Богу не патрэбен.
Сяброў ты на галіначцы палічыш,
а ворагаў на тысячы галінак,
як схочаш, дык мяне паклічаш,

і я прыйду ў крывавыя даліны.
Лісты мяне па плечы акрываваяць,
зраблю з іх шчыт,
зраблю з іх крылы;
і больш ніхто не зможа абясславіць,
і больш ніхто не зможа абяссіліць.



Ціхутка з каронаў злятаюць лісты,
сцелюцца,
　　　　сцелюцца,
　　　　　　　　сцелюцца;
ранак асенні, як шклянка, настыў,
авеян лісцянай мяцеліцай.
Восень ледзь чутна лясамі ідзе,
гамоніць,
　　　　гамоніць,
　　　　　　　　гамоніць;
прыйшла, каб лясы канчаткова раздзець,
даць выгляд абшарам і гоням.
Дрэвы сумуюць па страце лістоў,
шапочуць,
　　　　шапочуць,
　　　　　　　　шапочуць;
ратунку няма, не паможа ніхто,
ніхто іх паслухаць не хоча.
Смутак злажыў на бары і лясы
далоні,
　　　　далоні,
　　　　　　　　далоні;
а я ап’янеў ад асенняй красы
і песню нясу ў сэрцы сёння.



Зацыравала рунь загоны
сіняй істужкай і зялёнай,
і першы ліст пачырванелы,
кульгаючы, пабег ад дрэва.
Рабіна на мяжы крывавіць,
вецер нясмела загалосіць,
канае ў полі лета слава,

і пераможна крочыць восень,
і заяц вылецеў з дубровы,
як моль, у руні дзірку выеў.
Ходзіць паэт, збірае словы
для паэтычнае стыхіі.
Збірае фарбы, барвы, плямы,
тканіну руні і праменні
і ловіць жураўліны лямант
ды заціскае ўсё ў жмені.
Усё-усё для шчырай песні,
якую людзям уваскрэсіць,
а для сябе дзесь на ўзлессі
абняў паэт за шыю восень.



Курапатак пасеяла восень
на полі бульбяным,
на полі духмяным.
Жураўлі дзесь галосяць
над летам скана396ым,
зацяжарылі пуні
надзейным кладам.
Восень – смутак і радасць.



Жураўлі,
спадарожнікі жалю асенняга,
аслабеўшае сонца крыламі
на момант падтрымалі
і песняй трывожнаю і ўрачыстаю
грымнулі.
Адрадзілі надзею разбітую
без патрэбы,
без сэнсу
і цэлі,
і ў дарогу сваю працавітую,
і ў дарогу сваю безнадзейную
адляцелі.



Не лёгка мне – дрэву,
уцёкшаму з пушчы
на брукі Варшавы,
на вуліцы Лодзі,
вярнуцца у сосны,
вярнуцца у гушчу
і з клёнамі поплеч
вясной карагодзіць,
пусціць зноў карэнні
у чорную глебу
і галавою запёрціся ў неба.
Можа, ў тым месцы,
дзе я калісь вырас,
расце ужо іншы
хлапец ці дзяўчына,
і, можа, не вабіць
іх горад і вырай,
бо любяць разлогі
зялёнай краіны.
Як лёгка сарвацца
крапліне ядронай
і рынуць уніз,
на сухія загоны,
ды цяжка узняцца
з туманнаю парай
і стацца часцінай
вялікае хмары;
не лёгка ісці
у зацішша сялібаў,
на чорныя скібы,
дзе дрэвы зямля узняла,
як штандары –
ісці ў недаснёныя мары.



Што за ноч, што за ноч,
параўнай яе з днём
і ад дзіва адкрыюцца вочы;
месяц белым канём,
месяц рыжым канём
з верхавіны у возера скочыў.
Што за ноч, што за ноч,

без канца і без дна,
закалыша цябе, заурочыць.
Калі гэтую ноч
101параўнаеш да дня –
дзень насупраць яе
будзе ноччу.



Зіма – вялікі белы сцяг,
капітуляцыя прыроды,
і толькі жменька ржавага трысця
шуміць:
– Пад лёдам цякуць воды.
Не крывадушыць толькі лес
і маскай не прыкрыў аблічча,
стаіць у сіненькай імгле
і дні зімы паціху лічыць.
А дзень маленькі, як шчанюк.
туляецца пры пунях шэрых,
і ночы, поўныя агню,
у небе зорным
зубы шчэраць.
Зіма – вялікі белы сцяг,
зямля замоўкла у палоне.
Ці д’ябал мех з мукой расцяў,
ці анёл свет прыкрыў далонню?...



Снежнае поле, як анёл,
чорная пушча, як дэман –
шугнулі нашыя сані
на крылах анёльскіх з лесу.
І хтосьці сардэчны над намі
месяц-ліхтарык павесіў,
шыбуем,
шыбуем,
шыбуем,
спадаем і зноў узлятаем.
Капыты у звонкім адчаі,
анёльскія крылы без краю;
ляцім пад гору крутую –
і зноў з гары ападаем.

А зоркі у зблытаных грывах,
як сокам наліты чарэшні,
і сані, і коні – імклівасць,
і коні, і сані – песня.
Мы зноў узлятаем на горку,
анёльскія крылы ў зорках.
Угрэліся коні і людзі,
адстаў ад нас недзе снежань,
пад лесам упаў ён на грудзі,
за ногі абняў Белавежу.



Зіма,
зацвіў над плотам белы бэз.
Вяртаюся дахаты,
квітнее зноў
усмешка маці на парозе,
дзяцінствам пахне бестурботным.
Як добра
выпіць з маткай успаміны,
як добра
выпіць з бацькам павароты.



Калі нядзеля у аселіцы
працягне з досвіткаў далоні,
і сонца белае асмеліцца
наліць віна у чаркі клёнаў,
і песня звонкая ад купала
адстрэліцца лускою сіняю,
сэрца трывогаю застукае,
як ліст на веснавой асіне,
і шыр зямлі такая блізкая,
што апрануў бы цела голае,
і купал неба, як калыска,
здаецца матчыным прыполам,
і я гляджу ў нядзелю страсную,
гляджу вачыма непрытомнымі
на Беларусь іканастасную,
на Беларусь карчомную.

## Першае

Пейзаж, каханне,
Праміnanne майго быту –
Дзве радасці мае
І боль адзін згарае.
Мы арандатары жыцця,
Яго найміты,
Бярэм на міг
І назаўсёды пакідаем.
Пейзаж, каханне –
Гэта вечныя праявы
Жыцця, якому на імя
Хвіліна толькі;
Кар'еры, зайздрасці, імкненні,
Грошы, слава,
Няма з вас радасці
І быць не можа толку.
Пейзаж, каханне,
Сустракаю вас я гімнам,
А праміnanню
Я элегію спяваю.
Як добра, што я бачыў
Зелень і жанчыну.
Як добра, што я жыў
І добра, што сканаю.
Пейзаж, каханне,
Лёт жыцця майго і ўпадак
У зелені бяроз,
А не ў хмяльной багеме.
Хацеў бы я вам праспяваць
І боль і радасць;
Хацеў бы вам злажыць
Зялёную паэму.

## Другое

Адну толькі маю зямлю –
Самотную, нібы дзіця.
Малюся лясному галлю,
П'янею ад песні трысця;
Прастор, падыдзі да мяне,
З цябе мая песня і сон.
Бліжэй і бліжэй мой канец
І боль развітання з вясной,
Ляжыць недакончаны верш
Пад плынню не сказаных слоў.
Сказаць пра зямлю –перш-наперш,
Дык значыць упіцца святлом,
Ад промняў вясёлых сканаць,
Пайсці пад зямлю, потым зноў
Прабіцца, як прыйдзе вясна,
Зялёнаю явай і сном.

## Трэцяе

Кахаць без пары,
Кахаць без берагоў.
Кахаць – каб загубіць і нарадзіцца,
Каб не было твайго,
Каб не было майго, –
Стацца бяздоннаю крыніцай.
Прыкрыцца небам зорным
Без канца,
Вярнуць узятае,
Сваё аддаць без краю;
Шукаць, шукаць
Найцвёрдшага разца
І высечы на камені –
КАХАЮ.
Бо толькі ты, каханне
Сіні зман,
Быў, ёсць і будзеш
Праўдай найпраўдзіўшай;
Магільны ўсіх ідэй
Расце курган,
А ты жывеш,
А ты навек расцвіўшы.
Цябе не знішчаць
Варвары, ні час,

Ні скептыкі,
Ні стоікі, аскеты;
Расце кахання дрэва
Сярод нас
І прыкрывае песняй
Ўсю планету.

## Чацвёртае

У паводцы вятроў
Мой клён, як вясло.
Хутчэй і хутчэй –
І ўвысь і ўдаль.
Як хлеб, неабходная
Магія слоў,
Астравы забыцця,
Святая вада.
Праклён, пажаданне,
Як бацька і сын;
Наперад няраз
Азначае назад.
Брыдота бывае
Дачкою красы,
Са сконам
Жыццё нейкі фатум звязаў.
Усё гэта попел,
Усё гэта зман –
Багаты мы толькі
Убоствам сваім;
Жывем мы дарма,
Уміраем дарма,
Ды любім нядарам
І зелень і сінь.

## Пятае

О светлая мая,
Ліпнёвая мадонна,
Знімі мне з сэрца
Зімнюю трывогу,
Што нёс я за табою
Па святых загонах, –
Пайду у пошуках
Загубленага Бога.

Усё, усё, усё
У гарадах забыта,
І толькі куча грошай,
Сытага багацця –
Целу усё!
Душы – разбітае карыта;
Рэшткі сумлення –
Мае горкае распяцце.
Мадонна палявая,
Можа, я цыганю,
Мо я сягонняшні,
Ды ж гэта я ўчарашні.
Прыйшоў я крывадушна
У палявое ранне,
Каб ашукаць,
Каб зноў пакрыўдзіць
Цябе страшна,
Ды не цябе,
А толькі зноў сябе, як гіцаль,
Няшчыра, мабыць,
Я вярнуўся на загоны,
Хацеў у грудзі
Кулаком я пабажыцца,
Ды зазвінела там
Не сэрца, а чырвонец.

## Шостае

Вецер рубаў з пляча
Галовы каласам,
То зноў шаптаў, шаптаў
Малітвы сінія.
У полі ліпеньскім
Жыла-была краса,
Замкнутая лясной,
Далёкай лініяй.
О Божа, дай мне слоў,
Так простых, як ралля,
І навучы мяне
Шаленству ўсё любіць,
І дай мне жэст і густ
Гароха-караля,
Каб мог я стаць рабом
Валошак і рабін.

Па свеце доўга я
Сярод чужых-чужых
Шчасця шукаў,
Але толькі сябе губіў.
І ўрэшце ўсё знайшоў
На палявой мяжы.
А можа толькі сон
Я радасцю сасніў?

## Сёмае

Як слуп высакавольтны,
Я над светам,
Магу даць сілу
Або смерць прынесці.
Змясцілася у сэрцы
Уся планета,
І засталося месца
Шчэ для песні.
Адкуль такі я
І чаму так вырас,
З чым звязана
Трывожнасць парыванняў?
У сэрцы пасяліўся
Вечны вырай,
Імя якога простае –
КАХАННЕ!
Як колас я
Самотны пры дарозе,
І мяне зломіць
Найслабейшы вецер,
І першы сівер
Нашчэнт замарозіць,
І не пакіну следу
Я на свеце.
Чаму такая слабасць
Агарнула маю сілу
І мае прызванне?
Ды проста –
Я і песня патанулі
У вір бяздонны,
У КАХАННЕ.

## Восьмае

Над вадою схіліліся
Вербы-літанні.
Ціша ў цішы,
Гранне у гранні.
Усё сёння далёкае
Блізкім мне стала,
Цябе мне замала
І свету мне мала.
У вербах і ў нас
Тое ж самае гранне.
Над вадою схіліліся
Вербы-літанні.
Над вадою схіліліся
Вербы-літанні.
Вербы пачуццяў,
Вербы жаданняў –
Вербы сумоты
Глыбокай-глыбокай,
Вербы дзяўчыны
Маёй сінявокай.
Вербы, як крылы
Анёлаў журботных,
Вербы спакойнага
Вечнага лёту.
Над вадою схіліліся
Вербы-літанні,
Як паэтэсы
З лірычным прызнаннем,
І пішуць на люстры
Элегію-вечнасць,
Пішуць журбою
Сардэчнай-сардэчнай...
Над вадою схіліліся
Вербы-літанні –
Ціша у цішы,
Гранне у гранні.

*   *   *

Мы закаханыя,
Мы закаханыя,
Мы павіслі над светам,
Як Бах над арганамі.
Узняліся, як сонцы

Над ціхімі клёнамі.
Ты – сонца блакітнае,
Я – сонца зялёнае.
Узняліся, як купалы
Па-над царквою.
І ты са мною,
І я з табою;
Зверху раздзелены,
Знізу адзіны,
Як дзве старонкі
З кнігі Скарыны.
Стаім, як сосны
У варотах раю,
Вецер аблокі
Над намі хвалюе;
Мяне распранаеш
І я распранаю,
Мяне ты цалуеш
І я цалую.
Глядзіце ў сэрцы –
Хто мы такія.
Звінім, як Бетховены
Цалкам глухія,
Плывем у зорнасць
Месяцам-лектыкай:
Мы – метафізіка,
Мы – дыялектыка.

## Дзявятае

Спяшаўся, мабыць, час.
Таму я апаздаў.
І зроблена не ўсё
І зроблена не так.
Гарыць-гарыць
Далёкая звязда
І кліча-кліча ўдаль
Маёй надзеі птах.
А можа, гэта ўсё
Толькі ілжэ-хрысты –
Анёлы тых надзей,
Што праўдаю былі,
Ляжаць даўно ў гразі,
Як мёртвыя лісты,

Чакаючы слязы,
Чакаючы былін...
О не! Пакуль яшчэ
Рука пяро бярэ –
У сэрцы, значыць, ёсць
І песня, і сляза –
Дык трэба гаснуць мне
І трэба зноў гарэць,
І многа раз маўчаць,
І многа слоў сказаць.

## Дзясятае

Хай сто разоў
Яшчэ паўторыцца
І зман і праўда
Шчасця нашага.
Упасць, паніжыцца,
Укорыцца,
Жадаць прыгожага
І страшнага.
Няхай жыве
Сусвет узрушаны –
Буду шаптаць
Нават канаючы,
Толькі трывогай
Свет парушым мы,
Магічным пачуццём
Кахаючым.
Святла і цемры
Нам так хочацца,
Як есць і піць,
Кахаць і каяцца.
На мігі вечнасці
Растрочацца
І смерць у госці к нам
Спяшаецца.
Цалую я цябе,
Каханая,
Чужую ці сваю –
Не ведаю.
О, як глыбока
Я паранены
Усімі шчасцямі
І бедамі.

## Адзінаццатае

Пачынаюся там,
Дзе канчаецца поле,
Дзе вусны чароту
Цалуюцца з ветрам,
Пачынаюся там,
Дзе гранічыць тапола
Каронаю з небам
І карэннямі з нетрай.
Пачынаюся там,
Дзе канчаецца гоман;
Я яго прадаўжэннем
І радасным плачам.
Пачынаюся, дзе абрываецца
Промень
На далоні зямлі,
Як ад радасці здача.

## Дванаццатае

Жыццё сваё я вылепіў з падглебы
І выстругаў з сукастае калоды.
І выйшла ўсё не так, як трэба,
Нязгодна з добрым стылем, з добрай модай.
Ды так яно ужо і засталося;
Хаджу я між людзей, хаджу па свеце;
Шуміць-шуміць у галаве калоссе
І шастае у жылах п’яны вецер.
Людзі глядзяць – рэакцыі нязгодны:
– Глядзі, дзівак ідзе наш безразумны!
– Ды не, нармальны, з розумам свабодным,
У галаве з вясёла-сумным шумам.
Спытай мяне – за кім прызнаю рацыю:
За тым, хто бэсціць, ці за тым, хто славіць?
О, выбарісцін – вечнае распяцце;
Тут правы правы, тут і левы правы.

## Трынаццатае

Кастрычнік па палове –
Сіні і ружовы,
Святлом акружаны я,
Нібы анёл Божы.

Не хочацца сказаць
Найменшага паўслова –
Маўчаць,
Маўчаць,
Маўчаць
Прыемна і прыгожа.
Ісці па парку,
Па лістоце,
Па ўспамінах
І верыць, што далёкая
Цябе чакае;
Ружовы Божа! –
Адпусці мне сёння віны,
Так, як і я
Табе грахі ўсе адпускаю.
У дзень такі
Віноўных быць не можа ў свеце,
Усё акутана
Праменнасцю імглістай;
І людзі і багі
Пад дрэвамі, як дзеці,
І я,
Як быццам выпаў з рукава Прачыстай.

## Чатырнаццатае

Кахаць каханне і любіць любоў –
У сэрцы вечныя крыніцы.
Я вандраваў па свеце за табой
І меў я права памыліцца.
І памыляўся часта я не раз,
Ды з дна памылак выпрамляўся.
Крычаў я трыумфальнае "ура!"
І зноў, і зноў я памыляўся.
І так заўсёды, так усё жыццё,
То ўпадзем, то зноў устанем.
Каб толькі прынцыпу ніхто не сцёр:
Любіць любоў, кахаць каханне.

## Пятнаццатае

Сеньёра мілая,
На жаль, я не іспанец!
Пры поясе маім,
Як бачыш, няма шпагі,

На стадыёне я быка
Нічуць не раніў,
Натоўп мяне не славіў
За адвагу.
Хутчэй я Санча Пансам,
Чымсьці Дон Кіхотам.
Хаця мой рост
Для Санча Панса завысокі
І мілы мне
Севільскага раманса лёты,
І позірк Дульсінеі сінявокай,
І ветракі мне цалкам не чужыя,
І сніцца па начах мне
Гордая Ламанча,
У сне я абнімаю
Дульсінеі шыю –
Спрасоння бачу шыю
Асла Санча Панса!
Сеньёра мілая,
На жаль, я не іспанец,
Ды пры табе я,
Нібы пры паэме мотта;
Позірк вачэй тваіх,
Як меч, мне сэрца раніў
І стаў я з Санча Панса
Дон Кіхотам!

## Шаснаццатае

Я стараўся праславіць
І песню і грудзі.
Матэрыя жыць не умее
Без духа.
Жвавы праменьчык
Мамонта разбудзіць,
Калі пападзе яму ў голае вуха.
Свет прыгожы таму,
Што ён вечна разумны –
У кругазваротах,
У зімах і летах,
Жытнёвая мудрасць
Заснула у гумнах,
Прыйшоўшы з асенніх,
Ружовых палеткаў.

Нам з жанчынамі добра,
Нам з жанчынамі дрэнна.
І спяваем і плачам
Ад іхняй натуры.
Істота жыцця –
Любіць перамены,
Вянчаць са спакоем
Бунтарную буру.

* * *

Ці каханне было,
Ці мне толькі здалося?
Можа, так,
Можа, не.
Можа, ўзяў яго з кнігі.
А быць можа, яго
Нашаптала мне восень
Пад вячэрняй зялёнай
Зарою Нямігі?
Ці было, ці мо не,
Разбірацца не будзем.
Трэба цешыцца тым,
Калі сэрца квітнее.
Загляньце ў мяне,
Усе добрыя людзі,
Калі хочаце ўбачыць
Твар добрай надзеі.
Я прайшоўся па небе,
Абняўшыся з сонцам,
І вулканы ва мне,
І узрывы, і атам.
Небяспечны і добры я стаў,
Нібы стронцый.
Як жабрак, я убогі
І, як князь, я багаты.

## Сямнаццатае

Сказаў раз Геракліт,
Што нельга двойчы увайсці
У тую самую раку...
Я чую песню у трысці,
Бяру ваду ў руку.
І чую струмень

Вечнага ўцякання.
О праміnanne!
Галоўны атрыбут жыцця…
Стары я,
Прагну слоў дзіцяці…
Вада ўсё новая,
Вада ўсё новая…
Не праў быў Геракліт,
Бо рэчка вечная, як маці,
А я?
Часовы я!

## Васямнаццатае

Даруй!
Во не скажу разумнага нічога.
Сатлела ўсё
І спапялілася у горле.
Былі блакітныя
І мары і дарогі.
А сёння шлях мой
Чорны,
Чорны,
Чорны!
І чорны я,
Як ноч начэй у лістападах.
Бо не магу сказаць
Нікому болей – МАМА.
Была, ды адплыла далёка
Мая радасць.
І вокал сосны ў чэрні –
Сэрца майго до́мы.
Якое гора,
Не умею я маліцца,
Не знаю „Верую”
І слаба „Запаветы”.
І з-пад гары бяжыць
Жалобная крыніца
І гасне на вачах
Маёй надзеі лета.

## Дзевятнаццатае

Мяне так моцна падвяло “сягоння”,
Рашуча запярэчыла яно “учора”.
Бачу віноўніка, як на далоні,
Завецца Барскі – мой найгоршы вораг!

## Дваццатае

Усё тое, што чуў
У адлеглым дзяцінстве,
Ходзіць за мною,
Як песня, як рэха.
Бязмежнае неба
Таго мацярынства,
Якое страсала
Мне зоркі усмехаў.
Хто багаты нянавісцю –
Той найбяднейшы.
Праўду такую
Трымаю у жмені,
О, прыяцель ты мой!
О, мой вораг найзлейшы!
Прыміце мяне
У маім раздваенні.
Раз кахаем мы свет –
Іншы раз крытыкуем.
“Так” і “не”
Гэта сёстры сіямскія, хіба...
Нянавісць каханне
Заўжды атакуе –
Хоча спіхнуць
На каменні са скібы.

## Дваццаць першае

Прыйдзі сюды і цешся, як маленькі,
І зноў пабудзь дзянёк безнагавічным.
Ідзі ў пясок, без лесвіц, без ступенькаў,
Упіся небам і пітвом жывічным.
Усё абман, і ты абман таксама.
Хрысты адменены вісяць пад столлю.
Адкінь усё і зноў вучыся слова “мама”.
І тэксту “Верую” сумленна навучыся.

Прайдзі праз свет, вярніся да крыніцы;
Спалі масты, ідзі адной дарогай.
О, як жа многа трэба навучыцца,
Каб заявіць:
– Не ўмею я нічога!

## Дваццаць другое

З табой да сонца мы завандравалі,
Потым аддзельна ўпалі у бяздонне,
Дзе ты, дзе я, якія шыры-далі
Нас аддзяляюць і нас вабяць сёння?
І так заўсёды у жыцці бывае:
Супольнасці усе жывуць да часу.
Ці можна жыць у безупынных маях
І лётаць толькі на хрыбтах пегасаў?
Хто узляцеў, той і упасць павінен;
Трэба любіць і гордасць, і пакору.
Жылі з сабой мы – без сябе не згінем.
А калі ўдасца – зноў усё паўторым.

## Дваццаць трэцяе

Глядзі назад,
Во там, быць можа, тваё заўтра.
Зямная куля круглая –
І зноўку дойдзеш
Да тых мясцін,
Якія ты даўно пакінуў.
Убачыш, як высока
Вырас твой паступак;
Або са шчасцем
Ты пристанеш у тым месцы.
І не ўцячэш ніколі
Ад сябе самога,
Бо ўчора заўтра ёсць,
А заўтра часта – ўчора.

## Дваццаць чацвёртае

Халодны вецер бушаваў па лесе,
Нібы шаленец з брытвай у далонях,
Абрэзываў лісцё, таптаў ён песні,

Ганяў сябе на звар’яваных конях.
Далей, усё далей,
У глыб святыні –
Удар ў іканастасы безлітосны.
Ці згіне ўсё?
Ці, можа, ўсё не згіне?
Ці зерне захаваецца да вёснаў?
О, лесе вечны мой,
Ты – як надзея!
Вясна падорыць дрэвам зноў адзенне.
Перажывеш шаленцаў і зладзеяў
І заквітнееш новым адраджэннем.

## Дваццаць пятае

Штоночы сняцца тыя небасхілы,
Якія вабілі мяне калісьці.
А я ж даўно ўжо іх перакрочыў
І аглядаў дакладна з таго боку.
Вербы ляжаць, як божыя каровы,
У белым сене туманоў надрэчных;
Бязбожнік я – малюся да жывёлы,
Прашу, каб падзялілася спакоем.
Трывогу вам –
Хто буру сее недзе;
А цішыню –
Маім валам і вершам.
Жменю зямлі бяру
З туманнай глебы –
Буду ляпіць свой верш і чалавека.

## Дваццаць шостае

Ой, хіба, Маці Божая
У лузе раннім,
Калі ўсё ў прыродзе
Бралася пад восень
Як кужалем, імглою
Абвівала раны
Сыну свайму святому –
Ёзіку Хрыстосу.
А я у казкі, я у баснечкі
Не веру:
Адзін ёсць толькі бог –

Рэальнасці вымова.
Свет можна зважыць,
Падзяліць на часткі,
Змерыць,
Акрэсліць формулай
Дакладнай, навуковай.
Іду у глыб імглы,
Там недзе мая рэчка.
Траву зваліла з ног раса –
Усюды п’янасць.
А хто ж навукай
Мае сэрца скалечыў
І веру адабраў
У хараство падання?

## Дваццаць сёмае

Не пераймайся тым, што апаздаў,
Бо ўсё яшчэ, усё паспееш –
Дагнаць,
Зрабіць,
Пазычыць
І аддаць,
Спазніцца ды і паспяшыцца.
Паспееш сказаць праўду і салгаць,
І пакахаць і зненавідзець.
І чымсьці больш спяшаешся ў жыцці,
Дык тым хутчэй дагоніш смерць.

## Дваццаць восьмае

Вярба, як зялёная споведзь,
Аб грэшных учынках шаптала.
Я грэх разумею з паўслова,
Бо ў ім прыгажосці кавалак.
Туман, нібы сонны архангел,
Разлёгся ў атаве надрэчнай,
Таполі – высокія рангі –
Узлезлі па пояс у млечнасць.
Тут кожны – малы і вялікі,
Спеў лугу застыў у знямозе.
Без норм, і без форм, і без лікаў,
Айчына – салодкім гіпнозам.

## Дваццаць дзявятае

Банальная – непаўторная,
Гераічная – труслівая,
Шчырая – фальшывая,
Крыклівая – нямая,
Добрая – злая,
Журботная – вясёлая,
Мімалётная – вечная
Пані твая і мая –
СЛЯЗА.

## Трыццатае

На свеце многа ёсць
Шчаслівых і багатых,
Хай рэкі іх ліюцца мёдам.
Каб толькі ў стане
Быў сказаць табе:
– Мая ты!
І каб пачуў адказ твой:
– Назаўсёды.
Няхай жыве на свеце
Вечны-вечны жнівень,
Бо ён цябе прывёў пад дрэва.
Прыйшла ты да мяне –
Ільняная шчаслівасць,
З спакусным яблыкам,
Як Ева.
І не знайшоў ніяк я
Выходнай дарогі,
Пайшоў у райскую дуброву,
Мільгалі побач, як бярозы
Твае ногі
І клікаў грэх салодкім словам.
І так пайшло-пайшло
Жыццё мае на страту;
Пазбыўся дабравольна я свабоды.
Шапчу, шапчу, шапчу я:
– Мая ты!..
Хаця не чую:
– Назаўсёды.

## Трыццаць першае

Той, хто ботамі
Ў душу залазіў,
Пасля збудаваў капліцу
І па двух алтарах паставіў
Свае хадакі цяжкія.
І мала хто з пілігрымаў,
Слухаўшы звон падковак,
Ведаў, што гэта не песня
Альтруістычных анёлаў,
А рэха растоптаных душ.

## Трыццаць другое

Я да рос не дарос,
Я малы, я пануры.
Яны дзеці імглы і дажджу,
Дзеці буры.
У іх сон, у іх звон,
І царкоўны малебен.

## Трыццаць трэцяе

Белавежа – зялёны наркотык,
Без цябе не магу, не умею.
Каляровыя сны – сонца дотык,
Як паляна – аргомнасць надзеі.
І пайсці, і забыць, заблудзіцца,
Зразумець, што шчаслівы – бяздомны;
Пакланіцца таемным крыніцам,
І мурашкам, казяўкам і гномам.
Хай укорыцца дух перад Богам,
Які лесам завецца трывожным;
Пазволь, лесе, знайсці мне дарогу
Да сумненняў і да бездарожжаў.
Толькі грэшнасць і святасць ў абдымцы,
І чартоўскай анёльскасці лёты.
Ткуцца вершы на кожнай галінцы,
Белавежа – зялёны наркотык.

## Трыццаць чацвёртае

Хачу вясны,
Яшчэ адной вясны для ўсіх
З царом начных канцэртаў –
Салаўём.
Жыццё!
Ніколі ты не скажаш, што дасі:
Ці кінеш шчасце ў дом,
Ці спаліш дом.
Дык не кажы,
Але вядзі, вядзі удаль.
І не схаці нас
З радасці абкрасці;
Калі бяда,
Дык для усіх адна бяда,
А калі шчасце,
Дык мільёны шчасць.
Як можаш –
Замяні вялікіх у малых,
Багатым беднасць –
Бедным сродкі дай;
Бясслаўнасці на момант
Рысы дай хвалы,
Агнём хай станецца на міг
Вада.
Каб мы забылі,
Дзе тэатр і дзе жыццё,
Каб скарысталі з чарадзейных слоў
І з попелу стварылі новае быццё
З царом любві і згоды –
Салаўём.

## Трыццаць пятае

Араць, каб сеяць;
Сеяць, каб касіць;
Касіць, каб малаціць;
Малаціць, каб пячы;
Пячы, каб есці;
Есці, каб жыць;
Жыць, каб памерці.
Як гэта геніяльна
І як недарэчна...

## Трыццаць шостае

Няхай не гасне полымя надзеі,
Кастры распалім, косці кінем.
Вятры сумненні, як туман, развеюць
Удаль і ўшыр па ўсёй краіне.
Наш лёс ад нашых сэрц залежыць,
Не будзем мы прасіць у можных хлеба;
Глядзі: вось сосны – бронзавыя вежы
Цалуюць шчыра вусны небу.
Не, не пагарда – толькі годнасць
Ў адносінах да прынцыпаў і ісцін.
Малы, пакрыўджаны нам родны –
Звер, чалавек і сумны лісцік.
Каб толькі разам злучыць рукі
І неба у далонях песціць,
Аддаць яму сардэчны стукат
І ўзяць з яго блакітнасць песні.

## Трыццаць сёмае

Глядзі на лес – у ім браты і сёстры,
Сякеру кінь, застанься з песняй толькі,
І ад сябе ўцякай, не уцякай ад дрэва,
Давай другім ты цішыню і гоман.
На гэтым свеце ты за ўсіх ў адказе,
Ў табе жыве самоты мнагалюднасць
І сілы патрабуеш, моцы пераможнай,
Каб свет не знішчыць, толькі даць падмогу.
Жыві і радуйся чужою прыгажосцю,
І акрыляйся ты чыімсьці шчасцем.
Няма тваёй брыдоты, гора гіне,
Калі смяюцца клёны і бярозы.

## Трыццаць восьмае

Ад палёў мы сябе не аддзелім,
Не пакінем ніколі дубровы.
Лес начлегі лісцём нам пасцеле,
Закалыша лірычнаю мовай.
І мы станемся часткай пейзажу,
Цішынёй вераснёвай, чырвонай;
Стануць дрэвы, як верныя стражы
Над нашай шчаслівасцю соннай.

І згодна з сардэчнаю воляй
Жыццё каляровае ўладзім,
Не зрачэмся ніколі мы поля
І лесу ніколі не здрадзім.

## Трыццаць дзявятае

Лісіца рыжая
Прабегла праз пралеску.
Не, не лісіца, толькі восень.
Не іначай,
Падуе вецер,
Затанцуюць шумна бесы,
У вогненных хвастах
Лісцё заплача.
Яшчэ ў зямлі праменні,
Мабыць, не сканалі,
А цела глебы
Не памерла, не астыла;
І лета з восенню
На момант пастаялі,
І лета аддало
Сваёй сяброўцы сілу.
Лаўлю я цеплыню
Сваёй шчакой паўднёвай,
Ды халадок
Паўночную шчаку аценіць.
І цела маё дзеліцца
На дзве паловы –
Адной я летні,
А другой ужо асенні.
Зямля мая!
Не саромлюся дэкларацый,
І слоў не сорамна
Вялікіх і прыгожых;
Заўсёды мела ты
І будзеш мець ты рацыю.
А я?
Напэўна горшы,
Чымсьці збожжа.

## Саракавое

Паклон прыміце шчыры,
Травы лугавыя,
Ад брата вашага,
Журботнага, як восень.
Вядома, нашай песні
Сёння стаў чужы я,
Але нашу у сэрцы
Ваша адгалоссе.
Я сёння – ужо не я.
Зламаны, нібы скрыпка.
І толькі шчэпкі
Паразносіў недзе вецер.
Я прагну аднаго:
Няхай нясе пад ліпку –
Туды, адкуль пайшоў
Даўно на Божы свет.
Адну хай шчэпку кіне
У лугоў улонне.
Жаданняў большых
Я не маю, кажу чэсна,
Хай возьмуць яе травы
Ў цёплыя далоні –
Я стану вечным гоманам
Зялёнай песні.

## Сорак першае

Усе прэтэнзіі, усе хістанні,
Якія нас агортваюць штодзённа,
Ствараюць ўражанне псеўдазмагання,
Але за што і з кім – дык невядома.
У вечным крузе непаразуменняў
Шукаем рэчаў тых, што не згубілі;
Перадаюць ўзаемна пакаленні
Памылкі, называючы іх “крыллі”.
І вось на гэтых крыллях узлятаем,
Хватаючы надзею ў свае грудзі,
І разумеем, калі ападаем,
Што так, як папярэднікі, мы блудзім.

## Сорак другое

Мы, быццам два Хрысты,
Змаганыя раскошай,
З крыжа салодкага
Упаўшыя раптоўна,
Ляжым, як два кадзілы,
П’яныя ладанам,
Як хмельныя амфоры
Пасярод вінніцы.
Аддаць усё і ўзяць усё –
Вось наша мудрасць.
І не зайздросціць
Чаго-кольвек каму-кольвек,
Сусвет у нашых сэрцах
І мы ў сусвеце,
Мы для ўсіх і ўсе для нас,
Як хлеб і сонца;
Як п’яныя Хрысты,
Ляжым мы непрытомна,
Як два прыгожыя грахі
У арэолах,
Як два вяселлі,
На адным вяселлі сёння,
А заўтра можа быць патоп
І канец свету.

## Сорак трэцяе

Далёкі сіні лес,
Заснежанае поле,
Сялянскі сыне,
Не забудзь, не выракайся!
Няхай жывуць у дружбе
Радасці і болі.
Пры радасці сумуй,
Да суму усміхайся!
Гарэць зялёным полымем
Лугі былога,
Другіх багоў даў лёс
І загадаў маліцца.
Але не выракайся
Песеннага бога,
Які ёсць лесам,
Цалаваным бліскавіцай.

Ідзі мяжой,
Цябе чакае нечаканасць,
Валошкавы прастор
Бязмежны і бязрамны,
Далёкія лясы,
Як велічная драма.
О, лесе, дзякуй –
Я натрапіў на след мамы.

## Сорак чацвёртае

Ніякі Бог, ніякая ідэя
Нас з абавязку думаць не звальняе.
У кожным з нас ёсць частка Галілея,
Жывеш, калі яе ты развіваеш.
Ды ці гатоў прыняць з рукі жаўнера
Ты смерць, баронячы сваё маўчанне?
Ці мы жыцця сапраўды інжынеры?
Ці лес – канструктар нашых парыванняў?
Жыццё, як нітка, безупынна рвецца,
А мы яе як можам, так і вяжам.
Вялікі свеце, імпульс майго сэрца,
Я вязень твой і я таксама стража.

## Сорак пятае

Ці гэта была песня
Аб вятрах ліпнёвых,
Ці, можа, ода
Аб прывабнасці улоння?
І хто яе спяваў?
Багі салодкай мовай?
Ці прага, рэзбленая
Ў пальцах і далонях?
Ды гэта толькі інтуіцыі вядома –
Яна пранікла
Ўсе слаі маёй істоты;
Хадзілі веліканы
І хадзілі гномы,
Снавалі вакол нас
Сонцападобны мотак.
І нас уткалі
У арнамент, у меандры,
У звіткі дзіўныя,

І у вузлы загадак.
І нават я
Мячом магічным Аляксандра
Не змог расцяць вузлоў,
Не змог дайсці да ладу.
Згубілі ногі грунт,
І свет перакуліўся,
І чэрні апрануліся
Ў ружовы колер.
О, смутку мой!
Ты весяліся, весяліся,
Бо сёння зацяжарыла
Пшаніца ў полі.

## Сорак шостае

Малюся перад сном,
Каб заўтра сноў сваіх
Не прадаваць, як праўду,
Бо колькі ж міфаў шкодных
Нас штодзённа акружае.
Мінаюць дні,
Як рынгавыя раўнды,
У жорсткай барацьбе з сабой
Павольна я згараю,
А ў ночы чорныя я сню
Сны каляровыя, як краскі,
І уваходжу ў дні,
Разгублены у зманах,
І прадаю як факт праўдзівы
Свае казкі.
Ці абкрадаю я кагось,
Ці сам я абкрада ны?
Жыццё – туманнасць чорная
На змену з сіняй;
Калыша хваля нас
То радасці, то плачу.
Квітнеем, усміхаемся, жывем,
А сапраўды – дык гінем
Так ціха і павольна,
Што не чуем і не бачым.

* * *

Ой, хіба толькі Бог,
Які завецца – зелень,

Нам ад саміх сябе
Даць можа паратунак.
Віхрацца гарады,
Як чортава вяселле,
А мы сядзім шчаслівыя
Ў бетонных трунах.
І ўсе там нешта радзім,
Нешта адкрываем,
А ў нашых сэрцах
Замірае лугу песня.
Мы не жывем,
А толькі пражываем,
Забылі, як гудуць
Сакавікі прадвесня.
Братэрства, роўнасць...
Як ідэяў многа,
Ды ўсё пустое,
Толькі галаслоўнасць роляў...
Пакінь усё-усё,
Ідзі сустрэць Талстога,
Які штодзённа ходзіць
Паглядзець на поле.

## Сорак сёмае

Вышэй ужо ісці няма куды,
Бо вакол нас падняб'е і сузор'і,
Ты, як крыніца чыстае вады,
Як шчасце, за якім – абрыў і гора.
Як добра, што магу сказаць – мая
І верыць, што пацвердзіш маё слова;
А тваё цела, як любві маяк,
Заўсёды патануць у вір гатова.
У вір, які нас кінуў у пасцель;
Мы – дзве крыніцы у адзіным ложы,
Цалуе вочы чэрнь пасцелі нашай бель,
Не, не ратуй нас, грэшных, святы Божа!

## Сорак восьмае

Стрывай, мой гнеў,
Раз'юшанасць, успіся!
Трыумф ці паражэнне –
Усёроўна.

Вялікі я –
Дык прад малым спынюся;
Вялікі – дык скажу:
– З малым я роўны.
Нам вечна хочацца
Тых дасягненняў,
Што мы на іх
Ніяк не заслужылі;
І кожнае здабытае здзяйсненне –
Як бы зламаныя
Удачай крыллі.
І зноў наперад
Думкай выбягаем,
І помнікі будуем
Над гарою.
І бачым,
Калі мэты дасягаем,
Што новае па сутнасці –
Старое.

## Сорак дзявятае

О, зноў асот зацвіў у лузе дзікім,
Ён бескарысны, але як прыгожы:
Калючасць вуснаў у чырвоным крыку,
Ці ў песні, ці ў малітве гордай, можа.
О, праміманне часу, задуменне,
Хтосьці расцвіў, а хтосьці іншы вяне.
Чырвоны цвет і чорнае карэнне
Сабе у вочы паглядзець не ў стане.
Мы толькі звенні дыялектаў дзіўных,
Прычыны, скуткі, непаразуменні;
Прайшлі над светам чэрвеньскія ліўні,
І ўся зямля у палавым гарэнні.

## Пяцідзясятае

Мая ты. Ў гэтых словах вечнасць.
Свет запярэчыць ім не ў стане.
Непаслядоўнасць, супярэчнасць
У логіцы кахання.
Бывае сіняя зямля
І неба чорнае бывае,
Каханне мае краявід

І свае вербы-плачкі;
Свет цэлы ў добрым сэрца гаі –
Такі, як ёсць – без здачы.
Далоні дрэў
Зноў моляцца над рэчкай,
І зоркі падаюць на плечы хатам.
Бязмоўны свет, нямое чалавецтва
Гамоняць, што мая ты.

## Пяцьдзясят першае

Я толькі эпізод
Мізэрны, выпадковы
У гэтым краявідзе,
Гэтым наваколлі.
Усё закончана
І ўсё тут не гатова,
Свет вечных парадоксаў,
Квадратура кола.
Мне цяжка прызнавацца
Ў тым, што я нікчэмнасць;
Не ведаю, што я губляў
І што знаходзіў,
Ці ўсё ў жыцці
Было пачата надарэмна,
Ці ў барацьбе з сабой,
Ці мо з сабой у згодзе?
О, пошук мой!
Ты толькі на кані сумненняў
Праехаў шлях той,
Недарэчліва зблытаны,
Што не давёў мяне
Да праўд усіх карэнняў,
Але да горкіх дум
І да балючых ранаў.

## Пяцьдзясят другое

Ужо лук сонца нацягнуў цяціву –
І стрэлы промняў паляцелі на зямлю.
А май у бэзе фіялетавы, шчаслівы,
Духмянасць нашую даў роснаму галлю.
Вясна у травах буйных да каленяў,
Дык сёння ж не саромся самых чулых слоў.

Былі і промахі ў жыцці, былі здзяйсненні,
Жыццё да шчасця і да бедаў нас вяло.
Але зноў песня ў бэзавым гарэме,
Сто лісцяў чыстых ва ўладанні салаўя,
Дык вырываю ўсё начыста з сэрца стрэмя –
І сонцам – я, і бэзам – я, і песняй – я.

## Пяцьдзясят трэцяе

Калі ты скінеш
Вопратку манашую
І станеш у траве,
Як помнік шчасця,
Тады пад ліпаў чэрвеньскіх
Паддашамі
Адбудзем найсвяцейшае
Прычасце.
Грашы –
Каб мог у будучым сароміцца.
Грашы –
Каб мог у будучым успомніць;
Лісцё дрыжыць на дрэвах,
Нібы конніца,
Узброеная ў сонечныя промні.
І колькі песень у вясны за пазухай,
Столькі і шчасцяў,
Даных нам сягоння.
Глядзі, над лесам
Колерная радуга,
Маланкі кволыя
Ў тваіх далонях.

## Пяцьдзясят чацвёртае

У лесе дрэвы ўсе –
Браты і сёстры у каронах.
Іх хлеб –
Дажджы, зямля і промні.
А я, з сякерай, хто?
Я – Гітлер для сасонак.

## Пяцьдзясят пятае

Паэт – удовін сын –
Шчаслівым быць не можаш,
Ты горкі працаўнік,
А не герой удалы.
А верш пісаць –
Што доўга ў жорнах
Малоць збожжа;
Малоць, малоць, малоць
І мецьмукі ўсё мала.
І што б ты не сказаў,
Напэўна будзе блага,
Бо можна было б лепш –
Так многія дарадзяць,
І не заўсёды табе хопіць
Лот адвагі,
Каб братам праўды быць
І каб сябе не здрадзіць.
Народ твой сірата –
Не помніць маці мовы;
Ён думае, што жыць
З чужой душою можна;
Паэт, ты ўдовін сын!
Шукаеш зерня-слова.
А твой спакой завецца –
Вечная трывожнасць.

## Пяцьдзясят шостае

Мая паэзія – мой абавязак,
Перад зямлёй і перад родным словам.
Стаяць паэмы і бяроз і вязаў,
Складаюцца на вечную аснову.
Айчына – незаменная ніколі,
Найбольшы з скарбаў, дадзены нам лёсам.
Вялікаю паэзіяй ёсць поле
І чыстаю паэзіяй – нябёсы.
І кожны гук, аддадзены чужому,
Ёсць ранай у гаворцы маёй роднай;
Здаецца мне – не гаспадар я дома,
Здаецца мне, што я ўжо не свабодны.
Выходжу ў поле, кланяюся ніве,
Словы шапчу аб шчасці чалавечым
І толькі ў мове роднай я шчаслівы,
І толькі ў мове роднай буду вечны.

## Пяцьдзясят сёмае

Зноў паяўляюцца
На памяці экране
Мае каровы
Ў шкодзе па-за гумнам,
І, як Хрыстос узрадаваны,
Майскі ранак,
І ветру сіні сцяг
Па-над дзяцінствам шумным.
Калі паспела прамінуць?
– Я пратэстую!
Дзяцінства, маладосць
І гордыя завеі?
Кастрычнікі мае
У Бандарах сумуюць,
Рыхтуюць вопратку
Для пані-безнадзеі.
І ўсё бліжэй, усё бліжэй
Я чую крокі,
Трывогі набліжаюцца
Шырокай лавай.
О, свеце мой прыгожы,
Свеце мой шырокі,
Не кіну я цябе кахаць
Па смерці нават.

## Пяцьдзясят восьмае

Пустапарожніх слоў
Нам хочацца, як хлеба.
А змест, чаму не ён
Лунае ў слове сцягам?
О, мова родная! –
Ты веснавое неба.
І без цябе сусвет заўсёды
Горкай смагай.
Камедыянтаў многа
І сярод паэтаў,
Не зразумець ім праўды
Асноўнай і простай,
Што адначасна мы
Пясчынкі і планеты,
І даўжнікі перад Айчынай,
І пагостам.

I ўсё жыццё
Павінна быць нам цяжка толькі.
Жыць лёгка –
Значыць подла жыць на свеце гэтым.
Шукаць заўжды
У форме й змесце толку,
Быць чалавекам –
I праз гэта стаць паэтам.

## Пяцьдзясят дзявятае

Мы толькі больш-менш і жывем і кахаем,
Мы толькі прыблізна імкнемся да шчасця,
А лёс нас адзначыць і лёс пакарае,
У сэрцы запаліць і выгасіць страсці.
Галовы ў аблоках, а ногі на глебе,
Рукамі шукаем далоняў прыязных.
Надзеі мы хочам і прагнем мы хлеба,
А лёс нам прыносіць бяду пераважна.
Ды, можа, ёсць шчасце у вечных трывогах,
У горкіх памылках, балючых упадках...
I можаш сказаць ты, стаміўшысь з дарогі:
Які свет прыгожы, хаця лёс мой гадкі.

## Шасцідзясятае

“Чалавек – гучыць горда”,
Чалавек – гучыць подла.
Дзве праўды?
Дзве маны?
Дзве паўпраўды?
Адна праўда?
Адна мана?

## Шэсцьдзясят першае

О, краю мой,
Твая зямля і твае травы,
I промняў дотык
Былі заўсёды,
Як салодкая страва,
Нібы наркотык.
I ў далёкім Лондане –

У гордым месце,
І ў Парыжы
Чакаў я ад цябе
Заўжды салодкай весці,
Быў сэрцам бліжай;
І з Эйфля вежы
Паглядаў у засмучэнні
На усход ружовы.
І маці бачыў
Прад іконай на каленях
З свяшчэнным словам.
І толькі у табе,
Зялёны родны краю,
Мой лёс і шчасце.
І толькі у табе
Я горача жадаю –
Жыць і прапасці.

## Шэсцьдзясят другое

Настаўніца жыцця – літаратура –
Сама усё жыццё ёсць вучаніцай.
І каб разбіць ідыятызму муры,
Трэба вучыць і ўсё жыццё вучыцца.
Слова ёсць сцягам, слова вострай зброяй,
І перамогай або паражэннем.
Ідуць праз свет і трусы і героі,
Упэўненасць, абняўшыся з сумненнем.
Ты, верш, сінтэз узлёту і упадку,
З табою мне і соладка і горка.
Да шчасця ты маёю хісткай кладкай
І лесвіцай да блуднай маёй зоркі.

## Шэсцьдзясят трэцяе

Мы прагнем перамог,
Яны для нас – праграма,
Запас аліўкавых галінак
Мы стварылі.
О, як жа лёгка жыць,
Калі жывеш з падманам!
І цяжка узлятаць
На непадманных крылах.
Нашы настальгіі за тым,

Што прамінула,
Пошук крыніц,
Даўно прасохлых ад прагрэсаў –
У стане выклікаць
Эмоцыю і чуласць
І узбудзіць любоў
Да гімнаў траў і лесу.
Хаця практычным справам
Чуласць не паможа,
А можа, часта перашкодзіць
Гэтым справам –
Не можам не кахаць
Поля з бацькоўскім збожжам
І песні жаўрукоў –
Нашай духоўнай стравы.

## Шэсцьдзясят чацвёртае

Ад змроку да зары
І ад зары да змроку
Думаць аб раллі,
І пра яе спяваць,
І працаваць на ёй,
І браць з яе жыццё,
І ёй жыццё даваць –
Вось гэткі быў
Кадэкс маральны
Майго бацькі.
Не многае з яго
Я захаваў,
Каб збудаваць
Сваю праграму,
Пазбаўленую глебы.

## Шэсцьдзясят пятае

Усе мы з праўдамі,
Усе з манамі ходзім.
Адным мы хвалімся,
Другое мы хаваем;
А лёс, нібы сляпых,
За нос па свеце водзіць –
Дзе завядзе?
Ніколі ў жыцці не знаем.

Жыццё – дзівосным
Лабірынтам і загадкай,
Штохвіля павароты,
Тупікі штохвіля;
Шліфуем мы свае
Наровы і павадкі,
Чаканім беззаганныя
У форме стылі.
І нам здаецца:
Ўсё даведзена да лоску,
Непажаданае схавана
У глыбінях.
Ды не заліць маны
Ні фарбаю, ні воскам,
Яна ад хітрасці
Ніколі не загіне.

## Шэсцьдзесят шостае

Каханне для цябе
Я называў:
Вечнасцю,
Абавязкам,
Правам.
Нечаканасць забіла
"Вечнасць",
"Абавязак",
"Права".
Хаджу я па зямлі
З пачуццём
Бязвіннасці,
Свабоды.
У маіх анкетах напісана:
Сумленны,
Верны,
Справядлівы,
Маральны.

## Шэсцьдзясят сёмае

У праўды ўчарашнія сёння не веру,
Дашчэнту разбітыя формы, структуры.
Далоў усе метрыкі, нормы, размеры,
Далоў трафарэтную монакультуру!

А верш рыфмаваны –
Ці ж ён не шаблонны?
А рытміка ў вершы
Не ёсць перажытак?
Жытнёвыя, вечныя ў полі паклоны,
Нязменная песня бандарскага жыта.
І я знармаваны, як колас адвечны,
З зямлі вырастаю у вечнае неба.
О, як традыцыйная ў вершы сардэчнасць,
О, колькі ж у вершы бандарскага хлеба!

## Шэсцьдзясят восьмае

Узлёт і упадак –
Нераздзельнасць.
Чым вышэй,
Тым ніжэй.
Такі закон прыцяжэння.
Нягледзячы
На фінальныя крахі,
Заўсёды будзем імкнуцца
Да ўзлёту.

## Шэсцьдзясят дзявятае

Пакуль не ўсе яшчэ
Лісты зляцелі з дрэваў,
Пакуль яшчэ надзея
Гнездзіцца у травах,
Думаць не трэба
Ні аб правых, ні аб левых,
Аб паражэннях горкіх,
Аб салодкіх славах,
А толькі аб траве
І аб птушыных шчасцях,
Аб тым, што у зямлі
І ў сэрцы ёсць супольным.
Каб свету не дзяліць
На дозы і на часці
І жыць са светам так,
Як роўны жыве з роўным.
Выйсці у луг
І пакланіцца травам нізка,
Пасля узняцца

Да лугоў праднебных, сініх.
І быць заўсёды пры Айчыне
Сваёй блізка.
І паўтараць яе святое
Заўжды імя.

## Сямідзясятае

Жыццё,
Ты хісткая над трасціною кладка,
Мне праз цябе ісці
З трывогай і адвагай.
Ды не прайсці ніяк
Выключна гладка,
Заўжды пад пурпуровым,
Пераможным сцягам.
Не абысціся нам
Без горкіх паражэнняў,
І не пазбегчы у жыцці
Балючых крахаў,
Вораг заўсёды прагне
Кінуць на калені
І схоча павучыць
Маліцца богу-страху.
Мы часта ходзім
У атакі памылкова,
Вяртаемся са скальпамі
На сваіх піках.
Потым на ўласных
Не знаходзім мы галовах
Скуры, сарванай сваёй
Страсцю дзікай.

## Семдзясят першае

Ва ўсім усумніцца можна:
У найсвяцейшых праўдах,
У ідэях і прынцыпах.
Можна верыць,
Можна не верыць.
Нельга толькі сумнявацца
У смяротнасці жыцця
І несмяротнасці смерці.

## Семдзясят другое

Як красавік над Нарваю паселіцца
І кветкі з зоркамі пачнуць спаборнічаць,
Дык у Варшаве сэрца не вяселіцца
І ў Бандары ўсё болей яно горнецца.
Мо хтось, браты, жыве з вас ватыканамі,
Ерусалімамі ці капітолямі,
А я ўстаю з праменнямі зараннымі,
Не расстаюся з нарвянскаю роляю.
Нерухамею ціха над чаротамі,
П’янею ад уздохаў свайго ворыва.
І з мукаю глыбокай і з турботаю
Чакаю крыку эмігранта-жорава.

## Семдзясят трэцяе

Ад перамогі толькі
І да перамогі
Ісці ўсё жыццё
Не дай вялікі Божа!
Калоды час ад часу
Кідай мне пад ногі
І насылай ты на мяне
Людзей варожых!
Бо жыць заўсёды
Толькі ў самазахапленні
І верыць у сваю
Выключна дасканаласць –
Значыць павольна траціць
Людскую бясцэннасць
І танным станавіцца,
Нарцызам без мала.
Не слухай падхалімаў –
Ясная удача,
Бо яд кіпіць
У іх салодкіх словах.
Не забывай, што найбліжэй
Ад смеху – плачы,
А час – суддзя
І непадкупны і суровы.

## Семдзясят чацвёртае

Разамлела поле
Пад промнямі,
Карміцелька-карова
Ператварала зелень травы
У бель малака,
Звінела каса,
Смяялася дзіця,
Спявала птушка,
Маліўся колас.
Было так, як тады,
Калі Бог быў чалавекам,
А чалавек – Богам.

## Семдзясят пятае

Сны па Айчыне каляровай
І балючай,
Мастацтва –
Крык адчаю ці здзіўленне.
Якія ізмы да канца замучаць
І кінуць дарагую на калені...
О, сонечны мой край,
Я без цябе прапашчы.
Іконы Полацка
Мне часта сняцца.
Навошта свет
Вясёлы і гуляшчы,
Калі з табой
Я не магу звязацца.
Падляшша,
Белавежа,
Бандары над рэчкай.
Тут мае рымы і афіны.
І кожны крок у свет –
Мая асечка
І перамога –
Крык мой да Айчыны.

## Семдзясят шостае

Ты – чыё сэрца
З’ела абыякавасць,
Ты – чый розум
Зняволіла рэнегацтва,

Ты – чые вусны
Гатовы апляваць
Усё роднае,
Успомні часам,
Што меў маці.
А калі не ўспомніш –
Забудзь,
Што быў чалавекам.

## Семдзясят сёмае

Вучыцца ўсё жыццё
Пашаны чужых думак.
Ідэя іншага,
Так як мая – святая.
І маё „я” няхай не робіць
Многа шуму,
Яно малое, раз яго
Не заўважаюць.
Зверхважнасць смешыць нас
Таксама, як зверхсціпласць;
Хтось нас штодзённа
Сваёй гордасцю тыраніць,
А іншаму усмешка,
Нібы ліст прыліпла
Да твару, што другім
І што сабе ўсё маніць.
Праўдзівых у ілгунстве,
Гучна фальшазвонных
Многа – не дзесь далёка,
Але разам з намі.
У іх дамах вісяць
Фальшывыя іконы,
І перад імі штодзень
Б’юць яны ілбамі.

## Семдзясят восьмае

Калі ўцякаю з гарадоў,
Не значыць гэта,
Што мне чужы Міцкевіч
І Шапэн з Лазенак,
Парыж дзівосны,
Казка чэшскай Прагі,

Санкт-Пецярбург
І Гайнаўка з ліцэем.
Адкінуць горад
І спаліць музеі,
І любавацца
Вечнай прыгажосцю лугу –
Таго схацець,
Дык значыць быць шаленцам
Або лунацікам,
На галаву упаўшым з неба.
Трыумф будоўляў –
Паражэнне поля,
Гэта бясспрэчны факт,
Непадважальны,
Але ніхто цвярозы
Мне не перашкодзіць
Быць п'яным энтузіястам
Пушчы.

## Семдзясят дзявятае

Нас свет яшчэ не раз
І прыме і адкіне,
Ён быў заўсёды ў пачуццях
Пераменны.
Істотнае,
Каб захаваць свой твар і імя
І незалежнасць
Сваіх думак суверэнных.
Зняволенне душы
Найгоршае у свеце,
Не важна, пад якім
Яно бытуе сцягам.
Ідзе за ліхалеццем ліхалецце,
Імкнецца выганяць
З людской душы адвагу.
Здрадзіць сабе –
Здрада найгоршая з магчымых;
Маўчанне – саўдзельніцтва
Ў злачынстве;
Нельга ісці праз свет
З закрытымі вачыма,
Калі не хочаш жыць
Ганебна на каленях.

## Васьмідзясятае

Ісці праз свет
І ўсё здзіўляцца безупынна
І прыгажосці,
І брыдоце,
І парадоксам;
Усведамляць,
Што прыгажосць,
            брыдота,
            парадоксы
Складаюцца
Не толькі на істоту свету,
Але таксама
І на нашу сутнасць.

## Восемдзесят першае

Баронячы сябе –
Баронім свет вялікі.
Прабач, бацькоўскі край,
Шырокі і прыгожы,
Не раз я там маўчаў,
Дзе трэба было крыкам
Рэагаваць на тое,
Што табе варожа.
Прабач і ты мне, Слова,
З матчыных глыбіняў
За абыякавасць маю,
За малавернасць.
Ці згінем мы з табою, браце,
Ці не згінем,
Ці твар сваёй зямлі
Да сонца мы павернем?
Баронячы сябе,
Нянавісці не сеем;
Няхай жыве сусвет
Святочны, як нядзеля.
Хто хоча жыць,
Той заўжды мусіць мець надзею.
І адпачне ён так,
Як сам сабе пасцеле.

## Восемдзесят другое

Без міфаў нельга жыць
Не толькі грэкам.
Таемнае – гэта для нас святое.
Матэрыя – істота чалавека?
Але істота і ў душы і ў мроі.
Мы для сябе –
Найбольшая з загадак,
Не зглыбім да канца
Сваіх карэнняў,
На найпрасцейшае
Не маем рады;
Жыццё як танец
І святла і ценю.
А там, дзе існасці
Не разумеем, –
Ствараем міфаў
Прыгажосць і веліч;
Жыццё-быццё –
Таемная падзея,
Быт – будзень наш
І міф – наша нядзеля.

## Восемдзесят трэцяе

Максіме Багдановіч,
Тваёй любві мне трэба!
Да пагарджанай
Існасці – Айчыны,
Гарэння,
Роспачнай надзеі,
Веры у сэнс
Шалёнага парыву.
Твая агонія,
Як полымя у храме;
Я, грэшны пілігрым,
Прыходжу да Твайго агню –
Ён мой маяк,
          Мае цяпло,
          Мой сэнс,
Начны матыль мой каляровы.
Пры ім хачу я адрадзіцца,
Або згарэць –
Каб стаць гарачым прахам,
Пад слова роднае навозам.

## Восемдзесят чацвёртае

З табой, Айчына,
Расстаюся штодзень
І зноў вяртаюся
Ў твае парогі;
Чаго шукаю –
Мнагагрэшнай ліры
Ці святога Бога?
Ці слоў сваіх,
Пагубленых па межах,
Закінутых у гнёзды
Ластавак-цыганак?
Не, не забыць цябе!
Ты – шчасцем
І ты – ранай.

* * *

Свет, у якім я жыву,
Супрацьстаўны да таго свету,
Які жыве ўва мне.
Калізія – тая струна,
Што безупынна вяжа
І развязвае гэтыя светы.
Так і жыву,
Звязваючы і развязваючы
Супрацьстаўныя субстанцыі.

* * *

Адхіленцы –
Хай будуць,
Адшчапенцы –
Хай будуць,
І шукальнікі праўд,
І юды з грашыма.
Прыгажосць – мнагаграннасць,
Хараство часта з бруду,
Як ластавак гнёзды
Пад хатай Максіма.
Уся бяда ў монастылі
І ў монаідэі,
Што мысль заганяе
У шаблонныя рамкі.
Прэч монапрароцтвы
Ад Монамайсея,
Хай жыве сто багоў,

Хай жыве сто напрамкаў.
Я і сам супярэчнасць,
Я і сам неадзінасць,
І align="">рознага ў розныя хвілі
Мне хочацца.
І прашу за сябе,
І малю за краіну:
Дайце свабодна нам выбраць
Прарочыцу.

## Восемдзесят пятае

Не забівай!
А хто сказаў – не важна:
Евангеліст
Ці нехта з партыі рабочай?
І не крадзі!
Маці шануй і Праўду!
Такія прынцыпы святыя –
Для тых, хто верыць,
І для атэістаў.
Сумленне – гэта Бог,
Якому мусім пакланяцца
Ад часу незалежна
І ад палітык.

## Восемдзесят шостае

Беглі вятры
Кульгаючы па травах,
А хмары, нібы
Чорныя крэмені,
Красалі бліскавіцы
Недзе справа,
Шпурлялі на зямлю
Заўзятай жменяй.
Мы везлі з бацькам
Першы воз пшаніцы.
Было пароўну:
Страшна і прыгожа.
Як кужаль, рвалі
Неба бліскавіцы,
Сарваўшыся з рук
Д'яблавых ці Божых.

Забыта многа –
Добрага і злога,
А гэтай буры
Памяць не пакіне.
Неба парванае
Па-над дарогай,
Маё дзяцінства
У бацькавай краіне.

## Восемдзесят сёмае

Каб не забыць,
Каб не згубіць,
Не здрадзіць,
Каб пранясці,
Каб разбудзіць,
Каб захаваць,
З зямлёю роднаю
У вечным ладзе,
Далёкае кахаць,
Забытае кахаць,
І каб заўсёды мог
З сумленнем чыстым
Сказаць Айчыне:
– Я тваім сынам верным быў.
Хаця не стаў
Бетховенам ці Лістам,
Але табе іграў
На струнах сваіх жыл.
Каб не забыць
І не аддаць нікому
Слядоў матчыных ног
І слоў з легенд старых,
Не дапусціць чужых
З агнём дадому,
А шчырым сябрам
Насцеж дзверы ўсе адкрыць.

## Восемдзесят восьмае

Мой тапаліны свет
Наднарвянскі далёкі,
Ты ўсё бліжэй, бліжэй,
А я ўсё адлеглей.
Я дзякую табе,

Бо ты мне даў шыракасць
І здольнасць захаваць гады,
Якія збеглі.
Адкрыты на вятры,
На сонца і на слоты,
Ты не баішся канфрантацый,
Ні змагання,
Горда стаіш над светам,
Як касцельны готык,
Як чулы дом пяшчот птушыных
І каханняў.
Я ад цябе магу браць прыклад
І вучыцца
Адкрытасці, пашаны
Да ўсяго на свеце.
Як трэба, дык кахаць,
А калі трэба – біцца
І ў гербе мець, як ты,
Заўсёды сонца й вецер.

* * *

І чым я большы,
Тым Айчыны меншай трэба,
Мне хопіць агарод,
Бацькоўскі панадворак
І той кусок
Прыязнага калісьці неба,
Які прыкрыў далоняй сіняй
Маё ўчора.
А рэшта?
Рэшта ўсё
Па сутнасці нічога:
Працяг памылак горкіх
І надзей наіўных.
Адрокшыся ад слоў
І сноў свайго былога,
Я мушу стаць для свету
Толькі чымсьці дзіўным.
І ўсё лягчэй
І ўсё цяжэй мне жыць на свеце,
Мінулае,
Як незаплачаны рахунак.
Але, на шчасце,
Мой бандарскі вецер
Разварушыць ў маім вершы
Соннасць струнаў.

## Восемдзесят дзявятае

Жыць з галавой –
Нярэдка значыць – безгалова.
Славіцца лістом –
Бывае – значыць – падаць стромка.
Да смерці і жыцця
Аднолькава гатовы
Усе на свет прыйшоўшыя
Патомкі.
Мы мудрагелім часта
Слоўнаю кадрыллю.
Сябе не ў стане,
А другіх мы павучаем.
Ласты свае
Звышгорда называем – крыллі,
Паўзунства лётам буйным
Называем.
Але бывае так,
Што нас захопіць промень,
Ці кветачка ў траве
Нашу душу зняволіць,
Тады бязвольна
Нам складаюцца далоні
І пальцы моляцца
Да хараства і волі.

## Дзевяностае

З-пад снегу зноў
Прабілася крыніца.
Вясна лёд цвёрды
Праламала ножкай.
Адвечны струмень,
Дай вады напіцца!
Благаславі
На новую дарожку!
Ужо я бачу
Вокам уяўлення
Дыван травы,
Уквечаны дажджамі,
І буйнае маёвае квітненне,
Што ў песню зменіць
Нават і каменне.
Я цешуся, вясна,

Твайму звароту.
Так, як калісьці,
У дзяцінстве даўнім;
Хачу стаяць
З адкрытым доўга ротам
І слухаць трэлі
Салаўёў-баянаў.

## Дзевяноста першае

Я ведаю ўсё,
Не ведаю нічога.
Я ў партыях усіх
І я не прыналежны.
Сёння і заўтра
Узнімаюцца з былога.
Жыццё – адвечны доўг
І разам з ім належнасць.
Вось так усё жыццё.
Гаворым мы баналы –
У вершах рыфмаваных
І ў словах простых:
Дзяцінства, маладосць
І вельмі хутка сталасць.
І старасць горкая –
Фінал і боль узросту.
Паэзія – мой кветнік слоў,
Магільнік думак;
Раджуся многа раз
І многа раз я гіну;
Плывуць праз сэрца мне
Лясы з зялёным шумам.

## Дзевяноста другое

Я промнем сонечным
Прыпаяны да глебы,
І светлага і чорнага
Ва мне пароўну.
Няхай заўсёды
Ў маім сэрцы
Жыве неба.
І хай зямля струменіцца
У жылах кроўных.

А вецер майскі быў
І братам мне і Богам.
Да сёння з ім спрачаюся,
Яму малюся.
О, браце-Божа!
Хай усе мае дарогі
Вядуць мяне заўжды
Да роднай Беларусі.

## Дзевяноста трэцяе

У гэтым свеце –
Дзе я найдзіўнейшы –
Як бы мастак,
Як бы паяц,
Як бы лунатык,
Не разумеем часта
Рэчаў найпрасцейшых,
Здабыткаў не умеем аддзяляць
Ад стратаў.
Нібы дарослыя,
А сапраўды дык дзеці.
Гуляем смешна,
А ў істоце, небяспечна.
Адкрыццяў больш
І больш таемнага на свеце,
Святло і цемра
У сужонстве вечным.
Жывецца добра,
Дык прыдумваем мы мукі,
Бяжым мы за сабой
Сваім уласным следам,
І кожны родзіцца
На свет не толькі ўнукам,
Але пры гэтым родзіцца
Таксама дзедам.

## Дзевяноста чацвёртае

Малюся,
Каб ніколі ў жыцці нядоўгім
Не мець пытанняў менш,
Чымсьці адказаў бравых.
Быць вучнем!

Гэта толькі маім вечным доўгам.
Настаўнікам! –
Хай гэта будзе толькі правам.
Сумненне творчае –
Мой абавязак вечны;
Братэрства з тым,
Хто заблудзіў на свеце гэтым.
Гарыць у белым полымі
Дарогі млечнай
І зманлівасць,
І ісціна душы паэта.
Дзе ёсць трыумф улады,
Там ёсць смерць пачуццяў,
Хістаемся, што браць –
Пачуцці ці уладу?
Жыццё,
Ты акружаеш нас
Такою муццю,
Што часта мы кіруемся
Інстынктам стада.

## Дзевяноста пятае

А мне да брамаў што,
Ці вострых ці тупых?
З крыжамі ці мо без? –
Няхай і так і гэтак.
Каб толькі быў адвечны
Радасці трыпціх.
Адслона – я,
Адслона – бор,
Адслона – лета.
Я брамаў не стаўляў,
Ды адкрываць хацеў
Для вязняў, для вясны
І для птушыных хораў.
І часта сніцца мне
Лютовая мяцель,
Айчына сніцца мне –
Перастаю быць хворы.
І карагод дзяўчат
Над Нарваю-ракой,
І песні, як багі,
Напоўнены дабрэчай;
Здаецца, маладосць –

Кранаю я рукой,
А гэта брама могілак,
Мой чалавеча.

## Дзевяноста шостае

Я – прыгавораны.
Паўторнага суда не будзе,
Недзе кусок маёй зямлі,
Сляза на воку блізкіх,
Прыгожае жыццё –
У вечнай прыгажосці, у людзях.
І небяспекі побыту,
Загадкі, беды, слізкасць,
Мы не ідзем праз побыт
Так, як ходзіць сонца ў небе.
На нашым шляху
Вечна дрэмле гора.
І упадкі вечна.
Шчаслівы той,
Хто праз усё жыццё дружыўся з хлебам
І быў сярод сяброў
І шанаваны і бяспечны.
Але і той, хто жыў
З трывогай, горам часта,
На нашай кулі ёсць ён
Неабходнай антытэзай.
Жыццё нам ставіць на дарогах
Безупынна пасткі,
А мы у іх нярэдка
Цалкам дабравольна лезем.

## Дзевяноста сёмае

Да эпохі бацькоў
Мы з пагардай заўсёды.
Да эпохі дзядоў –
З сентыментам і культам.
Мо ў гэтым закон непазбежны
Ці мода,
Што ў пачуццях мы скачам,
Як з катапульты.
Мы заўсёды пратэстам
Да непасрэдных,
Прадаўжэннем таго,

Што даўно прамінула;
Часта ганім бацькоў
За духоўную беднасць,
А дзядам аддаем
І пашану, і чуласць.
Так, як мы да бацькоў,
Так да нас нашы дзеці –
Няўдзячнасць людская
Падае сабе рукі.
Ды чаго сумаваць!
Так заўсёды на свеце –
Сыны нас асудзяць,
Апраўдаюць унукі.

## Дзевяноста восьмае

Касу мне пакляпаць
І даць палетак спелы,
А вецер хай развесіць
Жаўрукоў малітвы –
І ўжо тады я Рус,
Так як належыць – Белы,
Гатоў да радаснай
І бескрывавай бітвы.
Гару я ў ліпені
І спею, нібы колас.
О, радаснасць сялянская,
Ці хто нас пойме?
Звініць каса
І хлебам пахне яе голас,
Я сёння цар зямлі,
Я сёння з Богам роўны.
І Бог – мая каса,
І Богам – мая радасць.
І Богам – хлеб і боль,
І Бог – мая надзея!
Смяротныя узмахі –
У жыццё ўклады.
Забіць я жыта ў праве,
Бо яго пасеяў.
І што мне лонданы,
І што парыжы сёння,
Калі я ў збажыне,
Як сонца у аблоках,

Свет цэлы нераздзельны
У маіх далонях,
А я стваральнікам яго
І я – яго прарокам.

## Дзевяноста дзявятае

Няхай згарыць,
Развеецца і згіне
Пагарда да свайго,
Нізкапаклонства да чужога.
Мізэрнага – да берагоў
У дарагой Айчыне,
Прадажнага не мала,
Сервілізму многа.
У нас на вуліцы
І за абедам
Казанні не свае
І павучэнні нам чужыя.
Наколькі ж было б менш
У хатах і у сэрцах бедаў,
Калі б урэшце ўцямілі,
Хто мы такія!
Калі б з душы
Прагналі рэнегацтва,
І ўсе самаабманы,
І самапрымусы.
Прыгожы стаў бы свет,
З'яднаны воляй брацкай –
І роўныя з усімі ў свеце
Беларусы.

## Сотае

Яно злажылася
На тое, што ёсць цэласць.
Тое, у што я
Так балюча доўга верыў.
З чаго яно?
Са сноў маіх.
Са слоў
І з цела –
Сто паэтычных,
Сто лірычных звышматэрый.

Ідуць гады
Зусім іначай, чым мы хочам,
Непажаданай з’явай –
Часу стрымгаловасць.
Глядзім на свет,
Шырока адкрываем вочы.
Бо ўсё у ім завершана
І не гатова.
Каханне? – Так!
Прырода? – Так!
Я апрабую.
А сэнс жыцця?
І так, і не – сказаць належыць.
Адно па сутнасці ў жыцці
Мяне ратуе –
Цяпло матчыных рук –
Адвечнай Белавежы.
Хто я ў жыцці?
Я толькі пералётны жораў!
На крыллях песні ўзлячу
І не вярнуся!
Хай рэха сто разоў
Сэнс маіх слоў паўторыць –
Аб тым, што жыў я
І сканаў на Беларусі.

## Эпілог

Мне сніцца малінавы звон,
Валошкавасць зорак высокіх.
Мой край – гэта ява і сон,
Ён блізкі мне так, як далёкі!
У сэрцы кадэкс сцерагу:
Айчыны мне мала і мала,
Я сёння памерці магу,
Каб заўтра яна існавала!

## Са штотыднёвіка “Ніва”, 1956

### Веснавы паток

Выйдзі з хаты, дружа, паглядзі навокал,
На свае прасторы, палі і лясы.
Ці ж не рвецца сэрца, нібы ясны сокал,
Паляцець, дзе цуды робяцца людзьмі.

Паглядзі, як вецер пшаніцу калыша,
Жыта каласістае хвалямі плыве.
Брыгадзір спулдзельчы ў газету піша,
Што ў дастатку кожны спулдзельца жыве.

Прабалела сэрца, душа ажывела,
Загоіліс раны нашае зямлі.
І работа ўсюды хутка закіпела,
Усюды засвяцілі ясныя агні.

Дзе былі руіны, бур’яном абросшыя,
Дзе чарнелі спаленыя навокал сады,
Дзе былі дарогі ўсе травой паросшыя,
Новыя растуць там ужо гарады.

Усё расце на радасць, расце на пацеху,
І шуміць работа, як вясной паток.
Я скажу папросту, маю ў тым уцеху:
Так расце каханы горад Беласток.

Аляксандар Баршчэўскі
вёска Бандары
Беластоцкага павету

# З альманаха “Мой родны кут”, 1963

## Мой родны кут

Дзе ні зірні, куды ні глянь –
Кругом лясы, кругом палі.
Мой родны кут, мая зямля
Сярод узвышшаў і далін.

Шумяць легендай векавой
Нам белавежскія лясы.
Зямля мая, кут родны мой,
Я твой адданы, верны сын!

Люблю я роднае сяло,
Дзе праплылі дзяцінства дні.
Ад маці тут вучыўся слоў,
У казкі дзіўны свет пранік.

За годам год няспынна йдзе,
Змяняецца ў жыцці усё.
Тут з паншчынай змагаўся дзед
Пад Каліноўскім Кастусём.

І бацька тут у грозны дзень
Закрыў грудзьмі кусок зямлі.
У змрок магіл, у вечны цень
Паляк і беларус ляглі.

Жыццё сягоння расцвіло
Не толькі кветкамі шыпшын,
Але электрыкай-святлом
І новым гоманам машын.

Мая зямля, мой родны кут,
Да сонца зыркага плывеш.
З няволі, з ланцугоў, з пакут
Цябе увольніў чалавек.

## Мікола

Вандруе Мікола мо месяц, мо болей
У пошуках хлеба, у пошуках долі.
Прыйшлося пакінуць парог сваёй хаты
І ласкі прасіць у чужых, у багатых.
Не лёгка знайсці нават хлеба кавалак,
Калі расплылося няшчасце навалай,
Калі разлілося, як бурнае мора,
Па вёсках, па хатах сярдзітае гора.
Гора паўзе па краіне шырокай.
Ад Бельска да Нарвы, да сцен Беластока,
Над Нарваю сіняй, над Свіслаччу ціхай,
Над Бугам задуманым гойсае ліха.
У хатах пануе бяда і нястачы,
У хатах і дзеці, і маці – ўсе плачуць.
У маці забралі апошняга сына,
Упала краіна, збяднела краіна.
Усім слёз хапае, ды хлеба бракуе.
Нават зязюля аб лепшым не куе.
Забралі усмешку, далі слёзы дзецям,
Пасеялі слёзы па ўсім белым свеце.
Са слёз вырастаюць тут крыўды каменні –
Бяда іх рассыпала шчодраю жменяй.
З каменняў злажылі да пана дарогу
Для ўсіх пагарджаных, забітых, убогіх.
І нельга другую дарогу пракласці,
Адзін ляжыць шлях ад бяды да няшчасця,
Адна ёсць дарога ад вёскі да пана,
У вёсцы няшчасце – у пана таксама,
Бо панскія грошы, бо панскія віны
З крывавага поту і слёз селяніна.

* * *

Вось гэтай няшчаснай адзінай дарогай
З сэрцам, напоўненым злою трывогай,
Ішоў праз лясы, праз балоты і сёлы
Да панскага замка хлапец наш Мікола.
Ішоў ён пад борам вясёлым і звонным,
Ішоў адзінокі, галодны, бяздомны,
Ішоў пад пушчаным развеяным шумам,
Ішоў поўны смутку і горычных думак.
І раптам на горцы ў заходзячым сонцы
Падняўся і бліснуў халодным чырвонцам
Замак грамадны – высокія вежы,
Вышэй найвышэйшых дубоў Белавежы.

Затрымаўся хлопчык, застыў у здзіўленні:
Царква не царква, можа стаць на калені?
Мо абысці яе лукам-абходам,
Мо там прытаілася злая прыгода?
Ды гора ніколі бяды не баіцца,
Змогуць заўсёды з сабой згаварыцца,
Не страшны пажары галодным ды голым,
Таму і пакрочыў у замак Мікола.
Падходзіць, а сэрца у дзіўным дрыжэнні
Не ведае, чым яго замак той стрэне.
Што скажуць – ці прымуць, ці, можа, прагоняць,
Ці зноў прад ім лягуць дарогі і гоні?
Жыццё, едзеш ты на таемных калёсах,
Ніхто не прадбачыць загадкавых лёсаў.
Хлапца нехта зочыў і браму шырока
Гайдук адчыніў ды, міргаючы вокам,
Спытаўся Міколу:
                              – Чаго, хлопец, хочаш?
Мікола, хоць слёзы напоўнілі вочы,
Спакойна сказаў:
– Я работу шукаю.
– Чаго ты шукаеш, дык я добра знаю,
Ды справа у тым, што рабіць ты ўмееш?
Без гэтага месца, браток, не сагрэеш.
– Каровы папасвіць ці кошычак сплесці
І ўмею спяваць я тутэйшыя песні... –
Дадаў наш Мікола паціху, нясмела,
А ў духу падумаў:
– Умею я мала...
– Ну, хопіць, я, братка, таксама з убогіх
І ведаю роспач бясхлебнай дарогі.
Бяды тут хапае па самыя вушы,
Тут, братка, няшчасце нам голавы сушыць,
Ды пробуй, валі да шаноўнага пана
І ведай – аддай яму знакі пашаны.
Мікола пайшоў па шырокім падворку
Сустрэў яго пёс сваёй злою гаворкай,
Да зараз замоўк, хвост яму завіхаўся,
Панюхаў паветра, падбег, аблізаўся,
Прыпомніў Міколу сабаку у хаце,
Павёў да палаца, як добры прыяцель.
Падняўся Мікола на беленькі ганак –
І тут нечакана наткнуўся на пана.
Глядзіць і маўчыць, затрымаліся словы.
Ні знакаў пашаны, ні гутаркі-мовы.

– Скінь шапку, халопе, стань за парогам,
Тады і звяртайся да пана ды Бога.
Кажы, чаго хочаш, малы валацуга,
Такіх найчасцей сустракаю я пугай.
Сказаў тут Мікола, чаго ён шукае,
Сказаў, што вандруе галодны па краю,
Сказаў, што гатоў працаваць так, як трэба,
За самы начлег і кавалачак хлеба.
– Застанься, пакіну для спробы і годзе,
Каровы па лузе папасвіш ты штодзень.

Застаўся Мікола, гаруе, працуе,
Нярэдка цівун яму плечы лупцуе.
Упарта, заціснуўшы зубы ад злосці,
Працуе хлапец па паноў-ягамосцяў,
Ды плача паціху ў бяссонныя ночы
Над горам, над ліхам, над доляй сірочай.
З сэрцам балючым ад панскага глуму
Ліст да матулі Мікола абдумаў.

**Ліст да матулі**

Я, матуля, жывы і здаровы
І здароўя табе зычу сёння.
Чужыя пасу я каровы
На панскіх разлогах і гонях.
Ці я вырвуся з гэтай няволі,
Каб, матуля, цябе зноў убачыць?
Мабыць, больш не вярнуся ніколі
Таму і сумую і плачу.
Не ўбачу цябе я, быць можа,
Бо жыву я далёка-далёка –
На ўскраіне пушчы прыгожай,
Над ракою шырокай-шырокай.
Жывём мы пад панам суровым,
Людзей у маёнтку ёсць многа.
Ад адных чую добрыя словы,
Другія частуюць батогам.
Ці здаровы наш Бобік-сабака?
Ці расце ля парога бяроза?
Як успомню, мне хочацца плакаць,
І сумую, і коцяцца слёзы.
Чакай маю вестачку з лістам,
Папрашу аднаго дабрадзея,
Каб мой ліст напісаў ён на чыста,
Бо пісаць я пакуль што не ўмею.

* * *

Аднойчы ў маёнтку настала здарэнне,
Якое хлапца прывяло ў абурэнне.
Загінула панская сука, Агата,
Пакінула сука малыя шчаняты.
Уважна пан выслухаў доктарскай рады,
Ды выслаў ганцоў ён у сёлы з загадам:
– Знайдзіце жанчыну да заўтра, да ранку,
Грудзьмі хай пракорміць шчаняты сялянка.
І сілай прывезлі вясковую маці,
Забралі яе ад малога дзіцяці.
Сказалі:
– Ты будзеш, сялянка, багатай,
Як выкарміш пану малыя шчаняты.
Маліла жанчына, лягаючы крыжам:
– Пусціце да сына, пусціце да мужа,
Не рвіце матчынае беднае сэрца,
Як не – дык забіце, замучце да смерці.
Глядзеў пан сурова без слоў злітавання,
Сказаў гайдукам:
– Выканайце заданне!
Прынеслі шчаняты і мучылі маці,
Яна цівуноў абсыпала пракляццем,
І двор праклінала, і выкляла пана
І панскае сэрца, і розум паганы.
Не стрымала сэрца Міколы малога.
Як ночка лягла на палі і разлогі,
Ціхутка падкраўся да панскіх пакояў,
Намацаў шчанятаў дрыжачай рукою,
І так, як учора дакладна абдумаў,
Душыў ён шчанятаў без лішняга шуму.
Апошняе толькі ў руках запішчэла –
І зараз грамада служак наляцела.
Звязалі Міколу, панеслі да пана
І білі яго да бялюткага рана.
І кінулі ў склеп, у сляпыя падвалы,
Каб сілы не стала і волі не стала.
І дні праплывалі, адходзілі тыдні,
А голад і холад. Праклятыя злыдні
Нязменна стаялі ля хлопца малога.
Нарэшце свабода прыйшла з-за парога.
Хлапца адпусцілі зноў пасвіць каровы
На лузе шырокім ля шумнай дубровы.
Здароўе вярнулася ў збітыя грудзі,
Надзея забытая песні зноў будзіць,

П’е сонца Мікола, п’е радасны вецер
І цешыцца вельмі, што ходзіць па свеце,
Ходзіць, як птушка пад радасным гаем,
Ходзіць і сонейку песню спявае.

**Песня**

Я вітаю штодзень
Сонца свежае,
Яно з лесу ідзе
Па бязмежжынах.
Сыпле промені нам
Серабрыстыя,
І лугам і лясам –
Промні чыстыя,
І вітае калоссе
Гамоннае,
Калі ў небе калёсіць
Нястомнае.
Я люблю, як ідзе
Па-над сёламі
І крычу “Добры дзень!”
Сонцу кволаму.

* * *

Дзяцінства прайшло, хоць не знікла галеча,
Юнацтва ўрасло у Міколавы плечы.
Гады праляцелі, як стрэлы з батога,
Ніхто не забыў у маёнтку былога –
Шчаняты жывуць у людскіх успамінах.
Захоплены людзі Міколавым чынам,
Яго паважаюць у кожненькай хаце,
Ён беднаму заўжды праўдзівы прыяцель.
Калі ў каго гора, калі ў каго радасць –
Заўсёды Міколу паслухаць ён рады.
Хлапец ён высокі, хлапец ён румяны,
Шырокі плячыма і стройны ён станам.
Даўно развітаўся з пастушаю пугай,
Зараз ён лесу зялёнага другам:
Палюе у лесе ад самага рана,
І звера, і птушак прыносіць ён пану.
Памёр стары пан, ды бяда не сканала –
Няшчасце у хатах нязменна стаяла
І гора хадзіла ад змроку да змроку
З шырока адкрытым пражэрлівым зрокам.
Крыўды і смутку ніхто не развеяў –

У сэрцах сялянскіх канала надзея.
Аднойчы ўвесь замак напоўніўся смехам,
Бо князь-ваявода у госці прыехаў.
Пакоі набраклі і спевам, і крыкам,
Дзень цэлы і ноччу іграла музыка.
Круціліся пары упарта, заўзята,
Смяяліся звонка ў пакоях дзяўчаты,
Пілі за здароўе вяльможнага пана,
А вечарам змрочным у ціхіх альтанах
Шчаслівыя пары шапталі з надзеяй
І слухалі спеў салаўіны ў алеях.
Паны балявалі мо тыдзень, мо болей,
Гулялі, пілі і спявалі уволю.
Нарэшце у князя паўстала жаданне –
Схацелася пану пачаць паляванне.
Сядлалі найлепшыя панскія коні,
Сабралі сялян да лясное пагоні
І ў поўным рыштунку з гатовою зброяй
Паехалі ў лес, што сінеў за гарою,
І тут для Міколы зусім нечакана
Клікнулі яго да гасціўшага пана.
І князь адазваўся з аблічам суровым:
– Ці праўда, што ты разгінаеш падковы?
Ці праўда, што моцны настолькі, халопе?
Прызнацца, не бачыў такіх я ў Еўропе.
Мікола сказаў князю цвёрда і смела:
– Падкову зламлю, калі прыйдзе да дзела.
– Ну, добра, дык разам са мною ты станеш
І будзеш стаяць ты у час палявання.
– Дзіўна, – князь цягне з прыкінутым жалем,
Чаму ж ты без стрэльбы, мне ж тут казалі,
Што ты самы добры ў лясах паляўнічы,
Што пану прыносіш ты многа здабычы?
– Як госці палююць, мы зброі не маем,
Такі ёсць загад, а чаму мы не знаем, –
Мікола сказаў князю гэтыя словы –
І тут абарвалася іхня размова.

* * *

Па лесе пайшла чарада наганятых.
Крычалі і білі у бубны заўзята,
Ад крокаў паходных, ад гэткай навалы
І сосны, і елкі, і пушча стагнала.
Паны разышліся з сялянскай аховай
І зброяй да стрэлу заўсёды гатовай.

Ля сосен, ля клёнаў, ля букаў і еляў,
Чакаючы звера, трывожна заселі.
Мікола паслушны быў выбару князя –
Засеў ля ступеняў зялёнага вяза.
Зірнуў ён навокал і тут жа угледзеў,
Як проста з гушчару імчацца мядзведзі,
Два бурых мядзведзі з уздыбленай шэрсцю,
Гатовы да бойкі, гатовы да смерці.
І раптам адзін павярнуў у сасоннік,
Нырнуў палымяны і знік у бяздонні
Галінак хваёвых, густых і духмяных.
А другі нацэліўся проста у пана.
Князь з тварам, напоўненым жахам трывогі,
Глядзеў на Міколу, шукаў дапамогі.
– Страляй жа! – Мікола крычаў яму ў вуха.
Хоць раз у жыцці мужыка пан паслухаў.
І куля, са стрэльбы праарваўшыся цеснай,
Запела у лесе трывожную песню,
Запела мядзведзю ля самага вуха
І знікла у пушчы галоднаю мухай.
Мядзведзь прыпадняўся на заднія ногі
І рушыў спакойна без знаку трывогі.
Магло выдавацца, што йдзе на спатканне
З самым прыязным і добрым жаданнем.
Князь ведаў – не зможа ён сілы мядзведжай.
Праклаў паляванне ў лясах Белавежы,
Паспеў развітацца ўжо з жонкай, і з сынам,
Хоць цэласць здарэння трывала хвіліну.
Мядзведзь, падышоўшы, згарнуў князя жменяй,
І князь паслухмяна упаў на калені,
Згубіў князь надзею і страціў ён веру,
А у моманце гэтым Міколы сякера
Прабегла маланкай з высока да нізу
І джалам сталёвым застрала у мызе.
Мядзведзь акрунуўся, як быццам бы п’яны,
І мёртвы зваліўся ля самага пана.
Сышліся паны, падаспелі сяляне,
Паслухалі князя, ці мае дыханне,
Ды пырснулі князю вадою ў вочы.
І ён зноў вярнуўся з нябыту і ночы,
Устаў непрытомна, усіх ён агледзеў,
З разваленым лобам убачыў мядзведзя,
Прыпомніў прыгоду, пазбыўся трывогі,
Ды кажа:
– Я ўдзячны сягоння не Богу,

Не вострасці кулі, не цэльнасці зброі,
А толькі адвазе і сіле героя.
Хлопец вясковы, панове, паверце,
Вырваў мяне сёння з пацiскаў смерці.
У ім аб'яднаны і смеласць і вопыт,
Такіх не сустрэнеце ў сэрцы Еўропы.
Князь да Міколы прыязна падходзіць,
Ды кажа:
– Да смерці з табою я ў згодзе.
Цябе я акрыю багаццем і славай,
Жаданні твае ёсць законам і правам.
Кажы тут адкрыта, чаго ты жадаеш,
І я прысягаю – усё атрымаеш.
Мікола узрушаны, з тварам суровым
Спытаўся:
– Ці стрымаеш, княжа, ты слова?
Пан кажа:
– Клянуся я гонарам маці,
Што споўню, як не – хай я стану пракляццем.
Калі б не датрымаў прысягі свяшчэннай,
Хай будзе праклята маё пакаленне.
– Дык добра, – Мікола звярнуўся да пана, –
Хачу, каб ты волю даў сёння сялянам,
Каб кожны зямлю атрымаў назаўсёды,
Каб наша краіна пазнала свабоду.
Князь глянуў Міколу у вочы са злосцю
І выцадзіў словы:
– Здурэў, ягамосцю.
Дам волю усім у краіне сялянам,
Тады жа і пан перастане быць панам.
Не, братка, раскошы такой не ужычу,
Каб панства зраўнялася з хамствам мужычым.
Хочаш падзякі? – Даю ўзнагароду.
Хочаш быць вольным? – Пушчу на свабоду.
Хочаш мець грошы? – Дам многа дукатаў.
Хочаш каханне? – Мець будзеш дзяўчаты.
Мікола з узнятай рукою ў адказе
Цвёрда сказаў, падышоўшы да князя:
– Не буду я вольны ў нявольнай краіне,
Не буду багаты у беднай краіне,
Не буду шчаслівы ў няшчаснай краіне,
Не буду вясёлы у сумнай краіне.
Я прагну народу свабоды, багацця,
Як ты не дасі, дык кідаю пракляцце.
Паны закрычалі:

– Вяжыце бандыта! –
І рынулі злоснаю кучаю збітай,
Раптоўна падбеглі кругом, наляцелі,
Схапілі Міколу, звязаць захацелі.
Відаць, быў на гэта Мікола гатовы,
Забылі паны, што ламаў ён падковы.
Узняўся над імі, як бура, Мікола,
Узняўся, як вецер, узняўся, як волат.
Лягалі паны ад магутных удараў,
Віліся пад вязам, крывавілі твары.
– Страляйце, панове, – князь блізкі быў плачу, –
Тут скочыў раптоўна Мікола з-пад вяза
На спіну кабылы, належачай князю,
А князю шаленства напоўніла вочы.
Ён воўкам здзічэлым да шляхты падскочыў.
– Страляйце! – князь крыкнуў трагічна, рашуча,
І вохкнула пушча уздыхам балючым,
Грымнулі стрэлы над лесам зялёным
Ды позна – Мікола імчаў, як шалёны.
На дзве сотні крокаў патрапіў адбіцца,
Нырнуў у сасоннік і знік бліскавіцай.
Князь крыкнуў:
– Прайгралі мы бітву з халопам,
Устыд перад цэлай культурнай Еўропай.
Гэта здарэнне нас многаму вучыць –
Злавіць трэба гіцля, да смерці замучыць.

* * *

І вось, такім чынам, зусім нечакана
Стаў наш Мікола цяпер партызанам.
Дарог абышоў у жыцці сваім многа,
Ды ўрэшце ўзышоў на змагання дарогу.
Ды ведаў ён добра, што сам не дасць рады.
З панам змагацца на смерць, не на жарты
Патрапіць выключна грамада упартых,
Хлопцаў здаровых, хлопцаў рашучых,
Хлопцаў, якія адчулі балюча
На душах уласных вяроўкі няволі,
Хлопцаў гатовых змагацца за волю.
І ціха-ціхутка у цёмныя ночы,
Калі нават псы за прахожым не сочаць,
Калі сон калыша і птушку, і звера,
Калі засынае пад соснамі верас,
Мікола вандруе па вёсках да рання,
Мікола рыхтуе людзей да паўстання.

Складае у думках дакладныя планы,
Як знішчыць маёнтак праклятага пана.
Стварыў ён адозву да жыхараў вёсак
Аб тым, як пазбыцца батрацкага лёсу.

**Адозва**

Чаму гора запаўняе хаты?
Чаму гора заліло дарогі?
Чаму мала на зямлі багатых?
Чаму многа на зямлі убогіх?
Чаму сына страціла матуля?
Чаму нівы бедныя калоссем?
Чаму носім зрэбныя кашулі?
Чаму сум у сэрцах носім?
Чаму песня горыччу набракла?
Чаму кнут гуляе ў сёлах?
Чаму нам зямлі забракла?
Чаму ў хатах страшыць голад?
Чаму з нашай крыўды-працы,
Што дала панам чырвонцы,
Вежы узнялі палацы,
Працягнуліся да сонца?..

* * *

Досыць, кажам цвёрда сёння,
Досыць крыўды, досыць здзекаў.
Лёс бярэм мы у далоні,
Каб даць волю чалавеку.
Дык да зброі ўсе на пана –
Сёлам трэба лепшай долі.
Лепш загінуць у змаганні,
Чым жыць вечна у няволі.

Сяляне па хатах лістоўкі насілі
І тых, хто пісьменны, упарта прасілі,
Каб раз яшчэ змест быў прачытан уголас.
І слухалі вёскі, і слухалі сёлы.
І “праўда” казалі, ды “праўда няйначай”,
І душы гарэлі ім палам юначым,
Спадалі з прыгнечаных сэрцаў аковы,
І многія з іх да змагання гатовы.
Пакінулі хаты, пакінулі гора –
Пайшлі да Міколы, да сіняга бору.
Прыйшлі беларусы, прыйшлі і палякі,
Бо боль іх супольны і лёс іх аднакі.

Вораг супольны прынёс ім кайданы,
Таму трэба разам ісці супраць пана.
Сабралася хлопцаў адважных дружына,
Гатовых змагацца за лёс селяніна.
Абдумалі справу, зламжылі прысягу
На вернасць, на гонар, на чэсць і адвагу,
Яшчэ прысягнулі любоў да свабоды,
Любоў да Айчыны, любоў да народа
І цвёрда сказалі:
– Да бою гатовы,
За справу святую паложым галовы!
Світала, і птушкі прамені разнеслі,
А хлопцы у пушчы як грымнулі песняй.
Песня ляцела над борам, над гаем,
Песня ляцела над змучаным краем.

**Песня паўстанцаў**

Жылі мы ў нядолі, ў няволі,
Жылі мы ў няшчасцях і муках,
Ды жыць мы не хочам так болей –
Са зброяй паднімем мы рукі.
Жылі мы у цемры стагоддзі,
Кроў наша на панскіх чырвонцах,
Панам сёння кажам мы: “Годзе!”,
Пралoжым дарогу да сонца,
За крыўду усіх пакаленняў,
За нашу няволю і працу
Прыносім братам вызваленне
І полымя смерці палацам.

* * *

Прайшоў нейкі час у напрузе чакання.
Усіх аб’яднала адзінасць жадання.
Дружына штодзённа, штоночы чакала
Загаду ісці на паноў-феадалаў.
І ўрэшце прыйшоў вераснёвы той вечар,
Што сыпаў дрыжачыя зоркі на плечы.
Выйшаў Мікола да цэлай дружыны
Ды кажа:
– Нас кліча сягоння краіна,
Сягоння мы пойдзем ваеннай дарогай.
Жадаю і вам і сабе перамогі.
Чакае нас смерць або слава сягоння.
У гэтую ноч бярэм лёс у далоні,
Сягоння паходню свабоды узнімем

І волі агонь панясем па Айчыне.
Сягоння наступіць чын здаўна чаканы,
Сягоння вайною ідзем супраць пана.
Пайшлі яны пушчай, пайшлі цераз межы,
Ім песню спявалі лясы Белавежы,
Іх сэрцы гарэлі ад крыўды-няволі,
Іх сэрцы ішлі у змаганне за волю.
Была абарона ў палацы магнацкім,
Ды хлопцы Міколы прабіліся хвацка,
Звязалі ахову, усіх прыганятых,
Знайшлі у пакоях таксама магната.
– Паліце палац! – загадаў тут Мікола.
І белы агеньчык патокам вясёлым
Пабег цераз ганак, пабег у пакоі,
І пырснулі іскры вясёлкавым роем.
– Ратунку! – пан крыкнуў. – Не дайце растраце.
Там футры, там грошы, карціны, багацце.
І вырваўся з рук ён раз'юшаным зверам,
Ды кінуўся проста ў гарашчыя дзверы.
І больш не вярнуўся, знайшоў там магілу,
Столь палымяная пана прыкрыла.
А зарыва біла у неба высока,
Сялянства будзіла ў вёсках далёкіх.
І полымя вецер шырока развеяў,
Радзілася ў душах сялянскіх надзея:
Аб волі, аб долі, так доўгачаканых,
Аб быце свабодным без лютага пана.
Сяляне сціскалі Міколу далоню,
Дружына сядала на панскія коні.
Мікола пад'ехаў канём да сялянаў,
Ды кажа:
– Браты, мы пакончылі з панам.
Даволі зазналі мы гора і мукі,
Сягоння даем мы вам волю у рукі.
Бярыце багацце, дзяліце загоны,
Бярыце свабоду без слёз і прыгону.
– Уррра! – расплылося маланкай па гонях.
Мікола звярнуўся да хлопцаў на конях:
– Да новых палацаў! Да новых пажараў!
У імя свабоды, дружына наперад!!!

# З “Беларускага календара на 1963 год”

## Сустрэча з Новым годам

Зноў год стары пералістаў
Нам каляндарныя старонкі.
Закрыта кніга хараства
Пад гул зімовай песні звонкай.

І Новы год пакінуў след
На шыбе ад сваіх далоняў.
Імчыць зіма у белы свет,
Імчыць на палахлівых конях.

Не быў шчаслівым кожны з нас
У годзе пройдзеным, мінулым.
Ды верма, што ідзе вясна
Са шчасцем у далонях чулых.

І кожны з дараў веснавых
Збудуе дом сваіх жаданняў.
Таўсцейшы колас палявы
Сустрэне жнівеньскае ранне.

І болей школ, і больш дзяцей,
І закаханых больш на сцежках.
Буйней краіна расцвіце
Ад працы нашай і усмешкі.

Настануць добрыя гады
І будзе светлым Новы год.
Шчаслівым можна быць тады,
Калі шчаслівым ёсць народ!

Жыццё да шчасця нас вядзе
У свеце мірным, свеце згодным.
Жыццё спявае кожны дзень
Надзею-песню ў мове роднай.

# З “Беларускага календара на 1964 год”

## Ліса, Казёл і Мядзведзь

**(байка)**

Казёл стварыў дзіцячы сад
і акружыў яго бяспекай:
прытульна, цёпла, лад
і добрая апека.
Не сад – а рай,
жыві і не ўмірай.
Шчаслівыя звяры
прыносяць малышоў,
а самі... мык дамоў!
Дзяцей штогоду прыбывала,
і цяжкавата казлу стала.
Пайшоў ён да мядзведзя-князя
ды і кажа:
– Работы маю вельмі многа,
дай, княжа, дапамогу.
І адказаў яму мядзведзь:
– Я знаў, казёл,
што прыйдзеш ты сюды
ды вер, няма бяды:
даўно я кадры падгатовіў,
лісу табе прышлю.
Хай фарміруе дзецям душы,
хай цаліну ўзрушыць.
– А ці ліса не скрывадушыць? –
спытаў казёл наіўна.
– Ты, што – не верыш
маладому пакаленню?
Ліса расла на слушных ідэалах,
свядомай стала, –
сказаў мядзведзь з запалам.
І гэтым засцярогі
ў душы казла развеяў.

*    *    *

Прыйшла ліса ў дзіцячы сад.
Язык яе памазан мёдам:
Хваліць казла і хваліць лад і згоду.
– Ну і парадак, ну і дом,
бытуем на свабодзе, –
ліса пяе і прад казлом
на задніх лапках ходзіць.
Ды ўрэшце ўбачыла ліса,
што у казла вялікая зарплата
ды слава на дадатак.
Падумала яна:
“Дык гэта ж ненармальнасць,
тут справу трэба перагледзець”
і паімчала да мядзведзя.
– Ратуйце душы, князь!
Казёл псуе нам дзеці:
ён дрэнным прыкладам ім свеціць!
Мядзведзь здзівіўся дужа.
– Ты што у галаву ўзяла?
Чаго ты хочаш ад казла?
Ён за дзяцей стаіць гарой,
дом збудаваў…
На маю думку, ён – герой,
знаток дзіцячых спраў.
Ліса сядзела моўчкі,
пасля сказала цвёрда:
– Казёл герой, ды не станоўчы,
фаталістычны, у духі верыць,
у ведзьму, чорта, у кашчэя,
новых ідэй не разумее,
адкінуў дыялектыку на чыста
і дзецям даў дазвол на твіста,
не прызнае навукі афіцыйнай
ён – рэакцыйны!
Ідэаліст у сваіх марах.
Ён ужо дваццаць год таму
адкінуў вашу, князь, навуку,
ён палітычна блізарукі.
– Прабач, мой дружа малады, –
мядзведзь сказаў, –
тады яшчэ маёй навукі не было.
Дык як жа мог казёл ёй запярэчыць?
Ліса дала тут крок назад,
ды зноў адкрыла роцік:

– Ну… так, але калі б яна была
казёл напэўна быў бы проціў!
Мядзведзь устаў і зноўку сеў.
– Ну што ж, – сказаў лісе, –
папробуем спытаць дзяцей,
што яны скажуць пра казла.
– Нашто, – здзівілася ліса, –
малыя, як дурныя.
– Тады, – задумаўся мядзведзь, –
спытаемся старых звяроў.
– Нашто, – адрэзала ліса, –
старыя, як малыя.
Вы мне паверце, князь,
казла нам трэба зняць,
даю вам слова.
Ліса дамоў пайшла
ізноў прыйшла нанова,
ды лгала раз за разам,
пераканала ўрэшце князя.
Знялі казла.
Лісу паставілі кіраўніком –
і пасмутнеў дзіцячы дом.
Год прайшоў у цішы.
Ліса зірнула вышай,
Пайшла да караля-ільва
Сказала:
што мядзведзь свіння,
што пустазвонны,
што шаблонны,
што дагматычны,
што склератычны,
што пагарджае каралём-ільвом,
што трэба яго ў шыю гнаць
і з княжага паста ізняць.

* * *

Далей гісторыі лісы слядзіць не будзем.
Няхай другія сочаць ды і судзяць.
Мне толькі думка ў галаву прыйшла
(Яе і майце на прыкмеце):
Ліса страляе у казла
і заадно ў мядзведзя меціць.

## Дыялогі 1946 года

Прышлі цёмнай ноччу асенняй
ціхутка пастукалі ў дзверы.
– Хто там? – спытаўся прыглушаны голас.
– Захварэў падарожны, ратуйце!
Скрыпнулі дзверы і выйшла белая постаць.
– Дзе ён? Давайце ў хату.
– Ляжыць на пругмені, змарыў нас,
не можам прынесці.
– Пойдзем ды разам прыцягнем.
Прайшлі дваццаць крокаў.
Святло батарэйкі ўпілося у твар селяніна
І голас прышэльца урэзаўся ў сэрца;
– Гэта ты – Раманчук Аляксандар?
– Я... не свяціць, дзе хворы?
– Гэта ты – сакратар камячэйкі?
Аўтамат стукнуў дулам у грудзі.
– Хто вы?
– Мы людзі свабоды.
– Гэта ты – сакратар камячэйкі?
Усё стала ясным, бязвыхадным, простым.
– Я – Раманчук Аляксандр, сакратар Пэпээру.
Ноч разарвалі траскучыя стрэлы,
і ўпаў Раманчук Аляксандр
са сцягам крывавым
на белай кашулі.

# З літаратурнага альманаха “Белавежа”, 1965

## Вяртанне

*Ваську Барычэўскаму*

Ці калосіцца ў сэрцы тваім яшчэ поле
І ці Нарва бяжыць праз яго у туманы,
Ці усходы ліпнёвыя душу няволяць,
Ці яе прыкрываюць зялёным дыванам,
Ці яшчэ памятаеш вясеннія ночы
І дзяўчаты на прызбах, ахутаных песняй,
Ды іх сінія, чорныя, шэрыя вочы,
Ад якіх было сэрцу у грудзях зацесна?
Ці яшчэ памятаеш з сялом развітанне
І смутак, заціснуты ў маці далонях,
Ці вабіць цябе яшчэ сцежка вяртання
Пад ціхія стрэхі, на родныя гоні,
І ці родная песня цябе прыклікае –
Такая далёкая, шчырая-шчырая,
Ці не кліча цябе, ці у сне не гукае:
– Давай падамося у сельскія выраі?
А што, каб вярнуцца, мой браце, мой дружа,
Каб вызваліць сэрца з-пад горада пяты,
І ў беларускі адзецца зноў кужаль,
І жыць пад страхой саламянай той хаты?!
Вядома, што гэта усё немагчыма,
Бо скошаны колас не вернецца ў поле...
Ды справа у тым, каб мы голас Радзімы
З душы не прагналі ніколі! Ніколі!

  

Майго дзяцінства і юнацтва
не аддзялялі боты
ад зямлі,
не аддзялялі ад праменняў,

і ад каменняў,
і ад росаў,
бо ў дзяцінстве і юнацтве
хадзіў я боса.
Таму ў маіх нагах,
руках і галаве
ёсць сокі роднай глебы
і пахі хлеба,
і водар лугу,
і вільгаць Нарвы,
і вільгаць Буга.
Усё з зямлі я увабраў
у сваю кроў,
калі хадзіў без ботаў
сярод палёў,
сярод вясны і лета,
калі хадзіў сярод людзей,
дзе кожны у душы – паэтам.

## Маці

Твой твар быў сонцам
над маёй калыскай,
якое я кранаў рукою,
якому прыглядаўся зблізка.
Твой твар, як ветразь,
над маёй калыскай
вадзіў мяне
у мора казкі,
вадзіў мяне у мора ласкі
і зноў вяртаў мяне у прыстань.
Твой твар
быў над калыскай небам,
небам зялёнага прадвесня.
Твой твар быў хлебам
і быў песняй.

## Аліне

На тваіх грудзях
ляжыць мая рука
так, як ручай сярод узгоркаў.
А можа, грудзі гэта зоркі,
дзве жывыя зоркі.

А мо рука мая – то не ручай,
а толькі млечны шлях,
якім пакрылася зямля
і у якім імчыцца кроў
ад майго сэрца да твайго.
Няхай гарыць агонь,
бо можа, грудзі – лямпы дзве
ў агеньчыках чырвоных,
а можа, дзве мадонны
з ікон святых...
Ды кіньма гэта –
нашто тут развaжанні,
нашто тут параўнанні!
Не будзь тваіх грудзей,
не быў бы я паэтам
і можа б, не кахаў людзей
так моцна, як сягоння.
Таму дазволь мне
прытуліцца да грудзей.
Таму дазволь
узяць іх у далоні.



Расклявалі сонца пчолы
і носяць у вуллі,
кожная цягне пахучы промень.
Звініць танкаструннай
мелодыяй згоды шчасце
ў пчаліных далонях.
Чаруюць у келлях-святынях,
сонца становіцца мёдам
і напаўняе соты –
колькі ж карыснай работы!
Малюся:
дай, неба, пагоду,
дай сонца пчолам,
дай пчолы лету.
Больш будзе мёду,
больш будзе паэтаў.

## Ясеніншчына

Ногі ў агні па калені.
Іду пажарам верасоў
і чую, як красой
мне напаўняе восень жмені.
Вядзе мяне, як каня,
пайду, куды схоча,
заплюшчыўшы вочы.
Душа, як паляна
ад верасу п’яная.
Я сёння ніякі,
я сёння ўсялякі,
я сёння Ясенін,
без розуму, без галавы,
а нейкі іншы, новы:
я палявы,
я баравы,
я верасовы.

## М. Багдановічу

Паэт не патрабуе доўга жыць,
бо мог бы паўтарыць
адно і тое ж слова,
і перастаў бы быць паэтам,
і стаўся б падхалімам марным,
захопленым сваёю славай.
Ты гэта ведаў дасканала,
ты вычарпаў да дна
прыгожае
з крыніц,
з надзеі, і бязвер’я,
і з радасці, і з смутку.
Іду я па тваіх слядах,
вачмі тваімі я гляджу на свет
і бачу больш,
чым у свеце ёсць.
З вялікім плакаць лепш,
чымсьці з малым смяяцца.
Дазволь мне паўтарыць
хоць частку
тваіх сумных слоў.



Над морам у сецях
калышацца сонца і вецер.
У сукні дзявочай
заблытаўся вецер.
Ногі дзяўчыны,
як дзве залацістыя рыбы
у сонечнай стоме…
Сонца ў далонях.
Пляж караваем вясельным
вітае кожнае ранне.
О, як адгэтуль блізка да кахання.

## Белавежанка

Цябе стварыў Бог,
калі цешыўся моцна
радасцю нейкай.
З галінкі яловай
даў табе вейкі,
вочы – з азёраў двух сініх,
зубы – з інею,
косы – з саломы пшанічнай,
голас – з песні крынічнай,
сэрца – з бур навальнічных,
душу – з цішы вячэрняй,
не знаючай межаў.
Цябе стварыў Бог
ў салаўінай краіне –
у Белавежы.



Снапы ляжалі на таку,
і цэп гуляў ім па калоссях.
Цапы ў руках трымала восень.
Снапы ляжалі на таку,
як жнівеньскія сонцы,
і цэп лупіў, лупіў без жалю
па жыватах снаповых,
і зерняў іскры узляталі
з-пад біякоў грабовых.
Іскрыўся саламяны жар.

Узлёт – удар,
узлёт – удар!
І ліўся струмень
з-пад капы.
Цапы – снапы,
цапы – снапы!



У возеры белым
плываюць пчолы
скачуць як рыбы
у паветры
каб зноў акунуцца
у грэчку.
Хочуць вылавіць лета
аднесці яго на пасеку
запалоніць у вуллі
трымаць праз зіму і марозы
каб грэла свяціла сонцам
каб баяла сонную казку
і сілу трывання карміла.



Кропляй сонца пчала
капнула ў кветку
у пялёстках бушуе
пахучы асколак лета
абломак песні ліпнёвай
водгулле працы салодкай
шчасця паводка
рапсодыя згоды
пагоды
і асалоды.
Над полем духмяным
над полем бязмерным
лёт альтруізму
чалавеку не знаны
не характэрны.

## Закаханы ксёндз

Касцёл...
Тысяча галоў
глядзіць пакорна ў падлогу.
Каб знялі твае думкі,
дык адвярнуліся б плячыма –
сярод людзей адну ты толькі бачыш
прыгожую дзяўчыну.
Між вашымі вачыма
на тонкім провадзе
танцуе пачуццё кахання,
цялеснасць пажадання
паміж мужчынам і жанчынай.
А вечарам у цішы
ружанца твае пальцы не калышуць.
Пяро скрыпіць,
папера белай хваляй
калыша рыфмы аб каханні.
Ты пішаш вершы для адзінай,
ты пішаш вершы для дзяўчыны,
ты пішаш вершы для каханай.
Лунае шчырасць,
свеціць вера,
сумненне, радасць, горыч плачу.
Вялікі грэшнік!
Можаш верыць,
каханне вам Хрыстос прабачыць.



Зайграйце песню, лірнікі,
каб аджыло мінулае
у віхры струн
напружаных,
узбуджаных,
узʼюджаных.
Зайграйце песню, лірнікі,
каб старына пайшла
у скокі
з бадзёрасцю адчайнаю,
юнацкаю і хвацкаю.
Зайграйце песню, лірнікі,
каб душы ўскалыхнуліся,
каб сэрцы разбудзіліся.

Зайграйце песню, лірнікі,
плячыстую,
агністую,
бунтарную,
змагарную,
задорную
і непакорную.
Зайграйце песню, лірнікі,
такую ціхалістную,
такую ціхавейную,
як лёс наш, безнадзейную,
як лёс наш, бескарысную.

❧ ❧ ❧

Гатоў падзяліцца
з табою я шчасцем,
слязьмі і надзеяй.
Усё напалову:
багацце, і беднасць,
і радасць, і смутак.
Жыццё разыграем
праўдзіваю картай...
Гатоў падзяліцца
кропляй атруты,
калі жыццё наша
не будзе нас вартым.

❧ ❧ ❧

У душы тваёй
ні Бога, ні чорта —
звоніць у ёй
бясплоднасць пустыні.
Вочы не вочы –
у целе пустыя аорты,
і твар – абыякавы іней.
Не друг і не вораг,
як тваё званне?
Дай замест хлеба камень,
тады буду ведаць,
што ты непрыяцель.
Будзь чымсьці,
будзь кімсьці,
не будзь ніякі.

## Падзяка Айчыне

Лясы твае, як загадкі,
імя якім – невядомасць;
імчышся ў даль-неразгаднасць
і маніш трывожнай надзеяй.
Лебядзіцца крыламі сэрца ў лёце.
Дзякуй Айчына!

Сялянская кроў у жылах
з пахамі глебы
з пахамі скібы
струменіцца промнямі сонца.
Дзякуй Айчына!

Ты разумееш роднага сына
калі ён шукае аховы
жадаючы ласкі-пяшчоты
далоняў тваіх працавітых
далоняў тваіх несмяротных.
Дзякуй Айчына!

Даліны узгоркі
зялёныя нівы
і дрэвы і хаты і людзі
і мова і песня і мроя
і радасць і смутак –
хлеб наш надзённы.
Дзякуй Айчына!

Зарой незаменнай
зарой пуцяводнай
дарогі нам крэсліш
да шчасця і праўды
надзеі і волі.
Дзякуй Айчына!

Ты навучыла мяне
што ідучы к суседзям
нельга з сабою несці каменні
а толькі пашану і шчырасць.
Дзякуй Айчына!

Іду я маленькі
у край летуценняў
іду я дарослы шляхамі змагання
іду я старэчы дарогай сумнення

пад крыжык сасновы
і добра мне ў сэрцы
бо чую што кожны твой шлях
гэта шлях неабходны
і шлях справядлівы.
Дзякуй Айчына.

Гляджу ў твае вочы з надзеяй
дабрэю
і смутак болей не смутак
далёкае блізкім мне стала
абняў неабдымнасць.
Ці ж гэта не шчасце
ці ж гэта не радасць для сына
за ўсё гэта ў час нараджэння
за ўсё гэта ў час маладосці
за ўсё гэта ў момант канання –
Шчырае дзякуй Айчына!



Скручанай шабляй нервовай маланкі
пярун раскалоў каменныя грудзі,
дрыжэў ліхаманкай.
Смяротныя іскры адчайным ударам
разбілі каменнае сэрца
мёртваму камню
прынёс гром паўторна зык смерці.
Даўно ўжо згасла
у шчыліне рэха адчаю,
абяззубелі змеі маланак,
бярозка шугнула...
Гняздо збудавана ў шчыліне цеснай,
і на галінкі, нібы на ганак,
развесіла птушка
жывую песню.



Вярнулася каханне
другі раз –
чысцейшае, чым першае.
Ці ў павароты
можна верыць?
Ці з попелу устане дрэва

з лістамі, з ветрам
і са спевам?
Ці птах, разбіўшы грудзі
аб камень шэры
і зламаўшы крылы,
узнімецца па-над скалою?
Магчыма ўсё –
калі умееш верыць.

## Ліса, воўк і мядзведзь

(байка)

Да ваўка, прыяцеля мядзведзя,
ліса прыйшла аднойчы.
– Мой мілы браце, мой суседзе,
ляжу штодзённа па абедзе
і думаю, чым тут заняцца,
якою працай.
Мо вывучэннем праблематык
сістэмы зорнай,
авіяцый,
ці нейкіх іншых там абстракцый?
Воўк слухаў-слухаў,
ды і кажа:
– Вялікае пазнаць,
дык трэба знаць малое.
Адлеглае ўбачыць –
спачатку блізкае разгледзець.
Дам табе кніжку пра мядзведзя!
Як прачытаеш, зоркі ўбачыш,
такія дзіўныя там факты.
Усё там пра мядзведзя нова,
чытай, ды не скажы яму ні слова.
– Не кідай, воўча, слоў на вецер,
я ж маю гонар, маю дзеці,
тайну не выпушчу за дзверы,
так, як сабе, мне можаш верыць:
не першы раз жывеш са мною,
не буду ж я, ліса, свіннёю.
Паверыў воўк
і кнігу даў,
вярнуўшыся да ўласных спраў.
Ліса чытала шпарка кнігу
і прачытала яе мігам.

Разважыла дакладна справу,
перамагла свае сумненні
душэўнай логікай і сілай
і зараз жа пастанавіла
на грузах воўчага даверу
разбудаваць сваю кар’еру.
І да мядзведзя паімчала.
– Мядзведзь!
Ты, можа, і не думаў,
і свінства не чакаў ад кума,
дык паглядзі: вось кнігу гэту
чытала ўжо паўсвету,
усе звяры яе чыталі,
усе ад воўка яе мелі.
Воўк хоча знішчыць тваю веліч.
Мядзведзь збялелы, нібы іней,
маладняком панёсся сінім
да воўчай хаты.
І ў лапе кнігу ён паднёс
ваўку пад нос.
– Твая?!
– Мая.
– Дык раздаеш літаратуру нелегальна?
– Лісе даў толькі ўчора.
– Дык, значыць, ты не друг, а вораг!
І наступіў тут крок фатальны,
канец жыццю і канец марам.
Мядзведзь, з ваўка садраўшы шкуру,
Лісе зрабіў з яе падарак.

Усім я раю разбірацца
між праўдай і маною,
бо можа аказацца
ліса свіннёю.

# З “Беларускага календара на 1965 год”

## Каравай

На нашай глебе шчасця лёс не сеяў,
Пірог не выдуман у нашым краі –
І продкі жалі сум замест надзеі
І плакалі над горам-ураджаем.

І бушавалі тут прышэльцы-госці,
Прыходзілі крывёю гаспадарыць.
І ганьбілі памёршых продкаў косці,
Тапталі сэрца і душылі мары.

І сталі называць народ сквананым,
Пазбаўленым душы, нямым народам;
Халопамі без веры, без жаданняў,
Без прагі волі, шчасця і свабоды.

Але жыла пад попелам крыніца
Жывой народнай песні вызваленне.
Змагла яна у радугу праліцца,
Акрыліць маладое пакаленне.

І з рук людзей звычайных, працавітых,
З іх барацьбы і іх штодзённай працы
Узняўся край да сонца прагавіта
І з курнай хаты стаўся ён палацам.

І каравай прыязні да суседзяў
Нясе народ з пашанай і з паклонам,
Каб кожны змог паспрабаваць, агледзець
Плод нашых рук і ураджай загонаў.

У караваі ёсць матыў свабоды,
Крышынка сонечнай эпохі новай;
У ім ёсць песня вольнага народа
І вернасць для айчыннай мовы.

## Вальс расстання

Колькі ж раз мы праходзілі міма
І глядзелі у вочы сабе.
Твая стройная постаць, дзяўчына,
Незаменна у сэрцы жыве.

І чаму ж не злучылі далоняў
І не выйшлі на сонечны шлях,
Як вясна бушавала па гонях,
Як квітнела чаромхай зямля?

І чаму ж не хадзілі у ночы,
Не глядзелі, як месяц гарыць?
І чаму ж твае губы і вочы
Я не мог цалаваць да зары?

Мне сягоння ніхто не паможа,
У жыцці не сустрэнемся больш.
На ўспамін аб дзяўчыне прыгожай
Аджывае і смутак і боль.

Я самотна выходжу ў прасторы
І іду да шырокіх далін;
Там, дзе ў рэчцы купаюцца зоры
І дзе мёдам так пахнуць палі.

І у небе далёка-далёка
Ты мне зоркай бліскучай маргай.
А я буду стаяць адзінока
І шаптаць: дарагая, бывай!

## Над ракою пад вярбою

Над ракою пад вярбою
Сустракаўся я з табой.
Мы не зналіся з бядою
Пад зялёнаю вярбой.

Цалаваліся да рання –
Звочыць нас ніхто не мог.
Веліч нашага кахання
Месяц над ракой сцярог.

Але згледзеў хтось, паверце,
І навек нас разлучыў.

І ад шчасця нашых сэрцаў
Кінуў у раку ключы.

Плываў месяц па бяздонні
У вадзе шукаў ключы.
Развіталіся далоні
Разышліся уначы.

І над рэчкай, і над полем
Вербы скінулі лісты.
Сумна звесіліся голлі,
Месяц згас і след астыў.

Наша сумнае расстанне
Пагасіла ўвесь агонь.
Няма шчасця без кахання,
Няма гора без яго.

# З “Беларускага календара на 1967 год”

## Дэлегатам V з’езду БГКТ

Мы не раслі ў раскошах у палацах,
Аркестры не ігралі нам мелодый.
Мы не жылі з чужой, нявольнай працы,
Нікому не стапталі мы свабоды.

Таму ў нас чыстыя, як сонца, рукі,
Таму сумленне наша без дакору.
Няма на ім слядоў чыёйсьці мукі,
Няма на ім пятна чужога гора.

Мы праз стагоддзі адкрывалі грудзі
І клікалі усіх-усіх у госці;
І розныя прыходзілі к нам людзі,
З дабром прыходзілі і з злосцю.

І чуліся панамі ў нашай хаце.
Мячом і крыжам з года ў год вучылі,
Як узвясці Айчыну на распяцце
І як абрэзаць роднай песні крылы.

І многа хто на век зрачыся мусіў
Сваёй зямлі і гукаў свайго слова
Адрокся ад Айчыны – Беларусі –
І выкінуў у сметнік маці мову.

І ў гэтым ёсць няшчасце наша, гора,
Таму нам трэба раскапаць сталецці,
І словы з попелу выгортваць, як зоры,
І падаваць іх з хлебам родным дзецям.

І навучыць пашаны да народаў,
Да тых усіх, хто нас шануе сёння,
Да тых усіх, хто словы аб свабодзе
Прыносіць разам з сэрцам на далоні.

## З літаратурнага альманаха “Белавежа”, 1971

### З нізкі *Палетак*

**1**
У бялізне імглы
разасланай між вішнямі
жыта заснула
сном справядлівых.
Жыту прысніліся
пуні зацішныя
і сялянскія рукі шчаслівыя.
Мы жытнёвай маралі
дакладна не знаем.
Жыта партыйнае болей,
чым людзі:
глянь, як разам жыве яно,
разам канае
упаўшы ад косаў
на твар і на грудзі.
О, выіграй радасць
у струнных сцяблінах
і выгайдай шчасце
у сонечных зернях,
і навучы ты кахаць
нас Айчыну.
Улі ў нашы сэрцы
вернасць.

**2**
Супольная радасць — Радзіма
у жыце псалмы і оды
у жыце Іерусалімы
сімфоніі і рапсодыі.
І феерверкі валошак

і мёдадайныя вікі.
Хто ж на свеце
як ты харошы,
хто ж на свеце
як ты вялікі?
Тут радасць і боль адначасны,
пчаліныя яды і мёды,
цалуецца цёмнае з ясным
Радзіма — балада і ода.

**3**
Зарылася сонца ў травы,
як плуг залаты ураджайны.
Хто ўмее служыць гэтак справе
карыснай і жыццядайнай?
Хто абагрэе пяшчотней
луг, нібы лопух, вялізны?
Хто выкліча толькі залётаў,
і песенных сюррэалізмаў,
і меладыйных пачаткаў,
і каляровых фіналаў?
Хто на праменных кладках
крыллі падасць карнавалам?
Сонца!
З якой жа ты байкі,
з якіх ты малітваў-уздохаў
упала у луг балалайкай
і ходзіш па ім скамарохам?

**4**
Дзяўчына як фрэска
з старыннай капліцы
у пажоўклым аблоку
даспелай пшаніцы.
Рукі узнімае
у неба скляпенне
з вясёлкаю сцеблаў
у радаснай жмені,
багоў пасланцы —
мастакі і паэты –
прыйдзіце з майстэрняў
у гэты палетак.
Дайце мастацтву
панюхаць загоны.
Вядзіце ў мастацтва

сялянку-мадонну.
Стварыце мастацтва
у польнай капліцы,
дзе колер з пшаніцы
і рыфма з пшаніцы.

**5**
У далёкім палетку
як воск жоўталіцым
пасвіцца неба у збожжы —
сонца купаецца
ў ванне пшаніцы,
як пазалочаны вожык.
О, лета маё!
Колькі рыфмаў і рытмік
бясплатна прыносіш паэтам.
Вазьмі маё сэрца
ды промнямі вытні
і пасадзі ў палетак.
Хай яно вырасце
ў сонечнай глебе
і ў пуні з калоссем залезе
і ўзыдзе ў хаце
сонечным хлебам,
найлепшай з усіх паэзіяй.

**6**
У гэтай вялікай майстэрні,
якая завецца полем,
дзе сонца разцамі праменняў
рэзбіць калоссем твары.
Я вольны!
Я мару!
Вось тут у палетку свабода
і абавязак, і шчырасць,
і дружба калоссяў кроўная.
І сонца,
і ветру,
і глебы
заўсёды ўсім пароўну.
Вазьмі раздзялі ты шчасце
на так ідэальныя долі,
як дзеліць яго між калоссяў
поле.

**7**

Палетак, як поп,
і святочны, і чысты
у расе пажоўклай
спявае, гамоніць.
Танцуе калоссе
заўзятага твіста
пад гукі расцягнутых
дрэваў-гармоняў.
А вецер на пальчыках,
нібы ў балеце,
то борзда бяжыць,
то застыне на момант.
Ці жыў бы хаця
адзін горад на свеце,
калі б не падпёрся вясковай калонай?
Ды што гаварыць
аб чужым і далёкім?
У поле вязуць мяне
добрыя коні.
Малюся:
палетак, мой поп жоўтавокі,
зрабі з мяне
жытні пявучы гармонік.

**8**

Жнівень — саламяная кантата,
вышыты палетак канюшынай
і снапы — для селяніна свята –
разлегліся ў полі,
як жанчыны.
Прыдарожных вербаў вадаспады
і лугі — зялёных гурт авечак.
Кучаравая зямная радасць
у даліну збеглася на веча.
І далёкія-далёкія маланкі,
і трывога ў снапавым гарэме.
Ой, зямля —
мая ты крывічанка
жнівень — саламяная паэма.

**9**

У грамадным-грамадным тэатры
пад сінім
нябесным скляпеннем

кожны колас —
глядач і актор,
удзельнік шумнай арэны.
Я пытаю цябе,
як паэта,
пасланца і любімца Бога:
ці не лепш
табе быць палеткам
і пшаніцу трымаць за ногі?
Як жанчыну яе абязволіць
і заснуць у пасцелі туманнай,
і жыць вечна
проста, як поле,
і жыць вечна,
як поле, складана.

**10**
Пшаніца — рухомы падмурак
будоўлі, названай летам.
Колас ніколі не журыць
сэрцаў сялянскіх паэтаў.
Бо кожны колас — кантата,
зямлёю сагрэтая млоснай,
пшаніца заўсёды ёсць святам —
вясной у жніўнёвую восень.
Пшаніца — падмурак мядовы
восені звенчанай з летам.
Тут кожнае з зерняў — словам,
а кожны колас — паэтам.

**11**
Кожны колас,
як чыстая дзявіца,
сарамліва глядзіць
у загоны —
а над жніўнем
павісла медзвядзіца
і месяца серп залачоны.
Ён кліча
у поле жытнёвае,
у сялянскую радасць спацелую,
у дзявочую песню жніўнёвую,
у Русь маю Белую-Белую.

## З нізкі *Пад дрэвам*

**1**
Конь, нібы Бог,
такі просты і дужы.
Маліся, мастацтва,
да цнотаў кабылы.
Каб плуг пацягнуць —
трэба мець, мабыць, мужнасць
не толькі звычайную,
конскую сілу.
Каб конь быў царом,
а кабыла царыцай —
войны не сеялі б
смерці над светам,
зямлю пакрывалі б
авёс і пшаніца
і гімны на межах
спявалі б паэты.
А нават калі б
і здарыліся культы
ці іншыя вывіхі,
хібы і здрады,
дык коням-царам
за цярпення іх мультум
паэты прабачылі б
іхнія вады.
Дык лезьце, кабылы,
на царскія троны,
у здымкі, у фрэскі
дварцоў і капліцаў.
Ямчэй мне маліцца
да конскай іконы,
чымсьці да бронзы
двуножнага гіцля.

**2**
Я з сялянскага...
з іншага быць я не прагну.
Ва мне сум,
ва мне шум
і дурацкая радасць.
Аба мне не напіша
сімфонію Вагнар.
Мне музыку твораць прысады.

Люблю, калі песню
спяваюць бярозы,
уплятаючы ў косы
высокія зоры.
Назіраю, як месяц,
трымаючы козыр,
заносіць руку
па-над борам.
Удыхаю палын,
такі сонны і млосны,
як раскоша і боль
у адной сцяты жмені.
Безупынна тчэ сонца
жытнёвыя кросны
ніткамі ціхіх праменняў.
Краю мой родны,
прыгожы і ціхі,
дала табе дзіўную долю планета.
Хапае ў табе
і раскошы, і ліха...
Толькі бракуе —
сумленных паэтаў.

**3**
Над скрыпкай восені
схіліўся вецер,
смычком дажджоў
павёў па струнах
і ўсім, хто быў,
хто жыў на свеце,
стала маркотна,
стала сумна.

**4**
Глянь назад:
як далёка ўсё
і мінулае ўсё
у руінах.
Больш не будзеш ніколі-
ніколі ты ўнукам,
больш не будзеш ніколі
ты сынам.
Не прарок я,
а знаю ўсё
і прарочу ўсім аднагодкам,

што хутка
заменіць нас час
з нашчадкаў
у продкаў.

**5**
Пейзаж майго сэрца
просты.
Ён з самых усмешак
і сосен.
Ён з псалмаў лістоў
клёнавых
і з купалу неба
маёвага.
Ён з п’яных сасновых
мускатаў
і з чыстых-чыстых
дзяўчатак.

**6**
Зноў аблокі — малітвы цішы —
ранак рукою узніме,
і з неба іх кіне у вішні,
як легкакрылыя гімны.
Я ў словы зарос, як дуброва
лісцем зарастае зялёным,
прачнуліся ночы маёвыя
з дыялектыкай зорак сонных
і вершы прыходзяць сябрамі,
кладуцца ў рытміку спеву,
ружа расце проста з каменя,
узнімаецца ласка з гневу.
Я выпісаў сэрцу рэцэпты
на пергаміне цішы — аблоках.
Адышоў я з фалангі скептыкаў
скіраваў у здароўе крокі.

**7**
Брухі вербаў,
цяжарныя песнямі,
уздыхалі над сінім патокам,
распаўзліся ў ложы нябесным
цяжарныя бабы-аблокі.
Ды і сэрца маё зацяжарыла
такім паэтычным настроем,

такімі блакітнымі марамі,
такім ціхаструнным спакоем,
што мусіў я стацца матуляй
сінявокага вершыка-сына
і прынёс яго ў белай кашулі
маёй беларускай краіне.

**8**

Мы ходзім на граніцы
сну і явы.
Глядзім з краіны цемры
у каляровы свет жаданняў,
у свет кахання, паўставання
або ў агонь,
або ў попел.
Намі напоўнена планета,
намі напоўнена Еўропа.
Якія ж мы малыя чалавечкі,
прахожыя ў часе, госці —
з сэрцам малым,
з вялікай злосцю!

**9**

Што сёння праўдай ёсць —
заўтра акажацца маною.
І так ва ўсім,
у кожнай быту сферы.
Мы захапляемся, у штосьці верым,
а наш нашчадак
будзе кпіць, смяяцца
з наіўнасці свайго прадзеда,
як мы смяемся часта з продкаў.
Жыццё ідэй і святасцей каротка,
як людзі
яны родзяцца, канаюць
і ў гэтым прыгажосць
адвечнае адновы.
Адно расце,
другое ідзе з дымам,
як смешныя людскія словы:
нашы ідэі будуць вечна маладымі.

**10**

Устаем мы штодзённа рана,
каб вечарам зноў упасці.

Можа, з сэнсу свет абакраны,
можа, мы яго хочам абкрасці
і занесці ў камору манетаю
дабрабыту ці славы звінячай.
Прылажы сваё вуха да свету
і паслухай, як стогне, як плача.
Гарады і дзяржавы і сэрцы
у дзвярах, у замках, у засовах.
Як праўда на свет тут прарвецца
і як выцвіце шчырымі словамі,
я разумны, я вольны, я шчыры —
крычаць людзі дзяржавы і партыі.
Як далёка блакітныя шыры,
як далёка да вольнага заўтра.

**11**
Стаіць-маўчыць,
Стаіць-шуміць
з'яднаны, нібы гвардыя.
Глядзіць удаль,
як вартавы,
лес – мір,
лес – Бог,
лес – партыя.
Ніхто яго не разгадаў,
ні слоў яго,
ні думак.
Ён не раскажа сваіх спраў,
не выспявае думак.
Стаіць філосаф векавы
на ўзгорках і ў лагчынах,
ад ног да рук і галавы
аддааны сын Айчыны.

**12**
Ты белая, белая, белая,
дык прэч вы
з сумленнямі чорнымі.
Ты выйдзеш з ігрушамі спелымі
над сінія тоні азёрныя.
І станеш на беразе чыстая,
нібы бяроза маёвая,
і заспяваеш вячыстую
песню у матчынай мове.
Можа, абудзіш сумленні

у тых, дзе яны пачарнелі,
і зменіш душу пакаленню –
О, Русь мая, Белая-Белая...

**13**
Які ж прыгожы гэты свет,
дзе толькі я і лес і ціша.
О, як ён кліча, як заве,
як сэрца песняю калыша.
Не, не пайду ў гарады —
у дым, у пыл, у рэстараны.
Я тут у пушчы малады —
а там у сэрца цяжка ранен.
Я пушчай тут — а пушча мной.
Хаджу у сэрцы з ветрам сінім.
О, лес – ты мой!
О, лес – я твой!
Ніколі мы сябе не кінем.

**14**
Даўно дзяцінства наша
засталося ў загуменнях –
а маладосць
на прызбах засталася.
Я на каленях,
па каменнях
уцякаў з сялянскай масы
ў гарадскія класы.

**15**
Не хачу я гарэць
у рэкламным нэоне,
ні мясам ляжаць
у рэкламнай вітрыне.
Мілей мне хістацца
лісточкам зялёным
у вечары сінім.
Ці нават праклёнам
у злосці адчайнай,
ці крыкам птушыным
з адлёту ў вырай,
ці хлебам матчыным,
іржаным, звычайным,
ці смехам, ці плачам —
каб толькі быць шчырым.

**16**
Як продак
нацягнуў на ступу шкуру
ды і зрабіў сабе
вясёлы бубен,
змянілася грамадскасці натура,
і кожнаму паслухаць люба
рытмічнай песні.
Пад гукі бубна
бегла племя
рыбу лавіць у водах весніх,
і ў дрыгву ганіла тура —
ён абвяшчаў прыходы буры.
Пад бубен племя танцавала
і з ворагамі ваявала,
трымаў ён душы ў палоне
і засталося так да сёння,
хоць і змяніліся тут формы,
бубен застаўся быту нормай,
але назваўся дырэктывай.
Яна вядзе да перамогі,
апанавала нас шчаслівасць —
маем бога.

## З нізкі *Мадонна*

**1**
Каханне
ты цудатворнасць
у хлеб ты заменіш камень
і белым сумленне чорнае
пад тваім дотыкам стане
і з вейкі слязе
пад павеку вярнуцца
ты загадаеш
паўчалавеку
скажаш быць чалавекам
і будзе ім
знаю
і пустую амфору душы
напоўніш старынным напоем
і станецца поўным
пустое
ты мацней

за Хрыстовы учынкі ў Кане
Хрыстос там не выкрасаў
хлеба з камення
і не ўчыніў парожняга
поўным
актам сваім чарадзейскім
актам сакральным
і піў народ галілейскі
віно з вады натуральнай

**2**
Лес павісне ўніз верхавінамі
ў азёрах блакітных і сініх
прыйдзе вечар і ціша такая
што чула за сэрца кранае
і ціхай песеннай мовай
пакліча ў сонны човен
і вясло я вазьму ў далоні
паплывём на сярэдзіну тоні
і там між вадой і між небам
мы адны больш нікога не трэба
і далёка-далёка ад Бога
і далёка ад дна зямнога
мы вуды ў радасць закінем
у шчасце сіняе-сіняе
і з неба зацвіўшага зорамі
як з яблыні шчыра без сораму
Ты яблык сарвеш рукамі
і як Ева дасі мне Адаму

**3**
Давай адкрыем клеткі
каб птушкі з іх ляцелі ў шыры
і знімем ланцугі
з сабачых шыяў
адчынім дзверы
турмаў палітычных
платы развалім
на дзяржаўных межах
распусцім арміі
і партыі распусцім
хай цэлы свет уп’ецца воляй
і хай ад шчасця будзе п’яны
і рады так
як я ў палоне у каханай

**4**
Ты выйшла з сукенкі
і агалілася
як колас выходзіць
з руні ў маі
як ліпа з імглы выплывае
і рукамі імглістую сукню
спіхае з плячэй да ступеняў
і топча нагамі у травы
ты выйшла з сукенкі
як месяц з аблокаў
і прыйшла да пасцелі
як конь падыходзіць
да сена
і больш я не бачыў нічога
бо стаўся ад шчасця
аслепленым богам

**5**
Памятаеш той поўдзень у лесе
калі збіралі мы суніцы
і нас застала навальніца
і жорсткімі бічамі біла дрэвы
і гойсалі яны улева управа
і не маглі знайсці ратунку
стагналі плакалі крычалі
і многія памерлі з болю
зваліліся як труны ў травы
ды ўрэшце ўдалося сонцу
спіхнуць удаль жывёлу-хмару
і заспявалі ціха птушкі
і заспявалі ціха дрэвы
і правілі імшу памёршым
і ты сказала тады ціха:
– у шчасці многа ёсць няшчасцяў
але найгоршая стыхія
не можа знішчыць усіх дрэваў
з лесу вялікага кахання

**6**
Як шчасце пагладзіла
нашыя сэрцы
разумнымі быць мы не можам
навошта павага
навошта развага
шчаслівымі

будзем куляцца
крычаць і смяяцца
каб радасць асмеліць
каб цётка Ганувся
ідучы над рэчку
сказала з дакорам:
– зусім падурэлі

**7**
Калі клёны чупрыны павесяць
уплёўшы ў іх зоркі і месяц
не пазбягай жаданай
не ўцякай ад кахання
выходзь на спатканне
можа нехта з гандлярскаю жылкай
дзесь ашукаў кагосьці
але мусіць прайсці праз памылкі
кожная з маладосцяў
і таму калі клёны павесяць
чупрыны ў змроках шэрых
ты ключом майскага месяца
адмыкай ад кахання дзвэры
адмыкай іх з даверам

**8**
Грудзі твае – урачыстасць
як сад зацвіўшы ў нядзелю
купалы яблынь
чыстыя-чыстыя
маглі б Рублёва застрэліць
а над імі як крыж Хрыстовы
анямелы без слова
збіты з ног смагай
збіты жаданнем
слабы каханнем
сільны каханнем
раскрыжаваны
над купалам яблынь
танцуюць над дрэвам
анёлы і д’яблы
крыжам я рынуў
на купалы – бёдры
на яблыні – грудзі
пачуў што гіну
крычу:
– не ратуйце добрыя людзі

**9**
У гэтую чорную ноч
усё для нас сталася белым
праз нашу трывогу
плылі і аблокі і сонца
і птушкі на рукі нам селі
і звер падышоў палахлівы
прытуліўся да нашага шчасця
у гэтую цёмную ноч
усё для нас сталася ясным
адышлі лістапады
прыйшло дзесяць маяў
бо слова тваё
майму слову сказала:
– кахаю.

**10**
Найвышэйшая ступень кахання
большага шчасця не стрэнем
вышэй не ўзыдзем
і не скоцімся ніжай
тут дно і вяршыня
танец на ліне
тут цені змяркання
і іскры світання
на кужалю нашых каханняў
д’ябла сляды засталіся
і кшталты ступеняў божых
таму мы чарнейшымі
таму мы бялейшымі стацца не можам

**11**
Грудзі твае – паэтыка
лепшых не рэзьбіў Фідый
я сёння малюся Богу
дай Божа мне сто паэтык
дай у далоні трывогу
каб аддаць хаця сотую долю
іх хараства зямнога
поле шырокае поле
доля шырокая доля
дайце далоні – падзякую
бо вы ж дзяўчыну вынеслі
з дзяцінства ў юнацтва грудзістае

ў каханне чыстае-чыстае
і Бог вам падставіў ногу
і вы ля мяне ўпалі
і я падхваціў дзяўчыну
і за гэта вам сёння дзякую
што магу і смяяцца і плакаць.

## Са зборніка *Літаратурная Беласточчына*, 1973



Не вер, дзяўчына,
Што ты непрыгожая, –
Так могуць сказаць
Толькі вусны варожыя,
І непрыхільныя,
Несправядлівыя,
Злосныя вусны,
Вусны ілжывыя.
Я ж цябе бачыў
З сярпом на загоне,
Ты жыту схіляла
Святыя паклоны.
Рукі ўзляталі,
Як лебедзі белыя,
Моцна трымалі
Калосікі спелыя.
Ні разу не села
Да сіняга вечара,
Дадому прыйшла ты
Са змрокам на плечах
І песню прынесла,
Ціхую,
Гожую.

Не вер, дзяўчына,
Што ты – непрыгожая!

# З “Беларускага календара на 1973 год”

**1**
Вось футар наш,
тут сонца ўласнае
і вецер свой, і промень,
і жаўрукі уласныя таксама.
І каласы пшаніцы – гнуткія мадонны,
і лёгкі танец.
Вось клапець канюшыны
у чырвонай хустцы,
над ёю крэсляць пчолы арэолы,
а на мяжы куколь
заціснуў вусны,
як Дон Кіхот
вітае золак.
Зямля!
Калі кахаць цябе,
ты шчодра родзіш,
кладзеш нам на далонь
зярнят даволі
і ты тады нам толькі скажаш –
годзе! –
калі з кахання мы цябе уволім.

**2**
Калі задыханыя косы
ўжо дабягуць
на край палетка
і жыту, згодна з яго лёсам,
пакінуць толькі помнік-кветку,
ва мне спакой,
ва мне трывога
у сэрцы безупынна струняць,
каб сонца з добраю пагодай
снапы мае звязлі у пуню.
Косы ў мяжы,
канец баталій –
і збан прыліп да прагных вуснаў.

Як воі, каласы упалі
на дол асірацелы,
гнусны.

**3**
Сонца лобам запёрлася
небу у бок.
Рэшткі ночы памерлі ў дрэвах.
Свет каляровы, як старынны лубок,
і зверху,
і знізу,
і справа,
і злева.
Не свет, а царква
з распяццямі дрэў,
з магдаленамі вербаў над рэчкай.
Я толькі ў расстанні
цябе зразумеў,
краю мой родны,
краю мой вечны.

**4**
Нам неба майскае падніме
вочы ў высі,
каб паказаць усмешкі зорак,
і мы тады
у нябыце павіснем,
і згіне заўтра,
сёння,
ўчора.
Мы станем лётнымі,
праменнымі
і чыстымі.
Без розуму, але з крылом уцешным;
ідзе, як з хлебам,
з месяцам Прачыстая,
каб накарміць нас, грэшных.

**5**
На дне ў вадзе
ўздыхаюць вадарослі
ці моляцца да праслаў мосту?
Ды, мабыць, непатрэбен дослед
у справах простых.
Хай тчэцца песнь
без слоў

і без мелодый,
у вечным руху,
вечным паласканні.
Вада раслінам – яны водам
складаюць вечнае падanne.

**6**
Стварылі мы зямлю
прыгожую і горкую,
з раўнінамі далёкімі,
з высокімі узгоркамі.
Прыкрытую блакітамі
і хмарамі суровымі,
хмяльную акавітамі,
цвярозую размовамі.
Слабыя мы і дужыя,
чаму і як – не ведаем –
і часта разам з ружамі
бытуюць людаеды.

7
Сёстры мае высокія –
зоркі зялёнавокія,
вы рукі мае узнімалі
да паэтычных даляў.
Вы клікалі брата далёка,
вы клікалі брата высока,
і плаваў я, плаваў у шырах,
імкнуўся ў далёкі вырай,
і зноў на зямлю вяртаўся,
і зноў я у неба ўзіраўся,
шукаў сваіх сёстраў высокіх –
зорак зялёнавокіх.

**8**
Будзем маліцца зоркам сінім,
калі пагаснуць
полымі таполяў.
Зямля!
Святое тваё імя,
літання поля.
Сакральны спеў далёкіх зорак,
містэрыі і рытуалы.
Далёкае маё учора,
цябе мне сёння мала.
І дзе наш сэнс

ў зямлі, ці ў небе?
У кнігах мудрых,
ці ў палетках?
Чаму між зор шукаюць хлеба
паэты?

**9**
А дзе ж той хлеб,
што пёкся на чароце
і вожыкам гарачым
поўз мне ў рукі з печы,
і песні ў збанках, развешаных
на плоце,
аб чымсьці вечным?
Далёкая-далёкая мінуласць,
атуленая матчынай далонню,
ты з чымсьці добрым,
з чымсьці чулым,
што не забыць і не запомніць.
Цябе няма
і ёсць ты адначасна,
расце ў душы маёй
дзівосная патрэба,
каб песню з збанаў
мець на ўласнасць
і бохан іржанога хлеба.

**10**
Я гаспадар вінніцы вераснёвай,
тут вінаграды слоў
і дыні цяжкіх думак.
Тут штодзень вадохрышча слова,
зямлі я кумам.
Чырвоная літання канюшыны,
у келлі поля ёй зацесна.
Вось тут мне трэба жыць
і тут мне трэба згінуць –
разам з песняй.

**11**
Лісцё, сарванае з дрэў лістападам,
зноў красавік
павесіў на галіны,
прыкрыты вопраткаю вады
ад ног да самае вяршыні.
І зноў у песню,

зноў у танец вёрткі –
забыўшы, што дзесь восень –
за гарамі.
То з сонцам у руках,
то у далонях з зоркай,
танец
танец,
танец.

**12**
Як пілігрым, іду да траў,
у сэрцы полымя літаній.
Свет дастаткова пакараў
расстаннем.
Сын марнатраўны,
блудны сын
прыйшоў да траў
служыць малебен,
каб дакрануцца да красы,
да неба.
І дакрануцца да сябе
ў тым месцы,
дзе няма цытатаў,
каб назаўсёды ўжо траве
быць братам.

**13**
Замала молімся зямлі,
багам – замнога.
Ёсць свая вера у далін
і у дарогі.
У цэрквах дрэў жыве матыў
любві і цішы,
а чым жа я
і чым жа ты
паэзію пішаш?
Ці тым каханнем, што дала
для нас даліна?
Ці тым, што маці прынясла
ў калыску сыну?
А можа, толькі злосць і чэрнь
у думках нашых?
Прыродзе цяжка з намі, вер,
гатовіць кашу.

# З “Беларускага календара на 1974 год”

## Новы год

Зноў Новы год, ідзе са шчасцем новым,
Дарогай новай і пры тым адвечнай.
Няхай прамовяць сёння сэрцы словам,
Няхай прамовіць у людзях сардэчнасць.
Браты мы ўсе і сябры ўсе мы сёння.
Ад разнаколерных цвіце планета –
На мірным алтары ляжаць далоні,
Людзей, якія кланяюцца свету.
Вайна? О, не! А мір? О так, – гаворым,
Няхай палаюць радасці штандары.
Смерць сілам грозным і смерць сілам чорным,
Жыццё – надзеям светлым, светлым марам.
Зіма і снег, вясна, за летам восень, –
Кругазвароты вечныя ў свеце, –
Мы як язычнікі, зямлю мы просім,
Каб быў і дождж, і сонечнасць, і вецер.
Зноў Новы год, зноў чаркі у далонях
За вас, за нас, за шчасце і за згоду.
Мы ўсе браты, мы ўсе сябры сягоння –
Мір вам, мір нам і мір усім народам.

# Са штотыднёвіка “Ніва”, 1975–1976

## Святая грэшнасць

*Паэма*

**1**
Свет сягоння чужы
Свет сягоння мне лішні
Мой сусвет гэта ты
Сінявокая Лена
Дарагая мая
Ты як майская вішня
З песняй пчол
З звонам рос
З танцам вечных праменняў
Дарагая мая
Ты з-за сонечных даляў
Прыплываеш як звон
Прыплываеш як песня
Цябе людзі у Бога
Між зорак укралі
І пакінулі ў травах
На сонным узлессі
Дарагая мая
Пазбывайся трывогі
Выкінь з сэрца сумненні
Выкінь з сэрца ты жахі
І збірайся са мною
Як сонца ў дарогу
З усходу на захад

**2**
Я над смуткам сваім
Як Шапэн над раялем
Як аддаць колер думак
У слове звінячым
Мае верныя сябры

Белавежскія далі
У рыфмах маіх
То смяюцца то плачуць
Чаму не прыходзіш
Пад крыло маёй песні
Так як прыходзяць
Бярозы з даверам
Прастор бясконцы
А сэрцу так цесна
Вокал свет каляровы
А ва мне толькі шэрасць
А мо не прыходзь
Хай сумненне трывае
Толькі вечны
Трывожны
І здрадлівы пошук
Яму песні і гімны яму
Я складаю
Прэч каханне
Прэч слава
Прэч грошы

**3**
Мне трэба
Поціску тваёй рукі
У ёй надзеі цёплай вытак
Глядзі
Рассеяў свет блакіт
І поле колерамі выткаў
Ты як багіня
Праз лугі плывеш
Уся у колерах у шуме
Няхай заўсёды
У душы жыве
Кахання сіні струмень
Тут чырвань
Сінь
І чэрнь
І бель
Свет каляровых
Стромых люстраў
Нам не ісці
Ніколі ад сябе
Заўсёды нам
Ісці насустрач

**4**
Як аб шчасці спяваць
Калі хочацца плакаць
Дзе ні глянеш тупік
Дзе ні глянеш завулак
І цягнецца смутак
Як верны сабака
І сэрца сціскае ён
Поціскам чулым
Не вер словам
Якія танцуюць як блазны
І твары крыўляюць
Шчаслівай усмешкай
У іх душах
Пасеяна смутку зараза
І няма для іх сёння
Выхаду сцежкі
Цырк гэты завецца
Жыццём існавання
А мы ў ім гледачы
І героі таксама
О Лена мая
Сінявокая пані
Па канаце іду
Над бяздоннаю ямай

**5**
У нас Ленуся залатая восень
Гарыць як іскра на загонах
Праменні у прыполе носіць
І раздае людзям з паклонам
Ветры лісцё на неба закідаюць
Купаюцца у сініх ваннах
Гляджу я ноччу ў неба і не знаю
Ці гэта зоркі ці лісці каштанаў
Якія ж вершы у такую пору
Сплываюць з рук паэтаў на паперу
Шуміць у іх прыбоем сінім мора
Пульсуюць сокі слуцкіх бэраў
І нельга не кахаць на гэтай глебе
Дзе сэрцы з сэрцамі гамоняць
А людзі з галавамі ў небе
Зоркі трымаюць у далонях
У нас Ленуся восень залатая
Блізкім становіцца далёкі
Увесь сусвет я абнімаю
І застаюся адзінокім

**6**
Дзе дотык рук
Дзе дотык губ
Малітва цела
Ці анёл я
Ці д’ябал я
Ці я мужчына
Ці мы бяду
Ці шчасце нас сустрэла
Ці нарадзіўся я
Ці мо навекі згінуў
Ці гэта праўда ўсё
Ці гэта толькі казка
Ці будзе вечна так
Ці будзе толькі хвільку
Ці твар сапраўдны
Ці мо толькі маску
Лёс паказаў нам
У дзівосным цырку
Ходзім уздоўж
І ўпоперак мы ходзім сёння
Ад ног да галавы
Акутаны у мотак
І серабро ніцей
Аб чымсьці песню звоніць
Куды заве
У шчасце ці згіноту

7
Калі няма сапраўднага кахання
Тады ствары яго
Як тварэць казку
Нам трэба радасна-балючай раны
Нам трэба фікцыі і маскі
Стары Бальзак
Жыццё нядрэнна ведаў
І твораў многа напісаў глыбокіх
І ўсе назваў жыццёваю камедыяй
Камедыяй людской і боскай
Законаў мабыць
Не адкрыем новых
Будзем іграць камедыю дэль артэ
Трымаю банк
Я да ігры гатовы
Фальшывыя прынеслі карты

**8**
Пакінем на насенне
Зёрны нашых думак
Пакінем на квітненне
Першую надзею
Плыве у сэрцы
Вечны струмень шуму
Шуміць у сэрцы вечная завея
Каханы
Значыць верыш
І не верыш значыць
Куды ідзеш
Дакладна невядома
Што будзе з намі
Пажывем – пабачым
Ці сонца прыйдзе ў дом
Ці знікне з дому
Каб толькі цеплыня
Жыла ў нас да скону
Каб толькі полымя сардэчнае
У жменях
Тады напэўна
Хопіць для загонаў
Насення цёплага
І цёплага квітнення

**9**
З уласным “я”
У вечнай барацьбе
Каб твар яму змяніць
Удасканаліць
Каб там дзе была чэрнь
Завесці бель
Каб персанаж стаў
З пушкінскага балю
Хай ззяе ўсё
Хай свеціцца гарыць
Я ў свеце ўсім найпрыгажэйшы
Ніколі я не стануся старым
Мой стыль
Стыль пушкінскага верша
Пачаўся баль
Люстэркі на сцяне
Лягла рука на талію крутую
Глядзіць стары з люстэрка на мяне
Ён гэта я
О, Божа – пратэстую

**10**
Так ці інакш
Усё што перажыта
У віхры пацалункаў безразумных
Яго красу
Трактую я як жыта
І не забуду
У памяці не зглумлю
Яно было і ёсць
І хіба будзе
У глебу сэрца ураслі карэнні
І цеплыні яго
Час не астудзіць
Не знішчыць клопаты і сутарэнне
Звініць каханне
Дзіўным інструментам
Шчаслівы той хто гукі яго знае
Хоць розум кажа – я забыў дашчэнту
Ды сэрца заяўляе – памятаю

**11**
Дзе сонца ёсць
Павінны быць і хмары
Касцюм жыцця
Не сшыты ніткай шчасця
Я сёння аб табе дзяўчына
Марыў
І прагнуў
Ад усіх людзей украсці
Ды не украў
Не змог
Не быў у стане
Таму пакінуў
Свой намер на потым
Танцуюць думкі
Як у рэстаране
Танцуюць рыфмы вершаплёту
Шчаслівы я
Сваёй бядою сёння
Каб не яна
Дык сэрца мабыць спала б
А так
Пульсуюць
Рыфмай мае скроні
І верш з-пад сэрца

Сочыцца памалу
Дык дзякую табе
Што не мая ты
Затое верш мой
Нібы кроў і косці
Я сёння толькі хмарамі багаты
Але за імі сонца госціць

**12**
Нашы рукі
Размаўлялі з травамі
Нашы вусны
Цалавалі верасень
Мы прайшлі разам
Над атавамі
Песням лугу
Аб жыцці паверылі
Кожны дзень
Пражыты разам з зеленню
Слоем шчасця
У сэрцы адкладаецца
Радасцю зялёнаю падсцелены
Сны ніколі ўжо не забываюцца
Мы прайшлі удаль
Пад небасхіламі
І між вербаў
Сталіся палоннымі
Глянуў я у вочы твае мілая
А яны – дзве радасці зялёныя

**13**
Зноў твая постаць
Паяўляецца ў снах
Дык значыць
Не магу ніяк забыцца
Прыходзіш
Як прыходзіць у лугі вясна
З'яўляешся
Як сосны у пшаніцы
Я зноў зняволены
Шукаю тваіх губ
Убачу твар твой
Але што такое
Да рук тваіх
Я дакрануцца не магу

Бо ты далёка
Быццам за імглою
І так жыву я
У блакітным змане
Чакаю кожны час
Калі ты зноў і зноў
Паявішся у залатым тумане

**14**

О не не так болей быць не можа
Я тут з табой а ты там без мяне Ленуся
Ці чортаў ногаць ці мо палец божы
Над намі сёння павярнуўся
І зараз лёс наш не ад нас залежыць
Але ад сіл таемных невядомых
Ляжаць між намі як стагоддзі межы
Усюды слізка і усюды строма
Шукаю я цябе шукаю безупынна
І там куды іду няма цябе і квіта
І безлітосна сёння мне пустэча
Падсунула разбітае карыта

## З кнігі *Мой бераг*, Мінск 1975

☭ ☭ ☭

Быў добры вечар,
зоркі ў госці хацелася клікаць,
у свеце вялікім
ніхто не быў лішні.
Заснула між жытам зялёная віка,
смяяліся вішні.
І свет нас паставіў
з ног на галовы
а сам закружыўся,
закуралесіў.
Выплыў у соннае мора
на ловы
месяц.
Якія ж тут чары,
якія ж здзяйсненні
прыйшлі да нас сёння
з сустрэчай?
Ды гэта ж толькі ўзяў нас у жменю
добры вечар.

☭ ☭ ☭

Я сёння ключ знайшоў, сябры,
да поля,
адкрыем дзверы
промням,
вятрам,
маям
і той блакітнай чыстай столі,
якую небам называем.
І аддамося дыктатуры мараў,
без межаў,
без граніц,
даволі,

піць будзем толькі
з дрэваў-чарак
за вечнае здароўе поля.
Без нівы нам, сябры,
не быць здаровым,
дык расхінайма дзверы у палетак.
Спявайма гімны лугу і дуброве
і сіняму штандару лета.

☭ ☭ ☭

Я сын зямлі беластоцкай,
І іншай мне маці не трэба,
там сосны высока-высокія
ад зямлі да блакітнага неба.
Там рэчкі сінія-сінія
і ветры з далонямі кволымі
бягуць па зялёнай краіне,
як сябры, заўсёды вясёлыя.
Там сонца прыходзіць у дрэвы,
і дрэвы да сонца імкнуцца,
і вабіць краіна нас спевам,
і просіць і просіць вярнуцца.

☭ ☭ ☭

Расхіні сэрца,
хай радасці больш у ім змесціцца.
Глянь на кветку зацвіўшую,
колькі шыры у кожным пялёстку.
Кожны з іх можа стацца палацам
для пчалы і для промня,
для расы і для ветру.

☭ ☭ ☭

У глыбіні тваіх вачэй зялёных
адбітак ёсць маёй трывогі.
Куды удалячынь яны так гоняць
па невядомых мне дарогах?
Ці там ёсць нехта табе блізкі,
А мне чужы, а мне варожы?
Я бачу незычлівасць бліскаў
у зрэнках тваіх воч прыгожых.

Скажы ты мне, што я мылюся
і што злы дух мяне наведаў.
Да ног тваіх я прытулюся
і стану вечным тваім следам.

☭ ☭ ☭

Добра памятаю тую ноч,
калі сказала ты:
нас ужо трое, а не двое,
і узяла маю руку...
І я пачуў ціхуткі стукат.
Сын ці дачка?
Мы не умелі адказаць,
ды пэўным сталася адно,
што наша шчасце падапрэ
малая трэцяя калона.

☭ ☭ ☭

Я каханнем прасяк,
як зеленню луг веснавы.
Яно ва мне,
і пада мной
і нада мной,
ва ўсёй маёй падглебе,
у працы,
у песні,
і ў хлебе.
Яно усюды ёсць,
куды б ні працягнуў далоні,
і ў цяпле заснежаных грудзей
і ў аксаміце ўлоння.

☭ ☭ ☭

Калі станеш па грудзі ў жыце,
акунешся ў пахучую хвалю,
жаўрукі разнясуць іскры сонца,
і выбухне полымя жніва.
Я вясло прынясу, дарагая, –
вясло з тонкай сталі адбітай,
і тады паплывём па загоне
на востраў нашага шчасця.

☭ ☭ ☭

Хавайся за дрэвамі ў пушчы,
я буду лавіць цябе ў лесе,
як птушка шукае і ловіць
першы вясенні промень.
Знайду я цябе ў крушыне,
а можа, у зялёных малінах
або пад залётнай рабінай.
Схаплю, панясу, нібы сонца,
трапяткое,
пахучае,
цёплае.

☭ ☭ ☭

Трава па пояс нам,
мы пушчы да каленяў.
у кожнага свой лёс.
І, мабыць, трэба так,
каб хтось быў большы
і хтось меншы.
Закон натуры справядлівы,
ніхто закону не абыдзе.
І толькі мы зрабілі гэта,
нам ружы зацвілі з каменняў.
Так моцна выраслі у шчасці,
што мора стала па калені.

☭ ☭ ☭

Мы дарогу свайго кахання
закруглім у кола
і будзем ісці па ім безупынна,
каб не дайсці да канца і краю,
і так ашукаем суровасць натуры.

☭ ☭ ☭

Пойдзем, каханая, у шэры дождж,
прамокнем,
заветрымся
і завясеннімся.
Застынем над ракой
як статуі, як помнік, –
пазбаўлены сімволік і падтэкстаў.

☭ ☭ ☭

У табе ёсць такое святло,
што вабіць мяне, як маяк.
У табе ёсць такое цяпло,
што кліча мяне, як зямля.
Ты пашыраеш мой свет,
і сыплеш іскрыны ў змроку,
і ў дасканаласць завеш
дарогай, як радасць, шырокай.
Калі адыходзіш удаль,
лес аддаляецца з песняй;
да хаты прыходзіць бяда
і плача ціха ля вясніц.
У табе ёсць такое цяпло,
як у жнівеньскім ранні.
У табе ёсць такое святло,
ад якога квітнее каханне.

☭ ☭ ☭

Быць можа, ты і я
для чалавецтва факт малы.
Яно ідзе сабе
і нас не бачыць,
але у тым няма бяды,
бо мы стварылі
мікрасвет свой.
Каханне наша мае краявід,
і неба сіняе, і сонца,
і дрэвы ціхія, і птушак,
і радасць сумную сваю,
і смутак радасны уласны.
Як хоча хто,
заходзь у госці.
Глядзі,
сядай за стол,
частуйся.
Мы шчасцем хочам падзяліцца
так, як вадою дзеліцца крыніца.

☭ ☭ ☭

Каханне прыйшло,
як прыходзіць вясенняя бура.
Як квітненне
у майскія вішні,
як сонца ў пшаніцу
з-пад неба.
Мы адчулі, што вусны
не лішнія,
мы адчулі, што сэрцы патрэбныя.
Ты прыйшло, занялося работай,
аб’яднала самоту з самотай
і з палеткаў сэрцаў-адлогаў
пралажыла у радасць
дарогу.

☭ ☭ ☭

Бывае, што ў снежні
прыйдзе май,
і з кветкамі,
і з птушкамі,
і з сонцам,
і скажа:
– Да цябе прыходжу спецыяльна,
устань,
танцуй,
спявай,
у сэрца глянь, тады
яно шырэй грудзей,
у ім змясціўся цэлы свет,
і ўсё з-за паэзіі і вачэй,
валошкавых вачэй дзявочых.
Бывае, што ў снежні прыйдзе май
і сонца ўзыдзе сярод ночы
і скажа:
– Уставай
спявай,
кахай.
Бывае, што ў снежні прыйдзе май.

☭ ☭ ☭

Нам простых праўд,
нам лёгкіх праўд
не трэба.
У слове можа быць
і таямнічасць і загадка.
І верш не коціцца у сшытак
круглым хлебам,
пахучым,
цёплым,
гладкім.
Зямля, як хлеб,
паэзію натхняе,
шукаем мы
гармонію і ладу,
заўсёды верш з крыніц,
з тых вытокаў у краю,
якім імя: бяда і радасць
І ёсць ён хлебам горкім і салодкім,
бо ў ім сляза цалуецца з усмешкай.
О верш! – маёй наіўнасці паводка,
у край ілюзій мая сцежка.
Шукаем праўды у зямлі і ў фразе,
цярністым шляхам
нам ісці прывычна.
Паэт і верш – у праўды вечным сказе
крывы пытальнік,
просты клічнік!

# З “Беларускага календара на 1976 год”



Каб шчасце не заснула весяліся
у коле завірыся закружыся
прысвой як пацер моды стылі
танцуй-гарцуй у рок энд роле
не ў менуэце не ў кадрылі
знайшла сучаснасць шыр-раздолле
танцуй на люстры рэчкі соннай
танцуй пад ясным небам зорным
і на мяжы між жытам вонным
і на паляне на ўзлессі
і на крыле ліпнёвай песні
і на маіх танцуй далонях
на нітцы сонечнага промня
танцуй кружыся завірыся
і паступова распраніся
і агаліся у стрыпцісе
і на мяне ты абапрыся



Валошка валошка валошка
сіняя сіняя сіняя
глядзіць каласам пад бароды
небу глядзіць пад сукенку
зменіцца тысяча модаў
зменіцца тысяча густаў
а да валошкі у жыта
далоні працягне паненка
і вырве і звяжа букецік
і да грудзей прытуліць
валошка твар твой ёй уквеціць
валошка сэрца расчуліць
як трэба адкрые грудзі
як трэба слязу схавае
каханню вялікаму служыць
валошка кветка малая

# З “Беларускага календара на 1977 год”

⁂ ⁂ ⁂

Ты над крыніцай
вярбою схілілася
рукі як белыя стругі
пабеглі дадолу
косы як чорныя струі
услед за рукамі
і стала ты
элементам натуры
найпрыгажэйшай
яе аздобай
пасля я знайшоў цябе
у травах пахучых
і сушыў у далонях
мокрыя рукі
і пэндзлі
распушчаных косаў
і ты мне сказала
заплюшчыўшы вочы
як паэтэса:
– Я буду вярбою
твайго краявіду
ты станеш клёнам
у маім лесе.

# З “Беларускага календара на 1978 год”



Якой замовай я цябе выклікаў
якімі зёлкамі з ночы Купалы
выкарміў вусны твае прагавітыя
за мала
за мала
за мала
досыць
сустрэліся ў полі
вясны ды і восень
што мне трэба маладой і цвітучай
сказаць абяцаць адурманіць
гады як каменні ў крушні
так іх многа
і так іх мала
сустрэліся ў полі
вясна ды і восень
досыць
дай ад расстання замову
Купала

# З “Беларускага календара на 1979 год”



Ці вы там косячы, ці вы там сеючы,
Ці вы таго часамі не заўважылі,
Што ўжо мяне няма сярод старэючай
Вёскі, машынай юрнай збударажанай?
У трунах кніг я пахаваў апошні волас
І вочы сцёр аб канты літар стромых;
Будзіў мяне начамі дзіўны голас
І клікаў-клікаў недзе ў невядомасць.
Беспаваротнасць вечная ў маіх вяртаннях,
Памру на месцы, як вавёрка ў коле.
Мо за грахі прымаю пакаранне,
Ператвараю долю у нядолю.
Не мы свой лёс, але нас лёс заўжды кшталтуе,
У свеце глупства мудрасць раўнаважыць;
Колькі збудуем, столькі і зруйнуем,
Я адышоў, ці нехта заўважыў?



Чакаць, чакаць, чакаць,
Ці прыйдзе ці не прыйдзе.
І формулы, і словы,
Радасныя сказы.
Кіруе намі Бог
Ці мо кіруе злыдзень?
Ці шчасце ў слове – “я адзін”,
Ці шчасце ў слове – “разам”?
Вядома, – радасць і бяда
У першым і ў другім,
Дык значыць добра і нядобра
Нам заўсёды.
Вісяць над маладосцю
Радужныя дугі.

Над старасцю – панурыя
Вянкі жалобы.
Але няхай над сумам
Горкай безнадзеі
Вера ў сэнс бяссэнсу
Вольная лунае,
Хай кружыцца усё
Паводле Галілея.
Мы безупынна родзімся
І паміраем.

☫ ☫ ☫

О, сны зялёныя –
Адзіны мой ратунак.
З дзяцінства, з маладосці
Асталіся шчэпкі.
Надзеі я шукаў
І піў свабоды трунак, –
Ацверазеўшы, убачыў
Толькі прэнты клеткі.
Мінае хутка ўсё
У тэмпах стрымгаловых.
І кружыцца зямля.
Мы мітусімся толькі.
Прагну травы,
Хачу спакойнасці каровы,
Шукаю ў зелені
Сэнсу жыцця і толку.
О, сны зялёныя –
Крыніца забруджэнняў,
Ілюзія уяўных
І прывідных шчасцяў.
Прыйдзіце, ворагі,
І з мёдам і каменнямі;
Я памагу сябе
Вам да канца раскрасці.

# З “Беларускага календара на 1980 год”

## З сваёй і для сваёй зямлі

**I**
Здзіўленне вечнай
Прыгажосці свету,
Забыць аб тым,
Што ты часовы ў свеце;
Здзіўленне існавання
Ёсць прыкметай, –
Яно, як промень,
Цемру нам асвеціць.
Ідзе наш шлях
Праз шчасце і праз беды,
А што наперадзе,
Што заўтра будзе?
Не ведаем,
Але стаіць у нашым credo:
Смяротны я,
Ды несмяротны людзі.
Здзіўленне, захапленне і каханне –
Хваліць у слове
І у песні славіць;
Не задаваць ніколі
Іншым ранаў,
Любоўю заўжды
Забіваць нянавісць.

**II**
І справа не ў тым,
Каб папасць у даведнік,
Каб кніжкі змясцілі
Анфас наш і профіль.
Хачу, каб дзесь просты
Звычайны наследнік

Увёў мяне шчыра
У надзённых слоў строфы.
Каб там, дзесь у вёсцы,
На узроўні гмінным,
Адкуль нас лёс вывеў
На знаныя сцежкі,
У памяці людскай
Жылі ўспаміны
Так шчырыя, простыя
Нібы усмешкі.
Без культаў складаных
І без дыялектык,
Без бронзавых
Сшытых нявольнікам ботаў,
А толькі у словах
Для прыкладу гэткіх:
"Ён быў наш калісьці
І будзе наш потым".

**III**

Сястры маёй святыя абавязкі:
Карміць каровы і засеяць поле,
І выткаць кужаль, здобныя павязкі,
І вечна граць сваю выключна ролю.
Не апранаць ніколі штучных масак –
Быць тым, што лёс даў нам істотай,
Каб рысы захаваць сялянскай масы,
Абраз намаляваны горкім потам.
Прыходжу да яе ў хлявы і ў поле,
Калі хачу праверыць верагоднасць.
Удзелімся слязой самотнай долі,
Каб адшукаць у сваім сэрцы годнасць.
Сястры маёй святыя абавязкі,
Мне грэшніку, мне здрадніку патрэбны,
Прыйшоўшы да яе – вярнуся ў казку,
Стаюся я шчаслівы і паднебны.

**IV**

У нарвенскай даліне цішыня,
Вятры з яе далёка адплылі.
І на мяжы паўвечара і дня
Стаяць, як стражы, горда тапалі.
У нарвенскай даліне цішыня,
Дзівосны, нібы добры сон, спакой.
І хочацца сусветы ўсе абняць,

І шчасце пакранаць сваёй рукой.
У нарвенскай даліне цішыня,
Не ведаю, ці ёсць я, ці не ёсць.
І чую, быццам у далёкіх снах
Пяе мая былая маладосць.

**V**
Тут немцы расстралялі партызана.
І бачу у паветры зараз рану.
Слязу на лісціках бярозы яшчэ бачу
І чую ў ветры адгалоскі плачу.
Хачу усім-усім багам маліцца,
Розным святыням: кірхам і капліцам;
Царквам, касцёлам і мячэцям
І ўсяму, што мірнае на свеце.
Усіх і ўсё прашу і паўтараю:
Няхай жыве Сусвет, не уміраe
Хай помніць смерць забітых партызанаў
І бачыць у грудзях паветра рану.
Мой бераг – гэта лес,
Што песню праспяваў,
Пад небам маіх сноў
Высокім, дарагім.
На арфах сосен ён
Мелодыю зайграў.
І стаўся лепшым я,
І стаўся я другім.
Мой бераг – гэта ключ
Далёкіх журавоў,
Які дрыжэў
На сінім верасня крыле,
Калі глядзеў увысь,
Дык блакітнела кроў,
Хацелася удаль
За птахамі ляцець.
Мой бераг – гэта луг,
Мяне азеляніў,
Паклікаў у кружок
Прыяцеляў травы,
Ад чорнае імглы
Душу абараніў,
І стаў зялёным я
Ад ног да галавы.
Мой бераг – гэта лес,
Які мне даў пяро

І загадаў кахаць
Усіх-усіх людзей.
І за слабых стаяць
Напорыста гарой
І на сабе
Крытычным позіркам глядзець.
Мой бераг – гэта я,
Не той са слоў і сноў,
А толькі сшыты ніткай
Горкага жыццём
І зайздрасці і злосць
У маю ўліліся кроў.
І стаў тыповым я
Сучаснасці дзіцём.

**VI**
Цэп на шуле у пуні вісіць,
Забыў пра узлёт над саломай,
Біяк і цапільня маўчыць,
Стаю ля яго нерухома.
Кранаю адвыкшай рукой,
Пальцы шэпчуць:
– Маўчыш, забіяка,
Павесіўся? Д’ябал з табой,
Па табе не збіраюся плакаць.

**VII**
Я сумны ад таго, што паню трачу,
Твой сілуэт відочны усё меней,
Яшчэ хвіліну і ўжо не ўбачу,
Расплавішся у сонечных праменнях.
Прыйшла, была і адплыла далёка
Так, як усё прыгожае, не вечна.
І зараз наваліўся вечар змрокам,
І ахінуў мяне халодны вечар.
І толькі верш астаўся распачаты,
І толькі спеў астаўся абарваны,
Ці сапраўды была, ці не была ты,
А можа, я прыдумаў толькі паню.

# З літаратурнага альманаха "Белавежа", 1980



Заяц раніцай руні наеўся,
Першай руні, зялёнай, сачыстай.
Пад кустом, пад сасновым, усеўся,
Заглядзеўся у сонца агністае,
Што паўзло праз кусты на каленках
З галавешкай ў руках агняцветнай
І паліла бярозам сукенкі,
Выганяла з дубровы лета.
Заяц дзіву не мог надзівіцца.
На узлессі упаў на калені
І пачаў ён да сонца маліцца,
І ад дзіва зрыжэў, паасенняў.



Апошні ліст на ветры спатыкнуўся,
Зваліўся у труну разоры,
Але паэт на шчасце падвярнуўся
І адспяваў малебен-гора.
Усе мы адплывем,
Чаўны чакаюць дзесьці...
Смерць ходзіць, смерць стаіць на стражы.
Памрэм і, можа быць, праз тыдняў дзвесце,
Што нас няма, ніхто і не заўважыць.

# З “Беларускага календара на 1982 год”

## Кланяючыся травам

**1**
На фоне бурных сноў,
На фоне буйных траў,
З якімі вырастаў
І уміраў мой лёс, –
Ці хтось мне шчасця даў,
Ці мо яго украў;
Прыкрый мой цёмны сум,
Зялёнае галлё,
І толькі горкі боль
І недарэчны жарт,
Мо страчана не ўсё –
Наіўнай веры міг.
А вершу пагражае
Жудасны інфаркт.
Адыдзем мы зусім,
Ці астанецца міф?
Ці у краіне роднай
Знойдзецца яно –
Каханне да сыноў
Не купленых быццём,
Жывыя кветкі ім?
Атручаны вянок?
Ці мо маўчанне толькі,
Толькі забыццё?

**2**
Падалі дажджу
Святога кроплі,
Ён быў да зарэзу
Нам патрэбны.
Глебай быць
Вось гэта не утопія,

Толькі праўда,
Як у шчырым хлебе.
Між маной і праўдай
Вечна ходзім.
Вернасці і здрады –
Усё вянчаем.
Хай заўсёды ў полі
Жыта родзіць
І зямля хай віны адпускае.
Бог адзін –
Ён зеленню бязмежнай,
Што з зямлі ўзарвалася
Гарачай.
Хто нам вінаваты,
Хто належны?
Дзякую усім
Усмешкай-плачам.

**3**
Нягледзячы на ўсе
Хістанні і сумненні,
На ўсе прэтэнзіі мае,
На ўсе праблемы,
Канфлікты горкія
І непаразуменні.
Люблю цябе, жыццё,
Такім, як ёсць ты ў цэлым.
І не хачу,
Каб ты заўжды было салодкім,
Каб высцілала мне
Дарогу мяккім шоўкам,
І каб снавалася
Магічным моткам,
І каб заўсёды я
З бяды выходзіў лоўка.
Трэба хістанняў,
І памылак, і удараў,
Упадкаў горкіх,
Цемры і святла надзеі;
Бязвер'я чорнага,
А потым светлай мары,
Бо толькі так
Бяду і шчасце зразумею.

**4**
Нас вечар частаваў
І цішынёй і сінню.
Пілі мы яго дары
І п’янелі зволна.
Якіх нам трэба слоў –
Аддзякаваць Айчыне;
За яе вечную
Гасціннасць і застольнасць.
У гэтым свеце: “дай”
Над “на” пануе часта –
Мы памаленьку
Прывыкаем да выгодаў.
І усёроўна
Да якой належым касты.
У дабраце
Мы не зраўняемся з прыродай
Дабро і прыгажосць яе
Так бесканечны,
Як імпульс сэрца
Ў чалавеку першы.
І што магу зрабіць я
Для Айчыны вечнай?
Магу падзякаваць
І памаліцца вершам.

**5**
Учора сход,
Сягоння сход
І заўтра сходы.
І – ля-ля-ля
Становіцца штодзённым хлебам
А як без сходаў
Пражываў далёкі продак;
Поле араў, касіў,
Дзяўчат кахаў, як трэба.
А мы усе ў стрэсах,
Жахах і нервозах:
Міргае вока нам,
Дрыготкі руку зводзяць.
Куды мы едзем
На сучасным хуткім возе,
Каб нанясці
Удар смяротны асяроддзю?
Сякерай па лясах,

Ракетаю у месяц
Павалім мы, расколем,
Возьмем усё гвалтам –
Маліся перад смерцю,
Ты, праціўны лёсе,
Твае ўладанні заліем
Нашчэнт асфальтам!
І пабяжым на сход
Па гладкіх тратуарах,
А там – ля-ля-ля-ля! –
Трыумф усім абвесцім.
Нервозы ў сэрцах
Безлітосна здушаць мары,
Асфальты заліюць
Смяротнай лавай песню.

**6**
За нашы падарожжы
Неабдымныя
І за сяброў далёкіх,
Невядомых
Паднімем шклянкі сёння
З акавітаю
І ўсё мінулае
Сягоння ўспомнім.
Якое шчасце чалавеку
З памяці.
Якія з памяці бываюць
Беды.
Жыццё танцуе
Беласнежнай замеццю
І знікне, не пакінуўшы
Нат следу.
Дык чаркі ўгору
За гады бадзяцкія
За падарожную
У сэрцах жылку;
І за любоў вялікую,
За брацкую.
За права чалавека
На памылку!

## Са штотыднёвіка “Ніва”, 1983

### Ты – белая бяроза маіх сноў

**1**
Твой дотык
Да цела майго –
Гэта дотык крэсіва
Да крэменю.
Даткнешся –
І я адзываюся
Іскрай.

**2**
Усе мае радасці
І ўсе мае смуткі
Выплываюць
З адной крыніцы:
Ты – як прапачатак
І яе канец адначасна.

**3**
Ты, малая,
Вярнула мне веру
У свет велізарны
І я не баюся
Яго аграмады.
Кранаю зорныя светы,
Як Капернік.
Затрымліваю сонца,
Ламлю з яго
Асколкі-паходні
І болей ужо не баюся
Цемры найбольшай.

**4**
Ты – падсвечнік,
На якім я ахвотна
Згараю
На вачах велікодных
Натоўпаў.
Найраднейшыя сёстры –
Святасць і грэшнасць.
Ты – салодкай памылкай,
І я – салодкай памылкай,
Мы ствараем
Вялікую праўду
Свайго заблуджэння.
Найпусцейшае сэрца,
У якім няма гаю
Для роздумаў горкіх
Над часам і лёсам.
Ты тайнай маёй
І святым грэхам.

**5**
З табою ісці –
Значыць, ісці да сонца,
Абмінаць кожны змрок
І цемень мець за плячыма.
Васільковасць бандарскага неба
Набракла блакітам
Толькі тады, калі ты
У яго паглядзела.
Далёкія дрэвы,
Як хвалі зялёнага мора.
Заўсёды да іх прыбліжацца –
Разам з табою
І чуць у правай руцэ
Тваю левую руку,
І маўчаннем крычаць –
Кахаю!

**6**
Пасадзім дрэва
І памолімся яму
З адданнем
Глядзі Эльтара

Як квітнее неба
Усе сузор'і –
Твая ўласнасць
Бяры прыгаршнямі
Святлістасць зорак
І раздавай іх
Добрым людзям
Пасадзім дрэва
Каб спявала песні
Прыгажосці свету
Пасадзім дрэва.

**7**
Ты вырасла Эльтара
З сонечнага зерня
І ўпрыгожыла зямлю
Сваёю чысцінёю
І непаўторнасцю ліпнёвай
Вакол цябе
Хадзіў я доўгі час
Баяўся дакрануцца
Так як баімся
Полымя святое
Бясчэсціць
Неахайнасцю сваёю
Асмеліўся нарэшце
Узяў цябе ў рукі
І стаўся з чалавека
Богам.

**8**
Ты мне дана Богам
Шчодрай яго жменяй
Людзі не прычым тут
Людзі старана
Пахнеш навальніцай
Сонечным праменнем
Ва ўсім свеце гэтым
Толькі ты адна
Можа сынам царскім
Можа фараонам
Стаўся пры табе я
Любая мая

Глянь над намі сосны
Ў сонечных каронах
А пад намі ложа –
Родная зямля
Толькі я шчаслівы
На зямлі вялікай
Ля мяне ляжыш
Як сонечны спакой
Шчасце мець не можа
Межаў ні граніцаў
Шчасце – бесканечнасць
Светаў і вякоў.

**9**
Лепш з табою
Ўсё згубіць
Чымсьці з іншай
Знайсці багацці
Бо ты сама па сабе
За ўсіх
За ўсе
За скарбы
Ты шырокай дарогай
Якая вядзе ў даліны
Дзе нажы кіпарысаў
Бароняць ад бедаў
Дзе шчасце і радасць
Растуць так звычайна
Як травы і ружы
Дзе кожны сумленны –
Дужы.

**10**
У гэтым шалёным жніўні,
Ты, як анёл лагодны,
Выбягала з-за дрэў зялёных,
Прыносячы мне шчаслівасць.
О, рытуал распранання!
Паспешны і непаўторны,
Трывожнасць маёй малітвы,
Якая, як лань у спёку,
Піла з двух месяцаў прагна –
З тваіх грудзей непакорных.

Я прагну зноў паўтораў,
Двух месяцаў зноў мне трэба,
Цябе я хачу, дарагая –
Дару зямлі і неба.

**11**

Глянь, як над намі схіліўся
Жнівень велікадушны;
Святлом, цемрай лагоднай
Нашы грэшныя целы
Далонямі прыкрывае
Ад злых вачэй і урокаў.
Выспела цёплае збожжа,
Сабраць ураджаі трэба,
Кахання выпечы бохны.
Мы ненаедныя,
Мы ненасытныя,
Мы не напоўнены.
Кахання хочам,
Пяшчотаў прагнем,
Слоў цёплых жадаем.
О, Кана Галілейская,
Зямля Пандорская!

**12**

Благаславі нас,
Гарачы жнівень:
Неба,
Мяне,
Нашых сясцёр, братоў
І суседзяў!
Благаславі на той зямлі, якая
Дала жыццё
Нашым бацькам і продкам.
Сёння ты, мілая,
Зерне маё ўзяла на ўласнасць.
Веру – яго не змарнатравіш
І вынасіш,
І вырасціш,
І выспеліш так, як зямля
Вырошчвае колас.

**13**
Гэты жнівень
Быў маем
На палетку надзеі.
Парасткі знайшлі дарогу
Да сонца
І зоркі падалі на глебу
Ды квітнелі калоссем,
Восенню сталася восень.
І ты ішла па зямлі.
Я побач з табою.
І здавалася мне,
Што мы веліканы,
Што зробім усё
Так, як схочам.
І каханне сваё
Пранясем праз сусветы,
Паклонімся ўсім прыгажосцям
І вернемся зноў да крыніцы,
З якой чэрпала маці.

**14**
Цябе ўкраў цягнік
І павёз у прастору свету,
А я застаўся адзін,
Як палец божы.
З паняй названаю –
Пустэчай.
Ішоў па вуліцах Варшавы,
Як чалавек,
У якога ўкралі брыльянт.

**15**
Вярніся ўжо нарэшце,
Не будзь далёка!
Калі цябе няма,
Я станаўлюся непрысутны
У існаванні.
Вярніся –
Дай слова цёплае,
Як промень.
Я толькі сёння
Першы раз дазнаўся,

Наколькі я слабы,
Калі самотны.
Руку кладу я
На грудзях і чую,
Што замест сэрца
Нашу ластаўку трывогі.

**16**
Ты, невялікая,
Здаешся мне быць веліканам.
І з усіх пунктаў на зямлі
Толькі цябе я бачу.
Не вежу Эйфля,
Не небаскробы у Чыкага,
Не Эверэсты –
Толькі цябе, дзяўчына!
З тваёй рукі
Бяру я промень
І верш ім вышываю.

**17**
Замест пасагу
Прынесла ты зорку
Ў маю хату.
І ўсё у ёй змянілася
Без рэшты.
Бязладны лад,
Спакой трывожны –
Верш родзіць кожны дзень.
Благаславі нас, Божа шчодры,
Зрабі, каб мы усё жыццё
Мелі у хаце
Толькі адну зорку.

**18**
Не шукай на ўзбярэжжы
Ракавін шчасця,
Хаця ў іх і гучыць
Песня мора;
Бо шчасце наша –
У акіяне Белавежы,
У якарах карэнняў,

У ветразях каронаў,
У малітвеных уздыхах
Пушчы,
Якая ёсць
Зялёным акіянам,
Бунтарным пеклам
І мірным маем.
Гняздом прытульным
Нашага кахання.

**19**

Хачу з табой падзяліцца
Горкім бохнам паэзіі,
Лустамі рыфмаў,
Лустамі рытмаў.
Не для салодкага шчасця,
Але для трывогі
Сакавіцкіх струменяў,
Першага лёту
Ластавак мілых.
Вазьмі мае вершы
На ўласнасць.
Плаці мне толькі золатам,
Якое завецца
Каханнем.

# З “Беларускага календара на 1984 год”



Заснулі ветры у аблоках,
Заснулі ветры у таполях.
Месяц глядзіць жаўтавокі
У соннасць пшанічнага поля.
Прыснілася сёння мне ласка
Між збожжа, на матчынай сцежцы,
І быль цалавалася з казкай,
Дзяцінства запахла усмешкай.
І стаў я стары і маленькі,
Палонны бандарскага поля;
Успомніў усенька-усенька
У сумным і радасным болю.
Нясецца удаль праміналне,
Стрымай час на хвілю, мой Божа!
Шукаю магільны я камень,
А вечнасць ў цяжарнасці збожжа.



А вечны мой пажар –
Гэта мая Айчына.
І прагну аднаго,
Каб ён не згас ніколі.
Як палымнее ён,
Дык мы сыны – не гінем.
А калі згасне –
Стануся халоднай золлю.
Мне не ўсёроўна,
Як пяюць у Беларусі,
Бо я адно з яе
Пяючых сёння зерняў.
Нялюбае кахаць
Ніхто мяне не змусіць.
І кужалю не буду

Сажаю я чэрніць.
Жыць горда, горда паміраць –
Вось гэта мэта!
Радзіму ўзнімаць
Ды сонца ў далонях.
Рукамі кавалёў,
Сялян
І іх паэтаў,
З учора сёння будаваць
І заўтра сёння.



Над далінай туман узвышаецца,
У калысках галін ветры сонныя;
Як кахалася нам, так кахаецца,
Мы сабою навек запалонены.
Паглядзі на усход – неба беліцца,
Сыплюць зоркі святло па-над хатамі;
Прайшлі ява і сон па аселіцах,
Як прыгожыя мы, як багатыя.
Праз хвіліну зямля бухне гімнамі,
Узарвуцца вятры над калыскамі.
О, прасторы зямлі неабдымныя,
Як вы мілыя нам, як вы блізкія,
Прачынаецца свет і ружовіцца,
Твары лісцяў расою абмытыя;
Маладзіца-зямля непакоіцца,
Першым промнем сягоння аблітая.
І начная імгла пераможана,
Узнялася кругом светласць ранняя.
Сэрцы шчасцем ізноў устрывожаны,
Я табой, а ты мною, каханая.



Пейзажы,
Краявіды белавежскія,
Сонцы
Ў трасніках панаднарвенскіх.
І цішыня
Такая галасістая,
Што будзіць
Мае сны каменныя.
Мае Афіны тут –
Назваў іх Бандарамі.

Шукаю месца я
Для муміі сваёй
Ці чучала уласнага,
Туга набітага
Бандарскаю саломай.

★ ★ ★

Плюсаў і мінусаў
Ў свеце,
У зямлі,
У небе
І ў маім сэрцы –
Заўсёды мусіць быць пароўну.
Калі становіцца іначай
І раўнавага страціць
Раўнавагу –
Бушуюць буры
У бесканечнасці касмічнай,
Землетрасенні
Рвуць кару зямную,
Пясчынкі крышацца
На мікраскопны пыл
Гарачы...
А сэрца піша верш.

★ ★ ★

Паміж старым і новым,
Як молатам і накавальняй,
Сумленні нашы
Мучацца, як птахі.
Пад жорсткімі ўдарамі
Віхуры грамабойнай
Добрасумленнасць,
Прынцыпы,
Імкненні.
Гэта ўсё
Для двух багоў,
Старым і новым
Называных,
Злепленых з мізэрных воскаў,
З якіх таксама лепяць
І бездзялушкі,
І забаўкі.

## З “Беларускага календара на 1986 год”

* * *

У зялёнай калысцы з лугоў
Прыкрытай блакітам высокім
Сярод дрэў-гаманлівых багоў
Пазнаваў рытуальныя крокі.
З маткай крок
З бацькам крок
І далей
Наступны ўжо самадзейны
Дык адважней
Дык толькі смялей
Да далёкай-далёкай цэлі.
У калыску не вернемся больш
Калыску сваю зненавідзім
Толькі сёння ў сэрцы боль
Узнімаецца хваляй устыду.

* * *

Вецер выдаіў імглу
З вымёнаў вербаў
Плёс ракі прачнуўся гаманлівы
Месяц папяровым сонным гербам
У нябёсах уміраў маўкліва.
А далёка і нізютка
У небакраі
Хтось касцёр распальваў праменны
Можа зоркі-чэрці ўсе пакралі
І схавалі пад аблочны венік.
Крочыць дзень
І небу трэба сонца зараз
Як дзіцё блакітнымі рукамі
Прыпадняць па-над зямным абшарам
Над лугамі
Над палямі
Над лясамі.

*   *   *

Не няма неабходнасці жыць
Але ёсць неабходнасць кахаць
Як жыццё ад жыцця ўсё бяжыць
Дык няхай
Дык няхай
Дык няхай я іду як усе
Дзе наперад ёсць толькі назад
О жыццё
О жыццё-карусель
Хтось разумны сказаў.
Ад пасеву так блізка дажын
Крыку кожнаму трэба сціхаць
Не няма неабходнасці жыць
Але ёсць неабходнасць кахаць.

*   *   *

Месяц выцвіў ружай над дубровай,
Срэбрнай ружай выцвіў месяц сёння;
Дык навошта, дарагая, словы?
Зорку-кветку ты вазьмі ў далоні.
Як цудоўна!
Сінія спатканні...
Дзесьці сон далёка, дзесь далёка,
Хай ніколі не прыходзіць ранне,
Толькі ты і я, і свет шырокі,
Колькі раз яшчэ сказаць кахаю,
Колькі раз абняць і прытуліцца,
Пакланіцца месяцу і маю,
І даліне,
І каліне,
І крыніцы.

*   *   *

Зноў беланогі снег
Пабег у глыб прыгумення
І стала мне шырока,
Стала вольна,
І вецер зачарпнуў сняжынкі ў жмені,
Пабег задзёрыста, сабой давольны.
І я бягу ў дзяцінства белаю дарогай;
Няма праблем, няма ідэй, няма турботаў.
Я чысты, беласнежны, беланогі,
Заблытаны у беласнежны мотак.

* * *

Ты была як кісці вінаграду
З сонцам, з вераснёвай прагай.
Ты была як ветраная радасць,
Не хапіла тут рукам адвагі.
Не ўзялі цябе, не прытулілі,
Вінаграды расплыліся недзе ўдалі.
Лістапады над зямлёю квіляць
Жалем.
Колькі ж раз памылкі ў жыцці мы робім?
Смеласці замала, то замнога,
І сабе, як ворагі, мы шкодзім,
Вінаграду не бярэм зямнога.

* * *

Салодкі хмелю перамогі,
Як кружыш галаву натхненнем,
І чыніш ты мяне паўбогам,
Паходняй вечнага гарэння.
І зноў да бойкі,
У атаку,
На тых, хто не чакаў удару;
А хто з нас ад сяброў не плакаў,
Хто аб разгроме іх не марыў?
Здабыткі крыем агарожай
І расстаўляем вакол стражы,
А калі цалкам пераможам,
Што мы разгромлены заўважым.

* * *

У вечнай калатні жывем
З круцельства чынім хобі,
А подленькае робім.
І ўсё часцей бываем там,
Дзе грошы свет прыносіць.
І кожны з нас Ян Каліта,
А не святы Хрыстосік.
Нам багацеючы бяднець,
Вось парадоксу еднасць,
Чым у кішэні багацей,
Тым у душы мы бядней.

*　　*　　*

У Айчыне вялікае ўсё:
І бяроза,
І песня,
І ціша,
А якая грамадная ноч
І чорная, быццам бы кліша.
У Айчыне так чыстае ўсё,
Як мора блакіту над хатай,
Толькі я зноў з сталіцы прыйшоў
У сяло бруднаваты.

*　　*　　*

Мы белым чорнае акрэслім,
І новым назавем старое,
І пасквіль назавем мы песняй,
І яму – гордаю гарою.
Залежыць з кім і для каго мы,
Свой погляд выкажам старанна,
І ў чым шаноўным панам,
Трывога сэрца не парушыць,
Зробім усё дзеля заплаты;
Спалучым шчырасць з крывадушшам,
Гратэск ажэнім мы з кантатай.

*　　*　　*

Букет півонь
Быў цяжкі прыгажосцю,
Калі ўручыў табе,
Зваліўся з рук мне камень.
Чаго ж трэба маладосці?
Спатканняў!
Пад небам зорыстым, высокім,
Дзе добры лёс
Разгублены ад шчасця;
Мы як дзве зоркі сінявокія,
Раскрышымся на часці,
А пасля зноў адзінаю амфораю
І нераздзельнасцю мы станем,
Хай кіне ў яе лёс

Панеб’е зорнае
І вечнае спяванне.
Хай будзе свет такі як ёсць – вялікі:
З чаўном,
З канём
І з стогам,
І таполяй завостранаю пікай,
І з вечнаю дарогай.

## З кнігі *Лірычны пульс*, Мінск 1987

### КОЛАС

Нада мною рос колас, як неба, высокі,
Нібы гімн, праспяваны палеткам шырокім,
Нібы віцязь грузінскі у бурцы зялёнай,
Як танцорка-індуска з узнятай далонню.
О, мой коласе, браце! О, мой коласе, сыне!
Мы жывём і канаем для шчасця краіны.
І ўсе верым мы, верым, чакаем, чакаем,
Што нам словы-калоссі шугнуць па-над краем.
Лёс пакіне нас там, дзе ён толькі захоча,
Але хай ён аслепіць сынам усім вочы,
Калі схочуць яны ці з бяды, ці з раскошы
Прамяняць родны край на хвалу ці на грошы.
Ты мне, колас, быў продкам, і бацькам, і дзедам,
Калі ты пры мне ёсць, дык няма пры мне бедаў;
Пражыву без сталіц, пражыву без Еўропы,
Але як без калосся пражыць земляробу?!
Мая песня з тваіх несмяротных карэнняў,
Я пастаўлю яе прад табой на калені,
Хай яна, уміраючы, моліцца збожжу, –
Яе можаш забіць, ажывіць яе можаш,
Бо усё з тваёй ласкі, усё з тваёй волі,
Беларуская ніва, айчыннае поле.
О, мой коласе горды, прамяністы, духмяны!
Мы чужое хваліць, а сваё апаганіць
Так умеем, як іншы ніхто не умее,
Ды з табой нас ніколі не кіне надзея.
О, мой коласе добры, мой лекару вечны!
Ад хвароб і тугі ты лячыў нас і лечыш;
Ты заўсёды даеш, не бяручы нічога,
Уліваеш вялікасць у сэрца малога.
Глянь навокал сябе: там прасторы-прасторы,
Толькі хваля плыве праз зялёнае мора;
Я ляжу тут на дне, я ляжу звышшчаслівы,
Апрануўшыся ў песню – зялёнае дзіва.

Не магу не любіць, не магу не хваліцца
Сваёй дружбай з густою азімай пшаніцай.
Ці ж даўно я сюды прыбягаў яшчэ босы
І дастацца не мог да высокіх калоссяў?
Уцякае дзяцінства, як той вецер уранні,
І родзяцца ў сэрцы нязгасныя раны.
Ды чаго смуткаваць, ды чаго турбавацца?
Калі колас расце – сімвал дружбы і працы!
Калі ён маладосцю адвечнай спявае,
Дык і мы бессмяротны, і мы не мінаем!
Застанемся у зернях, загнездзімся ў дрэвах,
У птушыных высокіх, як сонейка, спевах.
О, мой коласе ясны! Прыяцель кахання,
Ты умела бярог маладыя прызнанні
І спрыяў нашым марам і нашым настроям,
Калі першы я раз паявіўся тут з ёю.
І прайшлі парыванні, як ціхія цені,
Але я ў іх не кіну ніколі каменнем, –
Што было, то было – адракацца не трэба, –
А тым больш што расло яно ў шчырасці хлеба.
О, мой колас высокі, ты – мудры настаўнік!
Я навуку тваю берагу з часоў даўніх –
Пашану людзям, і пашану народам,
І любоў да вялікай ідэі – свабоды –
Так у сэрцы пястую, як толькі умею;
І ніхто не патрапіць забраць мне надзею,
Бо Народ і Айчына – яны бесканечнасць,
І у еднасці з імі жыве мая вечнасць.
О, свеце вялікі, ты – шырокае поле,
А мы, людзі, – калоссі, і хопіць нам волі,
Каб жыць так прыгожа і вольна, прасторна
Без нянавісці дзікай, без зайздрасці чорнай.
Толькі іншым жадай аднаго ты заўсёды,
Таго, што сабе, – гэта значыць свабоды.
Як жыць нехта хоча, дык мусіць ён верыць –
Такі запіс у сэрцы, а не на паперы
Трэба заўжды насіць, правяраць яго трэба
На зямлі, на вадзе, пры жывёлах і хлебе,
І у песні, спяванай шумлівым калоссем,
І зімой, і вясною, і летам, і ўвосень;
У народных паданнях, у далёкіх былінах,
У любві да бацькоў і да роднага сына,
У інстынкце гарачым, таемным, адвечным,
Які нас вядзе да святыні сардэчнай.
А святыняй мы лічым бацькоўскае поле,

Толькі ў працы на ім – наша шчасце і воля,
З зямлёй роднай расстацца нас ніхто не прымусіць,
Наша шчасце – у шчасці усёй Беларусі!

* * *

Я толькі на роднай зямлі
Станаўлюся свабодным.
Выключна ў сваіх Бандарах
Да сонца й зямлі
Дастаю адначасна рукамі.
І толькі сярод землякоў
І дабро, і святло – мая ўласнасць.
А як там мяцёлкі дажджу
Замятаюць зямлю
Ад бруду і смецця.
І як там багровіць усход,
Звястуючы сонечны чэрвень.
... О, жніўні мае, сенакосы,
Я толькі на роднай зямлі
Не баюся суровасці лёсу.

* * *

Каб мары мае
Былі тваім жыццём,
Каб перамогі мае
Былі тваім жыццём,
Каб паражэнні мае
Былі тваім жыццём,
Каб смерць мая
Была тваім жыццём,
Айчына.

* * *

Пытаеш ты мяне,
Ці я твой сын праўдзівы,
Ці толькі верны табе ў слове?
Мне цяжка жыць без тваіх ніваў,
Мне цяжка жыць без тваёй мовы,
Без залацістае пшаніцы,
Без мёдадайнай канюшыны,

Без громабойнай навальніцы,
Без белавежскае дзяўчыны.
Дык значыць, слова – другараднасць,
Сутнасць – у шчырай песні сэрца,
У ёй журба,
У ёй і радасць.
Як згінеш ты – яна парвецца.

✯ ✯ ✯

Яшчэ мо дзень...
Яшчэ мо дзень...
І жніва.
У кос навостраныя джалы.
Душа сялянская шчаслівая:
Чакала – дачакала.
Заглыбімся, як пчолы, ў воск палетка,
І вынырнем з яго
Дзесь аж пад лесам,
І звалім з ног распаленае лета
Касой і песняй.
Будзем сядзець пасля
У цішы пуняў,
Лічыць палічанае,
Множыць
І аб наступным леце думаць,
Зноў аб прыгожым.

✯ ✯ ✯

Нас лёс сутыкнуў
У далёкай краіне,
І ўспомнілі край свой,
Прыгожы і шчыры,
Як сыны ўспамінаюць
Маці-Айчыну,
Яе неабсяжныя
Родныя шыры.
Там дзесь васільковыя
Сінія гоні,
Калосіцца жыта
На цёплых палетках,
І рэчкі у срэбры
Спяваюць-гамоняць,

І ветры цалуюць
Там кожную кветку.
Айчына – Радзіма,
А мы твае дзеці,
Хто здрадзіў табе,
Не можа быць сынам.
Хай кідае лёс нас
Па ўсім белым свеце,
Ды мы цябе, краю,
Ніколі не кінем.



Я гаспадар палетка ураджайнага.
Прасторна тут вятрам
І промням.
Штандары канюшыны мёдадайнай
Да сонца узнялі далоні.
Хто ўмее так любіць,
Як я люблю у полі,
І столькі сонцаў раскрышыць у глебу,
І вызваліць зямлю,
І зноў яе няволіць? –
Усё для хлеба.
Тут кожны колас адтанцуе з ветрам
І вальсы вольныя і твісты.
Няма на свеце меркі,
Няма такога метра,
Каб змерыць радасць чыстую.
Ды я яе у полі і не мераю,
Крытэрый шчасця – умалоты.
Колас расце з любві і веры,
Падлітых шчырым потам.



З крыніцы памяці маёй
Плывуць чаўны дзяцінства.
Зноў набліжаецца
Далёкая мінуласць.
Ці чуеш, сэрца, гулы
Ліпнёвага калосся?
Дзіця зямлі
Не можа быць

Дзіцем бетону.
І я да скону
Буду адгалоссем
Свайго пявучага
Адроджанага краю
І больш нічым
Быць не хачу
І не жадаю!

* * *

Вось косці кінуты,
Няма больш павароту.
Прайшоў праз залаты рукаў палетка,
А там, за полем
І за плотам,
Касой зялёнай луг уплёўся ў лета.
Дык не назад,
А толькі ўсё наперад
Ісці з усмешкаю зялёнай,
Ісці і верыць і не верыць,
Што пераможца я
І што палонны.
Заманлівым блакітам вабіць рэчка,
Не вернешся,
Пакуль не змыеш пылу з цела.
Айчына і папесціць і палечыць...

* * *

Мой клён, як Паганіні,
Узмахне рукамі,
У сініх смутах ветру
Заспявае лісцік,
Калі пабачыць,
Што я зноў у мамы,
Як у юнацтве,
Як калісьці.
І каля роднай хаты
Шэравокай
Згублюся я
У змроку прыгумення,
Нырну у ноч шырокую,
Глыбокую

З асколкам зоркі ў цёплай жмені.
О, клёне-Паганіні!
Пачынай кантату!
Хай дрэвы узнімаюцца,
Як гімны, ў неба!
Хай кружыцца
У сонным віры хата
З гладышкамі,
З кудзелямі,
З матчыным хлебам.

✯ ✯ ✯

Бярозы гэта
Ці гітары,
Ўваткнутыя ў зялёныя даліны?
Вецер шугае
У нябёс скляпеннях,
Ён прарываецца ў галіны
І мандалініць.
Праз ліст,
Праз ствол,
Аж да карэнняў
Збягае тоненькім струменем,
То ўдарыць дрэва ён
З налёту
І так далей,
І безупынна.
Ён, традыцыйны і сучасны,
Трасе бярозу-мандаліну –
Быццам уласнасць.
Аж прыйдзе ўрэшце ціхі вечар,
З бяроз прагоніць
Буйны вецер...

✯ ✯ ✯

Зубчатаю сцяной
Лес вышчарбіў блакіт,
Сеў на зямлю квактухай
І застыў на месцы,
І да зямлі ён прылажыў
Дапытлівае вуха,
Каб быць у курсе спраў яе адвечных.

У маіх жылах сок,
У маіх жылах кроў,
І вечны неспакой, які бяжыць па іх
З зямлі у паднябессе,
І многа-многа ціхіх слоў,
З якіх складаюцца лясныя песні.
Прыгожа так –
Звязаць зямлю з блакітам,
І быць такім зямным,
І быць такім паднебным,
Хмяліць зямлю зялёнай аквітай,
І ў свята быць патрэбным,
І ў будзень быць патрэбным.

* * *

Вось крок яшчэ
І крок яшчэ,
І годзе,
Тут мой палетак,
Сіні і чырвоны.
Як добра мне ісці штодзённа
На загоны.
Вось сінь ільну
І чырвань канюшыны,
Праз тыдзень,
Праз другі –
Малочнасць грэчкі.
Як цёпла тут
Струменям-успамінам
І марам-рэчкам.

* * *

Схавалася сонца ў травы,
Як плуг залаты, ураджайны.
Хто ўмее служыць гэтак справе
Карыснай і жыццядайнай?
Хто абагрэе пяшчотней
Луг, пасівелы ад рання,
Хто выкліча столькі залётаў,
І найвярнейшых каханняў,
І меладычных пачаткаў,
І каляровых фіналаў?

Хто на праменных кладках
Крыллі падасць карнавалам?
Сонца!
З якой жа ты байкі,
З якіх ты таемных заклёнаў
Упала у луг балалайкай
І сталася песняй зялёнай?

* * *

Ужо вясна,
Ці хочам, ці не хочам мы:
Зямля прачнулася,
Чакае выраяў,
А зоркі сінія
Даўно прарочылі,
І ветры тромкалі
Галіны лірныя.
Ужо вясна,
І сняцца даўнія гады,
Спакой травы,
Малітвы салаўя.
І забываю я,
Што ўжо не малады,
Што ўжо не твой
І ты ўжо не мая.
Ужо вясна,
З радзімай поплеч
Я ізноў,
І першы цёплы промень
Сэрца мне прабіў.
Чакаю, як дзіця,
Я крыху жуsравоў
І пчол
На кветках родных ніў.

* * *

Зноў месяц над полем,
зноў месяц над гаем
У белых аблоках,
у цёплых аблоках.
Салоўка каханай
зноў гімны складае

З усмешкай шчаслівай
у радасным воку.
І быццам русалкі
выходзяць з азёраў
І спеўнай ідыліяй
вабяць прахожых,
Як іскры агністыя,
сыплюцца зоры
У воды глыбокія,
воды прыгожыя.
Ці ж можа быць сыну
з такою радзімай
На момант маркотна,
на момант самотна?
Сто год пражываю
ў такую хвіліну,
На ноч забываю
аб справах гаротных.

* * *

Нам прастаты той найпрасцейшай,
З якой прамень,
З якой усмешка
І лусты хлеба,
На штодзень трэба.
Жыццё – нязведаная сцежка,
Вядзе з зямлі нас у паднеб’е
І зноў скідае нас у пекла.
І праз упадкі,
І праз крах,
І праз бяссільнасць,
І праз жах
Вяртаемся зноў у прастоту.
А ў прастаце найпрасцейшай,
А ў слязе найбагацейшай –
Істота.

* * *

Збіваючы пальцы аб каменне,
Падымай галаву
І глядзі ў неба:
Ведай,

Што на белым свеце
Апрача камення пад нагамі
Ёсць зоркі над галавой.

⭑ ⭑ ⭑

Як жа лёгка дрэва зламаць,
І як цяжка вырасціць дрэва,
Каб стала яно колерам
І змрокам,
Цішынёй і песняй,
Каб віхрам ламала хрыбты,
Калі тыя рвуцца
Да стрэхаў.
Зламаць,
Патаптаць,
Зруйнаваць –
Шэпча дзікунскі інстынкт.
Пасадзіць –
Шэпча розум.

⭑ ⭑ ⭑

Ад зямлі мы аддзелімся
Тратуарам і ботамі
І сухою нагою
Праз эпоху пакрочым.
Дзесь далёка дзяцінства
З сялянскімі потамі
І святочныя ночы.
А мы тое, што нас
Пракарміла і песціла,
Так, як лес,
Як траву,
Як казюлек і мошак,
Што у сэрца ўлівалася
Добраю песняю –
Прамянялі на грошы.
Мы з дубровы бяроз,
Мы з святыні вячыстай,
Разлюбілі зямлю,
Пакахалі палацы
І ходзім па свеце

Тратуарамі чыстымі.
Быццам мы каралі.
А ўсё ж часта – паяцы.

✯ ✯ ✯

Адзін насіў у сабе сузор'е
Другі – сонца,
Трэці – песню,
Чацвёрты – праўду,
Пяты – гора,
Шосты – абавязак,
А сёмы – пустэчу.
І ўсім было цяжка,
Толькі сёмаму лёгка.

✯ ✯ ✯

Айчына поўная,
Як збан у жніва:
І галасы, і каласы, і пахі.
Вочы сялянскія шчаслівыя,
З-над грушаў, як папахаў.
І дні, як струны,
Доўга-доўгія
І меладыйныя, звінячыя.
Гляджу на свет,
Гляджу, не моргаю
Вачмі дзіцячымі.

✯ ✯ ✯

Хто многа размаўляе,
Той маўчыць:
Навала слоў, па сутнасці,
Нічога не гаворыць.
Апамятаешся і хочаш адпачыць
Ад гутарак пустых,
Якім на імя – сорам.
О, колькі ж у маўчанні
Слоў звініць:
Пытанняў цьмяных
І адказаў палымяных.

Жыццё дасць горкую пілюлю –
Праглыні.
Аддайся марам
Аб квітненні ільняным.
І зноў дзяцінства
Радасны блакіт,
Матчын з-пад далоні
Позірк сіні.
Шукаю я канца
Бясконцае ракі,
Хоць скроні серабрыць
Халодны іней.

✯ ✯ ✯

Праз сон сівы
Іду у луг маёвы.
Вербы схіліліся у цішы,
На свеце толькі я і слова,
А галава мая у вішні.
І пахне свет пялёсткам сінім,
І пахне дружбай і надзеяй.
Я неабдымны,
Я ўсясільны.
І мая старасць маладзее.

✯ ✯ ✯

У сэрцы маім каляровы плакат:
Аб вясне,
Аб зары,
Аб каханні.
У сэрцы маім у тумане рака
Ранняя.
І далёкі-далёкі
Вясельны звон
У прасторы,
Зялёным і шызым,
Чым далей ад нас маладосць і дом –
Тым яны нам бліжай.

* * *

Хацеў бы аб табе
Спяваць як найпрасцей
І гаварыць
Так, як садоўнік кажа
Аб квітненні вішань.
Як шчасце буйнае,
Ва мне расцеш
У вечна спеўнай цішы.

* * *

Сэрцы ад цяпла ў нас падабрэлі,
Заняліся полымем кахання
Да сябе,
І да людзей,
І да прыроды.
Мы на свет глядзім
Праз сінь і праз ружовасць
І вакол бачым толькі шчасце.

* * *

А хочаш, буду тваім берагам
Ці ветрам, які абыдзе цябе навокал.
Як толькі працягнеш руку –
Да далоняў тваіх прытулюся,
І расчэшаш мяне, нібы грэбенем,
Сваімі кволымі пальцамі
Або проста на мяне абапрэшся,
Каб глядзець у крыніцу плывучага шчасця.

* * *

Мы, як дзве песні,
Мы, як два гімны
У свеце ранішнім
І ў свеце сонным,
Вакол каліны,
Вакол маліны
Гамонныя.
Трэба слоў простых
І вершаў простых,

Сяброў,
І болей нічога,
Трэба для шчасця
Звыклага мосту,
Простай дарогі.
З гімнам,
З малітвай
Стаім і просім
Свет на каленях:
Гэй, веснавая добрая просінь,
Трымай нас у жмені.

* * *

Ніколі гэтай ночы
Памяць не пакіне.
Не спалі мы
Ад змроку да світання.
Хапіла слоў
Маім і тваім вуснам
І мнагаслоўнага маўчання.
Ды ты паехала
Ў далёкую дарогу.
Кватэра сталася пустыняй.
Я узіраюся ў сябе,
Ды толькі цябе бачу.
Здаецца мне:
Беспаваротна гіну.

* * *

Кірыле Тураўскі,
Граміў ты скамарохаў
За тое, што распусту чыняць,
А сам не спаў, варочаўся і охаў,
Бо марыў аб дзяўчыне.
Ды не скакаў ты вокал полымя,
Не ачышчаў сваю душу ад скверны;
Не вёў ты голую
У ноч купальскую
Дзяўчыну чыстую і верную.
Кірыле Тураўскі, прымі з паклонамі
Пілюлю горкую у чару,
Бо нельга асуджаць праклёнамі
Таго, аб чым пацяху марыш.

* * *

Ты – белая бяроза маіх сноў,
Туман хавае нас ад злых вачэй,
Імя тваё я паўтараю зноў –
Ад лесу ты нікуды не ўцячэш.
Ты – белая бяроза маіх сноў,
Ссыпае жнівень зоркі на лясы,
І сёння пахнуць мне вясной
Асенняя трава і верасы.
Хачу згубіцца у палях,
Пасля знайсціся там ізноў,
Дзе будзеш ты навек мая,
Бяроза белая са сноў.

* * *

А калі ў каханне шчырае не верыш,
Дык не зложыш песні ты аб ім праўдзівай.
Светлае здавацца будзе табе шэрым,
І ніяк не зможаш зразумець шчаслівых.

Я люблю, як квецень рассяваюць вёсны
І красуе ў полі белым пылам жыта.
Выпіваю радасць з вёдраў раніц росных,
Выпіваю радасць з вуснаў сакавітых.

Хай у кожным садзе зацвітаюць ружы!
Іх духмяны водар хай развее вецер!
Сэрцы маладыя з радасцю падружаць,
А я шчасце ў рыфмах панясу на свеце.

* * *

Стаю пад небам
Веліканам
І нюхаю сланечнік сонца.
Вечны спакой травы
Плыве праз босыя ступені
У сэрца.
Я – цар зямлі
Наднарвянскай ліпнёвай.
Учора цётка з Ялёнкі
На ўскраю пушчы Белавежскай
Сказала, што чытае

Мае творы.
Дык як жа сэрцу не квітнець
Сланечнікам і вершам?

☆ ☆ ☆

Каменныя бабы інкаў,
Старагрэчаскія вазы,
Фрэскі з полацкіх сабораў,
Танцы з афрыканскіх бушаў,
Вершы Багдановіча Максіма
І казкі цёткі Паланеі
Складаюцца на вечную
Мазаіку,
Названую культурай чалавецтва.

# З “Беларускага календара на 1987 год”

* * *

Любую зорку з неба ўзяць
Магу я толькі ў Айчыне.
Там сняцца сны
Кароткія і вечныя
Нібы каханне.
Царкоўныя званы,
Жываты цяжарныя таполяў,
Святыня поля –
Усё маё!
О, як звіняць у іх
Струмені калыханак!
Я – пан і я – падданы.
Хто вырас там, як я;
Як я, там схоча ён
Памерці.

* * *

Я – селянін,
І для мяне чаканне восені –
Раскоша.
У восені, як гук у скрыпцы Паганіні,
Жыве мая надзея ўраджаю.
Я ёй малюся,
З кветак летуценных
Вянок удзячнасці сплятаю.
Нясу яго
І на алтар жніўнёвы
Кладу з лірычным словам
Разам.
Ад засухі,
Ад наваднення,

Ад заразы –
Прымі, Айчына, дар мой
Радасна-балючы,
Так мала за так многа.
Хачу з табой з’яднацца:
Сваё ўбоства за тваё багацце
Даючы.

❋ ❋ ❋

Нам сняцца сны
Аб тым,
Чаго нам не хапае.
Бляск зорак зманлівых
Нас вабіць у сусветы,
Ды толькі ў Айчыне
Шчыра нас вітае
Зямля, вятры і кветы.
І усё там толькі тое,
Што любіла маці,
Што пяставала зрокам,
Гладзіла рукамі.
Хрыстос святы!
Ды гэта ж я – тваё распяцце,
Твой крыж і камень.
Мы з попелу ўсе,
Таму ідзём у попел,
Ды цешыць нас квітненне,
Радуе нас іней.
Мне Бандары заменяць
Сто еўропаў,
Даючы піць вады
Блакітна-сіняй.

❋ ❋ ❋

Усе мае жыцці,
Усе мае каханні –
Руінныя расліны,
Сімвалы надзеі!
Хай свет хістаецца
Заўсёды пад нагамі,

Бо з неспакойнасці –
Паэзіі завея.
Ці маё крэда
Не збудована з нічога,
Ці не ў пустое
У жыцці я веру?
Шукаю ў пустыры
Ў будучыню дарогі.
Іду ў бель,
А пападаю ў шэрасць.
Ды што мой лёс,
Каб толькі лёс Айчыны мілай
Меў сто дарог,
Каб за яго мог быць я рады.
Я прагну, каб яна
Усе зоркі палічыла
І выбрала адну,
Якая вядзе ў радасць.

❋ ❋ ❋

Дзякуй табе, зямля,
За травы і за росы,
Бо я ў іх, нібы ў люстэрку,
Бачу
Сваю брыдоту гарадскую
І памылак аграмаду.
І дзякую за рэха,
З якім гуляў у хованкі
Калісьці.
Іду ў сінь і золата
Жніўнёвага заранку
І натыкаюся на радасць
І на шчырасць.
Дык, значыць, гэта ёсць
Другое прыйсце
І паварот парожняга
У поўнасць.
Якое шчасце стацца зноў
З мужыцкасцю
Аднолькавым і поўным.

* * *

У Бандарах найбольшы я
На свеце.
Да ўсходу сонца дастаю
Там леваю рукою,
А да заходзячага –
Правай датыкаю.
У Бандарах мой аграмадны свет:
Амерыкі мае
Мае сібіры
І сахары!
Я волат там,
Паварочваю шар зямлі
Да сонца,
Каб сеяць і каб жаць,
І марыць.
І толькі ў Бандарах
Ніхто не скажа мне,
Што на зямлі я лішні
І што зямля не ёсць
Маёй дачкою.

## З літаратурнага альманаха “Белавежа”, 1988

### Настальгіі



Прыходзіш да мяне
Ў снах ты, Нінка,
Каляровых
І ўзнімаемся ўвысь,
Як Ікары ў нябёсы.
Мы – безразумныя
І безгаловыя,
Пакліканы да шчасця
Выпадкам
Ці лёсам?!
Глядзім на свет
З блакітных далячыняў
І ўсё на свеце
З чуласцю кахаем.
Чаму не гінем?
А таму не гінем,
Што сувязі не трацім
З родным краем.
Трывай над Нарваю
Ў травах латацёвых,
Услухайся ў песні і ў ляманты,
І гнёзды сцеражы айчынных словаў,
Яны для вершыкаў маіх – фундаменты.



Успамінаю навагодні баль
І тваю лёгкасць
Лебядзіную,
Бясконцы танец ў шыр і даль
З Нінаю,

І дзіўны цела перагіб
Пяшчотны,
Не існуюць жа берагі
Ў танцы лётным.
У кожнай кропельцы крыві
Нашу я віраванне.
Ці рэчаіснасць?
Ці прывід?
Каханне?
Што мне Варшава?
Я сусвет
З табою затанцую
І з балю прынясу ў дом
Дарагую.



Схаці яшчэ раз,
Дарагая.
Падумаць аб усім,
Што наша.
О, як жа часта
Ўспамінаю
Зялёнае Падляшша.
О, неспакоі! О, трывогі!
Без вас – жыццё пустое.
Хачу ўзысці я на дарогу,
Якая ў дарагое
Вядзе і кліча безупынна:
І ў лугі, і ў поле.
Без вас нямы я і пустынны,
Без волі і без долі.



Твой дотык,
Як лазер,
Салодкасцю
Цела маё прабівае
І я станаўлюся
Антыматэрыяй.
Яшчэ і яшчэ, Дарагая,
Прабівай маю шэрасць
Промнем сваім каляровым,

Хай стануся
Касмічным я пылам,
Пакінь ува мне
Толькі два словы:
“Кахаю цябе,
Мілая”.



Я не магу маўчаць,
Калі ты так далёка
І станаўлюся, як дзіця,
Бездапаможны.
Крычу ў шыр зямлі
І веру голас мой
Цябе прыклікваць зможа.
А верш?
Ён толькі пасланец
Недасканалы.
Хацеў бы, каб ён быў
Той кропелькай вады,
Што размывае скалы.



Забыцца нельга мне
Аб тым святым,
Што аб’яднала
Нашых целаў грэшнасць.
Няхай сабе
Там іншым будзе смешна,
Няхай з падтэкстамі,
Няхай з іроніяй гавораць,
Ты сёння для мяне
Святая – як учора.
Ці памятаеш, Нінка, ты
Ўсе тэатрумы,
Усе літаніі,
Якія падказала нам
Каханне?
Ці памятаеш ночы велікодныя,
Як перад сном і ў сне,
І пасля сноў
Былі мы ненасытныя,
Як дзікуны, галодныя?



І зноў сягоння я кахаў
Толькі цябе выключна.
Было мне крыху радасна
І многа больш балюча.
Ці ёсць крыніцы на зямлі
З струменнямі ўцехі?
Ды залятае да мяне
Ад твайго суму рэха.
Калі па шчырасці сказаць,
Дык добра мне і дрэнна,
Ды веру –
Мушу я чакаць
Не надарэмна,
Бо ў канцы чаканняў тых
Са смуткамі бязмернымі
Стаіш дзесь, Дарагая, ты –
Каханая і верная.



Хтось скажа – смешныя,
Хтось скажа – гідкія,
Хтось скажа – бессаромныя.
Каханне моцнае
Заўжды бяздомнае!
Яно заўсёды на вачах
Зайздроснікаў і цынікаў,
І словы ў іх на языках:
“Ну што ж, чакаем вынікаў!”
Няхай увесь сусвет сабе
Чакае і чакае,
А ты мяне, а я цябе
Кахалі і кахаем.



Чаму ў гэты ясны дзень
Прыходзіць змрочнасць да мяне
І я сумую?
Плыве журботная рака
І мая сумная рука
Партрэт малюе.

Далёка, Нінка, родны край
Наднарвенскі зялёны,
Хістаюцца ў ветры коні,
Як сонца, залатыя,
І там сярод даліны —
Ніна.
Мне не даступны
Сіні край –
Я у дабравольным аддаленні;
Мяне там, Дарагая, пачакай,
Прыйду, калі паліжуць цені
Даліну цёплай мызай.
Я стану на калені
І дамалюю
Ніна Лізу.



Бяссільны, Нінка, час,
Ды і прастор бяссільны,
Я мог бы і далей,
Ды і даўжэй таксама
Змог бы
Пражыць,
Пратрымаць
Без цябе,
Каб толькі ведаў
І быў пэўны,
Што на канцы зямлі
Чакаеш,
А той цяжар,
Які дае расстанне
І чаканне,
У ступені аднолькавай
І горкі, і салодкі,
І чым далей, і чым даўжэй,
Тым вярней.
Так як зямля
На дажджавыя воды,
Чакай так на мяне,
Як я чакаю на цябе
Сягоння,
Заўтра
І заўсёды.



А гэты вершы аб табе
Названыя —
Настальгіямі.
Яны са сноў бяссонных,
Апаўночных,
Як гімны вернасці
Маёй,
Спяваныя журбою.
Вазьмі іх на далонь,
Адваж,
Так як Феміда важыць
Праўду і няпраўду.
Пабачыш:
Мае ночы родзяць
Толькі светласць
І блакіты,
З якіх твае партрэты
Канструюю.
О, так я Пікасо –
Не назавеш іначай.
Скажы, чаму мае блакіты
Плачуць?



Мне б разам з табой
Паглядзець,
Памаўчаць
І паслухаць,
Можа, верш напісаць,
Можа, песню пачаць
Упаўголас,
А ў сэрцы маім пачаліся
Трывожныя зрухі:
Пачуццё, ты заўсёды адкрытае,
Голае.
Не хачу я хаваць
Нават найменшай часцінкі
З тых пачуццяў,
Якія валодаюць мною,
У вялікім сусвеце
Маленькая Нінка,
А я быццам бы волат

Пры табе і з табою.
Як мне хочацца проста
З табою дзяліцца
І раскацістым смехам,
І слязою суцішнай,
І звонам сузор'яў,
І песняй крыніцы,
І квітненнем
Бацькоўскай і матчынай
Вішні.



І зноў прыплывае
Ка мне задуменне,
І бег стрымгаловы
У думках да хаты.
Ці промнем калючым,
Ці востраным ценем
Я безлітосна сягоння расцяты?
Мая незабыўнасць,
Ты з песні і з цішы,
Як веснавая з-над Нарвы
Дуброва,
І песціш, і цешыш,
І чула калышаш,
Да вершаў маіх
Даеш пекныя словы.
А наша расстанне –
Яно толькі момант;
Ён не аддаліць цябе, Дарагая.
Я чую ў Мінску
Наднарвенскі гоман
І постаць тваю
Я з вачэй не спускаю.



Сусвет не ў стане
Зразумець
Ні нашых слоў,
Ні нашых думак.
Ён нас сягоння раздзяліў,
Але каханне

Знішчыць ён не здолеў.
Ці шчырасць пачуцця
Ёсць цішынёй, ці шумам?
Ды, мабыць, з ім ёсць так,
Як з пушчаю і полем:
І песня ў ім, і ціша ў ім,
І каляровасць,
І нават яго шэрасць не бывае шэрасць.
Каханая,
Нашу цябе ў калысцы слова
І выпусціць з яе
Не маю я намеру.

  

Без цябе белы свет
Не свет белы,
Усё панурае ў ім,
Усё змрочнае,
Асавелае,
Анямелае,
Аднабочнае.
З ліхтаром
Я ў поўдзень шукаю
Раўнавагі для духа і цела.
Што я маю?
Я горычнасць маю,
Многа чорнага,
Крышачку белага.
Але промня ніхто не задушыць
Таго, што мне сэрца аблытаў,
Праз воды іду і праз сушу
Да маёй
Незабытай.

  

Мае вершы
Да цябе прыходзяць
З тым намерам,
Каб ля ног прылегчы,
А на Нарве сёння
Паўнаводдзе —
Як прабегчы

Нам ад хаты да разліву,
Узяўшыся за рукі, Дарагая?
Толькі ў супольнасці
Шчаслівасць,
Толькі, Нінка,
У супольнасці з табою.
Глянь, высока над табой нябёсы,
Глянь, далёка той, хто закаханы –
Праклінаць ці дзякаваць мо лёсу
За трывогі,
За дарогі,
За чаканне?



Я прагну толькі аднаго:
Каб ты мяне чакала і чакала
Ціха і нястомна,
А мой агонь – святы агонь,
Ён не бяздомны.
І дзень, і ноч
Яго я сцерагу
І прынясу на наш парог
У ненарушным стане;
Чакаць хачу, чакаць магу
Я ў імя кахання.
Няма такіх завеяў, ні вятроў,
Якія б мой агонь згасілі,
Гартую ў ім і сэрца, і пяро,
Ніхто не зможа абяссіліць.
Я прагну толькі цішыні,
Якую б піў з табою разам,
Маю журботу, Нінка, прыгарні,
Схвацi ў полымя экстазаў.



Цемра начэй
Дана нам для таго,
Каб ясна бачыць
Усе з тых фактаў
Радасных і сумных,
Якія датыкаліся
Да смеху і да плачу,

І да глыбіннасці,
І да бяздумнасці,
А мне – яна вяртацца
Памагае
Да тваіх сноў,
Да тваіх слоў,
Да твайго цела.
Прыходзіш кожнай ночы,
Дарагая,
Блакітная і белая,
Сядаеш на пасцель
І тулішся шчакою,
І вокал толькі сінь,
І вокал толькі бель
Плыве ракою.



Я пешчу ў далонях
Кожны ўспамін,
Які з табою звязаны,
Як сонца з небам.
Ці ж не паклоніцца
Сялянскі сын
Хлебу?
Ці ж не паклонімся красе,
Замкнёнай у валошцы сіняй?
Ці ж не нявольнікі мы ўсе
Беласнежных інеяў?
А хто ж пяройдзе абы як
Пры тых іканастасах дзіўных,
Што восень красіць у палях
Пасля жніўнёвых ліўняў?
Дык пакланіся нашай старане,
Бо я далёка ад яе сягоння,
І ад сябе, і ад мяне
Злажы на ёй далоні.



Мне з цярпеннем,
Якое ёсць смуткам
Расстання
Да твару,
Нінка,

Да твару.
Каханая,
Крышку разам памарым:
Як добра,
Што ціхая наша хата,
Ты, Нінка, чайнік пастаў,
Звары нам гарбаты,
Гузік прышый да кашулі
І вершык дзіцячы скажы
Аб тым, як куры заснулі.
Забудзем аб войнах,
Аб злосцях адчайных,
І я верш аб табе напішу,
Такі цалкам звычайны.



Датыкацца да цела твайго –
Датыкацца да іскры
Салодкай –
Гэта толькі, што зорку
Хватаць у далоні.
У дотыку гэтым
Пажар і паводка,
Нараджэнне жыцця
І смяртэльнасць агоніі.
Датыкацца да цела твайго,
Датыкацца да вішні ў маі,
Калі яна ў белым
Квітненні пахучым.
Пазволь дакранацца
Яшчэ і яшчэ, Дарагая.
Мне ад дотыкаў гэтых
Таксама соладка.
Як і балюча.



Не сумуй,
Бо я побач, я блізка.
Як яблынь квітненне ад мая,
Прайшоў праз заблуджанасць,
Слізкасць
І знайшоў зноў цябе, Дарагая,

І пабачыў у новых рэаліях,
Як бярэш ты ў рукі будзённасць,
Ну, а жалі?
Забытыя жалі,
Патанулі ў шчасці бяздонным.
Хай жыццё будзе з клопатам,
З болем,
Ды і з радаснай добрай прыгодай,
Трэба многа наесціся солі,
Каб добра адчуць слодыч мёду.



Мне хочацца хутчэй
На бераг твой, Каханая,
І не палохаюць мяне
Ні буры, ні ільдзіны,
Іканастасная
Вячэрняя і ранняя
Ніна.
А тое ў свеце дзіўнае,
Вясною зноў сатканае,
Так каляровае і габелiннае,
І незабыўнае, і пажаданае –
Маё і Німіна.
І чым мне жыць
Тут на самотным востраве,
Надзеяю ці ўспамінамі?
Тупыя болі, болі вострыя
За Нінаю.
Без Ніны я і з Нінаю.



Я, Нінка, твой
І больш нічый на свеце,
Здаецца мне,
Што я ўдзельнік сонца,
Што мая ўласнасць – вецер.
Прыйдзі і палажы
Мне галаву на грудзі,
І паплывем на астравы
Шчаслівыя з табою,
І толькі мы адны

На свеце будзем
Пад сумнаю вярбою
І над вясёлаю вадою,
Там, дзе няма ні зла,
Ні ліхалецця,
Дзе скажаш:
“Толькі я твая на свеце”.



Якая ж сонечнасць у шыбінах,
Якая яснасць,
Якая веліКоднасць веснавая
Рвецца ў пакоі,
Але мне цешыцца заўчасна,
Бо я самотны тут,
Без Дарагое.
Яшчэ так трыццаць дзён
Буду са смуткам побач,
А потым ты ўва мне
І я ў табе да скону,
Няхай сабе пабуду ў жалобе,
А потым апрану
Раскошную карону.
Збяру я зоркі для цябе
З Дарогі Млечнай
І кветку-папараць знайду ў лесе,
І толькі мы здабудзем шчасце вечнае:
Для Нінкі з Козлікаў
І для бандарскага Алеся.



Праходзіць дзень чарговы,
Дзень жабрацкі,
Не выжабраў ад лёсу
Міласціны.
І зноў успамінаецца
Далёкае юнацтва
І сэрца прытуляецца
Да Ніны.
Ці то аблокі, ці мо лебедзі
Над Бандарамі
Дзяцінства акрыляюць

І плывуць у вырай?
Не здолею без Дарагой
Зняць з сэрца камень
І ўдыхнуць у грудзі
Нарвенскія шыры.
І бэз мой сіні недзе,
Сумныя лілеі,
З іскрынкамі слязінак
Зоркі па-над хатай,
Чаму ж ад смутку сэрца маё млее,
А я такі і бедны, і багаты?

  

Будучыняй маёю радаснай
Становіцца мінулае
З табою, Дарагая.
Наша расстанне дагарае
І зноў збудуем дом
З пяшчотнасці,
І з чуласці,
І з ласкі.
Я буду ў ім табе на сон
Расказваць казкі
Аб тым, як чалавек,
Пагнаны лёсам
У нязнанае,
У сэрцы захаваў
Каханне,
У ідэальным стане
Пранёс яго праз час,
Ад злога ўбярог
І палажыў
На Ніначчын парог.

  

Я дзякую табе
За цішыню ў нашай хаце,
Малітвеннасць у ёй
І творчае натхненне.
Яна – найбольшае багацце,
Яна – карэнне
Тых настрояў дзіўных,

З якіх бяруць пачатак
Ліўні:
Ліўні пачуццяў
Горкіх і салодкіх,
Заўсёды веснавых і першых,
Ліўні-паводкі,
Ліўні-шчасці,
Ліўні-вершы.



Я табой зняволены
Цалкам дабравольна,
У тваіх палонах
Соладка і шчасна,
Нінчына няволя
Азначае вольнасць,
Дык трактуй Алеся
Як сваю ўласнасць.
Прытуліся, Нінка,
Цёплым успамінам
Да размоваў нашых
Ранніх, вечаровых.
Кланяйся над Нарвай
Тым змярканням сінім,
Што даюць імпульсы
Паэтычным словам.
Мае вершы, Нінка,
З ласкі вырастаюць,
З той, якую сееш
Шчодрымі рукамі,
Ой, якую ж сілу
Ў сабе ты маеш!
Ад яе ахвотна
Заспявае камень.



Усякі раз,
Калі б я толькі не званіў,
Была ты дома
І голас ціхі твой:
– Так, слухаю, Алесю –
Быў як бальзам

На нервы і на стому,
Або касцёр для голага
Ў лесе.
Каханая, пільнуй
І цішы, і парога,
Бо толькі там
Квітнее чалавечнасць;
Хачу вярнуцца з дальняе дарогі,
Каб, Ніначка, з табою
Аставацца вечна:
Лістаць старонкі кніг
І вершы дасканаліць,
Гарбату піць і гутарыць
З табою ціха,
Паслаць у дальнія лясы
Прэтэнзіі і жалі,
Забыць, што ў жыцці
Бывае зло і ліха.

# З “Беларускага календара на 1988 год”

## Матчынае

  

У табе
Расціла мая маладосць
Мае думкі
Удалыя і не удалыя;
Кожны дзень адкрываю
Тваю прыгажосць
І з брыдотай абвенчаны
Лёсам і доляй.
Зрыфмаваны я тут
З Тваім харраством;
Усё думаў
Паставіць пад ліпаю дом –
І да сёння паставіць
Не здолеў.
А ў свеце вялікім
Віталі мяне;
Віталі і шчодра,
Віталі і скромна,
Але толькі
У роднай сваёй старане –
Я – небясхлебны,
Я – небяздомны.

  

У гэтым свеце – тых,
Хто хоча многа браць
І не даваць нічога,
Намнога больш, чым тых,
Хто аддае, не ўзяўшы.
Ды ты на факты гэтыя

Не спасылайся.
Старайся больш даваць
Другім,
Чымсьці бярэш
Ад іншых
І не чакай –
Апладысментаў.

  

Дзе тыя Бандары?
Пытаць усё жыццё
Я буду,
У якіх мой бацька жыў
І мая маці.
О, вечныя распяцці
І скрыжаванні!
З усіх маіх жаданняў
Хай споўніцца адно:
Маё акно ў сад,
Мой язьмін пад акном,
Матчыныя вячэрнія малітвы.
Не прагну бегатні па свеце,
Ні медалёў,
Ні ўзорчатых дыпломаў.
Усё аддаў бы я,
Каб толькі мог сказаць,
Вярнуўшыся
З чужых дарог:
– І зноў у родным доме!

  

Бандары для мяне
Аграмаднай Варшавай,
А я ў Бандарах
Малы і вялікі.
Там вецер прыклічу,
Здзьмухну пажар сонца,
І з хмары зялёнай
Пахучага сена
Спраду верш.

  

Зрабі, Айчына добрая,
Апошнюю паслугу:
З найбольшай глыбы
Тут даступнага граніту –
Са слова роднага структуры –
Мне помнік вычашы
Сялянскімі рукамі.
І хай цалуюць яго промні
І вецер гладзіць
Чулымі рукамі.
– З чаго узніклі мы?
– Дакладна невядома.
– Чым, станемся па смерці?
– Загадкова.
Прыход на свет
І адыход з жыцця
Ёсць клямрай запаветнай,
Якую толькі лёс
Умее зашпіліць
І расшпіліць беспамылкова.

## З “Беларускага календара на 1989 год”

### На Новы год

Зазвінелі ў полі віхры і завеі,
Рассцілае студзень белыя абрусы;
Колькі з нашых планаў, думак і надзеяў
Прыняслі, сябры, мы роднай Беларусі?
Край айчынны родны, белыя абшары,
Дрэмле Белавежа, Буг прыкрыўся лёдам,
Колькі ж тут прасторы пошукам і марам!
Дзейнасці карыснай для свайго народу.
Як жа патрабуе дапамогі СЛОВА
З матчыных, адвечных, казачных глыбіняў,
Чым ты, беларусе, без айчыннай МОВЫ?
Без яе ты вечным марнатраўным сынам.
Захавайма тое, што на землях нашых
Ад вякоў расло тут, ад вякоў тут спела,
Хай квітнее СЛОВА-РАДАСЦЬ на Падляшшы
Ў песенным матыве, у палёце смелым.
Ушануйма дружбу, ушануйма згоду,
З сэрцаў нашых злосці за лясы прагонім,
Да суседзяў блізкіх, да чужых народаў
Працягаем сёння нашыя далоні.
Новы год прыходзіць з новай перспектывай,
Тосты ўзнімаем за жыццё ў міры,
За Айчыну нашу, за лясы і нівы,
За агонь адвечны, беларускі, шчыры.

### Блакітныя прывіды

Нялёгка развітацца
З сіняй маладосцю,
З блакітнасцю
Маны яе салодкай.
Здаецца, тут яна яшчэ,

Ды гэта ілюзорнасць,
Рука твая дрыжыць,
Хапаючы пустэчу.

А тое,
Што ў вачах трымціць –
Гэта не грудзі,
Не талія
І не ўлонне.
Гэта пустое ўяўленне.
І адгалосак
Той далёкай,
Якая пры табе была,
А можа, толькі
Так здалося...
Бываюць дзіўныя прывіды,
Калі пры нас сядае восень.

* * *

Свет часта паступае так,
Як бы наеўся блёкатаў
Дурацкіх.
І мы нярэдка ачумелыя
Бываем,
Бо яблыка ад яблыні
Не падае далёка.
А што, калі б
За рукі мы ўзяліся,
Як дзеці вокал
Каляровай кулі,
І шар зямлі,
Абмыты навальніцай,
Абвеяны
Нядзельнымі вятрамі,
Да сонца паднялі,
І вуснамі,
Свабоднымі ад злосці,
Аб шчырым прабачэнні
Праспявалі песню.
Салюты тапалёў маіх
Над Нарвай –
Яны як песні,
Шумныя ўздохі.
Іх гоман

Сее мне ў сэрцы
Добрыя настроі.
І разам з імі
Песняю зялёнай
Станаўлюся.
Заўсёды быў я
Роўны з імі,
Нават на цаль
Не меншы і не большы.
І сёння мы
Разам расцем
На роднай глебе
Пад свойскім небам.
Вялікі свет –
Гэта мая зямля малая.
Яе люблю я
Безразумна і разумна,
З яе растуць мае таполі
І крыж мой вырасце
З яе таксама.

*   *   *

Паэзія – складанасць рэчаў простых,
Імкненне да крыніц істоты
І ўсё далейшы адыход
Ад сутнасці ўсялякай.
Не, мы не вырашым
Складанасцей,
Не выяснім загадак,
Хаця, быць можа, што паэты
Розных нацый
Выводзяць разам думку чалавечую
На ясны шлях са светаў цёмных.
Аднак аддзельна
Толькі блудзім мы
І ў тупікі заходзім,
Шукаем цемры.
Можа, таму,
Што толькі ў змроку
Відаць выразна іскру.

## Магіла Максіма Багдановіча

Твае косці ў зямлі чужой,
У зямлі Твайму сэрцы нялюбай,
Хоць не мала на свеце вужоў,
Але молімся мы да галубак.

Свет прыгожы ў колерах знік,
Нас нянавісць да лёту не ўзніме,
І хаця на грудзях чаравік,
У душы нашай вечны жнівень.

Нам калоссе спявае гімн,
І мы сонцу заносім малітву.
Ставіць восень у полі стагі,
Нібы шлёмы герояў па бітве.

І на нашай прыгожай зямлі,
Дзе прасторна і вёснам, і зімам,
Як жа многа мясцоў для магіл,
Толькі месца няма для Максіма.

# З “Беларускага календара на 1992 год”

⚐ ⚐ ⚐

Глядзі, беларусе, над светам світае,
І зоры свабоды ў небе яснеюць,
Узыходзіць жаданая воля над краем,
У хаты прыходзіць аб шчасці надзея.

Як доўга чакалі, каб стацца народам
Без горкага, злога чужога прыгону,
Каб вечна хадзіла па краі свабода
І песні спявала над родным загонам!

Ды поўнае шчасце не прыйдзе нам з неба.
Патрэбная праца, напружанасць волі,
Каб кожнаму ўдоваль хапіла тут хлеба
І кожны палепшыў свой быт, сваю долю.

Яднайся, народзе, і смела наперад!
Жыве Беларусь сярод вольных народаў!
Жыць нельга шчасліва без дружбы, без веры,
Жыць нельга шчасліва без сонца свабоды.

Глядзі, беларусе, світае над краем,
Спыні ты свой сон ды вазьміся за справу.
Мы сёння гісторыю з месца скранаем
І дом свой будуем – дом волі і славы.

# З “Беларускага календара на 1994 год”

## Беластоцкі край

Мой Беластоцкі край, мая Айчына,
З табою звязаны мой лёс і доля.
Люблю твае лясы, люблю твае даліны,
Кахаю шчыра бацькаўскае поле.

Калышашся ў напевах песні роднай
І мыеш твар у промнях залацістых.
І толькі тут заўсёды я свабодны,
І толькі тут душой заўсёды чысты.

*Рэфрэн:*
Сямяцічы, і Гайнаўка, і Бельск старынны,
Саколка ціхая, зялёная Дуброва,
Любоў да вас – мая адвечная павіннасць
І вернасць да матчынай роднай мовы.

Шасціць калоссе ў палях шырокіх,
Бурліць крыніца песняю адвечнай,
Звініць нядзельны звон з царквы далёкай,
На роднай Беласточчыне я вечны.

Зямля мая, мой беларускі краю,
Над Нарваю, над Бугам задуменным,
Я вольны тут, душой адпачываю,
Мой краю вечны, краю незаменны.

*Рэфрэн:*
Сямяцічы і Гайнаўка, і Бельск старынны,
Саколка ціхая, зялёная Дуброва,
Любоў да Вас – мая адвечная павіннасць
І вернасць да матчынай роднай мовы.

## Верш

Ты мой, непадзельны,
Як бацька,
Як сын.
Дык і крытык далоў,
І апекун далоў!
Плевакоў не сцярплю ў сваю кроў,
І апекі над вершам сваім не сцярплю!
Калі б нават лёс
Схацеў скрэсліць радок
Срэбрам маланкі
Ці зграяю хмар-ваўчанят
Злізаць вастрыё ў паэзіі –
Не дазволю,
Не дам,
Не змяню
Ні радка,
Ні страфы,
Ні метафар.
Прэч, дыктатар!
Я тут сам адвакат,
Пракурор і суддзя.
Я кахаю, як Бог,
І, як чорт, ненавіджу.
Верш мне грудзі прабіў,
Ён мне з сэрца тырчыць,
Як Эйфлева вежа з Парыжа.
Мне ўсёроўна:
Ці крытык з анёльскім пяром,
Ці з паліцэйскай дубінай.
Так ці сяк,
Не дам сына!
Я яго нарадзіў
Пад сэрца дыктат,
І мая ў тым воля,
Ці жыць будзе, ці не,
Ці ён пойдзе ў свет,
Ці ў кошык са смеццем.
І ніхто ў цэлым свеце
Не мае права сказаць:
Перайнач,
Дастасуй,
Упрыгож!
Не змяню пад загад,

Не змяню і пад трунак –
Калі сільныя схочуць,
Магу замаўчаць.
Вось варунак:
Хай адкормлены гад
Пратне ў сэрцы маім
Струны.

## Іслачанскія задуменні

* * *

Пад лесам
Спатыкнуўся дзень
І вечар
Абхваціў яго рукамі,
Выйшаў з гушчараў
Хмурны цень
І прывязаў да шыі
Камень.
У рэчку злосна
Баўтануў
І абтрапаў далоні,
Свет багабойзна ўздыхнуў
Сонны.
А мне сягоння
Не да сну,
Рукой кранаю вецце,
Успомніў раннюю вясну
І белавежскі вецер.
Як добра,
Калі ў цябе ёсць
Свой дом
І свае мары,
Тады ты гаспадар,
Не госць
На аграмадным шары.
Як добра,
Калі з тысяч моў
Твая
На месцы першым
І калі можаш
Сваю кроў
Аддаць айчынным вершам.

*    *    *

Зрабілася мне сумна
І маркотна,
Бо дзень прайшоў
Так неяк дзіўна.
Стог елкі
Прыбядняецца гаротна,
Прыбіты да зямлі
Жніўнёвым ліўнем.
Ды гэты
Мае сумныя настроі
Хутчэй за ўсё тэатрам,
Не сапраўдным станам,
Ой, не адзін з нас прагне
Вечным быць героем,
У антрацытах гартаваным.
А мне ўсё мроіцца
Святыня баравая,
Дзе кожны клён
І алтаром, і одай.
Няхай жыве,
Ніколі не канае
На лес,
На пушчу,
На дуброву мода.
Стаю пад цёплым
Небам іслачанскім
І паднябесных
Ліхтароў чакаю.
Я ад вякоў быў
Парасткам сялянскім
У Белавежскім краі.

*    *    *

Песня атавы
Маё сэрца лечыць
З-над Нарвы – той
І Іслачанскай – гэтай.
Апошні промень
Мне паўзе на плечы,
І сумна мне,
Што блізка канец лета.
Хаця і восень
Мне не раз шаптала
Такія рыфмы,

Што аж міла,
І шчодраю рукой давала
Маёй паэзіі
Настрой і сілу.
Стаю над рэчкаю
І слухаю маленні
Адвечных пацераў
Вады нястомнай.
Каб толькі творчае гарэнне
Не стала на зямлі
Бяздомным.
Люблю лугі зялёныя,
Духмянасць
Паўзе па беразе
Ад соннае атавы.
Мне лепш тут батраком,
Чым на чужыне панам,
Служыць айчыннай справе.

* * *

Маё каханне да зямлі
Высакародней,
Чымсьці каханне да жанчыны,
Бо ад зямлі не прагну я
Інтымнай дані.
О, колькі ж вырадкаў
Сярод сыноў
Маёй краіны,
Якія здрадніцтвам яе
Паганяць.
Як лёгка ім плюецца
На айчынныя магілы,
Як лёгка мову родную
Яны частуюць ранай!
Хто сэрца выдраў ім,
Якой магічнай сілай?
І ў грудзі памясціў
Халодны камень?!
О, колькі трэба доўгіх
І ўпартых сутак,
Адкрытых і закрытых
Горычных сеансаў,
Каб з мовы зняць
Нявольніцкія путы
І даць пачатак Рэнесансу!

*  *  *

Пабачыў я бусла
У краі Іслачанскім.
Здавалася б, банальны
На лугах абразак,
Але ў маёй душы,
Лірычнай і сялянскай,
Усплыў настрой журбы
За белавежскім вязам.
Здаецца сёння мне,
Што я таксама птахам,
Ў зялёным краі ўзгадаваным,
І перажыў не раз
Жыццёвыя я крахі
І без віны быў пакараны.
Зялёны родны край!
Усё ў табе маё,
Жывеш з адкрытаю душою,
Але чаму кахаеш
Меней ты сваё,
Чымсьці чужое?

*  *  *

Ты, Іслачанскі край,
Красаў з мяне агонь
Надзвычай эфектыўна.
І не зглуміў яго,
Не пагасіў яго
Ні рэчкаю,
Ні ліўнем.
Дабавіў сіл ты мне
І творча ўзбагаціў,
І нашаптаў матываў,
А я іх, як умеў,
У вершы пераліў,
Шчаслівы.

*  *  *

Цяжар сялянскіх рук,
Ты выявіўся ў зернях,
Спачатку адшумеў
У коласе зялёным.

Любоў сялянская зямлі
Даніну зноўку верне
На загоны.
Асірацелі ўжо
Жытнёвыя прасторы,
А зерне спіць у пунях,
На таках далёкіх,
Ды рэха шчэ звініць
Бурштынавага мора,
Якое тут шумела
На палях шырокіх.
І як жа радасна,
І як пры гэтым млосна
Майму сялянскаму нутру
На полі гэтым!
Ізноў паўторыцца
Раман мілосны
І пры пасевах,
І пры жніве летам.
Чаго-чаго
Я зараз тут баюся?
Гняце мяне
Загадкавасць дылемы:
Ці не забіла ў сэрцы беларуса
Любові да зямлі
Калгасная сістэма?

# З “Беларускага календара на 1995 год”

## На новы 1995 год

Беларусь, спыні сон, разбудзіся, світанне,
І выходзь на прастор, на шырокія гоні.
Сонца промнем цалуе туманнае ранне
І залоціць дубоў белавежскіх кароны.

І ўсё тут тваё, і ўсё тут чакае
Клапатлівай рукі і руплівай задумы.
Беларусе, змяні ад асноў лёсы краю
І да песень ідзі ад адвечнага суму.

І ты станься свабодным між вольных народаў
І душу напаі ў гулказвонных крыніцах,
Хай спяваюць званы гімны вечнай свабоды,
Хай надзея імчыць на хрыбтах бліскавіцаў.

Дык у шыр, дык у высь, у прастор і ў сонца
Хай растуць парасткі беларускай надзеі,
І сканае бясследна чарнобыльскі стронцый,
І навек родны край добрым шчасцем квітнее.

Беларусь, працягні рукі дружбы народам
І наперад ідзі да шчаслівае долі,
Хай палошчуць сцягі ідэалы свабоды
І хай воля тут стане сапраўднаю воляй.

## Над бяздоннем слова

  

Ці верш мой —
Гэта рэчаіснасці стварэнне
Ці толькі рэчаіснасці адбітак?
Як мне ўстаць з каленяў,
Глянуць у вочы сонцу,

Упіцца белавежскай акавітай?
Акты адвечных будаванняў
І сусветаў,
І гарадоў, і вершаў.
Каб верш стварыць,
Трэба прайсці праз акт
Самазнішчэння,
Які вядзе да акта
Адраджэння.



Усё маё – тваё
І ўсё тваё маім
Хай будзе,
Каб болей не дзяліць
Таго, што цэласнасць
Стварае,
Бо як жа падзяліць,
Скажыце, людзі,
Слова прасцейшае –
Кахаю?
Яго нам трэба атуліць,
Як вулей атуляюць
На марозы,
Ад злых людзей абараніць,
Каб не было яно мімозай, –
Раслінай той,
Што так прыгожа расцвітае,
Але на некалькі гадзін,
І на гады ўмірае.
Няхай яно квітнее:
Вечна так,
Як неба зоркамі ірдзіцца,
І хай спявае, як спявае птах
Мільёны год па-над крыніцай.



Блакітны лес
І неба зелень,
Алень чырвоны сонца
Скача ў верхавінах.
Тут многа ўсяго,

А мне хапіла б малавеле
У цёплым закутку краіны.
І я іду спакойна ўдалячынь,
Па-гаспадарску,
Пад кожны кусцік зазіраю,
І пахне ціхі вецер
Па-бандарску
У белавежскім краі.

  

Малюся разам з гуртам дрэў
Сонцу, якое дагарае,
Плыве малітвенны наш спеў
Над лугам і над гаем.
Лаўлю танюсенькі прамень,
Каб верш пісаць,
Як пройдзе дзень,
Агністы.
Праменнасць шчырага радка
У зрыфмаваным болю;
Паэзія – гэта рака
З мёдам і соллю.
Мёду і солі трэба з’есць
Па пудзе,
Тады напісаны табою верш
Праўдзівы будзе.

  

Падружыла маё сэрца
На змярканні
І з сасною,
І з бярозаю,
І з лугам.
Што ж мы вартыя
Без шчырага кахання?
Што ж мы вартыя
Без сябра і без друга?
Прысягаю дружбу верную
Даліне
Той, што вырасціла
Шумную дуброву
І мне шчыра сёння

Падвячоркам сінім
Надавала шчодра
Паэтычных словаў.
Вось таму шчаслівы,
Вось таму звінячы
І хаджу па гэтым
Беларускім лесе,
Што тут ні пачую,
Што тут ні пабачу,
Зараз запрашаю
У палоны песень.

  

Ты вокны адкрывай
І паглядай у тую старану,
Дзе сонца ўзыходзіць,
Бо я адтуль прыеду
У нашу хату.
Хто бедны ў гэтым свеце?
Хто багаты?
А бедны той, хто ненавідзіць,
А той багаты, хто кахае.
Дык, значыць, Нінка,
Багацей я,
І больш заможнага
Няма на свеце.
Мае ўласнасці – сіні вецер,
Маё чарніла
З сонечных праменняў
І з чэрвеньскіх блакітаў
Мой пергамент.
Пішу лісты табе
На ім,
На ветрах,
На каменнях –
Амэн!

  

Тут кожная сасна
Сонца ў руках трымае
І нам яго, як хлеб,
Гасцінна дорыць,
Ідзём і цешымся,

І забываем,
Што ёсць на свеце гора.
І верым добрым чарадзеям,
Прыхільным і зычлівым
Гномам,
Чаго не ўмелі ўчора,
Сёння тут умеем,
І гэты лес становіцца
Нам домам.
Зацерлі мы мяжу
Паміж магчымым-немагчымым,
Трымаем сонцы цёплыя
Пад пахай,
Усё змяніла
Ціхая Радзіма:
І боль ужо не боль,
І жах ужо не жахам.

  

Мне цяжка, асабліва
Па начах!
Калі рука замест цябе
Сціскае цемру,
І толькі ты ў вачах,
І толькі ў горкім уяўленні,
Вакол мяне
Снуюцца цені,
І вершы сумныя
Прыходзяць да мяне,
Не веснавыя,
А асеннія,
І толькі дзесь глыбока
Там, на дне,
Дзе, можа, матачнік
Усіх пачуццяў чалавечых,
Не гасне аганёк
Надзеі вечнай,
Што сэрца
І ўквечвае
І лечыць.



Сасна,
Твая крона, як ветразь,
Маю лодку ў шчасце
Гоніць.
Паэт заўсёды братам
Ветру
У жыцці,
У быцці,
У агоніі.
Ты ведаеш гэтае мора,
Якое з зялёных галінак,
Для мяне лясная прастора
Тое, што маці для сына.
Яна нам
Ніколі не здрадзіць,
Падкажа добрыя словы
І, як маленькіх,
Пагладзіць
Па безразумных галовах.
Таму і плыву
З даверам
Пад ветразем
Спеўна-звонным,
Улі ў душы маёй шэрасць
Крыху надзеі зялёнай.



Прайшла зіма,
І з сонцам за пан-брат
Я сёння,
А холад толькі ад таго,
Што не ляжыць рука твая
У маёй далоні.
А горыч толькі ад таго,
Што ты за небасхілам.
Я з сонцам за пан-брат,
Ды без цябе
Я, Мілая.
Хаджу я па зямлі,
Напорыста дарог шукаю,
Якія б завялі
Да той адной,
Якую я кахаю.



Радзіма ёсць толькі адна
І не трэба радзімаў мне болей,
І я ад цямна да відна
Вартую айчыннае поле.
І тут я,
Слуга твой і сын,
Малюся,
Спяваю
І мару,
Мне з кветкамі роднай красы
Да твару.
І лес твой,
Рачулка
І луг –
Гэта родныя сэрцу
Праявы,
Сніцца Нарва
І сніцца мне Буг,
І росная ў лузе
Атава.
І чую, што я
Не чужы
На гэтай зямлі
Шырокай,
Няма ў маім сэрцы мяжы,
Я родны тут,
Не адзінокі.



Былі на свеце толькі мы,
Кастры гарэлі самаверныя,
І ўсё было як быццам марнае,
Калі з табой было
Не звязана.
Што значыць
Шчасцем быць заражаным?
Значыць, жадаць усім удачы,
Значыць, змяняць у смехі плачы.
Ці памятаеш ты ўсё,
Што будавалі мы з цаглінак
І грэлі іх у горнах душ,
Ніна?

І наш агонь я берагу
У пушчы і ў полі,
Не жыць на свеце я магу,
А не кахаць – не здолею.



Натоўп зялёных сосен
Стройных
Сягоння абступіў мяне
Навокал,
І сэрцу весела,
І мройна,
І радасна
Вушам і зроку.
Мо хтосьці скажа –
Лес звычайны
І захапленні
Без патрэбы,
Ды я ж ад берага
Адчаліў
І ўзяў у руку
Лусту хлеба.
І бераг родны,
І хлеб родны
У гэтым аказаўся
Краі,
А для мяне лес –
Вечна модны
З сваім шумлівым
Ураджаем.
Я соснам заглядзеўся
У твар,
Падслухаў
Жнівеньскую песню,
І стала ў маіх вушах
Марам цесна.



Увайдзі ў пакой
Са шклянкай гарбаты
Пахучай,
Пасядзі ля мяне,
Хай адыдзе ўпрочкі

Балючасць,
І няхай увесь свет
Станецца сіні і ціхі,
І пойдзе на спалены лес
Усякае ліха.
А ты пасядзі,
Паглядзі,
Памаўчы,
Паўсміхайся,
Чаго я хачу ад цябе –
Дагадайся.

🕮 🕮 🕮

Куды б тут ні пайшоў –
Усюды шэпты дрэваў,
Якія кажуць мне:
Парадуйся, пацешся,
Пойдзеш направа
Ці налева –
Да шчасця ўсюды
Дакранешся.
І я ў лесе застаюся,
Не рвуся ў шумную
Сталіцу,
Крану сасну,
Да елкі дакрануся,
Чую прыліў
Жывічнае крыніцы.
Дабро расце
І зло малее
У гэтым шуме
Ледзьве чутным,
І чуюся я тут Антэем,
Які з зямлі
Чарпаў магутнасць.
Тулюся да ствалоў
Сасновых
З прыгожым бронзавым
Загарам,
Шукаю рыфматворных
Словаў,
Пагубленых у травах
Мараў.

І ўсё знаходжу,
Што мне трэба,
І бессаромна ў верш згартаю,
Пяку ў сонцы вершы-хлебы,
У белавежскім цёплым краі.

  

Запёкся смутак
У маім чаканні,
Ды зерне веры
Не памерла.
Лягае часта мне
На сэрца камень,
Журба сціскае горла,
Але не камень
З горкаю журбою,
А толькі зерне
З парасткам надзеі
Мне пазваляе жыць табою
І вершы сеяць
На тым, на радасным
Палетку нашым,
Каханнем узараным,
Дзе глеба з сонечным паддашшам
Лечыць раны.

  

Азіміна
Яшчэ не цалавала поля
І парастак у зерні спіць,
Як бы прадаў пшаніцу,
І толькі ціхі ветрык
На раллі сваволіць,
Стараецца ў глыб зямлі
Прабіцца.
Зямля, завораная
Плугам працавітым,
Чакае зерняў
З багабойнасцю заўзятай.
Хто ж, як яна,
Даецца быць забітай,
Каб толькі даць жыццю

Жытнёваму пачатак?
Якой жа трэба полю
Дысцыпліны,
Якой цярплівасці і болю
Яму трэба,
Каб дачакацца
Каласочка-сына,
Каб парастак зялёны
Стаўся белым хлебам!

  

Вось гэты лес,
Яшчэ ўчора незнаёмы,
Сягоння стаўся
Родным домам.
За пан і брат
Я з кожным дрэвам,
Ідзём гурбою
Бестурботна,
А вокал сонечныя спевы,
Пералётнасць.
О, праміnанне быція людскага,
О, таямнічая дарога!
Ці “заўтра”
Будзе ўжо без нас,
Ці яшчэ з намі будзе?
Яшчэ раз,
Яшчэ раз,
Яшчэ раз
Пацешымся, людзі.
Яшчэ раз
Мы сабе і другім
Бязмежна паверым,
Жыццё, расшыр берагі,
Адчыні свае дзверы!
Дрэва кожнае –
Шчыры друг,
Варты маіх пацалункаў,
Каб толькі хапіла рук
Для поціскаў і для абдымкаў.

# З “Беларускага календара на 1996 год”

## Беласточчына — душы маёй калыска

О, Беласточчына – душы маёй калыска!
Я на тваёй зямлі не знаюся з бядою.
Калі я пры табе – да шчасця ўсюды блізка,
Бо ты частуеш шчодра хлебам і вадою.
Плыве мелодыя над матчыным абшарам,
А сэрцы нашыя толькі табе належаць,
Як лёгка жыць і працаваць і лёгка марыць,
Калі прыгорне да грудзей нас Белавежа.

*Прыпеў*:
Ад шумнай Дубровы да спеўных Сямяціч
Плыве беларуская песня са звонам.
Зямля Беластоцкая – родная маці,
Прымі нашы сэрцы з удзячным паклонам.

Куды б ні кінуў лёс, мы вернемся, Айчына,
І Беласточчына нас да грудзей прытуліць,
І мы паклонімся лясам тваім, далінам,
Бо ты для беларусаў – родная матуля.
Усе цябе нясем праз долю і нядолю,
У хлебе нашым ты і ў кожнай нашай справе.
Мы прагнем, каб жыла ты ў шчасці і у волі,
Мы прагнем, каб жыла ты ў міры і у славе.

*Прыпеў:*
Ад шумнай Дубровы да спеўных Сямяціч
Плыве беларуская песня са звонам.
Зямля Беластоцкая – родная маці,
Прымі нашы сэрцы з удзячным паклонам.

## Лес і каханне



Хто лесу не любіць,
Людзей той не любіць.
Я лес усхваляю,
Людзей – не заўсёды.
О, колькі ж прысяг урачыстых
І шлюбаў
У лесе – у сімвале
Нашай свабоды!
Прыходжу з прыбруджанай
Светам душою
І акунаю яе ў лістоту,
І чую, што нават
Зіяе красою
З бляскам зялёным
І з пазалотай.
Лесе магічны,
Лесе чароўны,
Як хочаш –
Старое ў юнацтва заменіш.
У лесе пустое
Становіцца поўным,
І ажываюць лясныя каменні.
Ты чарадзеем стаіш
Каласальным,
Спяваеш адвечныя
Гімны, пэаны.
Толькі тваю прызнаю
Геніяльнасць
І толькі тваім прагну
Стацца падданым.



Па лесе я іду,
Не чую стомы,
Шацёр галінак
Ветліва спявае,
І чую,
Што я дома і не дома,
Што ў чужым

І ў родным краі,
О, Беларусь!
Цябе дзяліў, хто прагнуў:
І з захаду шчыпаў,
І адрываў на ўсходзе –
Суседзі да сябе
Цябе, батрачку, цягнуць,
Каб даказаць,
Што ты – не ты, і годзе.
І лічаць тваю мову дыялектам
Сваіх вялікіх моваў непаўторных,
І адклікаюцца да дыялектык,
Каб даказаць,
Што белае ёсць чорным.
З усім ты мірышся
І адступаеш перад
Нахальнасцю
І дзікім глумам,
Замест таго,
Каб хамскім краям
У вочы плюнуць.



Уціхамірся, сэрца,
Услухайся ў лістоту
І з вечным рытмам часу
Разам ідзі ў ногу.
Гарыць на соснах
Сонца пазалотай,
І задрамаў пыл на дарогах.
Усе трывожнасці мае,
Усе імкненні –
Гэта мільённая секунды
Ў сусвеце;
Вечар ідзе,
Ледзь прыпадае на калені
І выганяе з гушчаў вецер.
Цалуе твар сасны
Апошні промень,
Запахла водарам
Жывічным глеба,
І птах малітву
Прачытаў у кроне,
І верхавіны дрэў

Пацалавала неба.
Уціхамірся, боль,
І зліся з наваколлем;
Сусвет застыў
У радасным здзіўленні.
Я – верны сын зямлі,
Сын лесу і сын поля,
Пыхлівасць кіну на калені.



Глыбей-глыбей у лес,
Далей-далей ад бедаў.
Тут песня ўсё чысцей
І ўсё крыштальней.
Прабегла шчасце тут,
Іду я яго следам,
З настроем прабачальным
Дарую сёння ўсім
І подласці, і грэх.
І папрашу ўсіх
Мае грахі прабачыць.
На бронзавай кары
Трымціць праменны смех –
Ад сонца трапяткога
Здача.
Бязгрэшны дзіўны свет,
Нявінны, як дзіця,
І я ў юнака
Змяніўся памаленьку
І бесшалестна іду
Ў краіне забыцця
Ў рай
Па баравых ступеньках.



Калі ідзеш у лес,
Пакораю ўзбройся
І здольнасць крыку
З сваіх лёгкіх выкінь.
Забудзь, што ўмееш
Бегаць тут і гойсаць,
Свістаць, шумець і гікаць.

І стань падобны да праменя,
Які цалуе
Ствол сасны зялёнай,
Вучыся апускацца
На калені
Перад бярозаю-мадоннай,
Прыпомні ціхія малітвы
Матчыныя за падарожных
І не трактуй жыцця,
Як бітву,
З якой выходзіш пераможна.
Сусвету мы вялікага
Часцінка,
Тваё жыццё,
Як ліст,
Які жыве на дрэве.
Жывеш кароткую хвілінку,
Дык пражыві яе
Са спевам.



Спявайце, жнівеньскія сосны,
Хлябнуўшы залацістых промняў,
Прыехаў я сюды
З душою млоснай,
Як пілігрым бяздомны.
Зайшоў у лес, як у святыню,
Паслухаў псалмаў
Чарадзейных
І зразумеў,
Што не загіну
Ў гэтым краі ціхавейным.
Плыве па соснах пазалота,
Кроны – зялёныя фантаны,
Мяне спавіў лірычны мотак,
Залечыў стрэсавыя раны.
Стаю з сасной,
Як роўны з роўным,
П’ем разам сонечную радасць,
І прыгажосць мне сэрца поўніць
Бурлівым гулкім вадаспадам.



Загнездзіўся ў лясах,
Нібы птушка ў гняздзечку,
Дрэвы лічу,
Махнуў рукой
На праміnанне,
Надзеў я на гардыню
Моцную вуздзечку
І прыгразіў ёй
Вечным пакараннем.
То ж у жыцці
Самаздаволенасць нас губіць,
А іншым накідаем
Густ дурацкі,
Хочам, каб хтосьці палюбіў,
Што мы ўжо любім,
І прымус называем
Дапамогай брацкай.
Я прагну жыць так,
Як жывуць тут дрэвы,
Спяваць, калі хачу,
І аб чым прагну марыць,
І дабравольна выбраць
Каралеву
Або аддаць свой лёс
У рукі камісараў.



Адлегласць і час
Ні пры чым,
Каханне не гіне ў вяках,
Толькі трэба вучыцца
Лічыць
І трэба вучыцца
Чакаць.
І я навучыўся ўсяго,
Ідучы праз сум да цябе.
Нясу ў сваіх венах агонь
І пачуццёвы боль.
Ды і ты, Дарагая, чакай,
Як чакае на лівень зямля.
Каб не прапасці ў вяках,
У хвіліну ты, Нінка, заглянь

І ўбач там сусветы і нас,
Сусветы вазьмі ў далоні.
І другам, і ворагам – час,
І сябра, і вораг – агонь.



Вечар прыйшоў,
Вецер пайшоў далёка,
І па ствале сасны
Ціша паўзе ў крону –
Я тут сярод сяброў
Не адзінокі
І, як усе,
І каляровы, і зялёны.
Стаю між соснаў,
Слухаю маўчання,
А ў ім гучаць
Дзівосныя эцюды,
Плыву па хвалі прамінання,
Няма мяне нідзе,
І ёсць я ўсюды.
Лес навучыў мяне
Цудоўнага ўмення –
Зліцця субстанцыі сваёй
З сусветам;
Аддаць усё і ўзяць усё
На працягу імгнення
У палавіне
Жнівеньскага лета.
Вецер пайшоў,
Вечар прыйшоў
Так блізка,
Што чую на грудзях
Яго магічны дотык;
Зямля мая – айчынная калыска,
Ты – інспіратарскі наркотык.



Вось рэчанька бяжыць тут
Крокам пакручастым,
Каскад узгорка
З соснамі зялёнымі
І нечаканы птах

У гушчары зачасціў,
Але замоўк,
Бо жнівеньскі
Не для яго сезон.
Паўлета і паўвосень
Абняліся на ўзгорку,
Яшчэ крык жураўліны
Не крануў аблокаў,
Па-летняму салодка мне
І па-асенняму ўжо горка,
Паўсмутак цiснецца
У краявід шырокі.
І лес мяне ўткаў
Тут у дыван сасновы,
І сам не ведаю,
Ці стаў я дрэвам,
Ці застаўся чалавекам.
Спяваю песню я
Зялёнай мовай
Людзям, лясам і рэкам.

# З “Беларускага календара на 1997 год”

## Таварыства – наш дом

(Да 40-годдзя БГКТ)

Таварыства, як дрэва, вырастала з глебы,
Названай беларускім болем і надзеяй.
Яно было і ёсць духоўным нашым хлебам,
Які, як добры дар, між беларусаў дзелім.

Таварыства як звон далёкай роднай песні,
Якая ўшыр плыве і з хатаў і з святыняў.
І ад яе бывае ў грудзях шчасцю цесна,
Як доўга мы пяем, так доўга мы не згінем.

Таварыства як сімвал роднай мовы нашай,
Што ад вякоў гучыць над Бугам і Супрасляй.
Пульсуе высілкам і працаю Падляшша,
І дух народны ў слове матчыным не гасне.

Таварыства як носьбіт тых традыцый дзіўных,
Якія фармавалі продкі ў нашым краі.
І горкі быт, і слодыч填 мараў пераліўных –
Усё складаецца на нашы ўраджаі.

Таварыства як дом прасторны і супольны,
Якія фармавалі продкі ў нашым краі.
І горкі быт, і слодыч мараў пераліўных —
Усё складаецца на нашы ўраджаі.

Таварыства як дом прасторны і супольны,
Дзе кожны з нас свабодна, шчасна гаспадарыць,
Дзе кожны з нас душой і сваім сэрцам вольны,
Жыве паводле незалежных сваіх мараў.

Таварыства як грунт пад дружбу, чалавечнасць,
Якая нас яднала і яднае сёння.
Мы, як секунды, урываемся ў вечнасць
І спалучаем шчыра сэрцы і далоні.

Таварыства як сон аб лепшым новым свеце,
Які жыць будзе ў міры, згодзе, без прымусаў.
Няхай паходняю саракагоддзе свеціць
І хай вядзе да лепшай долі беларусаў.

## Прытуліўшыся да Радзімы



У целе хваравітасць чую.
Для лекараў яна –
Загадка.
Іду ў бальніцу –
Глуш лясную –
Па вузкіх сцежках
І па хісткіх кладках.
І ў гушчары,
Дзе бор сасновы
Збегся ў гурт,
Зялёны, цесны,
Лечыць мяне
Таемным словам,
Лечыць мяне
Зялёнай песняй.
Пазнаць не кожны
Мяне зможа,
Бо стану сілаю багаты,
Здаровы зноў
І зноў прыгожы.
Вяртаюся ў абдымкі хаты.
О, лесе, лекару адвечны,
Бярэш мяне
Ты пад ахову,
Бясплатна маю душу
Лечыш
Сваёю песеннаю
Мовай.



Мне заўсёды з табою
Да твару,
Стройнаногая пані
Дуброва.
Дакрануся – і рэчанька

Мараў
Цячэ паэтычнаю мовай.
Як мне люба
Ісці і хістацца,
Заглыбляцца
У сінь і ў зелень
І ніколі туды не з’яўляцца,
Дзе няма
Ні хрысцін, ні вяселля.
Ды, на шчасце,
На кроку тут кожным
Спраўляе дуброва абрады,
І сябе паказаць
На іх можна
І пабачыць таго,
Хто нам рады.
Мне з табою да твару,
Дуброва,
І размовы з табой
Не баюся.
Памажы ты
Народнаму слову,
Што так марна жыве
У Беларусі.
І людзям дай шчодрага
Бобу,
Тым, хто жыў у няволі
Падданым,
Хай брат брату нарэшце
Пасобіць
Пазбыцца чужацкіх падманаў.



Пільнуй агню святога
Нашай хаты
Ад злыдняў,
Ад зайздроснікаў
І ад зладзеяў,
Якіх на свеце
Так багата.
Кахаю я цябе
Так, як умею:
Без тактыкі,
Без хітрыкаў

І планаў.
Кахай і ты мяне,
Каханая.
Хай будзе табе сумна
Без мяне
І радасна са мною.
І наяву,
І ў цёмным сне
Са мною ты
І я з табою.



Вось першы жоўты ліст
На сцежку жнівень кінуў,
І водгулле пайшло
Далёка і высока.
Хаця яшчэ красуецца
У зелені краіна,
То ўсё ж такі дзесь восень
Бродзіць недалёка.
Кругазвароты вечныя:
Зіма,
        Вясна
                І лета,
І восень шэрая
З дамешкай залатога.
О, колькі ж песень тут
У палове недапетых –
І непазнаванага
За дальняю дарогай!
Дык яшчэ раз
Мне па лясах прайсціся
І летняе пааддзяляць
Ад з’яў асенніх!
Змірыся, сэрца гордае,
Змірыся,
Прад вечным стань
Пакорна на калені.



У чамадане замыкаю я гардыню,
Пакору ў гняздо сэрца пасяляю,
Іду па жнівеньскай краіне
І ўсё кахаю.

Малюся храмам соснаў
І капліцам елак,
І купалам празрыстых росаў
Вясёлых,
Навокал кожнай кроны
Завешваю німбы
І кожнай дробязі лясной
Спяваю гімны.
Краіна родная,
Дазволь пагараваць
Над лёсам.
Ці ён прыйшоў з зямлі,
Ці мо прыйшоў з нябёсаў?
Над кронамі плыве
Срабрысты човен.
Не здрадзіў толькі лес
Айчыннай мове.



Як добра адчуваць,
Што ёсць
Адзіная на свеце.
Тады іначай сонца свеціць,
Тады іначай вее вецер,
І ты становішся адменны,
Новы,
І каляровасць надаеш
Ты шэрым словам.
І ты становішся
З будзённага святочным,
І бачыш сонца апаўночы,
І сонцы раздаеш, як пірагі,
Сустрэчным,
І чуеш, што з хвіліннага
Ты стаўся вечным.



Падзяліся красою, дуброва,
З тым, што здалёк прыехаў,
Дай з кожнага слова
Паўслова
І з кожнага рэха
Паўрэха.

Я падарункі размножу,
Занёсшы ў бандарскую
Хату,
І зноў адашлю ў Валожын
І Іслач, дзе песень
Багата.
Мне тут радасна,
Мне тут і сумна,
Раблюся тут дзікаватым.
Хтосьці скажа:
Стаў безразумны,
Вызбыўся роднае хаты.
Ды сваёй Белавежы
За скарбы не дам чужому.
Чым стану
Без роднага поля
І без бацькоўскага дому?
Чужым аддавалі
Нямала
І земляў,
І думак,
І душаў.
Усё з-пад чужое навалы
Сёння вызваліць мушу.



Узнімаюся штодзень
Пад сонца,
Каб убачыць
Цябе, Непаўторная.
Там нішто не бывае шэрае,
Нішто не бывае чорнае.
І бачу істоту праменную,
Трапяткую ў сонечных промнях,
Чароўную і незаменную,
З шарам зямным у далонях.
Як красуюцца
Яблыні ў маі!
Як струменяцца
Срэбрам крыніцы!
Шар зямны
Ты ў далонях трымаеш –
Багародзіца
Ці Чараўніца?



Блакітнымі грудзьмі
Лягае неба тут
На пікі елак,
Але не гіне
У гэтай самазгубе.
Блакіт крыві
Плыве ўніз
Да ягад і да зёлак,
І люба пікам,
І грудзям таксама люба.
Адвечны сэнс
Сімбіёзных суадносін:
Любоў паміж сасною
І мурашкай.
Тут кожны дань бярэ,
Ніхто не просіць,
Тут лёгка жыць
І ўміраць не цяжка.
Я прыхіліўся
Да сасны плячыма,
Пачуў –
Струменяцца ва мне блакіты,
Стаю з закрытымі вачыма,
О, як салодка,
Сінню быць забітым!



Вецер задыханы прабег
Праз гушчары лясныя,
І кожная сасна
Мне пакланілася лагодна,
І зашапталі ціха дрэвы,
Як жывыя;
Лясная верагоднасць.
Іду ўглыб,
Ад дрэва і да дрэва,
А ў ёй, як у паэзіі,
Усё бязмэтна і сэнсоўна.
Як толькі Бог стварыў Адама
І сяброўку Эву,
Узяўся за стварэнне лесу
Безумоўна.

А ў лесе цнота з грэхам
У сяброўстве вечным,
Бальніца, у якой
Хвароба ўмірае;
Як толькі душу,
Чалавеча, пакалечыш,
Прыходзь у лес
У родным краі.

  

Лепш мне
Згубіцца ў лесе,
Чым на праспекце
Знайсціся,
Пагладзіць цябе,
Паднябессе,
І загубіцца ў лісці.
Колькі я раз загубіўся
У белавежскіх
Гушчарах
І, выйшаўшы, узбагаціўся
У трывожныя думкі і мары.
Люблю я ў родным лесе
Блуканне
Сярод сосен
І елак кашлатых,
Тую сцежку,
Што на змярканні
Завядзе ў канцы дахаты.
Бывала ў жыцці, ой, бывала,
Туды, дзе не трэба,
Заходзіў,
Памылак зрабіў нямала
І сам сабе
Моцна пашкодзіў.
Ну, што ж?
Мабыць, гэтак і трэба.
З загадкамі наша краіна
Карміла мяне
Белым хлебам,
А таксама і хлебам
З мякінай.



Мой сябра тут са мной –
Велікадушны жнівень.
Ён збажыну
Сабраў з палёў,
Сюды прыйшоў
На адпачынак.
І ён, і я
Вясёлы і шчаслівы,
Ачышчаны з грахоў і вінаў.
Накрыў нас лес
Зялёнаю папахай
І адпусціў грахі,
І прычасціў жывіцай,
Прагнаў надоўга
Боязні і страхі,
І падпаіў крыштальнасцю
З крыніцы.
Ідзём, як анёлы,
З паднебнага вянчання,
Аддаўшы Богу божае,
А чалавеку – ўсё людское,
І п’ем блакіт
Вячэрняга змяркання,
І ўсё ў нас добрае
І маладое.



Зноў хістаецца свет,
Яго я падтрымаць не ў стане,
Бо самотны,
Як палец я божы, сягоння.
Не паможа Каханая
Сваімі далонямі,
Не паможа.
Яшчэ пад снегам сонным
Дрэмле збожжа.
Я ўноч і кожны дзень
Іду туды,
Дзе шэпчуцца галінкі
На дрэвах Пушчы Белавежскай.
Дзе ціхенька чакае Нінка
На запаветных сцежках.

Чакай, Каханая,
Чакай да рання,
Чаканне ёсць каханне,
Каханне ёсць чаканне.



У гэтым лесе пагубіў я
Клопаты і стрэсы
І інтэрв'ю правёў
З сасною кожнай,
Напоўніў сэрца тут
Жывічным лесам
І зразумеў – без дрэва
Жыць няможна.
І верш без дрэў
Зачахне і завяне,
І станецца нямы
Без пошчаку ляснога;
Я быў душою скатаваны,
Прыпоўз бяскрылы, хвараногі.
І кожная сасна
Дала мне дозу лекаў,
Шырокі подых я ўзяў
З палянаў;
Прыйшоў сюды
Маленькім чалавечкам,
А адыду адгэтуль
Веліканам.



Ах, чаму маладзік,
Які толькі ўзабраўся на неба,
З такім сумным сягоння
Аблíччам?
Ці мала пrасторы яму?
Ці нябеснага хлеба?
Ці мо зорак ніяк
Не палічыць?
Ён мне братам сягоння
У самотнай нядолі,
І плыву я з усходу

На захад.
Мне б з табою прайсці
Па халоднаму полі
Між таемных і ценяў,
І страхаў.
Дарагая мая,
Я за смуткі ўдзячны,
А самотнасць мая –
Гэта крылы для вершаў.
Не хачу я быць першым
У жыццёвай удачы,
Каб толькі ў смутку тваім
Быць мне першым.

# З “Беларускага календара на 1998 год”

## Мой край – мая святыня

Мой родны край – гэта мая святыня,
У ёй лячу душу, у ёй малюся.
Таму у горкім свеце мы не гінем,
Што кроўна звязаны мы з Беларуссяй.
Над Саколдай, над Нарваю і Бугам
Зямля нас песціць і сардэчна грэе,
Няволіць нас духмянасць песні луга,
Ад польных гімнаў радасных п’янеем.

*Прыпеў*:
Спявай-спявай нам песні, Белавежа,
Так, як спявае над калыскай маці,
Мы да цябе як родныя належым,
І ў гэтым шчасце наша і багацце.

Ці я іду пад родным зорным небам,
Ці скупаюся ў гарачых промнях,
Я чую дабрыню айчыннай глебы,
Якая пранікае ў сэрца і далоні.
Дзяды мае, бацькі – мае карэнні,
Вы і зямля – гэта мая Айчына.
Нашу у сэрцы вечнае гарэнне,
Мой родны край – гэта мая святыня.

*Прыпеў*:
Спявай, спявай нам песні, Белавежа,
Так, як спявае над калыскай маці,
Мы да цябе як родныя належым,
І ў гэтым шчасце наша і багацце.

## Мой лес – мой брат



Вецер прабег
І суматоху выклікаў у лесе,
І бор адчайна ўзмахнуў рукамі,
І заламаліся шарэгі песень
Так, як бы спатыкнуліся
Аб камень.
І зашышыкалі навокал
Елкі з абурэннем,
І сосны помсліва
Узʼёжылі чупрыны;
Лес загучаў
Ад кронаў да карэнняў,
Ды толькі на хвіліну.
Вецер спалохана нырнуў
У кусцікі і травы.
І зноўку цішыня
На трон лясны засела
Гордай павай
Для панавання.
І я тут другам цішыні,
Саюзнікам спакою,
Плячыма падпіраю
Сосны векавыя,
Спяваюць у мяне
Лясныя песні-мроі
І вершы цёплыя, жывыя.



Спакою не хачу,
Няхай жыве трывога
І вечны пошук
У маім нявечным целе.
Мая багіня – вечная дарога
Да запаветнай і туманнай цэлі.
Каб толькі ведаў я,
Што ты са мною разам,
Што блізкі нам аднолькава
Агеньчык той ружовы,
Што абмінем супольна
Болі і заразы

І выйдзем з цемры
Ў каляровасць.
Я толькі вершам
Уквечу твае салодзенькія грудзі,
І толькі вершам дабраце
Магу я пакланіцца.
Скажы, што вечна ты
Са мною будзеш,
З пчалінай песняй
Пасярод пшаніцы.



Яшчэ мне пакажы
Тое, што ў сховах маеш, –
Ты да канца
Не адкрываешся ніколі.
Я слухаю з увагаю,
Калі ты мне спяваеш,
І тваіх песень
Прагну болей.
Я маю і свае лясы
Ў Беластоцкім краі –
Яны прыгожыя
І майму сэрцу дарагія.
І тыя, і цябе
Аднолькава кахаю,
Бо паэтычная мая
У ім зрадзілася стыхія.
І ты мне домам,
Іслачанскі лесе!
Памог давесці да канца
Пачатыя матывы
Тых белавежскіх
Незабыўных песень –
Без іх не быў бы я
Шчаслівы.
Таму спявай, спявай,
Вясёлы дружа,
Усё пачутае запамятаю
І забяру з сабою тваю дужасць
Да краю.

♦ ♦ ♦

Я адбіваюся ад думак чорных
І ад злосці,
Струмень зялёны
Зноў у сэрца запускаю;
Дай, лесе, дозу мне
Звычайнай весялосці
З запасаў тых,
Што яшчэ маеш.
Крапліны сонца
Падаюць праз кроны,
І я лаўлю іх
Пальцамі і тварам,
Стаюся залацісты і зялёны,
Падпалены лясным пажарам.
Нясу ў далонях лес.
І лес нясе мяне у пальцах,
І больш няма
Зямнога прыцяжэння,
І кроны кружацца у вальсах,
Шуміць шампанскае у венах.
О, лесе!
Баек больш не баяй,
Хачу вярнуцца зноў
Да раўнавагі.
Як добра,
Што у родным краі
Крыніцы ёсць,
Напоўненыя магіяй!

♦ ♦ ♦

Вяртаюся з лясоў
Да чалавечых справаў,
Зялёнае ў пачуццях
Застаецца.
Пабыў паўдня
Ў пушча́най славе
І бор у маім пульсе
Б’ецца.
І стаўся я і песенны,
І чулы,
З барскаю крывёй
Блакітнай,

Гудзяць у маіх венах
Гулы
Жывічна-аксамітныя.
А ў душы маёй
Нешта дзявочае,
Так далікатнае і чыстае,
А толькі на паўдня
Заскочыў я
Ў баравое урачыстае.
Я на курынай ножцы
Пабудую домік
Такі, што верціцца,
Як на завесе,
Каб павярнуць яго
Мне спосабам вядомым
У бок, з якога плыве
Песня.



Лесе, твой шчыры твар
Мне мілы, хоць калючы,
Таму ахвотна
Да яго хілюся.
Паэзія з'ядае хлеб,
Які завуць балючасць,
І гэты хлеб – фундамент Беларусі.
Не распяшчала нас
Гісторыя ніколі,
Пілсудскаму маліліся
Або айцу народаў,
Крывіч не быў гаспадаром
На родным полі,
Няволю часта называў свабодай.
Я б'ю ілбом
У сосны і каменне,
Пытаюся, чаму
Такая недарэчнасць?
Ці вечна буду поўзаць
На каленях
І верыць ідалам фальшывым
Вечна?!

♦ ♦ ♦

Калі іду ў гушчары,
Дрэвы адступаюць,
Каб прапусціць,
Каб запрасіць
У круг сямейны.
І станаўлюся зараз я
Часцінаю гаю
Спеўнай.
Якое шчасце, калі ты
Далёка ад радзімы
Прыняты так, як не чужы,
Але як блізкі, родны.
Сядаеш ты як брат ці сват
На жнівеньскім кіліме,
Як вольны сярод вольных
І свабодных.
З усіх багаццяў тых,
Што нам жыццё
Часамі дорыць,
Хіба што дружба і давер –
Найбольшае багацце.
І ці ж не шчасце
Ежу браць
З стала супольных мараў
І кожнаму тут за сталом
Сказаць: мой браце?!
Ты ў цэнтры маіх сноў
Заўсёды каляровых,
І больш ніхто мне сніцца
Не асмеліцца.
Да зорак датыкаемся галовамі,
У каўчэгу месяца мы селімся.
Бо ці ж не ёсць каханне
Наша смеласцю?
Вялікай, буйнаю ўзнятасцю?
Пяе у полі колас спеласцю
І гімнам пахвалы аратаму.
Я рос між вішнямі і слівамі,
Не чуў пра стомы і стронцыі,
Таму і сны свае шчаслівыя
Грэю ў цёплых горнах сонцавых.

## З кнігі *Выбраныя творы*, Мінск 2011



Паклон прыміце
Сосны,
елкі
і бярозы
Ад белавежскіх дрэў,
Нагрэтых цёплым жніўнем,
Ад нарвенскіх маіх
Ракіт і лозаў,
Ад беластоцкіх ветраў
І ад ліўняў.
Я мірны пасланец,
Прыходжу ў Іслач з песняй,
Сяброў шукаю
Шчырых і адданых,
Кажу, што слову роднаму
У маім краі цесна,
З гаспадара
Становіцца яно падданым,
Але надзея нас
Ніколі не пакіне
І слову аддамо
І сны свае, і явы.
Дазволь, Айчына, жыць,
Для беларускай справы.



Ад сонца я тут
Залацісты,
Ад сосен я тут
Зялёны,
Ад рэха я тут

Галасісты
І ад красы
Палонны.
Не, не хачу я волі,
Не прагну я
Панавання,
Надыхаўся ўдосталь полем,
Цяпер – у лясы заглянуў,
І люба стацца
Мне братам
Бранзаногіх сосен высокіх
І елак
Густых, кашлатых,
І белых бяроз
Адзінокіх.
Дружбу прыношу вам,
Дрэвы,
І вашай дружбы жадаю,
І прагну Іслачы спевы
Занесці да роднага краю.

  

Тут задуменне елак,
Тут таямнічасць зорак.
І чую, як разумнею,
І чую, як здаравею.
Лесе, мой браце зялёны,
Трымай мяне ў палоне.
Выходжу я на паляну
І чую, што крыху п’яны.
Сосны вітаюць веццем,
Не, не хачу цверазець я.
Я ў прыязнай краіне
І братам я тут, і сынам.
Як жа мне не напіцца
Водару соннай жывіцы!
Далёка Варшава і Вісла,
Мой новы дом – гэта Іслач.
Трымаю радасць у жменях,
Запускаю ў зямлю карэнні.



Гэта чужое
Мне роднае,
Блізкае і арганічнае.
Як у сябе тут
Свабодны я,
П’ю звонкае тут,
П’ю крынічнае.
І чую, як верш мой
Дабрэе.
Напіўшыся звонкасці
Сіняй,
І старасць мая
Маладзее
Ў Іслачанскай краіне.
Як добра,
Што ў госці прыехаў
Да роднага,
Не да чужога,
Лаўлю тут
Сасновае рэха
І ўспаміны былога.
Нясу ў свой верш
Адгалоссе
З Радзімы
Шырокіх пrастораў,
Дорыць колеры
Ранняя восень,
Выйшаўшы
З цёмнага бору.
Не, не ў чужых я –
У родных,
Хаця і з суседняй
Краіны,
Толькі ў праўдзе
Свабодны,
Толькі ў шчырасці
Сільны.



Сярод лясоў
Пад Ісляччу сасновых
Вяду я гутарку без слоў
Жніўнёвую

З зямлёй, што, нібы хлеб,
Духмяная.
Я селянінам тут
І панам.
Няма мяжы
Між словам і задумай,
Вецер бяжыць
З блакітным шумам,
Вавёркай сонечнай
Па верхавінах скача,
Змяню на радасць
Свае плачы.
Падхоплівае жаль мой сіні вецер,
Каб разнесці
Па шырокім свеце.

  

Тут хочацца задумацца
Над лёсам,
Падзякаваць
Зямлі,
нябёсам,
людзям
За цішыню,
за сонца
і за зелень,
І за звычайнае лясное зелле.
Не так даўно
Прайшло Купалле
Тут па лесе,
Яшчэ звініць у кронах
Яго песня.
Язычнік я –
Малюся дрэвам,
Каб вечна ў іх
Звінелі спевы
І каб я роўны быў
З казяўкаю ці птушкай,
Каб гушкала мяне
І я каб радасць гушкаў.

  

Калі ты нада мной,
Калі ты пада мною,
І сяк, і так,
Усё я апрабую сёння.
Аблок, прыкрыты ў небе
Белаю карою,
І месяц гладзіць даль
Сярэбранай далонню.
А сорам свой пакінулі
Мы у адзенні
І сталі вольныя,
Як райскія два птахі.
Дайшлі мы да істоты
Плоцевых карэнняў,
І адышлі ад нас
Нявольніцкія страхі.
А што там нейкі гаварун
Скажа, што блудзім –
Ну, дык хай на здароўе
Сабе пагаворыць.
Мы ведаем сваё –
Паверце толькі, людзі,
Што мы былі у небе,
Сярод зорак.

# З часопіса “Тэрмапілы”
# 2014, № 18

## Лірычная утопія



Вясковы хлеб,
Як сонца на абрусе,
Маё дзяцінства абагрэў
Дабрэчай.
Я на цябе,
Так як на сябра
Абапруся,
Бо ты з нядолі
Беларуса лечыў.
Твой пах нясу,
І данясу аж да магілы,
І толькі там скажу:
Бывай, мой дружа!
Вярніся да жывых
І дадавай ім сілы,
Так як і мне
Даваў ты дужасць.



Нявіннага цела няма,
Нявінныя толькі ідэі.
Цялесны інстынкт –
Гэта цьма,
Якая грэх песціць і грэе.
А грэх – гэта часта не грэх,
А проста натура, і годзе.
Бязгрэшнае цела – смех,
Ідэі ў ману нас заводзяць.



Колькі ж забыта здарэнняў,
Праўдзівых і надзвычайных.
Мінаюць мяне пакаленні
З трыумфам або з адчаем.
Дарогі, шляхі, скрыжаванні,
Роздумы, боль і сумненні.
Найчасцей мы катуемся самі,
Кідаем сябе на калені.
Імкнемся наперад нястрымна,
Як многа здарэнняў забыта.
Глядзім на сусвет паўнаіўна
Праз разбітую прызму карыта.



Дай Божа мне не быць
Ніколі бедным,
Дай Божа мне не быць
Ніколі багацеем.
Ці прападу з зямлі
Бясследна?
Ці стануся я Праметэем?
Агню я, брацці,
Не прыдумаў,
Не расчапіў
Ядра на часткі,
Дык культавых
Не трэба шумаў
І арэолаў з божай ласкі.
Сярод звычайных
Быў звычайны,
І хай яно ўжо
Гэтак будзе.
Не калыхала мяне крайнасць,
І простае люблю ў людзях.



Калі хочаш,
Любі камунізм,
Калі хочаш,
Любі нешта анты-,

Але ведай,
Што кожны -ізм
Ёсць пятлёю,
Прыкрытаю бантам.
Не схаці
Закладаць той пятлі
На сваю,
На ўласную шыю.
Лепш без -ізмаў
На свеце жыві,
Можа, бедны,
Ды болей шчаслівы.

  

Ці сяк, ці так,
А да магілы дабяжым
І ў ёй схаваемся навек
Бясследна.
Памерці трэба кожнаму,
Хто толькі жыў –
Усім багатым
І таксама бедным.
Таму прыгледзься ты ўважна
Да сябе,
Забудзь пра зло,
Якое зрабіў вораг,
І зразумей, што прыплыве
Твой карабель
У цёмны порт,
Без выхаду ў мора.

  

Мне часта буйны чэрвень
Сніцца,
Узнёслы ў палавым гарэнні.
Айчынны край – мая крыніца,
Я прад табой зноў
На каленях.
Я ў палоне дабравольным
Спеваў тваіх
Іканастасных.

Не прагну болей
Быць я вольны –
Усё тваё – мая ўласнасць.
Малюся да Дарогі Млечнай
З душой бандарскага халопа.
Язычнік я,
Паганін вечны,
Як антытэза Еўропы.

  

Калі б не стрымгаловасць
Прамінання,
Дык не было б
І вечнага на свеце.
Хаця пярэчыць смерць
Каханню,
У смерць нясе планету
Вецер.
Усе мы верым,
Што не згінем,
Што смерць нас
Не датычыць асабіста.
Купаемся у ваннах
Мрояў сініх,
Каб выглядаць на добрых
І на чыстых.
Бывае свет
Ў абдымках вёснаў,
Бывае свет
Ў абдымках зімаў.
Спяваюць шумна
Мае сосны,
Каб весялей было
Радзіме.
А прамінанне?
Што ж, хай будзе.
Прыйшлі мы, дык мы і адыдзем,
Адродзімся ў наступных людзях.
Жыццё – не смерць,
Жыццё – Вялікдзень.



Не выясняй ты таямніцаў
Да канца.
Намер такі
Трактуй як безразумны,
Бо таямнічасць ёсць
Істотаю жыцця
У свеце суматошлівым
І тлумным.
Нам нельга існаваць
Без таямніц,
І трэба крыху ведаць,
І не ведаць.
Заслону тайнаў
Толькі крыху адгарні,
Бо ў поўнай яўнасці
Бываюць беды.
Цікаўнасць неадкрытым –
Гэта сэнс быцця,
І аб адкрыццях
Чалавецтва марыць,
Але бестаямнічасць –
Гэта смерць жыцця,
Быць можа, на ўсім
Зямным вялікім шары.



Паэзія –
Птушка, што ў клетцы няволім.
То молімся ёй,
То яе праклінаем,
І часта яна нам
Даперчыць, дасоліць,
Ды часам у неба
Яна ўзнімае.
Чаго ў ёй болей,
Ці мёду, ці перцу?
Які ж тут алхімік
Адкажа на гэта?
Калі ў ёй трапеча
Шляхетнае сэрца,
Тады памагае
Балючаму свету.

Дык можна пры ёй
Праклінаць і маліцца,
То смутку аддацца,
То стацца пажарам.
Стацца праменьчыкам
Або крыніцай,
Ды нельга стаяць
З абыякавым тварам.



Айчына – гэта місія,
А не прытулак.
Таму ты з ёю мусіш дзейнічаць
Да скону.
Хай яна у сэрцы нашым
Выклікае чуласць,
І хай жыве у нашых душах
Яе гоман.
Айчына – вечная арэна
Для адважных.
Для скептыкаў і трусаў –
Месца у запечках.
Яна важнейшая
З усіх найболей важных,
Як лек цудоўны, нашы сэрцы
Яна лечыць.
Таму ты верш пішы
Або пасей ты збожжа,
Чакай з народам восені
І ураджаю.
Гнюсавіць, наракаць
Мы сёння больш не можам,
Калі гаспадары мы,
А не рабы у краі.



Мая Беларусь –
Катастрофа,
І шаленцу, мне,
Даспадобы.
Таму ёй пачуцці і строфы!
Беларусь – маё горкае хобі.

Таму не хачу
Я заможнай,
Аўтарытэтнай і слыннай.
І тут многім
Цешыцца можна
У падвячорках палынных.
Я веру, што мы зноў
Паўстанем,
Я веру, што мы
Уваскрэснем,
Залечым і болі, і раны
Роднай матчынай песняй.

  

Дагэтуль Бог мяне не слухаў,
Бо меў дарадчыкаў ён лепшых,
Дый светам кіраваў засуха,
Без паэтычных дыялектык.
А я?
Хто – я?
Стаю самотна
На паэтычных
Скрыжаваннях.
Пытаю птахаў пералётных,
Які шлях завядзе ў каханне?
Бо хто ж, як птахі,
Вывучае,
Куды ляцець,
Калі ўжо восень?
А я ўсё светы адкрываю
Сярод палёў
І сярод сосен.
І да канца не разбяруся
У тым, што па-за панадворкам,
І як парадзіць з Беларуссю,
І з таямніцай яе горкай.

  

Паэзія – цяжкія жорны:
Доўга мелеш – мукі нямнога,
І хлеб з яе бывае чорны,
Быццам бы з пылу зямнога.

І ў словах
Мала прароцтваў,
Многа роздумаў
Горкіх, палынных.
Паэзія, ты як дзявоцтва,
Якое так цяжка затрымаць.
Скажаш слова – здаецца, нядрэнна,
Пасля глянеш – зусім па-другому:
Тое лішняе,
Тое дарэмна,
Непатрэбнае, мабыць, нікому.
І тое, што цешыла ўчора,
Сёння ўжо сэрца не грэе.
І сам ты сабе быццам вораг,
І ў надзеі тваёй – безнадзея.

  

Ты не саромся, палажы
Руку на грудзі.
Няхай рукой тваёй
Кіруе смеласць.
Так, гэта праўда –
Грэшныя мы людзі,
І грэшнае таксама маё цела.
Ды з святасцю ў сваяцтве
Грэшнасць гэта.
І сэкс, і плоць –
Свяшчэнныя істоты.
Ці ж не яны калышуць
Цэлым светам?
Маліся эратычнаю пяшчотай.
Цела маё заваражыла прага,
Дык прыкладай ты крэсіва
Да крэмня.
Адвагі, любая,
Крыху адвагі.
Хай не чакае плоць мая дарэмна.

  

Вось ты ізноў пры мне,
Як сонца пры аблоку.
Я абніму цябе далоняй

Цёпласоннай.
Да Бога блізка,
А да людзей далёка,
А вокал нас
Салодкая бяздоннасць.
Ты ні аб чым не думай болей,
Дарагая,
Бо я ўжо ўсё дакладна
Перадумаў.
Няхай гарыць каханне
І ніколі не згарае
У радасці, якая
Развялася з сумам.
Дык паглядзі,
Блакітныя пасцелі,
Каханне наша
Прагне цеснае прасторы.
Як сонца,
Ты змяшчаешся
Ў маім аблоку.
Абое патанаем
У шчаслівым моры.

  

Вось і ўсё
Зноў сталася святое,
Бо целы нашы
Пабывалі ў небе.
Як добра, калі споўняцца
Дзве мроі,
Калі ўзарвецца
Плоцевы малебен.
Але у сэрцах шчэ
Гудуць авацыі,
Хаця мы крышачку ужо
Астылі.
Як два анёлы, стомленыя
Працай,
Раскінулі бездапаможна
Крыллі.
І так ляжым,
Салодкая пустэча,
І зоркі пахіліліся

Над нашым ложам.
Хто ж пракляне
Такі сэкс чалавечы,
Што праяўляецца
У вечным і прыгожым?

  

Як вішні белыя
У веснавым квітненні,
Павалены на долы
Бурай нечаканай,
Так мы ляжым тут
З вырваным карэннем,
Усё яшчэ ў душы і целе
Моцна п'яны.
Мы пабылі дзесь там,
А дзе – дык невядома.
Напэўна ў месцы тым,
Дзе пражываюць богі,
І ўзляцелі мы як два анёлы –
Строма,
Але вярнуліся спакойнаю
Дарогай.
Як вішні дзве,
Якія бура безлітосна
З карэннем вырвала
І кінула на долы,
Ляжым у змроку,
У блізкасці мілоснай,
І не мяшае нам
Ні стомленасць, ні голасць.

  

Скранулі з месца
Абыякавыя глыбы,
Канструкцыю стварылі
З дзікіх дзвюх паходняў.
Пра нас не скажаш,
Што ні мяса і ні рыба,
Калі ў зыркім полымі
Мы пабылі сягоння.
І сапраўды,

Людзі спакойныя, здаецца,
Прайшлі праз каляровыя
Гарачыя заслоны
І на алтар кахання
Палажылі сэрцы,
Алтар, трэба сказаць,
Натхнёны і шалёны.
Цяпер ляжым,
У нашых целах дрэмле вечнасць,
Агорнуты яшчэ
Незразумелай мрояй.
Прарваліся праз палкі акт,
Звышчалавечны,
І ўвайшлі ў стан
Анёльскага спакою.

## Зялёны храм – Белавежа

*Лене, Мікалаю і Паўліку Бушкам прысвячаю*

Зялёнай песняй моліцца святыня
Да Ўсявышняга Тварца бязмежжаў,
Анёл стаіць на кожнай верхавіне
Ў векавечнай нашай Белавежы.

Мы ўсе паломнікі і прайдзісветы –
Бадзяемся па свеце, па чужынах,
Аж дойдзе кліч зялёнае планеты
І зноў мы станемся дачкой і сынам.

Ідзем праз горкі лёс і праз турботы.
Як дойдзем – бор прыгорне і сустрэне,
Адчынім насцеж райскія вароты,
З пакорай станем шчыра на калені.

О, пушча, ты для нашых душ бальніца,
Ты лечыш раны і даеш бадзёрасць.
Прыходзім на паляны, каб маліцца
І выгнаць з нашых сэрцаў боль і горыч.

Звіняць тут гімны, псалмы, гучаць оды,
Плывуць мелодыі ўдаль бязь межаў,
Жыве, яднаючы ў міры два народы,
Наш спеўны цуд – храм вечны – Белавежа.

Варшава, 5–7 кастрычніка 2005 г.

## Спявае малінавы звон

**1**
Спявае малінавы звон
У гушчы пушчанскіх карон.
Гудзе ў белавежскай глушы,
Пяе ў беларускай душы.
    Айчына – любоў і краса,
    Нябёсаў блакіт, быццам лён,
    У травах, як пэрлы раса,
    Мой край – мой малінавы звон.

*Прыпеў*:
Спявае малінавы звон –
Бярэ нашы сэрцы ў палон.
Таму пакланіся зямлі,
Дзе продкі адвечна жылі.

**2**
Пад звон да хрышчэння няслі,
Пад звон да вянчання вялі.
На вечны спакой, вечны сон –
Вязлі пад малінавы звон.
А колькі яшчэ прыйдзе жыць,
І колькі начэй, колькі дзён?
Няхай нам заўсёды гучыць
Наш родны малінавы звон.

*Прыпеў*:
Спявае малінавы звон –
Бярэ нашы сэрцы ў палон.
Таму пакланіся зямлі,
Дзе продкі адвечна жылі.

**3**
Імгненна імчацца гады –
Стаецца старым малады.
Мінае жыццё, нібы сон,
Ды вечна юначы ёсць звон.
Таксама мяне правядзе
У родным Юшковым Грудзе.
У вечную ціш, вечны сон –
Мой любы малінавы звон.

*Прыпеў*:
Спявае малінавы звон –
Бярэ нашы сэрцы ў палон.
Таму пакланіся зямлі,
Дзе продкі адвечна жылі.

Сакавік 2011 г.

# Каментар

Кнігу *Вершаваныя творы* склалі тэксты Алеся Барскага, якія друкаваліся ў паэтычных зборніках *Белавежскія матывы* (1962), *Жнівень слоў* (1967), *Мой бераг* (1975), *Блізкасць далёкага* (1983), *Лірычны пульс* (1987) і *Выбраныя творы* (2011), а таксама ў альманахах "Родны кут" (1963), "Белавежа" (1965, 1971, 1980, 1988), часопісе "Тэрмапілы" (2014), "Беларускіх календарах" (1963–1965, 1967, 1973–1974, 1976–1980, 1982, 1984, 1986–1989, 1992, 1994–1998) і газеце "Ніва" (1956,1975–1976, 1983).

Пры падрыхтоўцы тэкстаў да друку праўка была мінімальнаю: часткова мадэрнізавана пунктуацыя (толькі ў тых выпадках, калі гэта не закранала аўтарскае манеры выказвання), папраўлена напісанне вялікае і малое літары (айчына – Айчына), асобных дыялектных формаў (пашоў – пайшоў) і інш.

### ***Белавежскія матывы***

Зборнік *Белавежскія матывы* Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства выдала ў Беластоку ў 1962 г. Тэксты "выбрала і падрыхтавала да друку" Люба Філіпік; наклад – 1500 асобнікаў. У нашым выданні зборнік перадрукоўваецца цалкам.

С. 16. *Змуршэлы* – спарахнелы.

С. 18. *Картуз-Бяроза, Ломжа, Равіч* – вязніцы II Рэчы Паспалітае.

*"Юда"* – вочка ў дзвярах камеры.

С. 20. *Далёрэс* – маецца на ўвазе Далорас Ібаруры Гомез (1895–1989), дзеячка камуністычнае партыі Іспаніі.

С. 26. *Самбрэра – вялікі капялюш* (заўвага аўтара).

С. 59. *Кастыцэвіч* – гаворка пра Ярослава Кастыцэвіч (1896–1971), беларускага педагога, грамадскага і царкоўнага дзеяча.

С. 70. *Адзіноцтва* Вірты – маецца на ўвазе раман савецкага пісьменніка Мікалая Вірты (1906–1976) *Адзіноцтва* (1937), перакладзены ў 1940 г. на беларускую мову.

*Браты Валодзя і Аляксандар К.* – гаворка пра Уладзіміра Казберука і ягонага брата Аляксандра, якія жылі па суседству ў вёсцы Бандары.

Верш *Восень* – надрукаваны ў газеце "Ніва" 5 красавіка 1959 г. пад псеўданімам Алесь Барскі разам з вершамі *Сялянскі сум*, *Нарач*, *Вавёрка*. За тры гады да гэтага Аляксанадар Баршчэўскі апублікаваў у штотыднёвіку пад уласным прозвішчам верш *Вясновы паток*.

### ***Жнівень слоў***

Зборнік *Жнівень слоў* надрукаваны выдавецтвам ГП БГКТ (Беласток 1967). Тэксты рэдагавала Ада Чэчуга; наклад – 4000 асобнікаў. У нашым выданні зборнік перадрукоўваецца цалкам.

С. 72. *Рублёў* – маецца на ўвазе Андрэй Рублёў (1370–1428), вядомы майстар маскоўскае школы іканапісу.

С. 83. *Вершаклет* – рыфмаплёт.

С. 96. *А. Абрэмска-Яблонская* – Антаніна Абрэмска-Яблонская (1902–1994) – мовазнаўца-славістка, заснавальніца кафедры беларускае філалогіі ў Варшаўскім універсітэце.

С. 121. *Кляшарды* – бяздомныя.

С. 122. *Іў Мантан* (1921–1991) – французскі спявак і актор.

С. 128 – *Уладзімір Паўлючук* (нар. 1934) – сацыёлаг, этнолаг, даследчык народнай культуры; з 1997 г. прафесар Універсітэта ў Беластоку.

### *Блізкасць далёкага*

Кнігу *Блізкасць далёкага* надрукавала выдавецтва ГП БГКТ (Беласток 1983). Рэдактар – Георгі Валкавыцкі; наклад – 3000 асобнікаў. У нашым выданні зборнік перадрукоўваецца цалкам. Кніжка пачыналася прадмоваю Г. Валкавыцкага:

“Стоўпатварэнне думак і пачуццяў – так у адным сказе можна сказаць аб паэме Алеся Барскага *Блізкасць далёкага*. Колькі тут парываў, хістанняў, разгубленасці і адначасова веры ў сваю правату. Паэт, які любіць і ненавідзіць (сябе і іншых). Паэт, які так многа ведае і не ведае так многага. Паэт, які ведае, што ён не здольны ведаць усё. Паэт, які ставіць пытанне “хто я?” і адначасова гуляе па небе ў абдымку з сонцам, арандатар жыцця і шукальнік загубленага Бога, жабрак і князь. Споведзь, літанія, казань і праклён.

Кантрасты, крайнасці.

Аднак стоўпатварэнне Алеся Барскага, як і біблейнае, не проста бязмэтны хаос страсцяў. Бандарскае сумленне, ніколі не сытае, якое пастаянна з’ядае паэта, як жар вулкана, якое заўсёды нараджае сумненні і сілы, каб іх адолець, – яно вядзе паэта той адзінай для яго дарогай, ідучы якой ён здольны зразумець сваё адзінае жыццё ў суаднясенні з вечным жыццём і з жыццём іншых людзей, такіх жа смяротных і ў той жа меры бессмяротных, як і ён сам.

Крайнасці Барскага! Ці не ў іх найбольш уражвае скразное адзінства? Як многа ў іх супольнага, незнішчальна “блізкага”! Паэт, які хацеў “злажыць зялёную паэму”, упіцца святлом зямлі, патанае ў змрочных думках. А надзея, за якую прабуе ўхапіцца – зманлівая, як сон.

Але такі Барскі. І ў *Блізкасці далёкага* ён астаўся верны сабе”.

С. 160. *Лектыка* — насілкі, каляска, карэта.

С. 164. *Мотта* – эпіграф.

С. 178 – *Мотак* – маток прадзіва.

*Меандры* – арнамент, у якім бачылі глыбокі магічны сэнс. Першапачаткова – рэчка ў Малой Азіі.

### *Са штотыднёвіка “Ніва”, 1956*

Штотыднёвік “Ніва” выдаецца ў Беластоку з 4 сакавіка 1956 г. Георгі Валкавыцкі быў заснавальнікам і рэдагаваў яго ў 1956–1987 гг. Верш *Вясновы паток* – першы друкаваны тэкст Аляксандра Баршчэўскага.

С. 212. *Спулдзельня* – дабраахвотнае згуртаванне людзей дзеля вядзення супольнай гаспадарчай дзейнасці.

### *З альманаха “Мой родны кут” 1963*

Зборнік-альманах “Мой родны кут” выдала ГП БГКТ у 1963 г. як дапаможнік для вучняў і настаўнікаў школ Беласточчыны з беларускаю моваю навучання. Рэдакцыйная калегія – Ада Чэчуга, Люба Раманюк, Уладзімір

Юзвюк; наклад – 5000 асобнікаў. Апрача двух вершаваных твораў Алеся Барскага тут надрукаваныя *Абразкі з жыцця Кастуся Каліноўскага* (пад псеўданімам Андрэй Баравы).

### *З "Беларускага календара на 1963 год"*

ГП БГКТ выдае штогоднік "Беларускі каляндар" з 1957 г. Сёмы выпуск рыхтавала рэдакцыйная калегія ў складзе: Люба Раманюк, Віктар Швед, Уладзімір Юзвюк; наклад – 4000 асобнікаў. Нумар адкрываўся вершам Алеся Барскага *Сустрэча з Новым годам*. Паэт надрукаваў тут таксама *Баладу аб бізуне*, дзве гумарэскі (пад псеўданімам Андрэй Баравы) і запісы вуснай народнай творчасці *Фальклор адной сям'і*.

### *З "Беларускага календара на 1964 год"*

Восьмы выпуск рыхтавала рэдакцыйная калегія ў складзе: Мікалай Лобач, Люба Раманюк, Уладзімір Юзвюк; наклад – 4000 асобнікаў. Апрача двух вершаваных твораў Алесь Барскі надрукаваў дзве гумарэскі.

С. 227. У аснову байкі *Ліса, Казёл і Мядзведзь* пакладзена рэальная гісторыя: Мікола Гайдук, пішучы даносы на дырэктара Беларускага ліцэя ў Бельску-Падляшскім Яраслава Кастыцэвіча дабіўся ў 1965 г. зваленнення апошняга з пасады, на якую быў прызначаны сам.

С. 230. *Пэпээр* – (польск. Polska Partia Robotnicza, PPR) – палітычная партыя камуністычнай арыентацыі, якая існавала ў 1942–1948 гг. Уладзіслаў Гамулка кіраваў ёю ў 1943–1948 гг.

### *З літаратурнага альманаха "Белавежа" 1965*

ГП БГКТ у 1965 г. пад тытулам "Белавежа" выдала другі літаратурны альманах (першым быў зборнік *Рунь*, што ўбачыў свет у 1959 г.). Нумар рыхтавала рэдакцыйная калегія ў складзе: Янка Анісэровіч, Аляксандар Баршчэўскі, Віктар Швед; наклад – 2525 асобнікаў. Алесь Барскі надрукаваў у дадзеным томіку, апрача дваццаці вышэй пададзеных вершаваных твораў, камедыю "з вясковага жыцця" *Гарадскія госці* і тры апавяданні: *Лянарда*, *Кроў* і *Вечарына*.

С. 241. У аснову байкі *Ліса, Воўк і Мядзведзь* пакладзена таксама рэальная гісторыя: Мікола Гайдук пазычыў ў раднага Калядкі з Рады Нарадовай у Бельску-Падляшскім нібыта для навуковае працы кнігу *Гісторыя Беларусі ў картах* (1942) Міколы Абрамчыка і перадаў яе ў органы бяспекі. Калядка быў зволены з пасады і доўгі час не мог знайсці працу.

### *З "Беларускага календара на 1965 год"*

Рэдактарам дзявятага выпуску календара быў Сакрат Яновіч. Наклад – 5000 асобнікаў (гл.: *Errata*). Адкрываўся вершам Алеся Барскага *Каравай* у рубрыцы "Да 20-годдзя Народнай Польшчы". Апрача вершаваных твораў А. Баршчэўскі змясціў тут артыкул *Беларуска-польскае культурнае супрацоўніцтва на працягу дваццаці гадоў існавання Народнай Польшчы*.

### *З “Беларускага календара на 1967 год”*

Нумар выйшаў пад рэдакцыяй Мікалая Лобача, Ады Чэчугі, Уладзіміра Юзвюка; наклад – 5525 асобнікаў. Верш *Дэлегатам V з’езду БГКТ* папярэднічаў матэрыялам пра працу V з’езда БГКТ, які адбыўся 26 лютага 1966 г. У календары змешчаны таксама вершы Алеся Барскага *Над зямлёй*, *Вальс расстання*, *Зіма*, *Вясна маладосці*, *Вернасць* з нотамі, якія напісаў ураджэнец Ваўкавышчыны Эдуард Гойлік, педагог і кампазітар, выпускнік Варшаўскай кансерваторыі.

### *З літаратурнага альманаха “Белавежа” 1971*

Другі нумар альманаха выйшаў пад рэдакцыяй Янкі Анісэровіча; наклад – 2000 асобнікаў.

с. 252. – *Мультум* – шмат, мноства.

### *Са зборніка* Літаратурная Беласточчына*, Мінск 1973*

Выдавецтва “Мастацкая літаратура” надрукавала вершы і апавяданні шаснаццаці літаратараў з Беласточчынны (укладанне і прадмова Уладзіміра Казберука); наклад – 2000 асобнікаў. Апрача верша *Не вер, дзяўчына*, у зборнік увайшлі яшчэ сем твораў Алеся Барскага (*Маці*, *Балада пра бізун*, *Нарач*, *Каб мог жыццё пачаць нанова*, *Няпраўдай цэлы свет абыдзеш*, *Сляза, пасеяная вокам*, *Усё жыццё я расцвітаў*), якія ўжо друкаваліся ў беластоцкіх выданнях.

### *З “Беларускага календара на 1973 год”*

Сямнаццаты выпуск календара выйшаў пад рэдакцыяй Георгія Валкавыцкага. Дадзеная нізка вершаў паэта ў бібліяграфіях часам падаецца пад тытулам *Вось футар наш*.

### *З “Беларускага календара на 1974 год”*

Васямнаццаты выпуск календара выйшаў пад рэдакцыяй Аляксандра Баршчэўскага. Апрача верша, якім адкрываўся каляндар, публікаваліся артыкулы Аляксандра Баршчэўскага *Польска-беларускае культурнае супрацоўніцтва ў пасляваенны перыяд*; *Кастусь Каліноўскі*; *Хрэсьбінны і дзіцячы фальклор*, *Фальклор з Баброўнік*, *Паэты БГКТ* (пад уласным прозвішчам і пад псеўданімамі).

### *Са штотыднёвіка “Ніва”, 1975–1976*

1–5 часткі паэмы *Святая грэшнасць* змешчаны ў № 44 (2 ліст.), 6–9 – у № 49 (7 снеж.), 10–14 – у № 1 (1976, 4 студз.). Паэма прысвечана Лене Гаранінай.

С. 274. *Дэль артэ* – італьянская камедыя масак.

### *З кнігі* Мой бераг*, Мінск 1975*

Зборнік *Мой бераг* выйшаў накладам выдавецтва “Мастацкая літаратура” (Мінск 1973). Тэксты рэдагаваў Іван Калеснік; прадмову напісаў Анатоль Грачанікаў.

У Савецкай Беларусі вершы Алеся Барскага ўжо колькі разоў друкаваліся ў літаратурна-мастацкіх выданнях (“Полымя” 1965, № 4; “ЛіМ” 1966, 1 лют.; *Літаратурная Беласточчына*, Мінск 1973). Большасць з 80 вершаў (фрагментаў вершаў), уключаных рэдактарам у зборнік *Мой бераг*, друкавалася ў папярэдніх кнігах паэта, беластоцкіх альманахах і календарах.

### *З “Беларускага календара на 1976 год”*

Дваццаты выпуск календара выйшаў пад рэдакцыяй Міколы Гайдука; наклад – 4000 асобнікаў.

### *З “Беларускага календара на 1977 год”*

Дваццаць першы выпуск календара выдаваў рэдакцыйны камітэт (Г. Валкавыцкі – старшыня, Ф. Галёнка, Я. Зенюк, А. Іванюк, Ю. Туронак – намеснік старшыні, В. Швед), а рэдактарам быў Мікола Гайдук; наклад – 4000 асобнікаў.

### *З “Беларускага календара на 1978 год”*

Дваццаць другі выпуск календара выдаваў рэдакцыйны камітэт (Г. Валкавыцкі – старшыня, Ф. Галёнка, Я. Зенюк, А. Іванюк, Ю. Туронак – намеснік старшыні, В. Швед), а рэдактарам быў Мікола Гайдук; наклад – 4000 асобнікаў.

### *З “Беларускага календара на 1979 год”*

Дваццаць трэці выпуск календара падрыхтаваў рэдакцыйны камітэт (Г. Валкавыцкі – старшыня, Ф. Галёнка, Я. Зенюк, А. Іванюк, Ю. Туронак – намеснік старшыні, В. Швед); наклад – 5000 асобнікаў. Апрача пададзеных вышэй твораў Алеся Барскага ў календары друкаваўся верш *Ужо лук нацягнуў цяціву* – пяцьдзясят другі раздзел паэмы *Блізкасць далёкага*.

### *З “Беларускага календара на 1980 год”*

Дваццаць чацвёрты выпуск календара падрыхтаваў рэдакцыйны камітэт (Г. Валкавыцкі – старшыня, Ф. Галёнка, Я. Зенюк, Ю. Туронак – намеснік старшыні, В. Швед); наклад – 5000 асобнікаў.

### *З літаратурнага альманаха “Белавежа” 1980*

Трэці выпуск альманаха рэдактары Ян Чыквін, Міхась Шаховіч, Сакрат Яновіч рыхтавалі ў 1978 г. да 20-годдзя літаратурнага аб’яднання “Белавежа”, аднак кніжка выйшла з друку толькі ў маі 1980 г.; наклад – 1000 асобнікаў. З васьмі вершаў Алеся Барскага шэсць (*Маіх гадоў ты не лічы дакладна*; *Тут больш лісця, чым неба і зямлі*; *Верш – згартаннем хараства ў пракосы*; *У тваім каханні я не бачу болю*; *Каб мог жыццё пачаць аднова*; *Прычасці мяне, клёне зялёны*) перадрукоўвалася з кнігі *Жнівень слоў* (1967).

### *З “Беларускага календара на 1982 год”*

Дваццаць шосты выпуск календара рыхтаваў рэдакцыйны камітэт: Аляксандар Баршчэўскі, Георгі Валкавыцкі (старшыня), Мікола Гайдук, Янка Зенюк, Вінцук Склубоўскі, Віктар Швед; наклад – 6000 асобнікаў. Апрача нізкі вершаў Аляксандар Баршчэўскі змясціў у дадзеным выданні два артыкулы да стагоддзя з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа.

### *Са штотыднёвіка “Ніва”, 1983*

Нізка вершаў *Ты – белая бяроза маіх сноў*, напісаная ў жніўні–верасні 1982 г., друкавалася ў №№ 6, 10, 49 (6 лют., 6 сак., 4 снеж.)

### *З “Беларускага календара на 1984 год”*

Дваццаць восьмы выпуск календара рыхтаваў рэдакцыйны камітэт: Аляксандар Баршчэўскі, Георгі Валкавыцкі (старшыня), Мікола Гайдук, Янка Зенюк, Вінцук Склубоўскі, Юры Туронак, Віктар Швед; наклад – 8000 асобнікаў. Апрача нізкі вершаў Алесь Барскі змясціў у дадзеным выданні артыкул да 175-годдзя з дня нараджэння і стагоддзя з дня смерці В. Дуніна-Марцінкевіча.

### *З альманаха “Беларускі каляндар на 1986 год”*

Трыццаты выпуск календара рэдагаваў Міхась Шаховіч; наклад – 5000 асобнікаў.

С. 313. *Ян Каліта* – маецца на ўвазе маскоўскі князь Іван Каліта (1283–1341), што атрымаў прозвішча ад скуранога мяшэчка (каліты), які заўсёды насіў на пасе.

С. 314. *Кліша* – фотапласцінка, клішэ.

### *З кнігі* **Лірычны пульс**, *Мінск 1987*

Зборнік *Лірычны пульс* надрукавала выдавецтва “Мастацкая літаратура” (Мінск 1987). Творы рэдагаваў Хведар Жычка, рэцэнзаваў Кастусь Цвірка, а прадмову напісаў Уладзімір Гніламёдаў.

### *З “Беларускага календара на 1987 год”*

Трыццаць першы выпуск календара рыхтаваў выдавецкі савет у складзе: Аляксандар Баршчэўскі, Георгі Валкавыцкі (старшыня), Мікола Гайдук, Янка Зенюк, Вінцук Склубоўскі, Міхась Хмялеўскі, Віктар Швед, Уладзімір Юзвюк, Сакрат Яновіч; рэдактар – Мікола Гайдук; наклад – 6000 асобнікаў. Аляксандар Баршчэўскі, апрача вершаваных твораў, апублікаваў у календары артыкул *Літаратурнае аб’яднанне “Белавежа”: Стан і перспектывы.*

### *З літаратурнага альманаха “Белавежа” 1988*

Чацвёрты выпуск альманаха ягоны рэдактар Георгі Валкавыцкі падрыхтаваў да 30-годдзя літаратурнага аб’яднання “Белавежа”; наклад – 3000 асобнікаў. Нізка вершаў Алеся Барскага *Настальгіі* напісана 18.03–05.04.1986 г.

С. 337. *Латацёвы* – лотацевы (прыметнік ад слова *лотаць*).

С. 339. *Тэатрумы* – прадстаўленні.

### *З “Беларускага календара на 1988 год”*

Трыццаць другі выпуск календара ГП БГКТ; наклад – 5000 асобнікаў. Апрача вершаваных твораў Аляксандар Баршчэўскі апублікаваў артыкул *Кастусь Каліноўскі* і размову з Аляксеем Гардзіцкім.

### *З “Беларускага календара на 1989 год”*

Трыццаць трэці выпуск календара ГП БГКТ; рэдактар Ніна Амельянюк; наклад – 6000 асобнікаў. Апрача вершаваных твораў Аляксандар Баршчэўскі апублікаваў у календары артыкулы *Рэнесансавыя матывацыі ў жыцці Францішка Скарыны*, *Міжнародная беларусазнаўчая канферэнцыя* і размовы з Пятром Бітэлем, ксяндзом Уладзіславам Чарняўскім з Вішнева, праф. Нью-Ёркскага гарадскога ўніверсітэта Томасам Бэрдам.

### *З “Беларускага календара на 1992 год”*

Трыццаць шосты выпуск календара ГП БГКТ; рэдактар – Ніна Баршчэўская; наклад – 4500 асобнікаў.

### *З “Беларускага календара на 1994 год”*

Трыццаць восьмы выпуск календара ГП БГКТ надрукавала выдавецтва “Беларусь” (Мінск 1994). Складальнік – Уладзімір Юзвюк, літаратурная апрацоўка Міколы Гайдука; наклад – 5000 асобнікаў.

С. 361. Верш *Беластоцкі край* (іншая назва – *Мой Беластоцкі край*) мае прысвячэнне: “Яўгену Вапу і Віталісу Лубу”. Як песня (музыка Анатоля Ярмоленкі), стаў папулярным у выкананні прафесійных і самадзеных артыстаў. Рукапісная версія даўжэйшая на дзве страфы:

Пяе і моліцца храм Белавежа,
У ім душа і сэрца беларусаў.
Мы ўсе да пушчы як адзін належым,
Бо ў ёй жывем, як птахі, без прымусаў.

І чым далей у свет мы ад’язджаем,
Тым большым скарбам свеціцца Падляшша.
Тады ты родны, дарагі наш краю,
Брыльянтам ззяеш у сэрцах нашых.

Нізка вершаў *Іслачанскія задуменні* напісана ў Доме творчасці “Іслач” 23–25 жніўня 1988 года. Верш *Мне доўга Іслач* з датай 16–17.08.1988 г. маецца ў толькі ў рукапісе гэтае нізкі.

Мне доўга Іслач
Будзе сніцца
Ў Бандарах і ў Варшаве,
Вазьму я згэтуль
Пах жывіцы
І зелень буйную
Атавы.
І праз граніцу
Перакіну
Без тамажніх аплат
І мыта,
Ды гэта ж дар
Маёй краіны,
Таму хай будае
Шыта-крыта.

Я душу выкупаў
У ванне
З зеллем свянцоным
І пацешным,
І сніць яна
Не перастане
І аб свяшчэнным,
І аб грэшным.
Мне доўга Іслач
Сніцца будзе
З лесам зялёным
І атавай
І буду вершы
З яе вудзіць.
У Бандарах і ў Варшаве.

Апрача вершаваных твораў у каляндары надрукавана “праграмнае выступленне на XII з’ездзе БГКТ старшыні ГП праф. д-ра Аляксандра Баршчэўскага” *Жывем і будзем жыць*.

### *З альманаха “Беларускі каляндар на 1995 год”*

Трыццаць дзявяты выпуск календара ГП БГКТ надрукавала выдавецтва “Беларусь” (Мінск 1995). Складальнік – Алесь Барскі; наклад – 1500 асобнікаў. У нізку вершаў *Над бяздоннем слова* былі ўключаны творы *Прыходзіш да мяне*, *Схаці яшчэ раз*, *Твой дотык*, якія ўжо друкаваліся ў літаратурным альманаху “Белавежа” (1988). У рукапісе вершы *Блакітны лес*, *Тут кожная сасна*, *Радзіма ёсць толькі адна* ўключаны ў нізку *Іслачанскія задуменні* з датай 16–17.08.1988 г. Апошні радок верша *Блакітны лес* у рукапісе падаецца наступным чынам: “У Іслачанскім краі”.

### *З альманаха “Беларускі каляндар на 1996 год”*

Саракавы выпуск календара ГП БГКТ надрукавала выдавецтва “Беларусь” (Мінск 1996). Складальнік – Уладзімір Юзвюк; наклад – 1500 асобнікаў. У нізку вершаў *Лес і каханне* былі ўключаны творы *І зноў прыплывае, Сусвет не ў стане*, *Без цябе белы свет*, *Мае вершы*, *Цемра начэй*, *Я пешчу ў далонях*, *Я, Нінка, твой*, *Праходзіць дзень чарговы*, *Будучыняй маёй радаснай,* якія ўжо друкаваліся ў літаратурным альманаху “Белавежа” (1988). Апрача вершаваных твораў у нумары змешчаны артыкул А. Баршчэўскага *“Наша ніва” – барацьбітка за беларускае адраджэнне*.

С. 380. *Пэаны* – харавыя лірычныя песні.

### *З альманаха “Беларускі каляндар на 1997 год”*

Сорак першы выпуск календара ГП БНКТ надрукавала выдавецтва “Беларусь” (Мінск 1997). Складальнік – Уладзімір Юзвюк; літаратурная апрацоўка – Міколы Гайдука; наклад – 1000 асобнікаў. У нізку вершаў *Прытуліўшыся да Радзімы* былі ўключаны творы *Успамінаю навагодні баль*, *Як я магу маўчаць*, *І зноў сягоння я кахаў*, *Чаму ў гэты ясны дзень*, *Бяссільны, Нінка, час*, якія ўжо друкаваліся ў літаратурным альманаху “Белавежа” (1988).

### *З альманаха “Беларускі каляндар на 1998 год”*

Сорак другі выпуск календара ГП БНКТ надрукавала выдавецтва “Беларусь” (Мінск 1998). Складальнік – Уладзімір Юзвюк; літаратурная апрацоўка Міколы Гайдука; наклад – 1000 асобнікаў. Верш *О лёсе мой* з’яўляецца варыянтам верша *О лес* са зборніка *Жнівень слоў*. Апрача вершаваных твораў Аляксандар Баршчэўскі апублікаваў у календары артыкулы *Вінцук Склубоўскі – пісьменнік чалавечага болю* і *Усходняя Беласточчына ў асвятленні “Нашай нівы” за 1907 год*.

### *З кнігі* **Выбраныя творы***, Мінск 2011*

Кнігу Алесь Барскі, *Выбраныя творы* надрукавала ПУП “Кнігазбор” (Мінск 2011). Укладанне Анатоля Клышкі; прадмова Міхася Тычыны; каментар Уладзіміра Казберука; пасляслоўе Уладзіміра Казберука і Ірыны Бароў-

скай; наклад – 1000 асобнікаў. У раздзел *Паэзія* ўключаны 64 вершы, часткова вядомых па ранейшых мінскіх выданнях (вядома, з рэдактарскімі праўкамі І. Калесніка і Х. Жычкі), аднак з каментаром, які адсылае да першапублікацый. (Гл. напрыклад, эпілог да паэмы *Блізкасць далёкага* ў зборніку *Лірычны пульс* і ў кнізе *Выбраныя творы*). Знаёмымі чытачу Рэспублікі Беларусь былі таксама і вершы, якія ўпершыню публікаваліся ў “Беларускіх календарах”, што ў 1990-я гг. друкаваліся ў Мінску. Асобныя творы пазначаюцца як апублікаваныя ў “Беларускіх календарах”, хоць яны раней ніколі не друкаваліся. Датаванне некаторых тэкстаў падаецца ў кнізе з памылкамі. У рукапісе вершы *Сярод лясоў*, *Тут хочацца задумацца*, *Паклон прыміце*, *Ад сонца я тут*, *Тут задуменне елак*, *Гэта чужое* з датаю 16–17.08.1988 г. уключаны ў нізку *Іслачанскія задуменні*.

### *З часопіса “Тэрмапілы” 2014, № 18*

Літаратурна-мастацкі і беларусазнаўчы часопіс “Тэрмапілы” (рэдактар Ян Чыквін) выдае Беларускае літаратурнае аб’яднанне “Белавежа” з 1998 г. Нізка вершаў *Лірычная утопія* напісана 17.03–23.04.1994 г. Творы *Калі б не стрымгаловасць*, *Айчына – гэта місія*, *Вось ты ізноў пры мне*, *Вось і ўсё* з няправільным месцам першапублікацыі надрукаваны ў кнізе *Выбраныя творы* (2011). Там жа апублікаваны і верш з гэтае нізкі *Калі ты нада мной*, хоць ён і адсутнічае ў рукапісе і ў часопісе “Тэрмапілы”, але дата напісання паказвае на гэта. У часопісе адсутнічае таксама верш з гэтае нізкі *Неяк або штосьці*, але ён маецца ў рукапісе:

Неяк або штосьці
Робім мы заўсёды.
Да гэтага нялёгка нам
Прызнацца.
Бракоўнасць – гэта, мабыць,
Наша мода.
І мноства сярод нас
Паяцаў.
Крыўляемся і робім міны,
Як на сцэне,
Каб бавіць свет
Трагічнасцю камічнай.

А хто ж такую
Камедыйнасць цэніць,
Калі паяцаў
На мільёны лічаць.
Зніміце маскі
І далоў адкіньце.
Вы людзі, мабыць,
І з касці, і з солі.
Дык дакажы, крывіч,
Што ты не вінцік,
А толькі чалавек
З пякучым болем.

### *З ненадрукаванага*

Верш *Зялёны храм – Белавежа* (вядомы таксама пад тытулам *Мая святыня*) прысвечаны старшыні Фонду царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы Мікалаю Бушку і ягоным сямейнікам.

Верш *Малінавы звон* напісаны паводле мелодыі песні *Малиновый звон* паэта Анатоля Папярэчнага і кампазітара Аляксандра Марозава. У аранжыроўцы Сцяпана Копы стаў папулярны ў выкананні самадзейных беластоцкіх артыстаў.

С. 422. *Юшковы Груд* (Юшкавы Груд) – вёска ў гміне Міхалова на Беласточчыне.

# Змест